


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**3** (1049)

САКАВІК

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

## *ЗМЕСТ*



Віктар ГАРДЗЕЙ

# ЧАС ЛЯЦІЦЬ, ЯК ПЕРАПЁЛКА Ў ЖЫТА...

## НАЧНЫ ЦЯГНІК І ШАШАЛЬ

Сярэдначы спачатку гук узнік
І цэдзіцца праз фортку, як праз сітка,
Ды гук расце і, чым бліжэй цягнік,
Брынчыць па шкле навошчанаю ніткай.

Ідзе, відочна, грузавы састаў,
Стаіліся ў чаканні Дамашаны:
Тачыць драўніну шашаль перастаў,
Трасецца на гары дом расхістаны.

Ваколле абудзіў гудок-равун,
Цягнік імчаць, бы коні, дэцыбелы.
У змроку не чуваць увесь табун —
Там вараны і конь, вядома, белы.

Гара на месцы і на месцы дом,
На небе дзесь пячаткі не сарваны.
Імчаць не тыя коні напралом —
Пакуль спакойна спіце, Дамашаны!

---

*__Гардзей Віктар Канстанцінавіч__ нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), кнігі выбраных твораў прозы «З мінулага не вяртаюцца» (2014), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008) і інш.*

Састаў прайшоў, і гук далёка знік,
Ды з шашалем я зноў не маю зладу,
Бо точыць нервы ён, як і цягнік,
Сярэдначы, нібыта па раскладу.

## БЭЗ ЦВІЦЕ...

Тут, на Лані, ці, можа, на Шчары,
Час няўмольна працяў даўнінай,
Ажылі і юнацкія мары
Каля брамы, калісьці ўязной.

Перабежчык стагоддзяў суровых,
Бэз цвіце ў сваёй позняй вясне.
Не пакліча, на жаль, да размовы,
Дык няхай і цвіце без мяне.

Вось каб панна суквецці ламала
Для малойцы Сарві-галава:
Брама многіх з дарогі прымала,
І стаптанай была мурава.

Засцянковых сядзіб усё меней,
Дый на гэтай паштовай вярсце
Кучавымі аблокамі ў пене
Бэз на выспах кахання цвіце.

Каля брамы над рэчкай туманнай,
Бач, прымятая зноў мурава —
Бэз ламала тутэйшая панна
Для хлапчыны Сарві-галава.

## ПІТВО МАЛАДОЕ

Накрухмаленым ветразем вэлюм
Праплыве між дзяўчат у двары.
Аддаюць, можа, Зіну, ці Гэлю —
За фатой паспрабуй разбяры.

Гэты двор з пахам бэзу, язміну
Не мінула гусей чарада.
Аддаюць, можа, Гэлю, ці Зіну,
Ды чамусьці абедзвюх шкада.

Лёгка стаць і дабрэй, і зычлівей,
Без ніякай адзнакі радства,
Калі проста пабыць пры разліве
Маладога, на шчасце, пітва.

Далібог, не для нас, віслабокіх,
Пагулянкі цяпер паначы.
Вычварайце канцэрты і скокі,
Балазе, ажылі бубначы!

Не схлусіць у сваім самасудзе:
Наглядзеўся здалёк, як у сне,
На пітво маладое ў сасудзе —
Хрусталю не раўня па цане.

Быў і я там, і піў медавуху,
Двор шалеў, і вось гэты ўспамін:
Доўга потым, наводзячы скруху,
Асыпаўся пажухлы язмін.

## ПАЧУЦЦІ

Пачуцці з утрускі і ўсушкі
(Усё ж прыгняла злыбяда)
Душу пакідаюць — бы птушкі
З пустога злятаюць гнязда.

Няма пацалункаў салодкіх
І болей журбы і нуды.
Знікаюць пачуццяў чародкі —
Вярнуцца не будзе куды.

Аднак не ўздыхай, не галёкай:
У гэтым ёсць нейкі экстрым.
Да будучыні недалёкай
Дарогі не леглі праз Рым.

Не зведаў нябеснае манны,
І там, дзе душа, ува мне
Мітусіцца страх акаянны,
Нібы верабей па гумне.

Жыццё ж не на голым пясочку:
Пачуцці, што страцілі дом,
Трывожацца паадзіночку —
Дзе кнігаўкай, дзе каршуком.

## ГРЫБНАЯ ІЛЮЗІЯ

Згодна з прыкметамі, пойдуць грыбы:
Дождж аблажны і туман гэткі самы,
Дый маладзік раскашуе, нібы
Менеджар скрытай рэкламы.

Заўтра, як сонца разгоніць імгу,
Зліжа цукровыя россыпы зорак,
На баравіны хутчэй пабягу:
Кош, ён пры мне, і — сцізорык.

Гномік наўцёкі — чырвоны каптур,
Дзе б ні ступіў ён — грыбок з-пад абцасаў.
Востры сцізорык, і выйграны тур.
Вось каб пабачыў Някрасаў!

Снілася ж потым: я, рады да слёз,
Выйшаў на трыбу з вялікай касою,
Конік лядачы грыбоў поўны воз
Цягне марудна за мною.

## ПРА СВАЁ НАРАДЖЭННЕ

**1**

Што сказаць пра сваё нараджэнне?
Свет пабачыў на яблычны Спас —
На Гасподняе Праабражэнне,
У гарачы і горычны час.

Божым святам і хлеба ўжо досыць:
Шчодры Спас моцных коней запрог —
Жыта звозіць у клуні, на восець…
Бохан з печы, а госць — на парог.

Год жа першы, пасляваенны,
Звон царкоўны, бы плакаў, гудзеў,
І малітвы былі за ўбіенных,
І за нас, хто радзіцца паспеў.

Многа яблык, грыбоў і арэхаў,
Асвяцілі і мёд у царкве.
Спас не любіць на полі агрэхаў:
Кінуць зерне ў раллю — пазаве.

**2**

Углядаліся ў далеч удовы,
Навіну з іх ніхто не малоў,
Гэты Спас — паваенны, бядовы,
Ён яшчэ й дзень адлёту буслоў.

На балотцы лясным, на Імшэчку,
Клёкат сумны між чэзлых бяроз.

Конь пачуў і не хоча ў вуздэчку
Ранні вырай — на снег і мароз.

Над сялібай, на сёмым пагорку,
Праляцелі да мора буслы.
Кожны з іх па адным скінуў пёрку:
Хай крамзоліць паперу малы.

Вось сяджу. Помню бабчыны байкі.
Звон царкоўны з-за лесу гудзе.
Не такі ж я і праўда лядайкі,
Каб знайшлі на капустнай градзе.

## ВЫГНАННЕ ПЕРАПЁЛКІ

Час ляціць, як перапёлка ў жыта,
Разам жней паклічуць: жаць пара!
Што мы сеем, будзе ўсё спажыта —
Сытна для халопаў і цара.

Так было, а сёння ўжо камбайны
З гулам жніўны свой спраўляюць баль.
Гаспадар ты спраўны ці нядбайны,
Але ў часе страчаны амаль.

Жней няма, а ім былі мы рады.
Мала коней, мала і аўсоў.
Не хвалююць даўнія абрады:
Перапёлцы — жменьку каласоў.

Што забыта? Раніцою звонкай
Выйду ў поле — шапка набакір!
Ды няўцям: за часу абалонкай
Лопне і жыццё, нібы пухір.

Быў абрад: выгнанне перапёлкі,
І таму прагрэсу недавер.
Не прабегчы па іржэўі колкім,
Дзе скрыпіць на котлішчы асвер.



*Да 100-годдзя беларускай міліцыі*



**Мікалай ЧАРГІНЕЦ**

# ЗА СЕКУНДУ ДА ВЫСТРАЛУ*

*Раман*

## 41

## Рыта

Славін, разгублены і шчаслівы, стаяў на пероне і глядзеў на натоўп прыбыўшых і тых, хто іх сустракаў. Ён баяўся прапусціць Рыту. Побач з букетам кветак стаяла Жэня. Яна таксама напружана ўзіралася ў твары дзяўчат, спрабуючы па тых рысах, якія яна запомніла на фатаграфіі, пазнаць госцю.

Уладзімір убачыў Рыту. У руках у яе былі два вялікія чамаданы. Рыта глядзела па баках і шукала яго.

Уладзімір кінуўся да яе. Абдымаючы Рыту, прашаптаў ёй на вуха:

— Нарэшце. Я так цябе чакаў, так чакаў!

Падбегла Жэня, і дзяўчаты абняліся і пацалаваліся. Чамаданы аддалі Валодзю, а самі ішлі ўсю дарогу наперадзе. Уладзімір ішоў следам і дзівіўся, як магла Рыта несці такія цяжкія чамаданы, якія нават яму адцягвалі рукі. Яны селі ў трамвай і неўзабаве былі дома.

Анастасія Георгіеўна, выціраючы шчаслівыя слёзы, гаварыла:

— Як бы мне хацелася, каб цяпер тут быў бацька!

Калі ўсе сядзелі за сталом, Уладзімір спытаў:

— Рыта, а як атрымалася ўгаварыць начальства адпусціць цябе?

— Ой, і не пытай! Цэлую баталію вытрымала, але дамаглася свайго. Праўда, наш начальнік медаддзела аказаўся малайцом. Угаворваў мяне застацца, пагражаў, што не адпусціць, а сам пісаў вышэйшаму начальству рапарты з просьбай перавесці мяне на работу ў Мінск. Калі я пра гэта даведалася перад ад'ездам, вельмі здзівілася і расчулілася. Мяне пераявлі сюды, сказалі, што месца ў інтэрнаце дадуць.

Уладзімір падняўся са свайго месца:

— Вы працягвайце чаяваць, а я — на работу.

— На якую работу? — абурылася Жэня. — Чалавек толькі прыехаў, а ты ўжо кідаеш яго на волю лёсу.

— Ну, па-першае, не на волю лёсу, а на апеку родных маці і сястры, а па-другое, служба ёсць служба. Тым больш, — ён, як бы апраўдваючыся, зірнуў на Рыту, — у мяне сапраўды неадкладная справа, і марудзіць нельга.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2 за 2017 год.

Рыта ўсміхнулася:

— Нічога мы з ім, таварышы, не зробім, хай ідзе.

Уладзімір выйшаў з дому і ледзь не бягом накіраваўся ў аддзяленне, а Сваткова была ўжо там. Славін папрасіў прабачэння за спазненне, і яны адразу ж накіраваліся да таго дома, у пад'езд якога ўваходзіў аднойчы Жора са сваім знаёмым.

Дзяўчына ўпэўнена паказала на пад'езд:

— Вось сюды яны ўвайшлі.

— Не памыляецеся?

— Не, зрокавая памяць у мяне выдатная, не ведаю чаму, але мне добра запомніўся гэты пад'езд.

— Добра. Дзякуй вам, Лера. Вы можаце ісці, а я пабуду трохі тут.

Славін прайшоў уздоўж дома, увайшоў у двор. Адчувалася, што жыхары тут любяць парадак. Роўнымі шэрагамі былі высаджаны дрэўцы, зелянеў хмызняк, на акуратных кветніках раслі кветкі. Як і меркаваў Уладзімір, пад'езд, на які паказвала яму дзяўчына, быў прахадным. Значыць, Жора разам з сябруком мог увайсці ў яго з вуліцы і выйсці ў двор. Славін вырашыў паглядзець, ці нельга праз двор прайсці ў іншы. На яго засмучэнне высветлілася, што можна. Двор хоць і быў абнесены высокім плотам, але ў ім было некалькі вялікіх дзірак, і Жора, калі добра ведае горад, мог скарыстацца гэтым.

«Уявім горшае, — думаў старшы оперупаўнаважаны, — Жора скарыстаўся пад'ездам, каб скараціць шлях. З гэтага вынікае, што ён уваходзіць у нейкі дом паблізу. Двор мяжуе з дварамі двух дамоў, размешчаных па вуліцы Чырвонай, а там — выхад да Пугачоўскай вуліцы. Але цяпер трэба абследаваць гэты двор, а дакладней кватэры, размешчаныя ў пад'ездзе. У доме шэсць паверхаў. Трэба паглядзець, колькі ў пад'ездзе кватэр».

Ён вярнуўся да дома і ўвайшоў у пад'езд. На першым паверсе было чатыры кватэры. Уладзімір падняўся на другі паверх — таксама чатыры. Атрымлівалася, што ў пад'ездзе дваццаць чатыры кватэры.

Славін накіраваўся ў аддзяленне. Высветліў, хто з участковых упаўнаважаных абслугоўвае гэты дом, і зайшоў да Гарчакова.

Гарчакоў быў чалавекам справы. Ён выслухаў Уладзіміра і адразу ж загадаў дзяжурнаму адшукаць лейтэнанта Квашу. Кваша тым часам аказаўся ў аддзяленні і праз некалькі мінут ужо быў у кабінеце Гарчакова.

Участковы быў нізкага росту, з крывымі нагамі, а штаны-галіфэ і боты падкрэслівалі гэтыя недахопы. Але Квашу гэта ніколькі не засмучала. Ён даказваў, што народжаны для кавалерыі, і патрабаваў ад начальства, каб за ім абавязкова замацавалі каня. Працаваў Кваша добра.

Гарчакоў, тапырачы вусы, абышоў участковага і, гледзячы на яго зверху, падміргваючы Славіну, буркнуў:

— Распусціў ты, Кваша, бандзюгаў у сябе на ўчастку, распусціў… Ды і людзей не ведаеш… гэта ясна, што не ведаеш…

— Як так, таварыш маёр, людзей не ведаю? — паспрабаваў спрачацца Кваша, але начальнік перабіў яго:

— А ты не спрачайся, а то ў атэстацыі напішу, што спрачаешся з начальствам.

Кваша бачыў, што начальнік у добрым настроі, і, таксама падміргнуўшы Славіну, весела запярэчыў:

— Таварыш маёр, а я памятаю, як тыдзень назад вы, прабіраючы капітана Мальчукова, абяцалі яму ў атэстацыі напісаць, што ён да такой ступені

абленаваўся, што нават перастаў спрачацца з начальствам. Падкажыце, Сямён Антонавіч, як мне быць, спрачацца з вамі ці не спрачацца?

— Я табе падкажу, я табе падкажу… — працягваў кружыць вакол падначаленага маёр. — Добрыя ў мяне супрацоўнічкі: адзін спрабуе ўспомніць, што, калі і дзе начальнік, — ён падняў указальны палец, — камусьці сказаў, іншы дайшоў да таго, што начальніка з царом параўноўвае.

Славін хмыкнуў: «Перадалі ўжо!»

— Дык гэта ж толькі знешне, таварыш маёр, — апраўдваўся ён.

— А чаму знешне? Я не пярэчыў бы на такога чалавека быць падобным і ўнутрана.

Ён падышоў да двухстворкавай шафы, адкрыў дзверцы, на якіх было прымацавана люстэрка, і, гледзячы на сваё адлюстраванне, пакручваючы вус, самазадаволена сказаў:

— А што? Сапраўды падобны! Вось калі б вы ў мяне, чэрці, гэтак жа спрытна лавілі бандзюгаў, як прыкмячаеце, на каго начальнік падобны, дык я, далібог, рады быў бы.

— Мы ж стараемся, Сямён Антонавіч, — запярэчыў Славін.

Гарчакоў адышоў ад шафы, паглядзеў на Славіна, на Квашу, сеў на крэсла, якое жаласна зарыпела пад яго шматпудовым целам, і пацяплелым голасам сказаў:

— Што праўда, то праўда, вы ў мяне, хлопцы, малайцы, стараецеся — гэта ясна. Ну, а зараз — да справы. Табе, Васіль Аляксеевіч, неабходна аказаць дапамогу Славіну. Што рабіць, ён скажа. І я цябе папрашу, не адлучаючыся ні на якія справы, выконваць яго ўказанні. Чуе маё сэрца, што Уладзімір Міхайлавіч на правільным шляху, — і, усміхаючыся, зірнуў на Славіна. — З Пятром Першым ты выдатна прымеціў. Аказваецца, я сапраўды на яго падобны. Постаць, вочы, вось толькі не памятаю, якога колеру вусы ў яго былі.

— Я таксама не памятаю. Але разгружуся трохі і абавязкова высветлю.

Твар Гарчакова зрабіўся задуменным і строгім.

— Не, браток, да разгрузкі яшчэ далёка. Наша з табой служба такая, што ўвесь час не будзе часу хапаць. Заўсёды трэба будзе кудысьці спяшацца і не заўсёды спаць давядзецца. Але што паробіш — такі лёс нам дастаўся Не мець спакою дзеля спакою іншых. Ну, добра, браткі, за работу! Ідзіце да сябе і думайце, як з тым пад’ездам разабрацца, а ў мяне праз пяць хвілін пачнецца прыём грамадзян.

Славін запрасіў Квашу да сябе ў кабінет, растлумачыў, што ад яго патрабуецца, і параіў:

— Пачні ты, Васіль, з домакіраўніцтва. Паглядзі, хто прапісаны ў гэтых кватэрах з мужчын ва ўзросце да трыццаці гадоў, высветлі, дзе і кім працуюць. Затым мы разам зробім абыход гэтых кватэр.

Кваша пайшоў. А Славін накіраваўся да дзяжурнага і папрасіў перадаць участковаму Рагозіну, калі той будзе тэлефанаваць, каб ён неадкладна прыязджаў у аддзяленне.

Дзяжурны ўсміхнуўся:

— Лічы, што я тваё заданне выканаў. Ідзі ў чацвёрты кабінет, там твой Рагозін з затрыманым разбіраецца.

Уладзімір моўчкі павярнуўся і накіраваўся ў чацвёрты кабінет, які быў выдзелены спецыяльна для ўчастковых упаўнаважаных.

Участак Рагозіна знаходзіўся ў зоне Славіна. Участковы па заданні оперупаўнаважанага пагутарыў па чарзе з тымі, хто ведаў у твар Жору. Яму ўдалося з ліку хлопцаў, якія ведалі ў твар злачынцу, стварыць пяць груп. Яны дзяжурылі ў тых месцах, дзе мог з’явіцца злачынца.

У кабінеце Рагозін размаўляў з хлопцам гадоў трынаццаці. Той сядзеў насупраць капітана і плакаў.

Участковы, убачыўшы Славіна, перапыніў гутарку і паглядзеў на яго. Славін кіўнуў галавой, каб той працягваў, і Рагозін павярнуўся да хлопца:

— Ну, што ты маўчыш? Мы ж усё адно даведаемся, дзе ты яго ўзяў. Ну, давай не цягні час, не да цябе, гавары.

Хлопец яшчэ ніжэй апусціў галаву і ледзь чутна прагаварыў:

— Украў.

— Дзе?

— У школе, трынаццатай.

Рагозін пераможна зірнуў на Славіна і растлумачыў:

— Іду праз Камароўскі рынак і бачу: паліто прадаецца, — і ён паказаў рукой на крэсла, на якім ляжала жаночае паліто з футравым каўняром.

Славін здзівіўся:

— Паліто зімовае ўлетку? Чакай, дык цяпер жа і заняткаў у школе няма. Хто, у такім разе, гэта паліто туды прынёс?

— Ніхто не прыносіў яго туды. Проста матэматычка наша там жыве. Яна мяне на пераэкзаменоўку на лета пакінула. Я сёння прыйшоў на кансультацыю, а яна, напэўна, забылася і з’ехала на «Победе» з нейкім мужчынам. Крыўда ўзяла мяне, і раптам бачу — фортачка ў яе ў акне адкрыта. Залез я туды і ўзяў у шафе гэта паліто, а потым панёс на рынак.

Хлопец яшчэ мацней заплакаў. Славін спытаў:

— У цябе бацька ёсць?

— Не, на фронце загінуў.

— А маці?

— Ёсць.

— Колькі вас, дзяцей, у яе?

— Пяць.

— Ну і што ж ты хацеў купіць на грошы, якія атрымаў бы за гэта паліто?

— Не ведаю, усім бы марожанага… і свежых булак.

Славін і Рагозін пераглянуліся. У пакоі запанавала цішыня, якая парушалася толькі ўсхліпваннем хлапчука.

Славін узяў з крэсла паліто і працягнуў яго хлопчыку:

— На, аднясі і пакладзі на месца. Будзем спадзявацца, што твая матэматычка яшчэ не вярнулася дахаты. І запомні: не дзеля таго, каб ты краў, твой бацька ваяваў і загінуў на фронце.

Хлопец устаў і неўцямна глядзеў на Славіна і Рагозіна.

Рагозін сказаў:

— Ну, што стаіш? Ідзі дахаты і зрабі, што табе кажуць.

Хлопец, трымаючы ў бярэмя паліто, выйшаў з кабінета. Славін і Рагозін праводзілі яго позіркам праз акно. Уладзімір паглядзеў на капітана і сказаў:

— Ёсць заданне табе. Адбяры групу дзяцей з тых, хто можа апазнаць Жору, і правер другі пад’езд дома, размешчанага побач з дваццаць трэцяй школай. Не выключана, што ён там з’яўляецца.

— А як наконт дзяжурства ў клубах і на танцпляцоўках?

— Усё застаецца па-ранейшаму.

Рагозін прамовіў «ясна» — слова, якім заразіліся ўсе супрацоўнікі аддзялення, і сышоў.

Славін падышоў да акна. У двары ішлі заняткі. Міліцыянеры конна ездзілі па крузе, трэніруючыся правільна кіраваць канём. Погляд Уладзіміра спыніўся на казлу Борку. Ён стаяў на стозе сена і, нахіліўшы галаву з доўгімі закруг-

ленымі рагамі, назіраў, як шасцёра міліцыянераў згружалі з грузавіка вялікія цюкі спрасаванага сена і з дапамогай ручной лябёдкі падавалі наверх, дзе двое супрацоўнікаў прымалі і складалі іх. Славін падумаў: «Цікава, як Борка ўзлез туды?» Пра гэтага казла расказваюць цэлую гісторыю. Раней ён быў у партызанскім атрадзе і ў міліцыю трапіў дзякуючы старшыне Сцяпанычу — былому партызану, які і прывёў яго з сабой. Кажуць, што дзе конь, там і казёл павінен быць. Так і прапісаўся Борка ў міліцэйскай стайні. Ён быў дзёрзкім і моцным казлом, да таго ж адрозніваўся кепскім характарам. Старажылы аддзялення ведалі пра гэта і калі Борка знаходзіўся непадалёку, заўсёды былі напагатове. Але цяпер там, на версе велічэзнага стога, былі навічкі, маладыя хлопцы, якія толькі што пасля службы ў войску прыйшлі ў міліцыю. Яны не ведалі крутога нораву казла і бестурботна стаялі да яго спінай ля самага краю стога. А Борка вырашыў пазнаёміць навічкоў са сваімі рагамі. Славін гэта зразумеў, але зрабіць ужо нічога не мог. Акно ў кабінеце не адкрывалася, а фортачкі не было, дый адлік часу пайшоў ужо на секунды. Борка, набіраючы хуткасць, панёсся наперад. Ён урэзаўся ў спіну крайняму міліцыянеру, той, з дзікім крыкам паляцеў уніз і трапіў прама ў кузаў грузавіка, дзе, на шчасце, яшчэ было сена. А казёл ужо нёсся да другога міліцыянера. Але той паспеў зарыентавацца, схапіў казла за рогі: на стозе пачаўся спектакль, які перапыніў заняткі на плацы і прыцягнуў да сябе ўвагу не толькі міліцыянераў, але і прахожых. Раздаўся свіст і смех. Барацьба наверсе працягвалася доўга і з пераменным поспехам.

На стог падняліся яшчэ два міліцыянеры, яны ўтрох звязалі казла і з дапамогай усё той жа лябёдкі спусцілі ўніз.

Уладзімір адышоў ад акна. На душы ў яго было цяжка. З галавы не выходзіў хлопец, якога дапытваў Рагозін. «Чорт бы пабраў гэту вайну, якая адабрала ў многіх дзяцей бацькоў. Не, ён не быў злодзеем, гэты хлапчук. Не подласць кіравала ім, а проста неўсвядомленае жаданне мець тое, што так любяць дзеці. Ён хацеў купіць для сваіх братоў і сясцёр булак і марожанага. Мы правільна зрабілі, што не сталі афармляць матэрыялы на яго. Напэўна, ён усё зразумее», — думаў Уладзімір.

## 42

## Участковы ўпаўнаважаны Кваша

Кваша ўжо праз дзень паклаў на стол перад Славіным спіс жыхароў пад'езда. У ім крыжыкам былі адзначаны чатыры прозвішчы.

— Яны, — патлумачыў участковы, — заслугоўваюць увагі. Людзей, якія б па ўзросце больш нам падыходзілі, у гэтых кватэрах няма.

— Дакладней, прапісанымі не лічацца, — паправіў Славін.

— Ну так, — пагадзіўся той. — Зараз, як я разумею, трэба пабываць ва ўсіх кватэрах і пагаварыць з людзьмі…

— Правільна, але спачатку давай пагутарым вось з гэтым таварышам, — і Славін падкрэсліў прозвішча «Жыркоў». — Як бачыш, ён пенсіянер. Раней працаваў у міліцыі. Так што пайшлі да яго!

Кватэра Жыркова знаходзілася на чацвёртым паверсе.

На іх стук дзверы адкрыў сухенькі дзядок. Ён уважліва глядзеў на незнаёмых людзей. Уладзімір прадставіўся і сказаў:

— Іван Леанідавіч, мы да вас па адным важным пытанні. Намі за разбойны напад адшукваецца чалавек, якога аднойчы бачылі, калі ён уваходзіў у гэты пад'езд. Вы не ведаеце, да каго ён мог прыходзіць?

Гаспадар задумаўся, а затым спытаў:

— Чаго ж вы стаіце, можа, лічыце, што на такое пытанне можна адразу адказаць? Праходзьце ў пакой, прысаджвайцеся, а я ўспомню. Што вам вядома пра таго, каго вы шукаеце?

Славін сцісла расказаў, што яму было вядома пра Жору. Стары ўслых пачаў думаць:

— Пада мной на трэцім паверсе жыве Хмялько Расціслаў. Яму дваццаць восем гадоў. Ваяваў. Паранены ў нагу і цяпер кульгае. Ён чалавек сур'ёзны і не стане важдацца з усякай дрэннню. Насупраць мяне — Коля Антонаў. Яму дваццаць два, таксама салідны хлопец. Працуе на інструментальным заводзе, у вольны час сядзіць за падручнікамі. Ён у інстытут збіраецца паступаць. Я нічога, акрамя добрага, пра яго сказаць не магу. У кватэрах на першым і другім паверхах мужчын маладых няма. На пятым — гэта нада мной якраз — жыве Навум Левін. Немцы падчас акупацыі расстралялі яго бацькоў. Навуму цяпер пакуль цяжка. На выхаванні ў яго дзве малодшыя сястры засталіся. Яму не да свавольстваў. На апошнім паверсе ёсць малады хлопец — Саша Крываног. У яго таксама немцы бацькоў забілі, сам цудам выратаваўся. Цяпер ён у цёткі жыве. Добрая сям'я, ды і Саша хлопец сур'ёзны, працуе, па вечарах сустракаецца з дзяўчынай з суседняга пад'езда… Скажыце, адкуль вы ўзялі, што той, з кім вы бачылі Жору, павінен жыць тут? А можа, Жора з тым хлопцам у госці да нейкага прыходзіў?

— Мы не выключаем гэтага, — пагадзіўся Славін.

— Ведаеце, вось мая вам парада. І паверце, дрэннай парады вам не дам. Як-ніяк больш як трыццаць гадоў я працаваў у крымінальным вышуку і ведаю, пачым фунт ліха. Дык вось, я лічу, што калі яны і маглі да каго-небудзь з жыхароў нашага пад'езда прыйсці, дык толькі да Веркі Астахавай. Жыве яна адна, на пятым паверсе ў сорак чацвёртай кватэры, дзяўчына вяртлявая, пазалетась дзіця нарадзіла. Я ў яе, памятаю, спытаў: «Вера, а хто бацька твайго Сярожкі?» А яна засмяялася і, нават не счырванеўшы, адказвае: «Дзед, ты пытанне лягчэйшае задай. Я і сама хацела б гэта ведаць». Працуе яна дзесьці ў буфеце, навар, напэўна, мае добры, таму што жыве ў дастатку, ні ў чым не мае патрэбы. Дзіця, калі ідзе на працу, да сваіх бацькоў адводзіць, якія недалёка адгэтуль жывуць, па вуліцы Цнянскай. У яе дома, дарэчы, часта розныя тыпы з'яўляюцца.

Калі выйшлі, у пад'ездзе Славін прапанаваў:

— Давай пад выглядам праверкі пашпартоў абыдзем кватэры, пра Астахаву з людзьмі асцярожна пагаворым, а потым і да яе зойдзем.

І яны пачалі спускацца на першы паверх. Але жыхары гэтых кватэр мала што ведалі пра тых, хто жыў на верхніх паверхах. У адной з кватэр яны заспелі маладую жанчыну. Яна адчыніла дзверы з дзіцем на руках і, убачыўшы Квашу, усміхнулася:

— А, таварыш участковы! Уваходзьце, калі ласка!

У чыстай і акуратнай кватэры яны селі на прапанаваныя крэслы, і Кваша, пакуль жанчына ў суседнім пакоі ўкладвала дзіця ў дзіцячы ложачак, сказаў Славіну:

— Гэта Галіна Максімаўна Чайкова, працуе бухгалтарам у домакіраўніцтве, я і забыўся, што яна тут жыве, зараз яна на прозвішчы мужа, — ён зазірнуў у спіс, які сам жа склаў, — Красіна. Я таму і не звярнуў увагі на яе. Два гады назад, калі яна жыла з бацькамі па вуліцы Беламорскай, іх кватэру абакралі, і я знайшоў злодзеяў. Ёй давяраць можна, яна сур'ёзны чалавек.

Чайкова ўвайшла ў пакой і прысела на краёчак канапы.

— Што гэта вас прывяло да нас, ці не збіраецца які-небудзь бандыт абрабаваць нашу кватэру?

— Усё можа быць, усё можа быць, Галіна Максімаўна, — пажартаваў Кваша, і адразу ж сур'ёзна спытаў: — Галіна Максімаўна, ці ёсць у вашым пад'ездзе людзі, якія скандаляць, замінаюць суседзям жыць ці сваю кватэру ператварылі ў месца наведвання ўсякай набрыдзі?

Жанчына адмоўна пакруціла галавой:

— Не, такіх людзей у нас у пад'ездзе няма. Хіба толькі Астахава, яна на пятым паверсе жыве. Нумар кватэры я не памятаю, але знайсці лёгка. Калі паднімецеся на пяты паверх, злева — другія дзверы. Яна — легкадумная жанчына. Да яе часта прыходзяць незнаёмыя мужчыны. Я цяпер у дэкрэтным адпачынку знаходжуся і часта яе бачу, калі яна вяртаецца з крамы. Яна туды па гарэлку ходзіць.

Славін спытаў:

— П'е часта?

— Не тое каб часта, яна для сваіх гасцей па гарэлку бегае.

— Нікога не ведаеце з тых, хто прыходзіць да яе?

— Не, на шчасце, — усміхнулася жанчына.

— Вы ў кватэру да яе ніколі не хадзілі?

— Не.

— Галіна Максімаўна, а з кім яна сябруе з суседзяў?

— Ведаеце, такога чалавека вы наўрад ці знойдзеце тут. Усе ведаюць яе як жанчыну хутчэй распусную, чым сціплую.

— Ну, а ў кватэру да яе з суседзяў хто-небудзь заходзіць?

— Не. Яе суседка — у іх на пляцоўцы дзверы побач размешчаны — мне ў мінулым месяцы скардзілася, што ў кватэры Астахавай увесь час шумяць. Я ёй тады параіла да вас, таварыш Кваша, звярнуцца. Але яна адказала, што няёмка неяк на суседзяў скардзіцца. Вы з ёй пагаварыце. Яе Варварай клічуць. Яна, можа, і бачыла, хто прыходзіць да Веры, таму што мне яна казала, што ходзяць туды не толькі ўвечары, але і днём. Калі толькі людзі працуюць?

Неўзабаве яны былі ўжо на пятым паверсе. Пастукалі ў дзверы сорак трэцяй кватэры. Адкрыла сярэдніх гадоў жанчына. На галаве ў яе былі бігудзі. Яна запрасіла супрацоўнікаў міліцыі прайсці ў кватэру, а сама, папрасіўшы прабачэння, знікла ў суседнім пакоі. Супрацоўнікі міліцыі прайшлі ў вялікі светлы пакой і селі каля стала. Кваша дастаў спіс жыхароў і моўчкі паказаў Славіну на лічбу сорак тры, дзе ўказвалася, што ў ёй пражывае сям'я з трох чалавек. Гаспадыня кватэры Сапожнікава Варвара Мікалаеўна. Уладзімір кіўком галавы падзякаваў участковаму, і той схаваў паперу ў кішэню кіцеля. Сапожнікава з'явілася перад гасцямі праз некалькі мінут. Галаву яна павязала яркай шаўковай хусткай.

Славін вырашыў быць з ёй адкрытым:

— Варвара Мікалаеўна, мы хочам з вамі пагаварыць пра вашу суседку Астахаву. Скажыце, у яе часта збіраюцца кампаніі?

Жанчына трохі збянтэжылася, не ведаючы, што сказаць.

— Варвара Мікалаеўна, гаворка ідзе не проста пра паводзіны Астахавай, а пра раскрыццё небяспечнага злачынства. Таму мы просім вас быць з намі адкрытай.

— Добра. Я і не хацела вас уводзіць у зман. Мне проста неяк ніякавата казаць пра суседку. Але калі такая справа, то разумею… Ну што вам пра яе сказаць? Памазлівая жанчынка, дзякуючы толькі адной сваёй знешнасці магла б

уладкаваць як след сваё жыццё. Але яна пайшла па іншым шляху. Пастаянныя п'янкі, розныя кавалеры. Чорт ведае, што дома робіцца. Вы ведаеце, бываюць дні, што нават за гэтай тоўстай сцяной немагчыма ўседзець. Гам, крыкі, такая адборная лаянка даносіцца…

— Вы бачылі ў твар каго-небудзь з яе знаёмых?

— Бачыла, і не раз. Вы ведаеце, большасць п'янюгі, але часам бываюць хлопцы відныя, акуратныя і добра апранутыя…

Славін дастаў фатаграфіі трох малюнкаў, якія некалькі дзён назад зрабіла Сваткова.

— Паглядзіце на гэтыя малюнкі, ці не сустракалі вы падобных сярод яе гасцей?

Жанчына ўзяла намаляваныя партрэты і ўважліва прагледзела іх. Паклала назад на стол:

— Не, не ўзгадаю. Праўда, вось гэты, — яна ўзяла ліст паперы, дзе быў намаляваны Жора, — падобны на аднаго з тых, якога я пару разоў сустракала на лесвіцы і адзін раз ля ўвахода. Акуратны, сімпатычны, культурны быццам. Памятаю, як аднойчы я выходзіла з пад'езда, а ён якраз уваходзіў, спыніўся ля дзвярэй, пачакаў, пакуль я прайшла. Нават усміхнуўся прыязна.

— Не памятаеце, шраму ў яго на твары не было?

— Не, дый няёмка неяк твар незнаёмага чалавека разглядаць.

— А як ён быў апрануты?

Жанчына задумалася, а затым няўпэўнена адказала:

— Тады, калі я сустрэла яго ля ўвахода, ён быў апрануты… па-мойму, у паліто, так, сапраўды, у чорнае скуранае паліто.

Славін і Кваша радасна пераглянуліся. Кваша спытаў:

— Варвара Мікалаеўна, вы кажаце, што тады быў ён у скураным паліто, а ў іншыя дні як ён быў апрануты?

— Я яго сустракала ў гарнітуры, але якога менавіта колеру, не магу сказаць, не звярнула ўвагі.

— Ён адзін быў?

— У пад'ездзе два ці тры разы бачыла з нейкім хлопцам, а вось калі сустрэла каля пад'езда, быў адзін.

— А як выглядаў яго сябар?

— Не памятаю.

— Апошні раз калі вы яго бачылі?

— Тыдні два назад.

Супрацоўнікі міліцыі падзякавалі гаспадыні, выйшлі на лесвічную пляцоўку і пачалі раіцца: заходзіць ці не заходзіць да Астахавай. Іх турбавала адно: як бы з'яўленне супрацоўнікаў міліцыі не насцярожыла Астахаву. Але і час ішоў.

— Добра, — вырашыў Уладзімір, — пайшлі да яе. Пачнём з праверкі дакументаў, затым ты як участковы ўпаўнаважаны пацікавішся, хто да яе прыходзіць і гэтак далей. Карацей, як кажуць, паглядзім, чым яна дыхае, а затым будзем думаць, што рабіць далей.

Кваша рашуча пастукаў у дзверы сорак чацвёртай кватэры. За дзвярыма — цішыня.

— Стукай зноў, — напаўголаса сказаў Славін.

Кваша яшчэ раз пастукаў кулаком у дзверы.

— Хто там? — пачуўся жаночы голас.

— Свае, адкрыйце! — запатрабаваў Кваша. Пстрыкнуў замок, дзверы з лёгкім рыпаннем адчыніліся.

На парозе стаяла маладая жанчына. З выгляду ёй можна было даць гадоў дваццаць пяць. Нават у просценькім хатнім халаціку яна выглядала прывабнай. Доўгія светлыя валасы былі сабраны ў вузел на патыліцы. Вялікія зялёныя вочы спачатку глядзелі спакойна і неяк абыякава, а калі жанчына разгледзела на Квашы міліцэйскую форму, у іх з'явіліся трывога і разгубленасць. Кваша сказаў:

— Дзень добры, я ваш участковы ўпаўнаважаны. Дазвольце ўвайсці?

— А што здарылася? — спытала жанчына, адыходзячы ад дзвярэй і прапускаючы іх. Не адказваючы, работнікі міліцыі ўвайшлі ў кватэру і спыніліся ў нерашучасці. На непрыбраным ложку ляжала жаночая бялізна. На спінцы крэсла вісела вопратка, а на сядзенні чамусьці на аркушы паперы ляжаў кавалак сметанковага масла. На запыленым акне фіранка была адарвана з аднаго боку. Яна была калісьці салатавай, а зараз выгарала, і колер яе вызначыць было цяжка. На стале стаялі дзве пустыя бутэлькі. Адна з-пад гарэлкі, другая — з-пад ліманаду. Проста на абрусе ляжалі рэшткі закускі. У пакоі было светла, і Славін добра разгледзеў гаспадыню. Заўважыў, што твар яе азызлы, пад вачыма сінія кругі. Астахава была ў хатніх тапках на босыя ногі, яе панчохі віселі на дзвярной ручцы. Кваша сказаў:

— Я сёння правяраю выкананне пашпартнага рэжыму жыхарамі вашага пад'езда. Прад'явіце, калі ласка, ваш пашпарт!

Астахава моўчкі падышла да канапы, з-пад яе дастала невялікую сумачку, выняла адтуль пашпарт.

— Колькі чалавек пражывае ў гэтай кватэры?

— Я адна… і яшчэ сын мой, а больш нікога.

— Я ў вас, па-мойму, ні разу не быў?

— Так, вы ў гэтай кватэры першы раз.

Кваша раскрыў пашпарт і ўслых прачытаў:

— Астахава Вера Валяр'янаўна… Так… Дзе вы працуеце?

— У клубе будаўнікоў.

Славін, стараючыся стрымаць хваляванне, зрабіў выгляд, што яго штосьці зацікавіла там, за акном, дзе далёка ўнізе з грукатам праносіліся трамваі, аўтамашыны, спяшаліся па сваіх справах людзі. А сам увесь напружыўся, чакаючы наступнага пытання. Кваша, запісваючы дадзеныя, спытаў:

— Кім вы працуеце?

— Буфетчыцай.

— З якога часу?

— З моманту адкрыцця клуба, з сорак пятага.

— А чаму сёння не на рабоце?

— Клуб зачынілі на рамонт, зараз я працую праз дзень у сталовай на Камароўскім рынку.

Кваша знайшоў момант і паглядзеў на Славіна. У яго вачах стаяла нямое пытанне: пачынаць пра галоўнае? Славін ледзь прыкметна кіўнуў галавой. Кваша пайшоў у наступленне:

— Вера Валяр'янаўна, да вас у кватэру часта госці прыходзяць?

— Якія госці?

— Розныя, я маю на ўвазе, у першую чаргу, мужчын.

— Ну, бывае, хто-небудзь са знаёмых зойдзе, а што тут такога? Я чалавек дарослы і магу да сябе запрашаць каго захачу.

— Вядома, можаце. Я не пра гэта. Скажыце, хто ў вас учора быў?

— Учора? Ну, заходзіў знаёмы адзін…

— Хто ён? Як яго прозвішча, імя?

— Я з ім пазнаёмілася нядаўна і прозвішча не ведаю, а клічуць яго Леанідам. Ён працуе дзесьці на чыгунцы.

— А Жора ў вас даўно быў? — нечакана спытаў Славін. Ён яшчэ сам не ведаў, чаму ён гэта робіць, але дзесьці падспудна ў яго з'явілася думка, што трэба рызыкаваць і прымусіць жанчыну казаць праўду.

Астахава перапытала:

— Які Жора?

— Высокі, сімпатычны, модна апрануты. Увесну ён у скураным паліто хадзіў. Калі мяне не падводзіць памяць, вы з ім пазнаёміліся ў клубе будаўнікоў.

— А… гэты Жора? Так, даўно, ужо тыдні два прайшло, а можа, нават больш.

— Ён адзін да вас прыходзіць ці з сябрамі?

— Як калі. Некалькі разоў з ім Толя прыходзіў, а апошнія два ці тры разы ён адзін быў у мяне.

Славін падышоў амаль ушчыльную да Астахавай.

— Вера Валяр'янаўна, я загаварыўся і забыўся прадставіцца: старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Славін. Скажыце, якія рэчы ці прадметы вам дарыў Жора?

Славін спецыяльна так сцвярджальна задаў пытанне. Астахава завагалася, і гэта пераканала Уладзіміра, што ён на правільным шляху.

— Ды вы не саромейцеся, смела кажыце. Калі мы вас пра гэта пытаем, то, напэўна, штосьці нам вядома.

— Так, ён мне прадаў сёе-тое, але не дарыў.

— І што ж ён вам прадаў?

— Пярсцёнак і плашч.

— А што яшчэ?

— Больш нічога, чэснае слова.

— Пакажыце мне пярсцёнак і плашч.

— Калі ласка. — Астахава падышла да шафы і дастала светла-карычневы плашч. Славін добра памятаў, што ў Лазаркевіч злачынец забраў светла-карычневы плашч сорак шостага памеру, спытаў:

— Які памер гэтага плашча?

— Сорак шосты.

— Так, а пярсцёнак у вас дзе?

— Ды вось ён, — гаспадыня працягнула Славіну сваю правую руку, на адным з пальцаў быў залаты пярсцёнак з рубінам.

Уладзімір таксама добра памятаў, што ў пацярпелай быў менавіта такі ж пярсцёнак: залаты з рубінам. Лейтэнант спытаў:

— Вы прозвішча Жоры ведаеце?

— Не, ён не казаў.

— А што ён вам пра сябе расказваў?

— Нічога істотнага. Казаў, што на нейкай базе працуе і мае вялікія сувязі.

— А не прапаноўваў ён вам купіць у яго на базе модныя прыгожыя рэчы?

— Прапаноўваў. Казаў, што там у яго шмат замежнай вопраткі, абутку…

— Прозвішча яго сябра таксама не ведаеце?

— Ён у нас у клубе працаваў электрыкам па сумяшчальніцтве, але прозвішча я яго не ведаю.

— А яго асноўная праца?

— Я не ведаю.

— Добра, Вера Валяр'янаўна, збірайцеся і хадзем з намі.

— Куды?

— У міліцыю. Нам трэба вас дапытаць. Вазьміце з сабой плашч і пярсцёнак, якія купілі ў Жоры…

У аддзяленні Уладзімір адразу ж прыступіў да допыту Астахавай. Тая паводзіла сябе спакойна і не вельмі засмуцілася, калі Славін запрасіў да сябе ў кабінет дваіх панятых і склаў пратакол аб тым, што ў яе забралі плашч і пярсцёнак. Калі яны зноў засталіся адны, Славін спытаў:

— Вера Валяр'янаўна, а Жора не казаў, калі зноў прыйдзе да вас?

— Ён сказаў, што з'язджае кудысьці і яго ў горадзе не будзе каля месяца. Папярэдзіў мяне, каб я рыхтавала больш грошай, і ён, як прыедзе, звозіць мяне на базу.

— Як вы думаеце, у яго, акрамя Анатоля, сябры яшчэ ёсць?

— Адкуль мне ведаць, хто з іх сябра, а хто не.

— Вам хто-небудзь з іх знаёмы?

— Нікога. Памятаю, ён і Толік запрасілі мяне з імі пайсці на возера. Я пайшла, а потым шкадавала. Там гэтулькі ў іх аказалася знаёмых, што проста жах…

Славін вырашыў пагаварыць з жанчынай адкрыта. Калі Астахава скажа Жоры пра тое, што ў яе забралі пярсцёнак і плашч, той адразу ж пра ўсё здагадаецца. Уладзімір разумеў, што з яе дапамогай будзе лягчэй злавіць злачынцу. Ён адклаў у бок паперу і загаварыў:

— Вера Валяр'янаўна, я вам адкрыю адзін сакрэт, але вы павінны пра гэта маўчаць. Зразумела?

— Вядома, зразумела, я нікому нічога не раскажу.

— Справа ў тым, што Жора — ашуканец, і не проста ашуканец, а рабаўнік-ашуканец. Ён знаёміцца з маладымі жанчынамі, уваходзіць да іх у давер, прапануе ім, гэтак жа як і вам прапанаваў, дапамагчы што купіць з модных рэчаў, а калі дзяўчына падрыхтоўвае грошы, нападае на сваю ахвяру і рабуе. Такім чынам ён ужо прывабіў у лес адну дзяўчыну, моцна збіў яе, забраў вялікую суму грошай, а таксама плашч і пярсцёнак, якія мы забралі ў вас, і схаваўся.

— А дзяўчына?

— Дзяўчыну кінуў у лесе, ён лічыў, што забіў яе, але, на шчасце, памыліўся, яна жывая. Я вам расказваю пра гэта, па-першае, таму, што цалкам магчыма, ён рыхтуе тое ж самае і для вас. Па-другое, я хачу, каб вы мне паверылі і дапамаглі нам яго злавіць. Ну, як, згодны?

— Калі ён бандыт, то якая можа быць гаворка, вядома, згодна. Што мне трэба рабіць?

— Пакуль нічога, — усміхнуўся лейтэнант, — сядзець у вольны ад працы час дома і чакаць яго. Калі ён з'явіцца, пра пярсцёнак і плашч — ні слова. Ён, напэўна, будзе пытаць, ці ёсць у вас грошы. Скажыце, што ёсць, але захоўваеце вы іх не дома, і дамовіцеся, што паедзеце з ім на базу на наступны дзень. Пасля таго, як ён пойдзе, вы павінны тэрмінова адшукаць мяне.

— А як я вас знайду?

Уладзімір напісаў на паперы тэлефон і працягнуў жанчыне:

— Вось вам нумар тэлефона нашага дзяжурнага. Праз яго вы і перадайце ўсё, што захочаце мне сказаць. Ну, а зараз дзякуй, вы свабодны.

Астахава пайшла, лейтэнант выклікаў Рагозіна:

— Едзь, Андрэй Міронавіч, у клуб будаўнікоў, калі там нікога не знойдзеш, звярніся ў аддзел кадраў і ўстанаві прозвішча электрыка па імені Анатоль. Ён працуе ў клубе па сумяшчальніцтве.

## 43

## Рыта

Рыта, колькі ні ўгаворвалі яе Славіны застацца жыць у іх, настаяла на сваім і пераехала ў інтэрнат. Працавала яна ў паліклініцы. Уладзімір імкнуўся кожны дзень сустракацца з ёй, але не заўсёды гэта атрымлівалася. Добра, што дзяўчына разумела, якая праца ва Уладзіміра, і не крыўдзілася на яго.

Уладзімір быў засмучаны, што Рыта не спяшалася з вяселлем.

— Разумееш, — пераконвала яна, — я павінна тут абжыцца і стаць на ногі, я не хачу, каб пра нас турбаваліся твае мама і сястра. Таму, я цябе вельмі прашу, давай адкладзём вяселле да наступнага года.

Уладзімір гарачыўся, даказваў ёй зваротнае. Рыта не згаджалася. Супакоіўшыся, урэшце Уладзімір пагадзіўся. Аддаючы ўсяго сябе рабоце, ён часам лавіў сябе на думцы, што ў такія гадзіны Рыта адыходзіла кудысьці на задні план. Ён пачынаў лаяць сябе, але паступова зразумеў: ён кахае Рыту, але і не можа жыць без сваёй работы. Атрымлівалася так, што нават калі ён быў разам з Рытай, то часта думаў пра працу.

Вось і цяпер, калі яны стаялі на пагорку і любаваліся воднай роўняддзю Камсамольскага возера, твар Уладзіміра быў змрочным і задуменным. Рыта гэта заўважыла. Яна ўзяла яго пад руку і спытала:

— Ты што? Цябе штосьці трывожыць?

Славін сцісла расказаў пра Лазаркевіч.

— А як зараз сябе адчувае дзяўчына? — захвалявалася Рыта.

— Учора ўпершыню прыйшла да памяці. Але ўрачы пакуль не дазваляюць з ёй гаварыць. Яны нават сумняваюцца ў тым, што яна ўспомніць тое, што здарылася… Небарака, яна на ўсё жыццё застанецца інвалідам, бачыць будзе толькі адным вокам.

Ён памаўчаў трохі і, гледзячы на возера, ціха сказаў:

— Не разумею, адкуль у нас такія звяры бяруцца. Перажылі цяжкую вайну, дзяцей-сірот не пералічыць, колькі гора ўсе перанеслі. Здавалася б, людзі павінны стаць мудрэй, дабрэй адзін да аднаго. А вось такія Жоры чамусьці не пераводзяцца. Не, мне трэба хутчэй яго знайсці, толькі тады я змагу спаць спакойна!

Рыта прыцiснулася да яго рукі:

— Валодзя, я баюся за цябе! Ты памятай, што ў цябе ёсць я. Не думай, не да баязлівасці цябе заклікаю, а да абдуманасці сваіх дзеянняў, да асцярожнасці.

Славін раптам засмяяўся:

— І што гэта мы з табой на такую сумную тэму загаварылі? Лепш паслухай пра нашага казла Борку. — Уладзімір расказаў пра паядынак казла з міліцыянерам.

— Ну, а што з тым хлопцам, — смеючыся, спытала Рыта, — якога ваш Борка-бандыт сапхнуў са стога?

— Парадак. Зваліўся ж ён прама ў кузаў машыны, дзе яшчэ было шмат сена. Яму зараз і мянушку прыдумалі «Казліны парашутыст», — гаварыў Славін, а сам у гэты момант думаў пра ўчастковага ўпаўнаважанага Рагозіна, які другі дзень спрабаваў устанавіць прозвішча электрыка. Клуб рамантавалі, нікога з адміністрацыі ён не знайшоў, а калі сёння з раніцы злавіў загадчыка, то аказалася, што той прозвішча электрыка не ведае. Для ўсіх у клубе ён

быў Толем. Начальнік аддзела кадраў захварэў. Калі Рагозін сказаў пра гэта Славіну, ён запатрабаваў, каб Рагозін высветліў адрас кадравіка і ехаў да яго дахаты.

Уладзімір паглядзеў на гадзіннік: «Сем вечара. Ці зможа Рагозін заспець яго дома? Час бяжыць: пакуль мы разгортваемся, цалкам можа быць, што злачынец ужо заваблівае наступную ахвяру. Не, трэба яшчэ штосьці распачаць. Але што?»

Рыта заўважыла, што ён спяшаецца.

— Валодзечка, табе пара? Тады праводзь мяне.

Недалёка ад інтэрната яны рассталіся, і Славін накіраваўся ў аддзяленне. Ля ўвахода ў будынак міліцыі ён сутыкнуўся з Рагозіным. Той весела ўсміхнуўся:

— Як быццам дамовіліся мы з табой ля ганка сустрэцца.

— Ну як? — нецярпліва спытаў Уладзімір.

— Устанавіў я гэтага Толю! Дабірацца давялося за Татарскія гароды, на самую ўскраіну, але своечасова я туды паехаў. Заўтра раніцай кадравік з’язджае ў Маскву, так што пагнаў бы ты і мяне за ім у сталіцу высвятляць.

Яны ўвайшлі ў кабінет. За сталом сядзеў Падрэзаў і ўсміхаўся.

— Прывітанне! Чаго цешышся? Можа, хочаш перадаць мне прывітанне ад сваёй жонкі?

— Перадаю, але галоўнае, браткі, вось у чым: я разблытаў адну справу!

— Малайчына! — пахваліў сябра Уладзімір. — Значыць, у цябе толькі адно забойства засталося.

— Вядома. Вучыцеся, як трэба працаваць, суслікі!

Крыху пазней Уладзімір зразумеў, чаму Аляксей іранізаваў з сябе. Аказалася, што ў Койданаве на чыгуначным вакзале работнікі міліцыі за крадзеж чамадана затрымалі злодзея. Пры вобыску ў яго знайшлі пашпарт і рэчы забітага. Звязаліся з Мінскам. Падрэзаў паехаў у Койданава і прывёз затрыманага. Ужо па дарозе злачынец назваў сваё сапраўднае прозвішча і прызнаўся, што здзейсніў забойства. Вось і жартаваў Падрэзаў, разумеючы, што яго заслуга ў раскрыцці гэтага злачынства невялікая.

Рагозін паклаў на стол перад Славіным лісток паперы:

— Вось ён — Толя! Уладзімір услых прачытаў:

— Алматаў Анатоль Серафімавіч, нараджэнні 1924 года, пражывае па вуліцы Цнянскай, дом сто восемдзесят восем.

Рагозін растлумачыў:

— Ён там на кватэры жыве. Я праверыў.

— Малайчына, Андрэй Міронавіч, малайчына. Што далей рабіць будзем?

— Я лічу, што ты павінен даручыць мне ўзяць гэтага Толю пад кантроль і да з’яўлення Жоры яго не чапаць.

— Так, мабыць, правільна кажаш. Добра. За Алматава адказваеш ты. Для нас не будзе лішнім, калі мы ўстановім яго сувязі, месцы, дзе ён бывае. Хто ведае, можа, гэта стане карысным і ў вышуку Жоры?

Участковы пайшоў, а Падрэзаў сказаў:

— Пётр Першы праз дзяжурнага перадаў, каб мы да яго зайшлі.

— Ты не быў?

— Цябе чакаў.

— Пайшлі.

Гарчакоў быў у сябе. Убачыўшы аператыўнікаў, усміхнуўся і спытаў у Славіна:

— Ты, вядома, ужо чуў, як сусветна вядомы сышчык Лёша Падрэзаў імгненна раскрыў забойства?

— Чуў. Таварыш Падрэзаў абяцае ў рэспубліканскую газету напісаць, вопытам барацьбы са злачыннасцю падзяліцца. І яшчэ ён мне сказаў, што нас дваіх Пётр Першы выклікае, але я прапанаваў спачатку да вас зайсці параіцца.

— Правільна зрабілі, што зайшлі. — Гарчакоў ахвотна падтрымліваў жартаўлівую гутарку. Ён заўсёды імкнуўся знайсці вольную хвіліну, каб пагаварыць з супрацоўнікамі: з адным пажартаваць, з другім пагутарыць па шчырасці, у трэцяга пацікавіцца, як справы дома, як здароўе. У Гарчакова была добрая памяць, ён памятаў, хто і пра што яго прасіў, імкнуўся заўсёды дапамагчы па меры магчымасці. І супрацоўнікі любілі начальніка аддзялення і давяралі яму. Цякучасці кадраў у Гарчакова не было. Многія працаўнікі міліцыі з іншых аддзяленняў пісалі рапарты з просьбай перавесці іх у падначаленне Гарчакова. Быў у яго талент кіраўніка. Вось і цяпер ён жартаваў з маладымі супрацоўнікамі, але праз некалькі мінут ужо сур'ёзна сказаў:

— Таварышы, хачу вам даручыць адно заданне. На ўскраіне горада, за апошнімі дамамі, у полі стаіць стог сена. Справа ад яго тэрыторыя трэцяга аддзялення, злева — наша.

— На нічыйнай паласе стаіць, — усміхнуўся Падрэзаў.

— Выходзіць, што так. Хлапчукі, якія ўначы пасвяць коней, сталі заўважаць, што пасля поўначы да стога сена з лесу падкрадаецца чалавек і ранкам, калі яшчэ не рассейваецца туман, сыходзіць назад у лес. Яны сцвярджаюць, што ён узброены аўтаматам.

— Сямён Антонавіч, у нас жа ёсць тры арыенціроўкі пра тое, што невядомы, пагражаючы аўтаматам, рабаваў людзей.

— Не тры, а ўжо чатыры. Гадзіну назад прыйшло паведамленне, што ён абстраляў з аўтамата саўгасную машыну, забіў вадзіцеля, галоўнага бухгалтара і маладога хлопца.

Яны везлі вялікую суму грошай, якую злачынец забраў. Месца здарэння знаходзіцца ў дваццаці кіламетрах ад гэтага стога. Цалкам верагодна, што гаворка ідзе пра аднаго і таго ж чалавека. Характэрна, што паблізу таго месца, дзе начуе невядомы, такіх рабаванняў не зарэгістравана. Я дамовіўся з начальнікам трэцяга аддзялення Купрэйчыкам. Ён таксама выдзеліць сваіх супрацоўнікаў. Лічу, што схавацца вам лепш за ўсё ў стозе і чакаць. Калі з'явіцца, браць не спяшайцеся, магчыма, ёсць сэнс даць яму заснуць. Майце на ўвазе, аўтамат — не пісталет. Таму калі ўжо страляць давядзецца, то трэба біць з блізкай адлегласці не даць яму пусціць у ход сваю зброя. Вазьміце з сабой акрамя зброі ліхтарыкі і будзьце асцярожныя. Добра б яго ўзяць жывым. Ясна?

— Ясна, таварыш маёр! Нам адпраўляцца адразу ж?

— Неадкладна. Я хачу, каб вы крыху раней апынуліся на месцы. Стог вам пакажа хлапчук, які цяпер знаходзіцца ў трэцім аддзяленні ў Купрэйчыка. Гэты хлапчук жыве там недалёка. Пасля таго, як ён пакажа стог, адвядзіце яго да бацькоў. Ясна?

— Так точна! Дазвольце ісці?

— Давайце, хлопцы…

## 44

## Купрэйчык

Купрэйчык здагадаўся, навошта яго выклікаюць да начальніка ўпраўлення. Супрацоўнік, які патэлефанаваў капітану, сказаў, каб той узяў з сабой матэрыялы пра крадзеж са сталовай, што рыхтавалі хлапчукі. Купрэйчык успомніў і дзіўныя паводзіны свайго намесніка маёра міліцыі Баранніка, які пазбягаў сустрэч з ім, а калі выпадкова і трапляўся насустрач, то адводзіў у бок вочы. Купрэйчык думаў, што Барраннік цураецца яго з-за спрэчкі пасля гутаркі пра гэтых хлапчукоў, і не надаваў асаблівага значэння, лічачы, што пройдзе некаторы час, Бараннік астыне, і ўсё стане на месца. Але атрымаўшы загад з'явіцца з матэрыялам да начальніка ўпраўлення, Купрэйчык зразумеў, чаму намеснік апошнім часам паводзіў сябе так дзіўна.

Капітан, ледзь спраўляючыся з непрыемным пачуццём, якое вярэдзіла душу, папрасіў у начальніка крымінальнага вышуку матэрыял, паклаў яго ў старую, пашарпаную папку і паехаў дахаты пераапранацца. Ва ўпраўленне, ды яшчэ да начальства, неабходна з'яўляцца ў форме…

Начальнік упраўлення, пажылы, са стомленым бледным тварам — відавочна, цяжкая рана, атрыманая на фронце, непакоіла яго, — быў хмурны. Ён паважаў і любіў маладога рашучага капітана, які прайшоў усю вайну ў разведцы. І вось цяпер перад ім на стале ляжаў афіцыйны рапарт маёра Баранніка, які вінаваціў свайго начальніка ў палітычнай блізарукасці і ўтойванні злачынства, у абразлівым стаўленні да аўтара рапарта.

Палкоўнік разумеў, што ўсё напісанае — глупства. Але ён вельмі добра ведаў Баранніка. Самалюбівы, які любым спосабам рваўся да больш высокіх пастоў, ён, калі адмовіцца ад праверкі яго рапарта, не спыніцца на гэтым і, вядома, будзе пісаць далей. А гэта значыць, што Купрэйчыку давядзецца тлумачыць усё ў яшчэ больш высокіх інстанцыях, тузаць нервы, марнаваць дарэмна час. Начальнік упраўлення спачатку хацеў даручыць разабрацца па рапарце сваім падначаленым, але потым перадумаў і выклікаў Купрэйчыка да сябе.

Купрэйчык увайшоў у кабінет і далажыў:

— Таварыш палкоўнік, капітан Купрэйчык па вашым загадзе прыбыў!

— Дабрыдзень, Аляксей Васільевіч! Праходзіце, прысаджвайцеся і прачытайце вось гэта… — палкоўнік грэбліва, двума пальцамі ўзяў рапарт і працягнуў яго капітану.

Купрэйчык прымусіў сябе дачытаць да канца і, ледзь стрымліваючыся ад гневу, сказаў:

— Выпадак з хлапчукамі апісаны правільна, толькі матывы не тыя, а абвінавачванні ў мой адрас — безгрунтоўныя і брудныя. — Капітан паклаў перад начальнікам упраўлення матэрыялы і падрабязна далажыў аб тым, што адбылося.

Палкоўнік слухаў моўчкі, толькі па яго худым твары хутка хадзілі вужлакі, цяжкі погляд упёрся ў нейкую кропку на стале, нібы яму, пажыламу чалавеку, які ніколі не баяўся глядзець праўдзе ў вочы, цяпер было сорамна перад сваім падначаленым.

Купрэйчык замоўк, і ў кабінеце наступіла цішыня. Яна зацягвалася і рабілася ўсё больш гнятлівай. Капітан, разумеючы, што любая праверка патрабуе пісьмовага тлумачэння, прапанаваў:

— Мне напісаць…

Але палкоўнік не даў яму дагаварыць:

— Не трэба. Я сам напішу. — Убачыўшы, як здзіўлена паглядзеў на яго капітан, дадаў: — Складу даведку, што разабраўся асабіста, і — справе канец. Ну, а што да Баранніка, то не дзівіцеся. Я ў яго асабістай справе бачыў, што ён не першы раз піша такія рапарты. Праўда, ніводнага рапарта з просьбай накіраваць яго на фронт не знайшоў. Мы падумаем, якую работу яму даручыць, каб ён урэшце змог справіцца з ёй.

Палкоўнік штосьці дастаў з шуфлядкі, схаваў руку за спіну, усміхаючыся абышоў стол, спыніўся каля Купрэйчыка. Капітан устаў. Працягваючы ўсміхацца, начальнік упраўлення сказаў:

— А зараз, Аляксей Васільевіч, пагаворым на прыемнейшую тэму. — І ён працягнуў Купрейчыку новыя маёрскія пагоны. — Надзявайце, вось гэтыя! Толькі што прыйшоў загад аб прысваенні вам звання маёра міліцыі. Віншую!

Купрэйчык разгубіўся і як хлапчук прамармытаў «дзякуй»…

Ён выйшаў на вуліцу са змешаным пачуццём засмучэння і радасці. Здавалася, і засмучацца няма падстаў. Начальнік упраўлення ўсё зразумеў адразу ж, але ў душы Аляксея засталося непрыемнае пачуццё судакранання з ганебнасцю. Думкі пра новае званне, маёрскія пагоны адсунуліся на задні план. «Што рабіць? — думаў Купрэйчык пра свайго намесніка. — Як з ім працаваць? Адкуль у яго гэтулькі злосці, зайздрасці, нядобразычлівасці?»

Сеўшы ў палутарку, Купрэйчык, задумаўшыся, не заўважыў, як пад’ехалі да аддзялення міліцыі. Ён выйшаў з кабіны і адразу сутыкнуўся з Бараннікам. Той ад нечаканасці спыніўся і здзіўлена глядзеў на грудзі начальніка, упрыгожаныя чатырма баявымі ордэнамі і пяццю медалямі. Чаго-чаго, а гэтага, напэўна, Браннік не чакаў. Ён лічыў Купрэйчыка выскачкам, чыімсьці любімчыкам. А перад ім стаяў баявы камандзір. Барраннік са спахмурнелым тварам моўчкі адышоў ад ганка.

Купрэйчык увайшоў у свой кабінет, і тут жа з’явіўся дзяжурны:

— Таварыш капітан, вас ужо больш як гадзіну чакае хлапчук.

— А што такое?

— Ён сцвярджае, што ў стозе сена, размешчаным на ўскраіне горада, якраз на мяжы з тэрыторыяй другога аддзялення, ужо некалькі начэй запар хаваецца невядомы мужчына з аўтаматам.

— А што, няма каму было пагутарыць з хлапчуком, што прымусілі яго чакаць?

— Я далажыў маёру Баранніку, але ён адказаў, што заняты, і загадаў чакаць вас.

— Прывядзіце хлапчука.

Неўзабаве ў кабінет увайшоў худзенькі, з загарэлым тварам хлапчук. Хвалюючыся, ён расказаў пра невядомага. Купрэйчык тут жа патэлефанаваў Гарчакову. Паведаміў пра расказ хлопчыка і прапанаваў:

— Сямён Антонавіч, выдзелі двух чалавек, і я дам пару сваіх, хай затрымаюць гэтага аўтаматчыка.

— Добра. Да вечара ў цябе будуць Падрэзаў і Славін. Хлопцы дасведчаныя, надзейныя…

Купрэйчык дамовіўся з хлопцам, што той прыйдзе ўвечары ў аддзяленне, і адпусціў яго. Затым выклікаў да сябе оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку Новікава. Увёў яго ў курс справы і загадаў разам з яшчэ адным супрацоўнікам рыхтавацца да начной аперацыі.

Новікаў пайшоў, а на сэрцы Купрэйчыка стала неспакойна. Трывога станавілася ўсё мацней і мацней. Не дапамагло нават тое, што начальнік аддзялення адразу ж з галавой увайшоў у работу. Трэба было падпісаць абві-

наваўчае заключэнне па справе крадзяжу з кватэр. Затым ён разам са старшыной аддзела агледзеў адрамантаваную стайню, праверыў, ці ўсё ў парадку ў дзяжурным пакоі, пагутарыў з мужам і жонкай, якіх даставілі ў міліцыю, якія, выпіўшы, пабіліся. І ўвесь гэты час Купрэйчык спрабаваў зразумець, што яго трывожыць. Нарэшце, калі вярнуўся ў кабінет, зразумеў, яго турбуе тое, што на затрыманне ўзброенага аўтаматам мужчыны пойдзе і Славін. У памяці адразу ж усплыла гібель Мачалава. І вось зараз другі брат ішоў насустрач небяспецы.

Падумаўшы, Купрэйчык пацягнуўся да тэлефоннага апарата і запрасіў да сябе Новікава. Праз хвіліну лейтэнант быў у кабінеце. Купрэйчык сказаў:

— Іван Іванавіч, разам з Падрэзавым і Славіным з другога аддзялення пойдзем я і ты. Больш людзей браць не будзем. З сабой возьмем зброю і ліхтары, прыхапі кавалак вяроўкі. Ідзі рыхтуйся, а да мяне запрасі маёра Баранніка.

Новікаў выйшаў, а мінут праз пяць у кабінет увайшоў Бараннік:

— Выклікалі?

— Так, запрашаў. Я сёння ўначы буду заняты ў адной аперацыі, так што вы пракантралюйце работу аддзялення.

Бараннік стаяў па стойцы «смірна», з каменна непранікальным тварам. Але Купрэйчык па яго хуткіх насцярожаных поглядах, якія ён зрэдку кідаў на начальніка, бачыў, што яго вельмі цікавіць, ці ведае Купрэйчык пра яго рапарт. Купрэйчык казаў спакойна, роўна, і Бараннік з палёгкай уздыхнуў: «Значыць, яшчэ не ведае».

А Купрэйчык паспяшаўся дахаты, каб змяніць міліцэйскую форму на цывільную вопратку.

## 45

## Славін

Ночы сталі халадней. Набліжалася восень. Халодны бялёсы туман ужо гаспадарыў на палях, у лясах, асядаў у нізінах, раніцай чапляўся за кроны дрэў, доўга вісеў у паветры.

Хлапчук-праваднік аказаўся не толькі кемлівым, але і назіральным. Ён добра арыентаваўся ў цемры і вывеў работнікаў міліцыі прама на стог. Праводзіць яго да хаты пайшоў Падрэзаў, а калі вяртаўся, то Славіну, Купрэйчыку і Новікаву давялося пахвалявацца за яго. Ён ледзь знайшоў стог. Нарэшце ўсе былі ў зборы. Пачалі думаць, дзе ўладкавацца. Нара, якую зрабіў невядомы, знаходзілася з боку лесу. Падрэзаў прапанаваў схавацца на версе стога. Але, падумаўшы, вырашылі, што не трэба гэта рабіць. Пакуль спусцішся ўніз, наробіш столькі шуму, што і мёртвы прачнецца. Крыху пачакаўшы, прынялі прапанову Славіна. Зрабілі сабе нару недалёка ад той, якая ўжо была, але іх нара мела два лазы. Спатрэбіўся партызанскі вопыт Славіна, які хутка і ўмела падрыхтаваў для іх хованку. Невядомага вырашылі браць сонным. Купрэйчык размеркаваў абавязкі: Падрэзаў і Новікаў павінны напасці на яго прама са сваёй нары, а Славін скарыстаецца яго ж лазам. Купрэйчык прасочыць за барацьбой і адразу ж кінецца на дапамогу туды, дзе будзе патрэбен. Вырашылі, што спаць стануць па чарзе: адзін дзяжурыць дзве гадзіны, а трое будуць адпачываць. У цемры спатрэбіўся гадзіннік Славіна з цыферблатам, які свеціцца. Зарадзілі пісталеты і замерлі. Першым узяўся дзяжурыць Новікаў, але астатнія доўга не маглі заснуць. Яны рабілі выгляд, што спяць, але кожны

думаў пра сваё. Купрэйчыку ўспомніліся трывожныя ночы ў тыле ворага, баявыя сябры-разведчыкі. Падрэзаў, удыхаючы духмяны пах сена, з сумам успамінаў дзяцінства ў вёсцы, бацькоў, якія рана памерлі.

Славін успомніў гады вайны, трывожныя ночы, засаду ля чыгунак. Перад вачыма ўсплыў яго апошні бой, калі партызаны на ўзлеску сустрэлі вялікую калону немцаў і ў цяжкім зацятым баі прымусілі ацалелых фашыстаў здацца. Сэрца сціснулася пры ўспаміне, як загінуў спакойны Сівец, які коштам уласнага жыцця знішчыў нямецкі танк. Уладзімір задрамаў. А прачнуўся ён ад штуршку ў бок. І тут пачуў побач, дзе размешчана нара, шоргат сена і гучнае дыханне. «Прыйшоў! Цяпер галоўнае даць яму спакойна заснуць, а потым можна дзейнічаць». Пакуль невядомы, уладкоўваючыся ямчэй, варочаўся, пакраталі адзін аднаго рукамі, і кожны адказваў рухам сваёй рукі: не сплю, маўляў. Пакутліва пацягнуліся хвіліны чакання.

Падрэзаў быў увесь у поце. Ён адчуваў, што ў носе штосьці казыча, вельмі хацелася чхнуць. Узмоцнена цёр пераноссе і да крыві кусаў вусны, каб стрымацца. Трэба было чакаць, чаго б гэта ні каштавала, выбраць удалы момант. А такім момантам мог быць толькі сон невядомага, які цяпер стаіўся побач з імі і, напэўна, трымае палец на спускавым кручку, нервова прыслухоўваючыся да любога шоргату, гатовы тут жа прашыць стог аўтаматнай чаргой.

Прайшло не меней як гадзіна, пакуль Славін пацiснуў локці сябрам і асцярожна пачаў выбірацца вонкі. Вось ён ужо ля стога, павольна, імкнучыся не шамацець сенам, раскіданым па зямлі, наблізіўся да лаза. Зараз усё гатова. Славін сунуў пісталет у кішэню, дастаў ліхтарык, узяў яго ў левую руку і нахіліўся да лаза. Перад Славіным стаяла задача: кінуцца на невядомага, адабраць у яго аўтамат, адначасова падаць сігнал сваім, і яны адразу ж прыйдуць на дапамогу. Уладзіміру на секунду здалося, што чалавек, які знаходзіўся ў нары, заварушыўся. Аператыўнік замёр, стаіў дыханне. Мільганула думка: а што, калі той цяпер трымае пад прыцэлам лаз, і варта там з’явіцца ценю Славіна, як той націсне на курок. Успомніліся словы Гарчакова: «Мне супрацоўнікі з дзіркай у целе і тым больш у галаве не патрэбны». Зусім недарэчы ўспомнілася і просьба Рыты быць асцярожным. Славін стрымліваў сябе, не спяшаўся лезці ў нару, хацелася пастаяць хоць бы трохі проста так, удыхнуць яшчэ гэтае свежае, напоўненае пахам сена паветра, але губляць час было нельга, і ён, уключыўшы ліхтарык, кінуўся наперад. Святло патрэбна быў для таго, каб убачыць аўтамат. Убачыўшы яго, Славін кінуў ліхтар і, учапіўшыся ў зброю, крыкнуў:

— Наперад, хлопцы!

Усё адбылося імгненна, і таму абышлося без стрэлаў. Купрэйчык, Падрэзаў і Новікаў дружна навалiліся на невядомага. Выцягнулі яго са стога. Славін праверыў аўтамат — на ўзводзе. Нічога не пытаючы ў затрыманага, звязалі яму рукі, і Купрэйчык сказаў, звяртаючыся да невядомага:

— Мы работнікі міліцыі, выходзьце з намі.

Але Славін успомніў пра ліхтарык і, папрасіўшы пачакаць, нырнуў у разбураную нару. Прыйшлося перакінуць гару сена, пакуль знайшоўся ліхтарык, а заадно невялікі рэчмяшок, які падчас сутычкі заштурхнулі глыбока ў сена,

Славін вылез і, падсвечваючы сабе ліхтарыкам, развязаў мяшок. Там былі пачкі грошай. Іх было шмат, лічыць не сталі. Да другога аддзялення міліцыі было бліжэй, і яны накіраваліся туды.

Ужо было светла, калі яны прыйшлі ў аддзяленне. Затрыманага і рэчмяшок з грашыма здалі дзяжурнаму. Купрэйчык, паабяцаўшы стэлефанавацца пазней, разам з Новікавым пайшоў. Падрэзаў тут жа сеў за стол і пачаў пісаць рапарт Гарчакову пра выкананне задання…

Сэрца Гарчакова нібы чула, што яму трэба быць на рабоце крыху раней. У аддзяленні ён з'явіўся роўна ў сем. Павіншаваў падначаленых з паспяховым выкананнем задання і загадаў дзяжурнаму прывесці затрыманага да яго ў кабінет. Неўзабаве высветлілася, што невядомы збег з месцаў пазбаўлення волі, рабаваў людзей і забіў траіх чалавек, якія везлі саўгасныя грошы.

Гарчакоў дазволіў Падрэзаву і Славіну пайсці дамоў адпачыць. Але не паспеў Славін спусціцца з ганка, як яго паклікаў дзяжурны, які выскачыў услед за ім на ганак:

— Славін, да тэлефона!

«Напэўна, мама хвалюецца, што дамоў не прыйшоў», — падумаў Уладзімір, лёгка ўзбягаючы на ганак. Але калі ўзяў трубку, пачуў незнаёмы жаночы голас:

— Таварыш Славін?

— Так, я.

— Гэта тэлефануе Астахава. Сёння ўначы да мяне прыходзіў Жора. Ён хацеў у мяне пераначаваць, але я сказала, што ў мяне начуе мама, і не пусціла яго ў кватэру. Ён сказаў, што прыйдзе да мяне заўтра пасля абеду, і папярэдзіў, каб я была гатовая пайсці з ім за пакупкамі.

— Ён быў адзін?

— Так.

— Добра, чакайце мяне, я зараз да вас прыйду.

Уладзімір паклаў трубку на апарат і накіраваўся да начальніка. Сцісла далажыў яму пра званок. Гарчакоў спытаў:

— Што прапануеш рабіць?

— Жора з'явіўся ў горадзе, нам трэба неадкладна арганізаваць дзяжурства ўсіх хлопцаў і дзяўчат, якія ведаюць яго ў твар, у месцах, дзе ён можа з'явіцца. Ну, а я павінен, не губляючы час, сустрэцца з Астахавай. Яна чакае мяне дома. Трэба падрыхтаваць яе да сустрэчы і праінструктаваць, як паводзіць сябе з ім.

— Ты пойдзеш адзін?

— Так.

— Ясна. Дзейнічай, Уладзімір Міхайлавіч. Праўда, твой адпачынак зрываецца, але нічога, на пенсіі адпачнеш.

Неўзабаве Славін, пераступаючы праз дзве прыступкі, падняўся на пяты паверх і пастукаў у дзверы. Астахава адкрыла адразу ж. Твар яе быў разгубленым. Прапускаючы ў кватэру Славіна, сказала:

— Вы ведаеце, я так спалохалася, убачыўшы яго, што пасля таго, як ён пайшоў, ужо вачэй не магла звесці. Ледзь раніцы дачакалася і пабегла адразу ж у сталовую тэлефанаваць вам.

— Хвалявацца і турбавацца вам не трэба. Варта толькі выконваць усё, што я скажу.

Славін без запрашэння сеў на крэсла:

— Прысаджвайцеся, Вера Валяр'янаўна, і ўважліва запамінайце ўсё…

## 46

## Капітан міліцыі Рагозін

На наступны дзень капітан Рагозін, пераапрануты ў цывільнае, прыйшоў дамоў да Алматава. Паступова на вуліцы станавілася ўсё больш людна, сустракаліся і знаёмыя. Гэта турбавала ўчастковага. Прахожыя зразумеюць, што ён тут не выпадкова, могуць пайсці гаворкі сярод суседзяў, дойдзе да

Алматава. Насупраць праз вуліцу стаяў двухпавярховы драўляны дом. Рагозін дастаў з кішэні плашча газету і прысеў на лаўку, якая была на ганку пад падстрэшкам. Зараз ён мог сачыць за домам Алматава і хаваць твар ад прахожых. У палове дзявятай выйшаў Алматаў, яго Рагозін паспеў запомніць. Алматаў пастаяў ля брамкі, уважліва агледзеў вуліцу, потым павярнуўся і махнуў рукой. Амаль адразу ж побач з ім з'явіўся высокі малады мужчына. Сэрца Рагозіна ўздрыгнула: «Няўжо Жора?» Ён зрабіў выгляд, што чытае газету, а сам уважліва разглядаў таго, хто ішоў побач з Алматавым па другім боку вуліцы. Хто ведаў старую Цнянскую вуліцу, той, напэўна, памятае, што яна была нешырокай, і Рагозіну ўдалося разгледзець твар спадарожніка электрыка. Так, ён быў падобны па прыкметах на Жору! Скураное паліто, невялікія вусікі. Нават заўважыў характэрную звычку Жоры, пра якую расказвала Сваткова: мужчына трымаў рукі ў кішэнях.

Рагозін адпусціў іх далей, схаваў газету, зняў плашч і, накінуўшы яго на руку, рушыў следам. Алматаў і яго спадарожнік, пра штосьці ажыўлена размаўляючы, прыйшлі на Камароўскі рынак. Патапталіся сярод доўгіх гандлёвых сталоў, купілі ў бабулькі шклянку семачак і накіраваліся ў сталовую. Рагозін, павагаўшыся з хвіліну, пайшоў следам. У твар участковага ні Алматаў, ні яго сябар, напэўна, не ведалі, і гэта аблягчала задачу. Калі капітан увайшоў у залу, то ўбачыў, што яго падапечныя робяць заказ у афіцыянткі. Рагозін сеў за суседні столік і зрабіў выгляд, што разглядае меню. Неўзабаве афіцыянтка прынесла ежу, бутэльку гарэлкі і два куфлі піва. Паставіла гэта на стол перад наведвальнікамі і адразу ж падышла да століка Рагозіна. Яму давялося рабіць заказ і есці гэтай раніцай другі раз. Для большай пераканаўчасці Рагозін замовіў сто грамаў гарэлкі і куфель піва. Народу ў сталовай было мала, і афіцыянтка хутка абслужыла яго. Рагозін уладкаваўся нядрэнна. Ён сядзеў спінай да іх століка. Гэта дазваляла яму чуць размову. Яны выпілі «за сустрэчу», затым «за здароўе». Паступова іх языкі развязваліся, а галасы гучалі гучней. Зараз Рагозін ужо не сумняваўся, што перад ім Жора. Вядома, цяпер участковы ўпаўнаважаны мог адлучыцца на хвіліну і патэлефанаваць сваім, але ён не хацеў прапусціць нават аднаго іх слова. Тым больш, як ён зразумеў, Жору пра нешта дамаўляўся з Алматавым.

— Разумееш, — казаў Жора, — яна, гэта падла, працуе буфетчыцай і накралася — во, — ён правёў рабром далоні па горле. — Грошай у яе навалам. Але яна баіцца іх у сябе дома трымаць. Таму я прапанаваў купіць ёй…

Пры гэтых словах Жора нечакана абярнуўся і сп'янелым, але насцярожаным поглядам агледзеў адзінокага мужчыну, які сядзеў за яго спінай. Той, пра нешта думаючы, жаваў катлету, запіваючы півам, побач стаяла апарожненая шклянка. Выгляд піва і пустой шклянкі з-пад гарэлкі супакоіў Жору. Ён зноў павярнуўся да свайго сябрука, але далей казаў шэптам. Рагозін мог разабраць толькі асобныя фразы.

Капітан паклікаў афіцыянтку і, разлічыўшыся з ёй, устаў з-за стала і выйшаў са сталовай. Хутка надзеў плашч, абышоў сталовую і праз службовы ўваход прайшоў у кабінет загадчыка. Той, убачыўшы Рагозіна, заўсміхаўся:

— Добрай раніцы, таварыш капітан! Не спіцца вам, як я пагляджу.

Рагозін ведаў загадчыка даўно, ён калісьці абслугоўваў гэты ўчастак, у які ўваходзіў і рынак. Не завязваючы доўгай гаворкі, папрасіў загадчыка пастаяць ля ўвахода ў кабінет і нікога сюды не ўпускаць, пакуль ён пагаворыць па тэлефоне. Застаўшыся адзін, хутка набраў нумар тэлефона дзяжурнай часці і папрасіў паклікаць да тэлефона Славіна.

Участковаму пашанцавала, Славін знаходзіўся ў аддзяленні. Капітан коратка далажыў становішча.

— Слухай, Андрэй Міронавіч, ты паспрабуй затрымаць іх з дапамогай афіцыянткі на хвілін пяць, а я бягу да цябе! Потым вырашым, што рабіць далей.

Рагозін выйшаў да загадчыка.

— Антон Сяргеевіч, я цябе папрашу: пакліч да сябе ў кабінет афіцыянтку, хай яна пасядзіць у цябе мінут пяць-сем, ну накшталт занята чым-небудзь. А ты ў зале павартуй, каб двое хлопцаў, якія сядзяць за столікам ля акна, побач з буфетам, не сышлі са сталовай, не разлічыўшыся. Калі трэба будзе, я скажу табе, і ты накіруеш у залу афіцыянтку.

Рагозін выйшаў у двор і, спыніўшыся недалёка ад увахода, стаў чакаць Славіна. Той неўзабаве з’явіўся.

— Дзе яны? — спытаў лейтэнант, задыхаўшыся.

— У сталовай, снедаюць, — і Рагозін увёў аператыўніка ў курс справы. Лейтэнант быў задаволены:

— Добра. Зараз ідзі і скажы загадчыку: хай разлічваюць іх.

Рагозін зазірнуў у сталовую і зрабіў знак загадчыку. Той адразу ж пайшоў на кухню, дзе быў уваход у яго кабінет. Рагозін вярнуўся да Славіна. Яны адышлі ў бок бліжэй да натоўпу народа і сталі чакаць. А вось і Алматаў з сябрам. Працягваючы гаворку, яны выйшлі на вуліцу Цнянскую і там, развітаўшыся, разышліся. Алматаў пайшоў у свой бок, Жора — у кірунку інстытута фізкультуры.

Славін накіраваў за Алматавым Рагозіна, а сам рушыў за Жорам. Той упэўнена ныраў у прахадныя двары і вузенькія завулкі. Двойчы ён спыняўся каля піўных ларкоў і піў піва. А Славін пасля бяссоннай ночы, галодны, глытаў сліну і стараўся трымацца ў баку, каб лішні раз не трапляць у поле зроку падазраваемага. Нарэшце Жора «прывёў» Славіна на металабазу. І дзіўная рэч — ён адразу ж змяніўся: ішоў упэўнена, галаву трымаў высока. Рабочыя, што траплялiся яму насустрач, паважліва віталіся. Некалькі чалавек назвалі яго Георгіем Іванавічам. «Што гэта такое? — ламаў галаву Славін. — Паводзіць сябе тут як начальнік».

Неўзабаве Славін убачыў, што Жора ўваходзіць у невялікі дамок. Не губляючы часу, лейтэнант рушыў следам. Увайшоў у неасветлены калідор і бачыць… Жора сваім ключом адкрывае дзверы. На ёй вісела таблічка з надпісам «Інспектар па кадрах Г. І. Клаўдзін». «Вось табе і на!» — Уладзімір здзіўлена спыніўся ля дзвярэй.

Яму, вядома, было чаму дзівіцца. Атрымлівалася, што небяспечны злачынец займаў салідную пасаду. Ён пачакаў, пакуль у кабінет зойдзе жанчына, якая стаяла ў калідоры, а калі яна выйшла, спытаў:

— Георгій Іванавіч у сябе?

— Так, у сябе, але спяшайцеся, па-мойму, ён збіраецца кудысьці ісці.

Жанчына выйшла на вуліцу, а Славін прайшоў у дальні канец калідора і спыніўся ля апошніх дзвярэй. Клаўдзін не прымусіў сябе доўга чакаць. Ён зноў з’явіўся ў калідоры і накіраваўся да выйсця. Лейтэнант пачакаў трохі і пайшоў за ім. Клаўдзін выйшаў за вароты і рушыў у бок трамвайнага прыпынку. Славін крыху скараціў адлегласць, што падзяляла іх. На прыпынку Уладзімір паспрабаваў згубіцца ў натоўпе, а калі падышоў трамвай, услед за сваім «падшэфным» увайшоў у вагон. Каб не згубіць яго, лейтэнант прысунуўся бліжэй. Зараз іх аддзяляла толькі некалькі чалавек, і Уладзімір змог добра разгледзець яго. Славін з захапленнем падумаў пра Сваткову. Якая дзіўная зрокавая памяць у гэтай дзяўчыны. Яна ў сваім малюнку змагла перадаць правільна не толькі рысы, але нават нейкую своеасаблівасць твару злачынцы.

Выразна быў бачны і шрам. Пакуль лейтэнант асцярожна разглядаў Жору, трамвай даехаў да Камароўкі, і яны выйшлі з вагона. Зараз Славін быў цвёрда ўпэўнены, што Клаўдзін ідзе да Астахавай. Ну што ж, яна добра падрыхтавана да сустрэчы. Справа ідзе да развязкі.

Клаўдзін увайшоў у пад’езд, а на вочы Славіну патрапіў Падрэзаў, якога, як высветлілася пазней, паслаў Гарчакоў.

## 47

## Астахава

Астахава сапраўды была падрыхтавана да сустрэчы з Жорам. Мяркуючы па часе, ён вось-вось павінен быў з’явіцца, але калі ў дзвяры пастукалі, Астахава спалохалася. Яна не магла прымусіць сябе падысці да дзвярэй, каб упусціць гэтага чалавека, які стаў для яе страшным. Але яна павінна была зараз зрабіць усё так, як сказаў ёй Славін.

Астахава, пераадолеўшы страх, падышла да дзвярэй і адчыніла іх. Перад ёй стаяў Жора.

— Прывітанне! Я ўжо думаў, што цябе дома няма, доўга не адкрывала.

— Прывітанне! Я апраналася. Заходзь.

У пакоі, хутчэй па звычцы, чым з асцярожнасці, ён падазрона акінуў поглядам усе куты і сеў у крэсла:

— Чаго гэта да цябе маці стала на ноч прыходзіць? Ты ёй растлумачыла б, што ўжо выйшла з дзіцячага ўзросту і ўначы можаш сабе знайсці цікавейшы занятак, чым спаць з ёй у адным пакоі.

— Хопіць трапацца, — перапыніла яго Астахава, — пайшлі.

— А грошы ты ўзяла?

— Па дарозе зойдзем, я іх пакінула на захоўванне суседзям.

Яны выйшлі ў калідор, і, калі спусціліся на чацвёрты паверх, Астахава, дзейнічаючы, як ёй загадаў Славін, папрасіла свайго спадарожніка пачакаць трохі, а сама пастукала ў дзверы, дзе жыў Жыркоў. У кватэры яе чакалі Славін і Падрэзаў. Яна сказала ім, што яны ідуць за «пакупкамі», і праз хвіліну выйшла ў пад’езд. А Клаўдзін, які чакаў яе на лесвічнай пляцоўцы, падазрона спытаў:

— Чаго ты заходзіла ў гэту кватэру?

— Грошы забрала. Жыву адна і, калі сыходжу на работу, заўсёды турбуюся за кватэру, раптам злодзеі залезуць.

— У мінулы раз мне казала, што грошы ў бацькоў захоўваеш.

— Правільна. Мне іх маці ўчора прынесла, а сёння я з раніцы на работу хадзіла. Таму і занесла да суседзяў.

Такое тлумачэнне было праўдападобным і адразу супакоіла Клаўдзіна. Астахава спытала:

— Нам далёка?

— Не, блізка. Мы цяпер сядзем у трамвай і даедзем да апошняга прыпынку, а затым праз лясок…

— А чаму трэба ісці праз лес, што, іншай дарогі няма?

— Дарога дык ёсць, але гэта кіламетры на тры далей.

— А колькі лесам трэба ісці?

— Не больш за кіламетр.

— Сказаў бы раней. Я б туфлі іншыя абула, а то цяпер ногі сатру.

— Нічога, на базе падбяром што-небудзь, што табе падыдзе. Ты колькі грошай з сабой узяла?

— Дванаццаць тысяч. Ты ж папярэдзіў, каб пабольш брала, ну вось я і вырашыла, калі падвярнулася фартуна, то трэба скарыстацца да канца.

— Гэты ты правільна вырашыла.

Ля Камароўкі яны селі на трамвай і моўчкі ехалі. На канечным прыпынку выйшлі і праз поле па ледзь прыкметнай сцяжынцы пайшлі да лесу.

Падрэзаў і Славін апынуліся ў складаным становішчы: выпусціць з поля зроку Астахаву і Клаўдзіна было смяротна небяспечна для жанчыны, а ісці за імі праз поле — паставіць пад удар усю аперацыю. Падрэзаў быў за тое, каб неадкладна затрымаць злачынцу і не рызыкаваць. Але Славін хацеў усю справу давесці да канца. Яго трывожыла тое, што Клаўдзін пасля затрымання, напэўна, будзе доўга ўпірацца. Пра пярсцёнак і плашч Лазаркевіч ён можа сказаць, што купіў у невядомага, а потым перапрадаў Астахавай, ці можа прыдумаць іншую версію, напрыклад: пярсцёнак і плашч папрасіў прадаць знаёмы хлопец, які паабяцаў па грошы прыйсці ў клуб будаўнікоў, а паколькі клуб зачынілі на рамонт, то сустрэча не адбылася. Таму Славін у гэту крытычную мінуту ліхаманкава шукаў выйсця з гэтага няпростага становішча. Усе яго думкі былі накіраваны на тое, каб не згубіць з вачэй пару, якая аддаляецца. Налева ішла прасёлкавая дарога, яна метраў праз трыста ўпіралася ў лес, які паўколам ахопліваў поле і сцяжынку, дзе віднеліся постаці Астахавай і Клаўдзіна.

— Лёша, давай па гэтай дарозе бягом да лесу, а там сустрэнем іх.

Падрэзаў зразумеў задуму сябра і, не адказваючы, пабег, Славін — за ім. Вось і лес. Яны павярнулі направа і зноў пабеглі. Неўзабаве ўбачылі Клаўдзіна і Астахаву. Тыя якраз уваходзілі ў лес. Далей аператыўнікі ішлі паралельна, крыху воддаль ад іх.

Славін і Падрэзаў разумелі, што вельмі рызыкуюць, але былі ўпэўнены — трагедыі не дапусцяць. А каб затрымаць такога небяспечнага злачынцу, як Клаўдзін — трэба ўзяць яго на месцы злачынства.

Лес станавіўся ўсё гусцейшы. Уладзімір шапнуў:

— Давай да іх бліжэй, бачыш, на другім баку сцяжынкі хмызняк пачаўся, месца для яго зручнае.

Падрэзаў прапанаваў:

— Я перайду на той бок сцяжынкі, а ты ідзі па гэтай. Нам трэба быць побач з імі.

Яны так і зрабілі. Цяпер знаходзіліся амаль побач з Клаўдзіным і Астахавай. Было чуваць, як Астахава спытала:

— Доўга нам яшчэ тупаць?

Але адказу не прагучала. Прама з кустоў да іх ступіў мужчына. Гэта быў Алматаў. Ён гучна сказаў:

— Жора, прывітанне! Іду лесам, чую гутарку і вырашыў праверыць, хто так шуміць. Каго я бачу? Гэты ты, сяброўка? Ха-ха, са мной, нябось, не пайшла б у лес, а з Жорам — калі ласка!

Славін стаіўся: ён зразумеў задуму гэтых сябрукоў. Вырашылі напасці на жанчыну тут і сустрэчу накшталт выпадковай падрыхтавалі. «А дзе ж Рагозін? Ён жа за Алматавым пайшоў!»

У гэты момант Астахава злосна сказала:

— Ну, што мы стаім?

І яна пайшла наперад. Клаўдзін і Алматаў моўчкі пераглянуліся. Жора дастаў з кішэні паліто малаток і, замахваючыся на хаду, кінуўся ззаду на жанчыну. Толькі хацеў Славін крыкнуць: «Стой! Рукі ўгару!»? — як наперадзе, метрах у шасці, раздаўся стрэл. Куля ўзарала зямлю перад нагамі Клаўдзіна, і тут жа пачуўся грозны воклік:

— Ні з месца! Рукі ўгару!

Славін убачыў, як Алматаў кінуўся ў процілеглы бок, у кусты, але праз імгненне, наткнуўшыся на магутны кулак Падрэзава, вылецеў адтуль назад на сцяжынку. Славін выйшаў са сваёй хованкі:

— Усім заставацца на сваіх месцах!

Падрэзаў устаў ззаду Клаўдзіна, які так і трымаў у руцэ малаток. Кожны з аператыўнікаў лічыў, што страляў яго напарнік, але тут з кустоў выйшаў Рагозін, і ўсё стала ясна. У Славіна ў кішэні былі наручнікі. Імі сашчапілі злачынцаў. Уладзімір спытаў у Клаўдзіна:

— Што, Жора, вырашыў яшчэ адну ахвяру на сумленне ўзяць?

Той маўчаў.

— Ну, што ты маўчыш, Клаўдзін?

— І прозвішча ўжо ведаеце? — здзіўлена спытаў Жора.

— А як жа. І прозвішча, і пасаду, і месца работы.

Рагозін дадаў:

— І нават магілу не перашкаджалі капаць.

Аператыўнікі здзіўлена пераглянуліся паміж сабой.

А Рагозін кіўнуў у бок Алматава:

— Вось гэты выкапаў яму, каб труп схаваць. Паглядзіце.

І ён рассунуў кусты, а там у дзесяці метрах — свежая яма. Славін падышоў да Астахавай, якая, здавалася, была абыякавай да ўсяго:

— Паглядзіце, Вера Валяр'янаўна, што яны хацелі зрабіць з вамі. — І Славін малатком, аднятым у Клаўдзіна, паказаў ёй на яму. Падвялі да яе і затрыманых. Астахава глядзела на яму, потым абышла яе і раптам — адкуль у яе сілы толькі ўзяліся — падскочыла да злачынцаў і пхнула Алматава ў яму. Той, пацягнуўшы за сабой Клаўдзіна, паляцеў уніз. Як толькі яны апынуліся ў яме, Астахава схапіла рыдлёўку, якая ляжала на краю ямы і так ударыла ёю Алматава па спіне, што той войкнуў і апусціўся на дно. Добра, што стукнула плазам. З крыкам «набрыдзі» жанчына ўжо замахнулася на Клаўдзіна, але Падрэзаў выхапіў у яе з рук рыдлёўку:

— Спыніцеся, яны нам жывыя патрэбныя!

Астахава ўмольна глядзела на работнікаў міліцыі:

— Родненькія, міленькія, ну дазвольце мне хоць бы пару разоў ударыць іх гэтай рыдлёўкай! Яны ж мяне, сволачы, хацелі закапаць тут! За што?! Разумееце, проста так, хацелі ўзяць і забіць мяне! Дазволіце, га?

Ледзь яе супакоілі. Выцягнулі затрыманых з ямы, і Падрэзаў загадаў усім ісці да ўзлеску, у бок горада. Выйшлі на сцяжынку. Наперадзе крочылі счэпленыя наручнікамі Клаўдзін і Алматаў, за імі — работнікі міліцыі. Замыкала працэсію Астахава.

Славін спытаў у Рагозіна:

— Доўга ты за Алматавым хадзіў?

— Не, сёння нядоўга. Раніцай ён узяў дома рыдлёўку і накіраваўся сюды. Ён капаў, а я адпачываў і чакаў вас, задума іх мне, калі Алматаў пачаў капаць яму, стала яснай. Таму я і стрэліў раней вас, бо быў гатовы да таго, што нападаць яны будуць менавіта тут.

Калі выйшлі з лесу, Славін параўняўся з Клаўдзіным.

— Гэтым малатком ты Іру стукнуў?

Клаўдзін памаўчаў трохі, зірнуў на Славіна і адвёў у бок вочы:

— Не, той я выкінуў.

— Куды выкінуў?

— Пакажу…

## 48

## Капітан міліцыі Уладзімір Міхайлавіч Славін

— Здравія жадаю, таварыш капітан! — адказаў на прывітанне начальніка аддзялення крымінальнага вышуку дзяжурны. Старшы лейтэнант, мужчына сярэдніх гадоў, з няголеным, крыху азызлым, стомленым тварам, ужо заканчваў дзяжурства. Засталося толькі далажыць кіраўніцтву пра здарэнні і здаць справы новаму дзяжурнаму. Аднаго погляду на твары дзяжурнага і яго памочніка — маладзенькага, нядаўна дэмабілізаванага з войска сяржанта — было дастаткова, каб зразумець: ноч была клопатнай.

Капітан сказаў:

— Бярыце матэрыялы і прыходзіце да мяне! — Ён выйшаў з дзяжурнага пакоя і, крочачы па калідоры, падумаў: «Калі мне не тэлефанавалі, значыць, складаных пытанняў не павінна быць. Хоць любое пытанне, з якім звяртаюцца людзі ў міліцыю, для іх далёка не простае».

Ён зняў кіцель, павесіў яго ў шафу і, не спяшаючыся, падышоў да стала. Блакітная міліцэйская кашуля вельмі пасавала гэтаму высокаму, цёмнавалосаму, з чорнымі цыганскімі вачыма чалавеку. Стройны, падцягнуты, з загарэлым хударлявым тварам, ён быў падобны на баксёра. У кожным руху адчуваліся стоеная сіла і кіпучая энергія. Здавалася, што капітан увесь час стрымлівае сябе, прымушае не спяшацца.

Вось і цяпер Славін у кабінеце адзін, але ніводнага рэзкага руху: спакойна адсунуў крэсла, сеў, не спяшаючыся дастаў з высоўнай скрынкі паперу, нататнік, папку, заправіў чарнілам аўтаручку. Зірнуў на гадзіннік: восем сорак. Нягледзячы на выхадны дзень, ён прыйшоў на работу як звычайна. Набытая за гады працы ў міліцыі звычка ператварылася ў неабходнасць, і Уладзімір Міхайлавіч кожны нядзельны дзень пачынаў з кароткага падарожжа ў аддзел. Рыта жартам казала: «Добра, што жывём побач з аддзелам, хоць гэта эканоміць час, адведзены мне».

З’явіўся дзяжурны, ён трымаў у руках пульхную папку. Славін спытаў:

— Дасталося вам?

— Так, сапраўды. «Жонкабайцы» замучылі. Учора зарплата была, многія мужыкі канцэрты дома давалі.

— Нічога сур’ёзнага ад гэтых канцэртаў няма?

— Дваіх прыйдзецца на суткі афармляць, а пяцярым, думаю, трэба будзе па месцы працы паведамленні пасылаць. Праўда, жонкі траіх ужо прыбеглі прасіць, каб мужоў не каралі. — Старшы лейтэнант усміхнуўся. — Не зразумееш гэтых жанчын: то тэлефануюць, крычаць «прыязджайце, забірайце мужа!», то раніцай, тут як тут, самі ў міліцыю звяртаюцца: «Адпусціце мужа, добры ён, ні за што забралі», ды яшчэ пагражаюць, што будуць скардзіцца.

Славін усміхнуўся, яму ўспомніўся сямейны дэбашыр Мартаў, з якім яму прыйшлося нямала павалтузіцца, калі працаваў у сібірскім гарадку.

— Ведаеш, ты гэтых скандалістаў пакінь для начальніка аддзела, усё адно я не маю права прымаць па гэтых матэрыялах рашэнні, а мяне пазнаём са здарэннямі, якія да мяне дачыненне маюць.

— Для вас таксама ёсць. Уначы затрыманы за крадзеж са сталовай мужчына. Прозвішча сваё пакуль не назваў.

— А як яго затрымалі?

— Жанчына патэлефанавала і паведаміла, што чула звон разбітага шкла. Мы адразу ж выехалі. Глядзім, сапраўды, у акне разбіта шкло. Сталовую акружылі, выклікалі загадчыка, ён адчыніў дзверы. Аблазілі ўсе куткі — нікога.

І раптам я пачуў невыразны шум. Але адкуль ён данёсся — не разумею. Мы ў гэты момант на кухні былі. Тады я гучна кажу: «Ну, раз нічога не знікла, пайшлі!», а сам жэстамі паказваю сваім, выходзьце, маўляў, з кухні. Яны выйшлі, а я стаіўся. Хвілін праз дзесяць шум паўтарыўся, і я зразумеў, што шум даносіцца з велізарнага катла, які стаяў на пліце. Адразу ж хітрасць злодзея мне стала ясная. Паклікаў сваіх і кажу: «Раз нікога няма, а есці хочацца, давайце штонебудзь зварым сабе». Бяру дровы, пачынаю іх у печ класці, а загадчыка прашу: «Падпальвай!» Не вытрымаў зладзюжка, спалохаўся. Чутна з катла: «А яшчэ міліцыя называецца. Чалавека жыўцом падсмажыць хочуць!» І вылез.

— Ясна, разбяромся. Гарчакоў тэлефанаваў?

— Так. Ён будзе ў дзевяць трыццаць.

— Добра, усё ў вас?

— Не яшчэ. Папа абакралі.

— Як абакралі?

— Вельмі проста. Выкралі сто восемдзесят дзве тысячы — і канцы ў ваду.

— Падазраваныя ёсць?

— Ніяк не.

— Чаму мяне не паднялі?

— Ён паведаміў ва ўпраўленне трыццаць мінут назад. Палкоўнік Купрэйчык загадаў ехаць на месца здарэння опергрупе ўпраўлення. Ад нас толькі оперупаўнаважанага і ўчастковага, на тэрыторыі абслугоўвання якіх пацярпелы жыве, на месца запатрабаваў.

— Дзіўны вы чалавек, Ігнат Пятровіч, такі крадзеж вялікі, а вы нават не паведамілі мне.

— Уладзімір Міхайлавіч, я ж ведаў, што вам бескарысна тэлефанаваць, бо вы, напэўна, ужо выйшлі з дому і накіроўваецеся ў аддзел, таму і не патэлефанаваў, а вось палкоўніку Гарчакову паведаміў. Ён сказаў: «Прыйдзе Славін, хай падключаецца».

Старшы лейтэнант, панізіўшы голас, спытаў:

— Таварыш капітан, а праўда, што нашага Гарчакова ў Маскву забіраюць?

— Не ведаю, — суха адказаў Славін. А ў самога раптам сэрца зашчымела: «Шкада, што Сямён Антонавіч з'едзе. Але што зробіш, чалавек на павышэнне ідзе. Так, час ляціць. Даўно я прыехаў сюды А колькі ўжо змен адбылося: і жаніўся, і дачка нарадзілася, і юрфак хутка скончу…»

Вывеў Славіна з задумення дзяжурны:

— Вось гэты матэрыял.

Славін бегла прачытаў некалькі старонак і спытаў:

— Яшчэ здарэнні былі?

— Кладоўка ў лазні згарэла. Шкода невялікая.

— Яшчэ?

— Усё.

— Ясна. Я паехаў да архібіскупа. Далажыце Гарчакову.

Славін надзеў кіцель, прапусціў паперадзе сябе дзяжурнага і пачаў зачыняць дзверы. Да яго падышла маладая жанчына:

— Таварыш капітан, я хачу вас папрасіць пра свайго мужа. Ён учора трохі па п'янцы паскандаліў, і яго міліцыя забрала.

Славін абярнуўся:

— Ну, выкажам здагадку, міліцыя яго забрала не па просьбе староннягa чалавека, а па вашай!

— Я ж хацела, каб яго проста папалохалі.

— Вы ўжо забыліся, як патрабавалі, каб вашага мужа прама ў турму везлі? — не вытрымаў дзяжурны. — А зараз пра іншае просіце.

— Што зробіш, гэта ж муж. Супакоіўся — і шкада стала, — ціха сказала жанчына.

Славін спагадліва паглядзеў на яе.

— Хутка прыедзе начальнік аддзела, пачакайце яго, пагаварыце.

Ён выйшаў, сеў у «Победу» і назваў шафёру адрас. Пакуль машына хутка неслася па пустых нядзельных вуліцах, капітан з сумам думаў пра жанчыну, якая толькі што прасіла за мужа: «Напэўна, калі жаніліся, кляліся ў вечным каханні адно аднаму. А зараз скандалы, абразы… Уласна кажучы, ад саміх людзей залежыць, як уладкаваць сваё жыццё».

Шафёр рэзка затармазіў, і машына спынілася каля трохпавярховага дома. Славін выйшаў і, зірнуўшы на пад’езд — ці тут размешчана патрэбная яму кватэра, увайшоў, а насустрач — Купрэйчык. Палкоўнік паціснуў яму руку:

— Добра, што прыехаў. Мяне выклікаюць тэрмінова ў міністэрства. Працягвай агляд, пазней абмяняемся меркаваннямі.

Славін падняўся на другі паверх і, убачыўшы прыадчыненыя дзверы, без стуку ўвайшоў. Прывітаўся з гаспадаром, зусім непадобным на святара. Апрануты ў выдатна пашыты шавіётавы гарнітур, пры гальштуку, у беласнежнай кашулі, з акуратнай прычоскай — няйначай дырэктар саліднай установы.

Славін назваў сябе. Гаспадар нізка схіліў галаву:

— Архібіскуп Ротмістраў. Мяне папярэдзіў глыбокапаважаны Аляксей Васільевіч Купрэйчык, што вы будзеце весці маю справу.

— Справу будзе весці следчы, я ж і мае супрацоўнікі — шукаць злодзея. З вашага дазволу я агледжу кватэру?

— Так, так, прашу вас.

Славін зазірнуў у кухню, затым у пакой, што размяшчаўся побач. Тут быў парадак, і Уладзімір Міхайлавіч зразумеў, што грошы захоўваліся ў іншым месцы. Ён зрабіў некалькі крокаў па калідоры і апынуўся ў вялікім светлым пакоі. Злева меліся дзверы ў меншы пакой. Там і ўбачыў Славін сваіх. Увайшоў. Прывітаўся і акінуў поглядам пакой. Ля сцен стаялі два ложкі. Ля акна — старадаўні вялікі стол. «Як з гістарычнага музея, — падумаў Славін, — напэўна грошы захоўваліся ў ім».

Ён не памыліўся. У правай тумбе былі высунуты дзве бакавых скрыні.

Следчы, ужо немалады, з вялікім мясістым носам і цяжкім падбародкам капітан, убачыўшы Славіна, коратка павітаўся і зноў схіліўся над пратаколам агляду месца здарэння. Высокі падцягнуты эксперт навукова-тэхнічнага аддзялення, апрануты ў форму старшага лейтэнанта, праз вялікую лупу аглядаў скрыні. Славін спытаў у яго:

— Грошы ў скрыні ляжалі?

Старшага лейтэнанта апярэдзіў архібіскуп. Ён паспешна растлумачыў:

— Так, так, у скрынях. У верхняй — пяцьдзясят дзве тысячы, а ў ніжняй — сто трыццаць тысяч рублёў, прызначаных для Маскоўскай патрыярхіі.

«Пра свае грошы ў першую чаргу паведамляе», — падумаў капітан і зазірнуў праз плячо следчага ў пратакол. Убачыўшы, што той якраз апісвае стол і высунутыя скрыні, Славін паціху, каб не чуў архібіскуп, спытаў:

— А чаму ты сцвярджаеш, што ў верхняй скрыні ляжала пяцьдзясят дзве тысячы, а ў ніжняй? — сто трыццаць. Ты што, бачыў гэтыя грошы?

Следчы здзіўлена зірнуў на капітана і нечакана ўсміхнуўся:

— Сапраўды! Не падумаў я, што гэтым запісам у сведкі набіваюся.

Ён схіліўся над паперай і зрабіў дапаўненні пра грошы, са спасылкай на сведчанні пацярпелага.

У калідоры пачуўся шум, і ў пакой увайшоў Падрэзаў. Славін адказаў на прывітанне і крануў яго за рукаў:

— Ідзём перакурым.

Яны выйшлі на лесвічную пляцоўку. Славін ужо каля двух месяцаў не бачыў сябра. Падрэзаў зараз працаваў ва ўпраўленні старшым оперупаўнаважаным крымінальнага вышуку, і сустракаліся яны часцей за ўсё на нарадах або, як сёння, на месцах здарэнняў.

— Разумееш, — сказаў Падрэзаў, — абышлі ўсе кватэры пад’езда, але ніхто нічога пэўнага сказаць не можа. Нікога падазронага не бачылі, ніхто ў кватэру не стукаў і не заходзіў.

— А што кажуць пра гаспадара?

— Нічога істотнага: чалавек як чалавек, толькі замест чорта ў Бога верыць. — Ён ледзь усміхнуўся, але тут жа стаў сур’ёзным. — Май на ўвазе, учора ў архібіскупа дапазна госці былі, напэўна, кагорам прычашчаліся, трошкі пашумелі.

— Архібіскуп расказваў пра гэта?

— Не, і я пра гэта нічога не казаў яму.

— Ясна. — З любімым словам Гарчакова Славін так і не расстаўся. Яны ўвайшлі ў кватэру, і Уладзімір Міхайлавіч спытаў у гаспадара:

— Да вас учора прыходзіў хто-небудзь са староннiх?

— Так. Да мяне ўвечары прыходзілі святар Цыбуля Фёдар і падзяк Лацюк Барыс.

— Калі яны сышлі?

Ротмістраў задумаўся і, як здалося Славіну, некалькі збянтэжыўся:

— Мабыць, ужо было пазнавата, гадзіны ў дзве.

— Больш нікога не было?

— Былі яшчэ мой шафёр — жанчына і адзін знаёмы. Ён, праўда, прыйшоў пазней.

— Вы нікога з іх не падазраяце?

— Хто яго ведае… але, зрэшты, калі з іх на каго і можна падумаць, то толькі на майго знаёмага, і то… як чалавек ён выклікае павагу, ваяваў.

— Як яго прозвішча?

— Чорт.

— Як-як?

— Чорт.

Славін усміхнуўся:

— І чаго гэта Чорт да святара панадзіўся ў госці хадзіць? І часта ён у вас бывае?

— Не, не вельмі.

— Як завуць яго?

— Андрэем Андрэевічам.

— Чаму вы лічыце, што ён мог украсці грошы?

— Разумееце… — архібіскуп яшчэ больш збянтэжыўся. Адчувалася, што гэта тэма непакоіла яго, але рабіць не было чаго, і ён працягваў: — Цыбуля і Лацюк — людзі паважаныя, ведаю я іх даўно. А вось што да Чорта, то мы пазнаёміліся нядаўна, ён часам прыходзіў да мяне. Учора мы — я, Цыбуля і Лацюк, — трохі выпілі, і тут прыходзіць Чорт. Ён быў ужо ладна выпіўшы, але калі сказаў, што ў яго дзень нараджэння, мы запрасілі яго да стала. Пасля другой ці трэцяй чаркі ён зусім ап’янеў і пачаў шумець. Але мы яго супакоілі і паклалі спаць. Раніцай, калі я прачнуўся, убачыў, што Чорт ужо не спіць, сядзіць каля стала і слухае радыёпрыёмнік.

— Хто ў вас шафёр?

— Мумікава Зінаіда Мікалаеўна. Паважаная жанчына. Я ёй веру, чалавек яна сумленны, цяжарная.

Апошняя фраза выклікала ў Славіна ўсмешку. Ён падумаў: «Нішто сабе пацвяржэнне сумленнасці».

— Шафёр ці госці вашы, акрамя Чорта, заходзілі ў пакой, дзе грошы ляжалі?

— Не.

Нечакана Славін пачуў голас Падрэзава. Ён падышоў ззаду, і Уладзімір Міхайлавіч яго адразу не заўважыў. Падрэзаў спытаў, звяртаючыся да пацярпелага:

— А чаму вы назвалі не ўсіх сваіх гасцей?

— Як гэта не ўсіх? — зрабіў здзіўлены твар пацярпелы.

— У вас жа ўчора дома і іншыя людзі знаходзіліся, можа, я памыляюся?

Падрэзаў глядзеў на гаспадара недаверліва і строга.

Архібіскуп збянтэжана перабіраў гузікі свайго пінжака. У цішыні было чуваць, як у дальнім пакоі перагаворваліся супрацоўнікі міліцыі. Нарэшце Ротмістраў загаварыў:

— Так, ведаеце, я неяк запамятаваў. Да мяне сапраўды прыходзіў просьбіт з нагоды адкрыцця царквы.

— Як яго прозвішча?

— Не памятаю. Але ні ў адзін з пакояў ён не заходзіў. Я з ім пагаварыў у пярэднім пакоі, і ён сышоў.

— І больш нікога не было?

Архібіскуп быў відавочна прыгнечаны гэтымі пытаннямі. Яму вельмі не хацелася працягваць гутарку, што, вядома, не засталося па-за ўвагай супрацоўнікаў крымінальнага вышуку. Славін бачыў, што Падрэзаву ўдалося пра штосьці даведацца, і пачаў актыўна дапамагаць яму:

— Сапраўды, чаму вы не хочаце назваць усіх, хто прыходзіў да вас учора? Вы ж разумееце, наколькі гэта важна для нас.

Пасля нядоўгай паўзы Ротмістраў збянтэжана сказаў:

— Ну, быў тут яшчэ адзін мой знаёмы. Але ён таксама зусім не датычны да гэтай гісторыі. Я яго вельмі паважаю як прыстойнага і сумленнага чалавека, і таму мне будзе вельмі непрыемна, калі вы пачняце яго дапытваць.

— Як яго прозвішча?

— Прозвішча? — перапытаў Ротмістраў. — Ах, прозвішча?.. Гілер Якаў Самойлавіч. Чысцейшай душы чалавек. Паверце мне, ён ні прычым.

— Ён таксама прычашчаўся? — з’едліва спытаў Падрэзаў. Архібіскуп здзіўлена падняў на яго вочы. Падрэзаў растлумачыў:

— Я маю на ўвазе, ці піў ён таксама.

— Так, ён таксама тры чаркі віна выпіў.

— Дзе ён працуе і жыве?

— Ён не мінчанін. Пражывае ў Маскве, але адраса яго я не маю.

— Дзе і кім ён працуе?

— Не ведаю.

— Даўно вы знаёмыя?

— Так. Я ведаў яго яшчэ да вайны.

— З якой мэтай ён прыязджаў да вас?

— Ён у Мінску праездам. У адрасным стале даведаўся, дзе я жыву.

— Дзе ён спыніўся?

— Ён ужо з’ехаў.

— Ведаеце яго маскоўскі адрас?

— Не.

Калі Славін задаў гэта пытанне, то ўжо быў упэўнены, што Ротмістраў адкажа адмоўна. Ён адчуў, што пацярпелы не хоча, каб супрацоўнікі крымінальнага вышуку зацікавіліся Гілерам.

Славін кіўнуў Падрэзаву, і яны разам накіраваліся ў спальню. Агляд месца здарэння ўжо заканчваўся. Уладзімір Міхайлавіч спытаў эксперта:

— Знайшлі што-небудзь на скрынях, дзе грошы ляжалі?

— Так. На абедзвюх скрынях шмат адбіткаў пальцаў і далоняў рук.

— Не параўноўвалі сляды паміж сабой?

— Не, трэба будзе пазней папацець. — Старшы лейтэнант павярнуўся да следчага і спытаў: — Ванін, цяпер будзем адкатваць рукі жыхарам кватэры ці пазней?

Следчы, відавочна, пакутаваў на задышку, таму, перш чым адказаць, адкінуўся на спінку крэсла, некалькі разоў глынуў паветра і ціха сказаў:

— Я думаю, што гэта трэба зрабіць тут. Мне ўсё адно давядзецца ўсіх дапытваць, так што час ёсць. — Ён павярнуўся да Славіна: — Як ты лічыш, Уладзімір Міхайлавіч?

— Чаго ж цягнуць, давайце цяпер.

Архібіскуп, яго хатняя прыслужніца і панятыя — сярэдніх гадоў жанчына і пажылы мужчына — няўцямна пераглянуліся. Для іх словы «адкатваць рукі» былі незразумелыя, і Славін, бачачы гэта, растлумачыў:

— Нам трэба зрабіць адбіткі рук усіх жыхароў кватэры. Гэта неабходна для таго, каб вызначыць сляды, пакінутыя імі на высоўных скрынях, дзе ляжалі грошы.

Архібіскуп паспешна заківаў галавой:

— Так, так, калі ласка.

Славін разумеў, што час губляць нельга. Ён не стаў чакаць, пакуль скончаць складаць пратакол агляду месца здарэння, пакуль закончацца допыты і праца эксперта, выклікаў з кватэры Падрэзава. Проста ў двары дамовіліся, што Падрэзаў бярэ на сябе праверку Гілера, а Славін — Чорта, і разышліся.

Уладзімір Міхайлавіч адразу ж паехаў да сябе ў аддзел. Патэлефанаваў дамоў. Пачуўшы вясёлы голас жонкі, спытаў:

— Чым займаецеся, сямейнікі?

— Чакаем частку сямейства.

— Абед гатовы?

— Зразумела.

— Абедайце без мяне.

— Здарылася штосьці? — занепакоілася Рыта.

Уладзімір Міхайлавіч растлумачыў прычыну затрымкі, паклаў трубку і адразу ж запрасіў да сябе оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку Пятрова.

Славін даручыў Пятрову адшукаць і даставіць у аддзел Чорта, а сам патэлефанаваў Купрэйчыку. Палкоўнік ужо быў у сваім кабінеце. Выслухаўшы Славіна, сказаў:

— Спадзяюся, што з гэтым крадзяжом разбярэшся хутка. Я збіраюся ў адпачынак, так што пажадай мне добрага адпачынку. І яшчэ. Я да цябе накіроўваю папаўненне — выпускніка спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі. Ён хутка будзе ў цябе. Далажы, прадстаў яго і ўводзь хлопца ў курс справы.

— Добра, будзе зроблена.

Купрэйчык памаўчаў трохі, нібы разважаючы пра штосьці, а затым нейкім надтрэснутым, незвычайным голасам спытаў:

— А чаму ты не цікавішся, каго мы табе даём?

— Ці не ўсё роўна? Я ж не ведаю выпускнікоў.

— Памыляешся, дарагі, — Купрэйчык вычакаў трохі. — Да цябе накіраваны лейтэнант Іван Пятровіч Мачалаў.

— Што?! — Славін падскочыў на крэсле. — Няўжо Ваня? Ужо скончыў школу?

— А хто ж, вядома, ён! Як бачыш, скончыў. Хлопец стаў на месца бацькі, як і абяцаў.

Славін паклаў на апарат трубку і стаў усхвалявана хадзіць па кабінеце. Навіна, якую толькі што паведаміў яму Купрэйчык, ускалыхнула ў памяці ўсё, што было звязана з Мачалавым. «Вось і сын Пятра Пятровіча вырас. Ваня аказаўся настойлівым хлопцам. І вось ён — афіцэр міліцыі. Колькі гадоў я яго не бачыў? Ці пазнаю? — падумаў Славін. — Як там Таццяна Андрэеўна? Зараз, калі вярнуўся Ваня, ёй будзе лягчэй». Уладзімір Міхайлавіч успомніў, калі ён з Рытай апошні раз быў у Мачалавай. Таццяна Андрэеўна толькі акрыяла пасля хваробы. Зноў з галавой акунулася ў працу, ды і хатнія справы адымалі нямала сіл і часу. І Купрэйчык з жонкай часта наведвалі Таццяну Андрэеўну і падтрымлівалі як маглі.

З задуменнасці Славіна вывеў нягучны стук у дзверы. У кабінет увайшоў высокі, шыракаплечы, чарнавокі лейтэнант. Ён прыклаў руку да фуражкі:

— Таварыш капітан, лейтэнант міліцыі Мачалаў прыбыў для праходжання службы…

## 49

## Маёр Падрэзаў

Падрэзаў шукаў Гілера. Ён патэлефанаваў ва ўсе гасцініцы, і ў «Беларусі» яму сказалі, што Гілер Якаў Самойлавіч сапраўды пражываў у гэтай гасцініцы і дзве гадзіны назад выпісаўся. Падрэзаў адразу ж паехаў да Ротмістрава. Той быў дома, і калі адчыніў дзверы, перад маёрам паўстаў бедна і нядбайна апрануты чалавек. Падрэзаў адразу нават не пазнаў у ім пацярпелага. Але Ротмістраў збянтэжана прамовіў:

— Выбачайце мяне за такі ўбор, я займаюся хатнімі справамі.

Маёр, праходзячы міма дзвярэй, што вялі ў кухню, убачыў там на падлозе розныя прылады, кавалкі фанеры і жалеза. Гаспадар паспешна прычыніў дзверы і запрасіў Падрэзава ў пакой. Тут было ўтульна і прахалодна. Пасля гарачай, сонечнай вуліцы Падрэзаў з палёгкай уздыхнуў, сеў і адразу ж прыступіў да справы:

— Я хачу ў вас удакладніць сёе-тое адносна Гілера. Вы не ведаеце, калі ён з’ехаў?

— Учора.

— Куды?

— Казаў, што дахаты, у Маскву.

— Як ён выглядае?

Ротмістраў, запінаючыся, пачаў абмалёўваць свайго знаёмага:

— Яму сорак пяць ці сорак шэсць гадоў… высокі… чалавек сярэдняй паўнаты і… жанаты… у яго двое дзяцей.

— Якія ў яго валасы?

— Цёмна-русыя.

— Вочы?

— Блакітныя.

— Як апрануты?

— Белыя паўбоцікі, светлыя штаны…

— Кашуля?

— Светлая такая… у палосачку… з кішэнню.

— Які ў яго твар?

— Круглы, поўны.

— Ясна. А вы сапраўды ведаеце, што ён учора з’ехаў? Можа, я яшчэ змагу заспець яго тут?

— Не-не. Ён сапраўды ўчора з’ехаў. Я нават білет на цягнік у яго бачыў.

«Штосьці тут не так, — думаў маёр, — Ротмістраў не хоча казаць пра Гілера. Чаму?»

— Вы ўпэўнены, што Гілер не можа мець дачынення да крадзяжу?

— О, вядома! Я гэта цвёрда ведаю і не хачу, каб яго нават дапытвалі.

— Таму вы не хочаце, каб мы з ім сустрэліся як з падазраваемым?

— Сапраўды так.

— Ну, што ж, — Падрэзаў падняўся, — гэта ваша справа. Але мне незразумела адно. Вы сказалі, што ён з’ехаў учора, і нават бачылі ў яго на ўчарашняе чысло білет на цягнік. Як жа тады зразумець, што ён выпісаўся з гасцініцы «Беларусь» некалькі гадзін назад?

— Сёння?

— Вядома.

— Дзіўна… а вы не памыляецеся?

— Хіба толькі ў тым выпадку, калі ў гасцініцы «Беларусь» пражываў яшчэ адзін Гілер Якаў Самойлавіч.

Архібіскуп быў відавочна збянтэжаны, але Падрэзаў не стаў больш затрымлівацца. На вуліцы, здавалася, стала яшчэ больш горача. Аляксей Станіслававіч не змог мінуць кіёска з газіраванай вадой. Залпам выпіў дзве шклянкі халоднай вады і пашыбаваў у бок гасцініцы. Прадаўшчыца газіроўкі кінула дзве аднакапеечныя манеты ў адкрыты слоік з-пад манпансье, незадаволена прабурчала: «Піць хоча, а на сіроп грошай шкадуе. Яму лепш дзве шклянкі чыстай вады, чым адну з сіропам». Яна пазяхнула і абярнулася ў бок кінатэатра «Першы», адкуль неўзабаве павінны былі з’явіцца гледачы, якія, вядома, адразу ж акружаць каляску з газіраванай вадой.

А Падрэзаў хутка крочыў па вуліцы імя Валадарскага. У гасцініцы ён адразу ж звярнуўся да адміністратара. Прадставіўся і папрасіў паказаць яму картку, запоўненую Гілерам. Праз некалькі хвілін ён трымаў у руках гэту картку і здзіўлена ўзіраўся ў напісанае, дзе гаварылася, што Гілер Якаў Самойлавіч прыехаў у Мінск з Кіева, дзе і пражывае. Маёр хутка запісаў яго адрас, нумар пашпарта, дзе, кім і калі ён быў выдадзены, спытаў у адміністратара:

— Хто з вашых работнікаў бачыў Гілера ў твар?

— Хто? Напэўна дзяжурная па паверсе. — Адміністратар зірнула на картку і дадала: — Ён жыў на трэцім паверсе, прайдзіце туды, дзяжурная там.

Падрэзаў падняўся на трэці паверх і адразу ўбачыў дзяжурную. Яна сядзела за невялікім пісьмовым сталом і, надзеўшы акуляры, чытала нейкую патрапаную кнігу. Падрэзаў прывітаўся і сказаў:

— Я — з міліцыі. Мяне да вас адміністратар паслала. У трыццаць чацвёртым нумары жыў Гілер. Ён сёння выпісаўся з гасцініцы.

— У трыццаць чацвёртым? Так, адзін з жыхароў сёння перад абедам сапраўды выпісаўся. — Яна зазірнула ў журнал, што ляжаў пад кнігай, і сказала: — Яго прозвішча Гілер Я. С.

— Вы памятаеце яго?

— Так, вядома.

— Раскажыце, як ён выглядае.

Жанчына зняла акуляры, не спяшаючыся, падрабязна апісала знешнасць былога жыхара. Прыметы супадалі. Падрэзаў спытаў:

— У яго рэчы былі з сабой?

— Хто яго ведае. Але чамадан вялікі, відаць цяжкі, ён панёс.

— Якога колеру чамадан?

— Ён у шэрым чахле быў, так што я не бачыла, якога ён колеру.

— Што яшчэ ў руках у яго было?

— Больш нічога. Ён чамадан уніз па лесвіцы ледзь панёс.

— Колькі дзён ён тут жыў?

Дзяжурная зноў зазірнула ў свой журнал:

— Чатыры дні.

— Прыходзіў хто-небудзь да яго ў нумар?

— На маім дзяжурстве не.

Падрэзаў падзякаваў дзяжурнай і ледзь не бягом кінуўся ўніз. Ён спяшаўся на вакзал, а ў галаве ўзнікалі пытанні: «Чаму архібіскуп сказаў, што Гілер пражывае ў Маскве? Што гэта, спроба адвесці нас у бок? А можа, Гілер яму зманіў? Але ў той жа час Ротмістраў сказаў, што Гілер пражываў у гасцініцы. Добра, гэта высветлю пазней. Цяпер галоўнае ўдакладніць, ці з'ехаў Гілер з Мінска».

На вакзале ля акенца даведачнай тоўпілася шмат людзей, і Падрэзаў адразу ж пачаў шукаць міліцыянера. Але ў зале яго не было. Аляксей Станіслававіч выйшаў на перон і ўбачыў сяржанта і старшыну. Падрэзаў падышоў і лёгенька крануў за рукаў старшыну:

— Таварыш старшына, можна вас на хвілінку?

Падрэзаў паказаў сваё пасведчанне і папрасіў:

— Як мага хутчэй высветліце, калі адышоў апошні цягнік на Кіеў і калі пойдзе бліжэйшы.

Старшына, гадоў трыццаці мужчына, казырнуў, сказаў «ёсць» і кінуўся да вакзала. Падрэзаў не спяшаючыся пайшоў следам.

Старшына вярнуўся хутка і далажыў:

— Апошні цягнік сёння на Кіеў пайшоў у дзевяць сорак сем. Наступны пойдзе ў сямнаццаць дваццаць.

— Дзякуй, — з радасцю сказаў маёр. — Колькі чалавек сёння ў вас дзяжурыць на пероне і ў будынку вакзала?

— Тры.

— Хто старшы?

— А вы, таварыш маёр, лепш звярніцеся да дзяжурнага. Уваход у аддзяленне з тарца будынка. Калі вам трэба каго-небудзь затрымаць, то ён можа выдзеліць яшчэ людзей.

Падрэзаў пайшоў уздоўж будынка да ўвахода ў аддзяленне. Да адыходу цягніка заставалася крыху больш за гадзіну, і часу яшчэ досыць, каб арганізаваць праверку пасажыраў.

У маленькім душным пакойчыку было трое: старшы лейтэнант з павязкай дзяжурнага на рукаве і двое ў цывільным, якія гулялі ў шашкі. Падрэзаў прадставіўся дзяжурнаму і расказаў пра мэту свайго прыходу. Таму, відавочна, было не ўпершыню аказваць дапамогу і дзейнічаць неадкладна. Ён дзелавіта зірнуў на гадзіннік:

— Шаснаццаць пятнаццаць. Цягнік будзе пададзены на пасадку праз паўгадзіны. Цяпер створым групу, вы праінструктуйце, і прыступім да пошуку. — Ён павярнуўся да тых, што гулялі ў шашкі: — Жучкоў, пакліч нашых міліцыянераў з перона.

Жучкоў — высокі малады хлопец — са шкадаваннем паглядзеў на дошку, дзе яго пазіцыя мела перавагу, і моўчкі выйшаў.

Праз некалькі мінут на лаўцы, з якой прыбралі шашкі, сядзела пяцёра: тры міліцыянеры і двое ў цывільным. Падрэзаў ужо зразумеў, што маладыя хлопцы ў цывільным — аператыўныя работнікі. Не трацячы часу, маёр расказаў пра прыкметы патрэбнага яму чалавека, а дзяжурны вызначыў, дзе павінен знаходзіцца кожны супрацоўнік. Калі людзі пайшлі, дзяжурны сказаў:

— А вам, таварыш маёр, я параіў бы стаць на пераходным мосце. Сярэдзіна цягніка якраз будзе пад ім, і вы зможаце з вышыні добра праглядаць увесь эшалон. І пасля затрымання маім хлопцам не прыйдзецца доўга вас шукаць.

— Ваша праўда. Дзякуй. Я пайшоў на мост.

Ён падняўся па драўляных прыступках на пераходны мост. Цягнік пададуць да першай платформы, дзе паступова збіраліся пасажыры.

Зверху сапраўды было добра відаць. Аляксей Станіслававіч адразу ж убачыў міліцыянераў. Ім было загадана знаходзіцца на пероне. Аднаму аператыўніку — у вакзале, другому — каля варот, праз якія частка пасажыраў праходзіла на перон.

Падрэзаў які раз у думках паўтараў прыкметы Гілера: высокі, валасы цёмна-русыя, апрануты ў светлыя штаны, светлую кашулю, белыя туфлі. Павінен мець пры сабе вялікі чамадан у шэрым чахле.

Вось і цягнік. Паравоз, падаючы частыя гудкі і моцна пыхкаючы дымам, павольна цягнуў за сабой састаў. Падрэзаў зрабіў некалькі крокаў у бок, каб не апынуцца ў клубах дыму. Як толькі састаў спыніўся, людзі кінуліся да вагонаў, каля якіх адразу ж утварылася таўханіна.

«Нездарма ж Гілер выпісаўся з гасцініцы сёння. Напэўна мае намер з’ехаць. Вось толькі куды? Калі ў Кіеў, то хутчэй за ўсё гэтым цягніком. Як бы толькі не празяваць яго ў гэтай таўханіне!» — неспакойна падумаў Падрэзаў і тут жа ўбачыў, што ўнізе ад моста, на якім ён стаяў, да вагонаў ішоў чалавек, па прыкметах падобны на Гілера. У правай руцэ ён трымаў вялікі чамадан у шэрым чахле. «Ён!» Да гэтага чалавека падышоў старшына міліцыі. Падрэзаў кінуўся ўніз. Калі апынуўся на платформе, зірнуў на гадзіннік: да адыходу цягніка заставалася сямнаццаць мінут. За гэты час яму трэба паспець праверыць чалавека. Падрэзаў зірнуў на затрыманага і зразумеў, што гэта Гілер, але на ўсякі выпадак спытаў:

— Ваша прозвішча?

— Гілер… Гілер Якаў Самойлавіч. А што такое? Чаму вы мяне затрымліваеце?

— Зараз даведаецеся, — адказаў Падрэзаў. — Пройдзем у аддзяленне, нам трэба з вамі пагаварыць.

— Але я ж спяшаюся на цягнік.

— Таму давайце хутчэй пойдзем, каб не губляць часу.

Да іх падышоў адзін з аператыўнікаў. Ён узяў чамадан, і ўсе разам накіраваліся да аддзялення. Падрэзаў неспакойна паглядзеў на гадзіннік. Заставалася пятнаццаць мінут.

У аддзяленні міліцыі маёр спытаў у Гілера:

— Што ў вас у чамадане?

— Розныя рэчы…

— Адкрыйце.

— Так, але я ж спазнюся на цягнік.

— Не цягніце час, Якаў Самойлавіч.

Гілер неахвотна адкрыў чамадан. Ён быў набіты жаночымі перламутравымі гумовымі боцікамі. Яны толькі ўваходзілі ў моду, і ў краме іх купіць было цяжка, затое на рынках спекулянты за іх бралі ўтрая даражэй.

— Навошта вам гэтулькі ботаў? — спытаў Падрэзаў.

— Мне трэба для… знаёмых, у мяне сваякоў шмат… мяне папрасілі.

Бачачы разгубленасць Гілера, Падрэзаў задаў яму галоўнае пытанне прама ў лоб:

— Якаў Самойлавіч, навошта вам спатрэбіліся грошы?

— Якія грошы?

— Якія вы ўзялі ў архібіскупа.

Інтуітыўна Падрэзаў адчуваў, што ён на правільным шляху, і ўпэўнена наступаў на Гілера:

— Ну, не цягніце час, я чакаю. Дзе яны?

— Вы, напэўна, маеце на ўвазе грошы, якія мне пазычыў паддзяк Барыс.

— Калі ён вам пазычыў?

— Заўчора, дакладней, у ноч на ўчарашні дзень.

Падрэзаву хацелася спытаць, якую суму яму пазычыў паддзяк, але, баючыся спудзіць Гілера, ён задаў іншае пытанне:

— Колькі ў вас засталося грошай ад той сумы?

— Усе трыццаць тысяч. Я на іх нічога не купляў.

— Дзе ўзяў грошы паддзяк?

— Ён сказаў, што грошы належаць патрыярхіі. Я іх абяцаў праз два тыдні вярнуць.

— Пры якіх акалічнасцях ён вам даў грошы?

— Мы выпілі трохі, і калі я бліжэй пазнаёміўся з паддзякам, то расказаў яму, што можна зарабіць, але для гэтага патрэбны грошы. Ён завёў мяне ў спальню і дастаў са скрыні стала трыццаць тысяч…

— Вы забыліся ўдакладніць, дзе гэта адбывалася.

— Гэта было ў кватэры даўняга майго знаёмага Ротмістрава. Ён цяпер шышка — архібіскуп.

Падрэзаў узяў у Гілера білет і працягнуў яго дзяжурнаму:

— Папрасіце ў касе, калі можна, хай выплацяць за яго грошы. — І павярнуўся да Гілера: — Ну, дзе гэтыя трыццаць тысяч?

— У ботах, — кіўнуў той галавой на чамадан. — Я іх туды схаваў ад граху далей.

— Якога граху?

— Ну, каб не выкралі. Ведаеце, на цягніках розныя людзі ездзяць.

— Гэта, вядома, вам відней, — сказаў Падрэзаў, а сам пацягнуўся да тэлефона і папрасіў дзяжурнага па ўпраўленні выслаць за ім машыну, а заадно патэлефанаваў і Славіну, прапануючы яму прыехаць туды. Пасля гэтага маёр падзякаваў сваім калегам за дапамогу і прапанаваў Гілеру:

— Зачыняйце чамадан, бярыце яго і паедзем ва ўпраўленне міліцыі. Там будзем разбірацца.

Гілер цяжка ўздыхнуў і ледзь чутна прамармытаў:

— Ведаеце, як надакучыў мне гэты АБХСС?

— Гэта чаму ж? — усміхнуўся Падрэзаў, дакараючы сябе, што, спяшаючыся, ён так і не прадставіўся Гілеру.

Падрэзаў не стаў больш задаваць пытанняў, бо справядліва меркаваў, што адно з іх можа аказацца лішнім і сапсаваць усю справу…

Да канца дня ўсё высветлілася. Выявілася, што Гілер — вопытны спекулянт, раней тройчы асуджаны.

Прыбыўшы ў Мінск, ён адшукаў Ротмістрава, з якім быў знаёмы яшчэ да вайны. Праз Ротмістрава пазнаёміўся з паддзякам Лацюком. Той праз сваіх знаёмых дапамог яму ў крамах купіць пяцьдзясят пар перламутравых ботаў, якія Гілер хацеў па спекулятыўных цэнах прадаць ва Украіне. Калі Лацюк і Гілер ізноў сустрэліся ў Ротмістрава, добранька выпілі, Гілер змог угаварыць

паддзяка пазычыць яму трыццаць тысяч рублёў, за якія паабяцаў аддаць сорак пяць. Паддзяк, ведаючы, што ў стале ў архібіскупа ляжаць сто трыццаць тысяч, дамовіўся з Гілерам, што ён верне грошы не пазней чым праз два тыдні, і даў яму трыццаць тысяч. Ужо занадта прывабнай была думка атрымаць за паслугу пятнаццаць тысяч рублёў. Вядома, пра гэта Лацюк адразу Ротмістраву не сказаў, але калі пакінутыя грошы зніклі са стала, ён, лічачы злодзеем Гілера, упаў на калені перад архібіскупам і прызнаўся ў сваім граху.

Ротмістраў жа не хацеў, каб пра гэты ганебны выпадак даведаліся, і загадаў паддзяку маўчаць.

Ротмістраву і Лацюку, запрошаным у міліцыю, нічога не заставалася, як расказаць усю праўду. Якое ж было здзіўленне архібіскупа, калі ён даведаўся, чым сапраўды займаецца Гілер і дзе ён жыве.

Ён дастаў з бумажніка аркушык паперы, на якім быў напісаны маскоўскі адрас Гілера, і працягнуў яго Славіну:

— Вось, паглядзіце адрас, ён напісаў яго сам.

Славін спытаў у Гілера:

— Як гэта разумець?

Той ухмыльнуўся:

— Як ёсць. Не мог жа я назваць свой сапраўдны адрас.

Славін ізноў звярнуўся да Ротмістрава:

— Адкуль вам было вядома, што Гілер пражываў у гасцініцы?

— Калі ён даставаў з кішэні грабянец, то выпадкова ўпусціў нейкую паперку. Я падняў яе і ўбачыў, што гэта квітанцыя гасцініцы. Значэння асабліва не надаў гэтаму і аддаў квітанцыю яму…

Славін і Падрэзаў вырашылі матэрыялы на Гілера перадаць у АБХСС і працягваць вышук Чорта.

Купрэйчык быў у адпачынку, і яны далажылі аб усім яго намесніку. Той пагадзіўся з іх прапановай і спытаў у Славіна:

— Дзе можа быць цяпер Чорт?

— У Гагры.

— Дзе-дзе?

— На Чорным моры, у Гагры.

Намеснік начальніка крымінальнага вышуку горада, пажылы палкоўнік, усміхнуўся:

— І вы, вядома, хочаце туды паехаць?

— Так, сапраўды. — І каб у палкоўніка не было сумненняў, Славін растлумачыў: — Я знайшоў дзяўчыну, якую Чорт запрашаў паехаць з ім. Але яе не адпусцілі з работы, бо адпачынак па графіку ў кастрычніку.

— Як жа вы яго там знойдзеце?

— Гагра не надта вялікі горад, фатаграфія яго ў мяне ёсць, прыкметы ведаю. Думаю, што разам з мясцовымі таварышамі мы знойдзем яго хутка.

— Ну што ж, дзейнічайце, але толькі вы адзін. Падрэзаву прыйдзецца заняцца раскрыццём забойства, якое здзейснена сёння раніцай…

## 50

## Купрэйчык

— А ну, соня, уставай! Хопіць спаць! — Вясёлы голас жонкі Аляксей пачуў над вухам нечакана і здрыгануўся, але вочы не адкрыў. «Хай думае, што сплю». Надзея нахілілася да яго твару. І тут Аляксей нечакана падхапіў яе і закінуў на ложак.

— Ага, папалася! — абняў ён яе. — Будзеш ведаць, як прыставаць да мужа, калі ён у адпачынку.

— Ой, Лёшка, пусці! А то дзяцей на дапамогу паклічу, — смяялася Надзя, спрабуючы вырвацца. Але гэта ёй не ўдалося, і яна гучна паклікала: — Дзеці, на дапамогу!

У суседнім пакоі пачуўся шум, і праз хвіліну ў спальню ўварваўся трохгадовы хлапчук у доўгай начной кашулі. Ён выдаў баявы кліч і кінуўся да ложка. Бацька падхапіў яго, і хлопчык апынуўся паміж бацькамі. У пакой зазірнуў Вася. Нядаўна яму споўнілася восем гадоў, і ён імкнуўся паводзіць сябе стала, але, убачыўшы вясёлую валтузню, не стрымаўся і кінуўся на ложак. Неўзабаве ў кватэры чуўся вясёлы дзіцячы віск і рогат дарослых. Надзя спрабавала разам з дзецьмі адолець мужа, але зрабіць гэта было цяжка. Аляксей лёгка расправіўся з імі, і неўзабаве жонка і дзеці прызналі сябе «пераможанымі».

— Ну, хопіць, дзеці, — сказала Надзя, — пайшлі, хай бацька ўстае. Сёння ў нас далёкае падарожжа.

Дзеці ўжо даўно чакалі гэтага дня. Сёння бацькі павінны адвезці іх на далёкую Гродзеншчыну да дзядулі і бабулі. Вася ўжо бываў у іх, а Лёша ехаў упершыню. Надзея Лявонцьеўна і Аляксей Васільевіч падчас адпачынку вырашылі з’ездзіць у санаторый. Дзеці на гэты час заставаліся ў вёсцы.

Дзень у клапатлівай мітусні прайшоў хутка, а ўвечары ўся сям’я ўжо ехала ў цягніку. Дзеці прыліплі насамі да шкла, разглядаючы новы, незнаёмы ім пейзаж. Прымоўклі і бацькі. Яны сядзелі за невялікім столікам насупраць адно аднаго і глядзелі ў акно. У памяці Аляксея Васільевіча ўскалыхнуліся трывожныя дні чэрвеня сорак першага, калі ў дзень іх вяселля прыйшло вялікае гора — вайна. Многае адбылося за гэты час. Яны з жонкай прайшлі ўсю вайну і засталіся жывыя. Затое яго бацькі так і не дачакаліся светлага дня перамогі. Бацька і яшчэ сем старых, схопленыя фашыстамі як заложнікі, былі расстраляныя, а ў канцы сорак трэцяга ад запалення лёгкіх памерла і маці. Суцяшэннем Аляксею Васільевічу было тое, што засталіся жывыя бацькі Надзеі Лявонцьеўны, да якіх яны і везлі дзяцей.

Аляксей Васільевіч сустрэўся з позіркам жонкі і зразумеў, што яны думаюць пра адно і тое ж. Надзея Лявонцьеўна ўсміхнулася і, жадаючы адцягнуць яго ад сумных думак, сказала:

— Лёша, ты ў адпачынку і павінен адпачываць.

— А я і адпачываю.

— Паглядзі, якая прыгажосць вакол! Колькі зеляніны! А пройдзе некалькі дзён, і мы з табой будзем купацца ў моры. — Надзея нечакана пляснула рукамі і паклікала дзяцей: — Дзеці, а хочаце я раскажу, як ваш любімы татачка мяне аднойчы абакраў? Уяўляеце, выкраў маю адзежу!

Вася і Лёша, усміхаючыся, недаверліва глядзелі то на бацьку, то на маці. Аляксей Васільевіч зрабіў сур’ёзны твар і сказаў:

— Сапраўды, быў такі выпадак. Я выкраў у мамы халацік і басаножкі. Але тут жа прызнаўся, і яна прабачыла мне. Так што майце на ўвазе, нашу маму, нават жартуючы падманваць нельга. Яна, па-першае, адразу ж пазнае, што кажуць няпраўду, а па-другое, можа адразу ж узяць у палон, як тады ўзяла мяне.

Па тварах дзяцей было відаць, што яны нічога не зразумелі з гутаркі бацькоў, і павярнуліся да акна.

Надзея Лявонцьеўна перасела да мужа і, нахіліўшыся да яго, прашаптала:

— Тваё шчасце, што з намі дзеці, не то я табе паказала б такі палон, што ты тут жа папрасіў бы прабачэння. — Яна паклала галаву яму на плячо і сказала: — Калі б ты ведаў, як мне добра!..

Ранкам цягнік прыбыў у Гродна, а да абеду Купрэйчыкі прыехалі ў вёску. Сыны адразу ж пабеглі з вясковымі хлапчукамі гуляць, а дарослыя засталіся за святочным сталом.

Было вырашана, што Надзея Лявонцьеўна і Аляксей Васільевіч з'едуць з вёскі на наступны дзень пасля сняданку. Але калі ранкам яны прыйшлі на раку і выкупаліся, зразумелі, што адарвацца ад гэтых месцаў цяжка. Надзя папрасіла:

— Давай пабудзем, Лёша, хоць бы некалькі гадзіначак. Час жа дазваляе.

Аляксею Васільевічу і самому не хацелася сыходзіць. Яны доўга боўталіся ў чыстай прыемнай вадзе і, нарэшце знясілеўшы, улегліся побач на сакавітай густой траве. Сонца ўжо стаяла высока і прыпякала ўсё мацней і мацней. Было ціха, над палямі панавалі цяпло і спакой. На душы было спакойна і добра. Надзея Лявонцьеўна паклала галаву на руку мужа і, нібы працягваючы гутарку, пачатую ўчора ў цягніку, спытала:

— А ты сапраўды памятаеш, як ты выкраў у мяне халат і басаножкі?

— Ты тады вырашыла ісці ў купальніку ў вёску, а я суправаджаў цябе па кустах?

— Так.

— Не, не памятаю.

— Лёшка, ты нахабнік! — адсунулася ад мужа Надзея Лявонцьеўна. — Як добра тут. Чаму б нам адпачынак не правесці тут?

— Калі захочаш, то на наступны год прыедзем сюды.

Надзея Лявонцьеўна памаўчала трохі, а затым, разважаючы над нечым, ціха сказала:

— Наўрад…

— Як гэта наўрад? Калі вырашым, то прыедзем. Возьмем вуды, навучу цябе рыбу лавіць.

— Мне здаецца, што нам, прынамсі мне, нельга будзе.

Аляксей Васільевіч адчуў, што жонка штосьці недагаворвае. Ён павярнуўся да яе і паглядзеў у вочы.

— Што такое, Надзюша?

Твар Надзеі Лявонцьеўны паружавеў. Яна прытулілася да мужа і ціха сказала:

— Мілы, у нас, напэўна, з'явіцца трэцяе дзіця.

— Вось што! — Аляксей Васільевіч сеў. — І ты маўчыш? Ну, маці, узрадавала ты мяне! — Вочы яго шчасліва блішчалі. — Ведаеш, калі будзе дзяўчынка, назавём яе Ленай…

— А калі хлопчык, — перабіла яго Надзея Лявонцьеўна, — Пятром.

— Згодзен. — Аляксей Васільевіч зноў лёг на мяккую траву і задумаўся. Ён успомніў Пятра Мачалава, гады вайны, калі амаль штодня яму, Купрэйчыку, камандзіру ўзвода разведкі, даводзілася рызыкаваць жыццём. «Хоць трэба было змагацца з ворагам дзеля сённяшняга дня!» — падумаў ён і нечакана спытаў:

— Надзюша, а ты памятаеш, як мы сустрэліся на паўстанку? Глядзі, як бывае ў жыцці: людзі могуць адзін аднаго шукаць гадамі, а сустрэцца зусім у нечаканым месцы.

— Я тады так разгубілася, што не магла разумна думаць. Калі дакранулася да цябе, вырашыла: хай мяне рэжуць на дробныя кавалачкі, а мужа свайго нікуды не адпушчу, нікому не аддам… Але асабліва мне цяжка было, калі фактычна сама цябе пагрузіла ў санітарны цягнік і не пазнала… а зразумела, што гэта быў ты, толькі тады, калі цягнік пайшоў. Ведаеш, пасля таго мне часта здавалася, што я трачу розум, асабліва калі ўяўляла сабе, што ў той момант тварылася ў цябе на душы.

— Нічога, мілая, усё ўжо мінула. Нам у жыцці пашанцавала: мы не страцілі адно аднаго, выжылі. Дзіўна, чым далей час аддзяляе мяне ад вайны, тым мацней становіцца жаданне ўбачыць тых, з кім побач ваяваў, перажыў цяжкасці…

Час падыходзіў да поўдня, калі яны спахапіліся. Вярнуліся ў хату. Пасля абеду пачалі збірацца ў дарогу. Цягнік з Гродна на Мінск ішоў позна ўвечары, і Купрэйчыкі не спяшаліся.

Дзеці адпускалі бацькоў без асаблівага смутку. Яны разумелі, што бацькам трэба ад'язджаць, а ў бабулі з дзядулем яны будуць жыць прывольна.

Да невялікага мястэчка, адкуль у Гродна ішоў рэйсавы аўтобус, Купрэйчыкаў везлі на калгасным грузавіку.

Аляксей Васільевіч хутка купіў білеты на аўтобус і, выціраючы з ілба пот, прапанаваў:

— Да адыходу аўтобуса яшчэ больш за гадзіну. Давай пойдзем у цянёк.

Яны прайшлі праз маленькую пыльную небрукаваную плошчу і прыселі проста на траву. Было горача і душна. На аўтобуснай станцыі людзей было мала, а вуліца, якая выходзіла на плошчу, і зусім пустая. Толькі кудлаты сабака, высалапіўшы язык, ляжаў у рэдкім цені каля дашчанага плота ды куры кешкаліся ў дарожным пыле. Міма Купрэйчыка павольна праехаў грузавік, нібы вадзіцель баяўся моцна напыліць. Аляксей Васільевіч кінуў на яго нудны погляд і здзіўлена падумаў: «Вось дзівакі, такая спякота, а яны ўтрох у кабіну забраліся». Машына павярнула ўлева і спынілася каля аднапавярховага будынка, дзе размяшчалася ашчадная каса. Людзі, якія ехалі ў машыне, увайшлі ў памяшканне, а Аляксей Васільевіч паглядзеў на жонку. Надзея Лявонцьеўна, абапёршыся на невялікі чамадан, глядзела ў іншы бок. Ён спытаў:

— Піць не хочаш?

— Вось калі б сцюдзёнай калодзежнай вадзіцы шкляначку, — летуценна адказала яна. — Давай падыдзем да крайняй хаты, бачыш, журавель у студні тырчыць? Папросім, каб далі напіцца.

Аляксей Васільевіч падняўся, дапамог устаць жонцы і ўзяў чамадан. Тым часам прычуліся рэзкія шчаўчкі. Купрэйчык падумаў: «Нібы стрэлы ў памяшканні». Яшчэ не ведаючы, што здарылася, ён трывожна паглядзеў у бок ашчадкасы. Адтуль выйшаў мужчына з сумкай і хуткім крокам накіраваўся да машыны. Тут жа з ашчадкасы выйшлі яшчэ двое мужчын і таксама рушылі да машыны. Першы мужчына ўжо сядзеў у кабіне і націскаў на стартар. У гэты момант з ашчадкасы выскачыла жанчына. Яна, трымаючыся за сцяну, крыкнула:

— Людзі, на дапамогу! Гэта бандыты, яны грошы забралі!

Адзін з мужчын павярнуўся і ўскінуў руку. Цішыню распароў рэзкі, аглушальны стрэл, і жанчына, схапіўшыся за грудзі, звалілася каля сцяны. Той, які страляў, кінуўся да машыны і, услед за сваім напарнікам, сеў у кабіну. Машына завуркатала і пачала разварочвацца. Купрэйчык выпусціў з рукі чамадан, зірнуў на жонку:

— Надзюша, выклікай міліцыю, паведамі ў пасялковы савет! — і кінуўся праз дарогу. На аўтобусным прыпынку было чалавек дзесяць, з іх чацвёра мужчын. Прабягаючы міма, Купрэйчык крыкнуў: — Мужчыны, за мной! — І, не абарочваючыся, пабег далей.

Ён бачыў, што машына не змагла адразу развярнуцца. Вадзіцель пачаў даваць назад, гэтым і хацеў скарыстацца палкоўнік, але не паспеў. Машына развярнулася і, равучы маторам, ужо рухалася насустрач. З кабіны грукнуў стрэл, але свісту кулі Купрэйчык не пачуў: «Напэўна, у тых, хто за мной

бяжыць, страляе». Ён не бачыў, што ніхто за ім не пабег. Людзі на прыпынку здранцвелі ад нечаканасці і моўчкі глядзелі на тое, што адбывалася. Купрэйчык не стаў кідацца напярэймы аўтамашыне. Ён разумеў, што бандыты яго проста раздушаць коламі ці расстраляюць ва ўпор. Ён зрабіў выгляд, што бяжыць да ашчадкасы. Але калі грузавік параўняўся з ім, Купрэйчык рэзка кінуўся да яго і, скарыстаўшы тое, што машына ехала не вельмі хутка, учапіўся рукамі ў задні борт і праз некалькі секунд быў ужо ў кузаве. Не марудзячы, адразу ж зваліўся і хутка падпоўз да кабіны, каб бандыты не заўважылі яго. Машына, набраўшы хуткасць, ужо неслася па вуліцах мястэчка, пакідаючы за сабой клубы пылу. Купрэйчык агледзеў кузаў. Кузаў быў зусім пусты, толькі некалькі трэсак скакалі па дошках. Палкоўнік быў не толькі бяззбройны, але і практычна безабаронны. Варта было любому са злачынцаў уважліва агледзець праз задняе шкло кузаў, як ён заўважыў бы Купрэйчыка. Палкоўнік прыпадняў галаву і вызірнуў па-над бортам. Машына ўжо выязджала з мястэчка. Купрэйчык не мог разабрацца, у які бок яны едуць. Прайшло яшчэ некалькі мінут, і надзеі Аляксея Васільевіча на тое, што каля выезду з мястэчка ён, магчыма, зможа ўбачыць пост ДАІ, зніклі. Злачынцы, відавочна, прадумалі свой маршрут добра і рухаліся па дарозе, на якой рэдка можна сустрэць міліцыю. Аляксей Васільевіч напружана думаў: «Доўга па дарозе яны, вядома, ехаць не будуць. Не ідыёты ж, каб даць магчымасць засекчы машыну і арганізаваць перахват. Напэўна дзе-небудзь кінуць грузавік ці звернуць у лес». Стараючыся не хвалявацца, ён прадумваў варыянты дзеянняў злачынцаў. «Было б ндрэнна, калі б яны вырашылі пад’ехаць да якой-небудзь чыгуначнай станцыі, дзе можна кінуць машыну і з’ехаць цягнікам. Яны ж разумеюць, што вось-вось будзе абвешчаны іх вышук і тады кожны работнік міліцыі будзе шукаць гэту машыну».

Неўзабаве Купрэйчык заўважыў, што па баках дарогі замігацелі верхавіны дрэў. Прыціскаючыся да кабіны, ён, імкнучыся каб яго не заўважылі праз задняе шкло, вызірнуў: так і ёсць, машына, не змяншаючы хуткасці, неслася па лясной дарозе. Без грузу яе моцна трэсла, але за рулём, відавочна, знаходзіўся даволі спрактыкаваны вадзіцель. Ён не змяншаў газу і гнаў машыну на максімальнай хуткасці. У Купрэйчыка загарэлася надзея, што, магчыма, злачынцы едуць на сваю патаемную кватэру, а гэта значыць, што ён зможа іх высачыць, а затым выклікаць дапамогу. Але раптам грузавік рэзка скінуў хуткасць і павярнуў. Па кабіне пачалі хвастаць галіны дрэў. Улучыўшы момант, Купрэйчык вызірнуў наперад і заўважыў, што едуць яны па вузкай лясной сцяжынцы. «Гэта дарога да жылля не вядзе. Значыць, яны вырашылі схаваць машыну ў лесе. Але што ж яны будуць рабіць далей?»

Ён разумеў, калі грузавік спыніцца, знаходзіцца ў кузаве небяспечна. Хто-небудзь з рабаўнікоў, знаходзячыся на падножцы, зазірне ў кузаў — і канец. Тады ён вырашыў, як толькі грузавік пачне гасіць хуткасць, ён саскочыць праз задні борт і, схаваўшыся ў кустах, будзе працягваць сачыць за імі. Цяпер галоўнае вызначыць, калі машына пачне прытармажваць. Грузавік праехаў не менш за два кіламетры, перш чым Купрэйчык адчуў, што ён зменшыў хуткасць. Аляксей Васільевіч кінуўся да задняга борта і саскочыў на зямлю. Некаторы час ён, не выпускаючы з рук верхні край борта, працягваў бегчы за машынай. Ён хацеў пераканацца, што вадзіцель сапраўды тармозіць. Так, машына спынялася. Купрэйчык адпусціў борт і кінуўся направа да кустоў.

Машына стала, рухавік заглух, дзверцы кабіны адкрыліся, і тут Купрэйчык пачуў вясёлы голас:

— Парадак! Усё прайшло, як я і казаў.

Аляксей Васільевіч па-пластунску перабраўся да наступнага куста і ўбачыў рабаўнікоў. Яны ўсе трое стаялі каля радыятара, і палкоўнік змог іх добра разгледзець. Адзін з іх — высокі, худы, у цёмнай кепцы — стаяў з абрэзам у руцэ. Другі — рудавалосы, з зарослым рудым шчаціннем тварам — трымаў брызентавую сумку. Трэці — у чорнай куртцы, абапёршыся рукой на радыятар, казаў:

— Зараз вы зразумелі, што нездарма мне даверыліся. Цэлая торба! Дзеля такіх грошай варта было на той свет трох баб адправіць. — Ён павярнуўся да таго, які трымаў сумку: — А ты, кораш, малайчына! Хутка супакоіў тую, якая выскачыла. Я ўжо думаў, што ёй каюк, сам жа дзве кулі ўсадзіў у яе, а яна, падла, жывучай аказалася і нават за намі выскачыць паспела. — Ён зрабіў некалькі крокаў і сеў на зямлю. Побач прымасціліся і абодва яго сябрукі. Ён нібы чакаў гэтага, таму што адразу ж прапанаваў:

— Ну што, давайце палічым, на колькі папрацавалі.

Яны раскрылі сумку і высыпалі проста на траву грошы. Іх было шмат, у пачках і асобнымі купюрамі. Злачынцы, схіліўшыся, пачалі лічыць. Купрэйчык ліхаманкава думаў, што можна зрабіць. «Калі пабегчы да дарогі, — думаў ён, — то магу не паспець назад, ды і дзе гарантыя, што я хутка наткнуся там на людзей? Не, трэба заставацца тут, магчыма, яны вырашаць ехаць на гэтай жа аўтамашыне. Тады я зноў ускочу ў кузаў». І Аляксей Васільевіч застаўся на месцы. Паступова, слухаючы гаворку рабаўнікоў, Купрэйчык змрачнеў. Аказалася, што яны адзін з адным пазнаёміліся зусім нядаўна і, што горш за ўсё, не ведалі нават прозвішчаў. Па ўсім было відаць, што верхаводам у іх быў той, які быў апрануты ў чорную куртку. Ён і гаварыў больш за ўсіх. Вось і цяпер ён сказаў:

— У нас з вамі маецца трыста сорак восем тысяч сто шаснаццаць рублёў. Робім так: мне — дзвесце тысяч, астатнія — вам напалову. Падыходзіць?

Партнёры маўчалі. Тады ён дадаў:

— Што прыціхлі? Ідэя ж мая, план — я распрацоўваў, ды і машыну здабыў таксама я. Таму і прапаную падзяліць сумленна. Калі згодны, то адразу ж пасля дзяльбы разыдземся кожны сваёй дарогай.

— Як той казаў, — прагаварыў рудавалосы, — разыдземся як у моры караблі. — Ён зірнуў на трэцяга. — Ты згодзен?

— Што нам спрачацца. Згодзен, дзяліце! — і ён, пакінуўшы абрэз на траве, прысунуўся бліжэй да грошай.

Купрэйчык разумеў, калі цяпер не пачаць дзейнічаць, злачынцы падзеляць паміж сабой грошы і разыдуцца. Шукай іх тады. Лічы, што дзяржаўныя грошы зніклі. Увагу Аляксея Васільевіча ўсё больш прыцягваў аднаствольны абрэз стрэльбы, што ляжаў на траве. «Мабыць, калі я выскачу, то паспею схапіць яго».

Купрэйчык разумеў, што гэты крок паставіць яго ў найскладанейшае становішча. Абрэз быў зроблены з аднаствольнай паляўнічай стрэльбы, а гэта значыць, што ў ім толькі адзін патрон. А ў іншых двух злачынцаў — пісталеты. Сілы відавочна няроўныя. Але хіба мог ён, палкоўнік міліцыі, які быў разведчыкам, які неаднойчы глядзеў смерці ў твар, дапусціць, каб злачынцы, якія забілі людзей, вось цяпер, на яго вачах, падзялілі паміж сабой грошы, што належаць дзяржаве, і спакойна сышлі?

Купрэйчык, ускочыўшы на ногі, кінуўся да абрэза. Схапіў яго і гучна крыкнуў:

— Ні з месца! Рукі ўгару!

## 51

## Капітан міліцыі Славін

Славін упершыню ўбачыў мора. Велізарнае, ласкавае, цёплае. Яно вабіла да сябе, вабіла разгарачанае сонцам цела. Безліч галасоў адпачываючых змешваліся з крыкам чаек, шумам набягаючых на пясчаную водмель хваль. Спакой і пачуццё ціхамірнасці ахапілі Уладзіміра Міхайлавіча.

Ён стаяў каля каменнай балюстрады і не мог адарваць вачэй ад сіні, якая раскрылася перад ім. Так, Славін упершыню бачыў мора і цяпер думаў, што ён такім сабе яго і ўяўляў, употай не раз марыў пра сустрэчу з ім. І вось гэта сустрэча адбылася, але злучана яна была з працай, і Уладзімір Міхайлавіч прымусіў сябе адарваць вочы ад хвалі, што набегла на пясок, і паглядзець туды, дзе праз невялікую плошчу віднеўся двухпавярховы будынак, каля якога стаялі дзве міліцэйскія машыны. Там размяшчаўся аддзел міліцыі. Славін усміхнуўся загарэламу, зусім голенькаму малому, які стаяў недалёка ад яго, і накіраваўся да міліцыі.

Пасля яркага сонца ўсярэдзіне памяшкання было змрочна. У невялікім пакоі знаходзіліся тры работнікі міліцыі і двое цывільных — малады і пажылы мужчыны. Яны абодва былі апрануты ў чорныя гарнітуры. Гутарка ішла на павышаных тонах. Але пра што спрэчка, Славін зразумець не мог, ён не ведаў грузінскай мовы. Уладзімір Міхайлавіч збянтэжана спыніўся каля дзвярэй, чакаючы, пакуль старшы лейтэнант з чырвонай павязкай дзяжурнага на рукаве зверне на яго ўвагу.

Славін адчуў, што да яго пляча нехта лёгка дакрануўся і адразу ж пачуў, як хтосьці па-руску ветліва сказаў:

— Дазвольце, калі ласка.

Уладзімір Міхайлавіч зразумеў, што ён стаіць у праходзе, і паспешна зрабіў крок у бок. Міма яго прайшоў мужчына, апрануты ў светлую кашулю з кароткімі рукавамі. Ён падышоў да дзяжурнага і спытаў:

— Дзе матэрыял для мяне?

Старшы лейтэнант, не перастаючы штосьці тлумачыць наведвальнікам, дастаў з высоўнай скрыні тоненькую папку і працягнуў яе.

— Двух мужчын абакралі ў санаторыі. Начальнік тэлефанаваў, сказаў, што хутка будзе. — Ён працягнуў вялікі журнал. — Распішыся, што атрымаў.

Мужчына ў светлай кашулі павярнуўся да Славіна тварам, і Уладзімір Міхайлавіч ледзь не ўскрыкнуў. Перад ім стаяў Антон Крайнюк. Баявы сябар і таварыш, з якім яны разам ваявалі ў адным партызанскім атрадзе, а затым служылі ў аддзеле па барацьбе з бандытызмам. Яны рассталіся ў сорак пятым, калі паранены ў адной з баявых аперацый Крайнюк патрапіў у шпіталь, а Славін з’ехаў на вучобу ў афіцэрскую школу. Час, адлегласць, бурныя пасляваенныя гады разлучылі былых сяброў. І вось Славін бачыў жывога і цэлага Крайнюка перад сабой. «Апрануты ў цывільнае, — думаў Уладзімір Міхайлавіч, разглядаючы Крайнюка, — матэрыял пра крадзеж атрымлівае. Значыць, гэтак жа як і я, у крымінальным вышуку працуе». Крайнюк, не зважаючы на гучную гутарку, пачаў гартаць паперы, якія знаходзіліся ў папцы. Паступова карціна спрэчкі станавілася зразумелай і для Славіна. Атрымлівалася, што спрачаўся са старшым лейтэнантам толькі малады мужчына. Другі, старэйшы, хутчэй за ўсё знаходзіўся ў міліцыі па іншым пытанні і з цікавасцю слухаў гучную тэмпераментную гутарку. Славін жа працягваў глядзець на Крайнюка. «Як Антон змяніўся за гэтыя гады! Цікава, ці пазнае ён мяне?»

Крайнюк нарэшце адарваўся ад папер, зірнуў на маладога хлопца і звярнуўся да дзяжурнага:

— Паслухай, Джэмал, пра што вы спрачаецеся?

— Ды ты паглядзі на гэтага чалавека! — абурана загаварыў старшы лейтэнант. — Ці бачыш, учора ён, каб пачаставаць сваіх сяброў шашлыком, узяў у нейкай атары барана. А сёння прыйшоў і патрабуе, каб мы знайшлі яму гаспадара атары. Ён, разумееш, хоча заплаціць за барана. А дзе я яму знайду гэтага гаспадара, калі ён нават не памятае, у якім месцы забраў гэтага чортавага барана. Быў п’яны! Таксама мне тлумачэнне. Калі я пяць літраў віп’ю, я ўсё адно не забываю, дзе знаходжуся, і на чужых бараноў не кваплюся. А ён і сёння падвыпіўшы. Прыйшоў у міліцыю і лае нас, што мы дрэнна працуем, не ведаем, у каго з жыхароў, а можа быць, у якім-небудзь калгасе Абхазіі барана ў атары нестае. Прыстаў да мяне, лаецца… Абражае…

— Як абражае?

— Кажа, што я таксама з той атары.

Крайнюк усміхнуўся:

— Што, пазнаў?

— Ды ты што? — ускіпеў і без таго гарачы старшы лейтэнант. — Я табе што, баран?

— Не кіпяціся, Джэмал, я ж пажартаваў, — усміхнуўся Крайнюк і звярнуўся да маладога мужчыны: — Ідзіце, дарагі, дахаты. Прыйдзіце ў сябе, супакойцеся і пачынайце шукаць гаспадара атары, з якой вы пазычылі барана.

Малады мужчына безнадзейна махнуў рукой, павярнуўся і, накіроўваючыся да дзвярэй, па-руску сказаў:

— Не хочуць зразумець сумленнага чалавека, а яшчэ міліцыя.

Калі ён падыходзіў да дзвярэй, Славін улавіў пах спіртнога і падумаў: «Трэба ж, у такую спякоту піць!»

Капітан перавёў погляд на Крайнюка і ледзь не разрагатаўся. Антон, выпусціўшы з рук папку і шырока расплюшчыўшы вочы, глядзеў на яго. Славін усміхнуўся:

— Што так глядзіце на мяне, таварыш Крайнюк?

— Валодзя? Славін!

Крайнюк кінуўся да Славіна, і яны моцна абняліся. У дзяжурцы стала ціха. Усе са здзіўленнем глядзелі на гэту сцэну.

— Славін, чорт, сябрук ты мой! — гаварыў Крайнюк, сціскаючы ў жалезных цісках свайго баявога таварыша. — Пойдзем да мяне ў кабінет, пагаворым.

Яны выйшлі ў калідор, а насустрач ім — падпалкоўнік міліцыі. Ён вёў пад руку таго ж маладога чалавека, які зусім нядаўна патрабаваў ад дзяжурнага знайсці гаспадара выкрадзенага ім напярэдадні барана.

Крайнюк паціху сказаў:

— Глядзі, Валодзя, начальнік аддзела злавіў зладзюжку. — І, не вытрымаўшы, спытаў у падпалкоўніка: — Навошта вы яго, Барыс Мелітонавіч, затрымалі?

— Ледзь на мяне не наехаў. Паглядзі на яго, п’яны, ледзь на нагах стаіць, а за руль машыны сеў.

Мужчына здзіўлена паглядзеў на Крайнюка і абурана прагаварыў:

— Не разумею, што робіцца. Я ж сам прыехаў у міліцыю, а мяне затрымліваюць. Бачыш, што атрымліваецца: калі я звярнуўся ў міліцыю — мяне прагналі, калі сышоў з міліцыі — мяне туды назад сілай цягнуць. Што дзеецца! Каму скардзіцца?

Смеючыся, Славін і Крайнюк падняліся на другі паверх і неўзабаве былі ў невялікім кабінеце. Сябры, перабіваючы адзін аднаго, пачалі ўспамінаць сваё

партызанскае жыццё. Славін даведаўся, што Крайнюк, пасля таго як вылечыўся, у сорак шостым годзе паступіў у афіцэрскую школу міліцыі. А калі скончыў вучобу, кіраўніцтва, ведаючы, што ў Антона няважнае здароўе, накіравала яго працаваць у Абхазію. У Антона нават слёзы радасці на вачах з'явіліся, калі ён даведаўся, што Таццяна Андрэеўна і яе дзеці засталіся жывыя.

— Уяўляю, што ім давялося перажыць, — задуменна сказаў Антон. — Ну, а як Пётр Пятровіч? Нябось, у палкоўніках ужо ходзіць?

Апусціўшы галаву, Славін ціха сказаў:

— Загінуў ён… падчас правядзення аперацыі па абясшкоджванні банды. Адзін з бандытаў пазнаў яго і паспеў стрэліць першым. Ды ты гэтага гада павінен памятаць. Гэта сябрук Мірэйчыка, таксама паліцай — Юшэвіч.

— Што ты кажаш! Ох, дарма мы яго тады разам з Грышкам не расстралялі.

— Яго Пётр Пятровіч шукаў. Нават ужо выйшаў на след, а той, гадзіна, банду сабраў, памкнуўся са сваімі сябрукамі на касіра завода і яго ахову напасці і захапіць грошы, прызначаныя для зарплаты. А нашы хлопцы бралі іх, як кажуць, за секунду да выстралу. Ох, як шкада Пятра! Перад маім вылетам сюды да нас пасля заканчэння афіцэрскай школы міліцыі прыбыў Ваня — яго сын. Шчыра кажучы, я рады, што ён будзе служыць са мной.

Крайнюк расказаў, што ён жанаты на грузінцы, мае дваіх дзяцей. Пацікавіўся:

— Валодзя, а ты сюды на адпачынак прыехаў?

— Які там адпачынак, — усміхнуўся Славін, — у камандзіроўку. — І Уладзімір Міхайлавіч расказаў пра мэту свайго прыезду.

Крайнюк устаў:

— Пайшлі да майго начальніка. Даложым, і я дамоўлюся, што буду табе дапамагаць.

Антон угаворваў Уладзіміра спыніцца ў яго дома, але Славін, не жадаючы турбаваць сям'ю сябра, настаяў на сваім і пасяліўся ў гасцініцы.

— Разумееш, — супакойваў ён засмучанага Крайнюка, — я ж мора бачу ўпершыню. У вольны час, нават уначы, цікава пабыць каля яго. Навошта ж перашкаджаць жонцы, дзецям!

Пасля таго як Славін уладкаваўся ў гасцініцы, яны вырашылі вышук Чорта пачаць заўтра з раніцы і накіраваліся да Крайнюка дамоў. Жыў ён высока ў гарах, і калі сябры падняліся да яго дома, Славін, гледзячы на панараму горада, што разгарнулася ў іх каля ног, захоплена сказаў:

— Ух ты! Прыгажосць якая, нібы на самалёце ляціш! У мяне галава закружылася ад такой вышыні.

У гэты вечар дома ў Крайнюкоў было сапраўднае свята. Жонка Антона — высокая чарнавокая Кета, — слухаючы ўспаміны сяброў, усміхалася і падавала на стол усё новыя стравы.

Разышліся позна. Антон праводзіў Славіна да самай гасцініцы. Уладзімір Міхайлавіч развітаўся з сябрам і, калі той сышоў, не заходзячы ў гасцініцу, накіраваўся да мора. Уздоўж набярэжнай ішла прысада, якую ўпрыгожвалі пальмы і кіпарысы. Стаяла цішыня. Паветра было насычаны пахам кветак і мора. Месяц адлюстроўваўся ў зусім спакойным моры, якое здавалася сонным. Уладзімір Міхайлавіч падумаў, што ўсё гэта падобна на цудоўны, казачны сон. Ён сеў на зручную драўляную лаўку і задумаўся. Ужо каторы раз за гэты вечар успомніліся баявыя сябры, бацька…

***Пераклад з рускай Язэпа РУНЕВІЧА.***



Святлана БЫКАВА

# СІМФОНІЯ ВЯСНЫ

## НЯЎХІЛЬНАСЦЬ

Ва ўбранні кветкавым, з вянком,
Вясна шыбуе па прасторах,
Звініць уранку жаўруком
І крочыць уначы па зорах.

Ёй вольна жыць тут, на Зямлі,
Чапляць бразготкі на бярозы,
Люляць зярнятка ў раллі,
Страсаючы ў барозны росы.

З яе няўхільнасцю ніхто
Не зможа у свеце паспрачацца.
У вечнай чарадзе гадоў
Ёй лёс — сыходзіць і вяртацца.

---

*__Быкава Святлана Анатольеўна__ нарадзілася 5 лютага 1962 года ў Заслаўі. Скончыла планава-эканамічны факультэт БДІНГ імя В. У. Куйбышава (1985). Працавала на Заслаўскай карданажна-паліграфічнай фабрыцы, у Заслаўскім гарвыканкаме, у Дзяржаўнай падатковай інспекцыі па горадзе Заслаўі. Кіраўнік дзіцячага літаратурнага клуба «Ізяслаўцы» пры ДУА «Заслаўская гімназія», укладальнік і рэдактар агульнагарадскога калектыўнага зборніка дзіцячай літаратурнай творчасці «Струмені заслаўскай крынічкі» (2016).*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Откровение позднего лета» (2010), «Дорога к себе» (2011), «Из руки выпускаю синицу» і «С чистого листа» (2013), «Адлюстраванне» і «Осенняя палитра» (2015), «Веру вясне!» (2016), а таксама кніг для дзяцей «Весёлый гномик» і «История одной снежинки» (2014).*

*Лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор-2013» у галіне паэзіі за зборнікі «С чистого листа» і «Из руки выпускаю синицу», лаўрэат Мінскай абласной прэміі ў галіне літаратуры ў намінацыі «Паэзія» (2015).*

## НА ВОЗЕРЫ

Ветрык паўднёвы ласкава
Кратае дрэвы рукой.
Возера хваляй рухавай
Гоніць зімовы спакой,
Бліскае вокам блакітным —
Вабіць яго дзіўны час.
Нібы ў люстэрку, ракіты
Свой разглядаюць анфас,
Мыюць у возеры косы —
Доўга чакалі вясны!
Хутка світальныя росы
Змыюць паўночныя сны.
Ціха, пяшчотна прытуляць
Вербы лясных галубоў.
Шчыра, нібыта матулі,
Будуць дарыць ім любоў…

Ветрык гуляе паўднёвы,
Сонейка грэе раллю.
Подых гаючы, вясновы
Зноў абуджае зямлю.

## МАСТАК-ЧАРАДЗЕЙ

Адкуль бяруцца фарбы дня,
Таемнай ночы?
Хто ад відна і да відна
З палітрай крочыць?

Шчыруе пэндзалем вясной,
Як звар'яцелы,
Сядзіць узімку пад сасной —
Малюе белым.

Фантазій шмат у Мастака
І летуцення —
Кладзе чароўная рука
Святло і цені.

Малюнкаў столькі і ідэй —
Канца не будзе!
Малюе дзіўны Чарадзей —
Глядзіце, людзі!

## НАТХНЕННЕ

Натхненне — бы хваля: імкнецца дабегчы
Да чыстага берага чулага сэрца.
Яно — нібы шэпт зноў народжанай зоркі,
Ці радасці водар, ці смак прыкра-горкі.

Навокал у чыста-празрыстым эфіры
Плывуць дзіва-гукі загадкавай ліры.
Унутраны водгук — нібы камертон,
Ён ловіць ледзь чутны, няўлоўны паўтон.

І недзе ў душы раптам арфа зайграе
Мелодыю сэрца — чароўнага мая…

## НАДЗЕЯ

Надзею дораць казкі-сны…
Душа ў чаканні
Жывога подыху вясны,
Святога ранняя.

Мінулае — у небыцці:
Гады, падзеі…
Але не страчана ў жыцці
Яшчэ надзея,

Што спраўдзяцца падказкі-сны
Абавязкова:
Пачну на досвітку вясны
Я жыць нанова.

## СІМФОНІЯ ВЯСНЫ

Гудуць вясновыя званы,
Шыбуе па прасторах вецер.
Абтрос ён з дрэў аковы-сны
І вольна гойдаецца ў вецці.

Ён — кампазітар, дырыжор,
Як на цымбалах, грае ў голлі.
Пад кіраўніцтвам «мэтра» хор
Спявае гімны ў наваколлі.

Гучыць сімфонія вясны,
І што ні гук — акорд ці нота.
Чаруюць срэбныя званы —
Спяваць і жыць ад іх ахвота.

Аляксандр ВАШЧАНКА



# КАРАЛІ, СВІТА І ПРОСТЫ ЛЮД...

*Павучальныя гісторыі часоў Грунвальдскай бітвы*

## Гнеў вялікага князя Вітаўта

У чацвер пасля дня святога Іаана Хрысціцеля, у год Гасподні 1410 Уладзіслаў, кароль польскі, з апалчэннем і рыцарскімі атрадамі сваіх войскаў выступіў з Вальбожа на бітву з крыжакамі, зрабіў першы прыпынак у Любохні, другі — у Высакініцах, а ў суботу стаў лагерам ля архібіскупскай жалезнай рудні і вялікай рыбнай сажалкі пад назвай Сейміцы. Рыбы было столькі, што ваяры голымі рукамі налавілі мноства лінёў, карасёў, шчупакоў, язёў, краснапёрак і нават здабылі некалькі вугроў. Не паспелі яны раскласці вогнішчы і падсмажыць рыбу, як пачалася страшэнная навальніца. Пэўна, сам Пяркун, раззлаваўшыся на непрынесеную яму ахвяру, пачаў грымець сваімі жорнамі і шпурляць маланкі. Тры стралы Перкуна трапілі ў сажалку і забілі мноства рыбы. Было перабіта шмат коней, якія ў жаху насіліся па полі. Маланка забіла аднаго рыцара і параніла другога. Рыцар Дабеслаў з Алясніцы, роўных якому не было на рысталішчах Еўропы, разам з сябрамі сядзеў у палатцы за талеркай смажанай рыбы, што стаяла на стале перад шматлікімі едакамі. Раптам маланка ўдарыла ў срэбную талерку, расплавіла яе, раскідала рыбу, але нікому з прысутных не прычыніла шкоды. Дабеслаў, які не страціў прысутнасці духа, наліў у чаркі добрага венгржына і сказаў:

— Сябры, давайце вып’ем за тое, каб святы Станіслаў і Матка Боска ахоўвалі нас у будучых бітвах так, як яны абаранілі нас зараз ад стралы Перкуна. З намі хросная сіла!

— Ува векі вякоў!

---

*__Вашчанка Аляксандр Пятровіч__ нарадзіўся 2 студзеня 1951 года ў вёсцы Дварэц Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў літаратурна-музычны факультэт МПІ імя М. Горкага (1974). Служыў у войску, працаваў у СШ № 3 г. Мінска загадчыкам кафедры народных інструментаў і навуковым кіраўнікам інавацыйнага праекта «Этнашкола».*

*Аўтар кніг прозы «Свечка на дажджы» (2003), «Хлопчык Лёкса і Купальскі Дзядок» (2005), «Апошняе паляванне Марэны» (2014), «Беларуская нацыянальная кухня» (2015), «Беларуская кухня» (2017). Укладальнік і перакладчык кнігі П. М. Шпілеўскі «Беларусь у абрадах і казках» (2010), укладальнік кніг Адам Багдановіч «Я всю жизнь стремился к свету…» (2012) і «Мікола Лобан. Выбраныя творы» (2016).*

У панядзелак, на наступны дзень пасля дня святых Пятра і Паўла, па наведзеным праз Віслу мосце крыху вышэй Чэрвінскага манастыра пачалі перапраўляцца войскі. Першым рушыла войска караля Польшчы Уладзіслава Ягайлы з коннымі рыцарамі, калёсамі, нагружанымі бамбардамі, ядрамі, харчам і іншым вайсковым рыштункам. Затым перайшлі войскі абодвух князёў Мазовіі Януша і Земавіта, а таксама наёмныя рыцары. Апошнімі пераходзілі войскі князя Вітаўта і саюзная яму татарская конніца на чале з сынам хана Тахтамыша Джэлал-ад-Дзінам. Тры дні доўжылася пераправа войск праз цуд фартыфікацыі таго часу — плывучы мост, пабудаваны на лодках. Будаваўся ж гэты мост у Казеніцах на каралеўскія сродкі таемна нейкім умелым майстрам Яраславам, які патраціў на яго пабудову ўсю зіму. Калі пасол і таемны рыскун вугорскіх баронаў Дабеслаў Скарачоўскі расказаў кіраўніцтву ордэна крыжакоў аб бачаным ім мосце, то яму ніхто не паверыў: не існавала яшчэ ў тыя часы нічога падобнага.

Аб'яднанае войска знаходзілася ля паселішча Бендзіна над ракой Вкрой. Гэтая мясцовасць некалі належала княству Мазовіі, але была закладзена за пяць тысяч марак князем Земавітам магістру Прусіі. Таму літоўцы і татары спусташалі гэту вобласць як варожую, з варварскай жорсткасцю забіваючы не толькі дарослых, але і падлеткаў і нават немаўлят, якія плакалі ў калысках. Іншых жа з іх маткамі яны сілком адводзілі ў палон у свае намёты, хоць усе жыхары гэтай вобласці былі людзьмі польскага племя і мовы. Маці толькі што забітых немаўлят прыходзілі да каралеўскага шатра з распушчанымі валасамі і з гучнымі крыкамі аплаквалі забойства сваіх дзяцей. Усхваляваныя гэтым біскупы і польскія шляхціцы прыйшлі да караля, просячы спыніць варварскую жорсткасць і вярнуць палонных іх родным. Яны заявілі, што ў адваротным выпадку пакінуць ваенную службу. Паслухаўшыся іх, Уладзіслаў, кароль Польшчы, з Аляксандрам, вялікім князем Літвы, загадалі (і гэта было правільна) вызваліць палонных і затым, сабраўшы іх усіх да шатра біскупа пазнанскага Альберта Ястшэмбца, вярнуць родным. Акрамя таго, яны прызначылі смяротнае пакаранне, калі паўторацца такія жорсткасці. Але ў той жа дзень адбыўся новы і нечуваны выпадак: бачачы, што літоўцы і татары рабуюць касцёлы і здзяйсняюць варварскія гвалты над жанчынамі і дзяўчатамі, а пры рабаванні аднаго з храмаў выкінулі з алтара святыя дары на пацеху і зганьбаванне, вяльможы і рыцары Польшчы з моцным болем у сэрцы і асцерагаючыся, што з-за такіх гнюснасцей і самі яны, і ўсё войска панясе кару справядлівым Божым судом, з паўторнай скаргай прыйшлі да Уладзіслава, караля Польшчы, і Аляксандра, вялікага князя Літвы. Яны распавялі пра варварскія жорсткасці, заяўляючы, што ніякім чынам не патрываюць іх. Сказалі, гэта не будзе спынена і вінаўных не пакараюць, то не стануць пад сцягі, пакуль не здзейсніцца належная адплата. Разгарачаны іх крыкамі і рэзкімі нападкамі, кароль Уладзіслаў загадаў знайсці рабаўнікоў касцёлаў і апаганшчыкаў найсвятых дарункаў. З ліку найбольш вінаватых былі прыведзены двое літоўцаў, якія не пакінулі сваіх язычніцкіх звычаяў і двое нехрысцяў-татар. Князь Вітаўт падышоў да рабаўнікоў, якія ўпалі перад ім на калені, і, утаропіўшы на іх цяжкі позірк, які, здавалася, утопча іх у зямлю, сказаў:

— Загадваю вам павесіць саміх сябе. І чым хутчэй вы гэта зробіце, тым лепей для вас, інакш я прыдумаю такую кару, якой яшчэ не бачылі нябёсы. А для вас, — звярнуўся ён да татар, — пакаранне прызначыць Джэлал-ад-Дзін. Выконвайце! Час пайшоў!

Як жа замітусіліся літоўцы! Ім хацелася ўжо вісець на шыбеніцы, бо яны ведалі, што гнеў князя Вітаўта бязмежны. Яны ўласнымі рукамі зрабілі шыбеніцы, узышлі на лаўкі і самі накінулі на свае шыі петлі. Пры гэтым кожны з іх падганяў другога, які, здавалася, занадта марудзіць выканаць загад, пакуль гнеў вялікага князя не разгарэўся мацней. І, пэўна, яны супакоіліся толькі тады, калі нагамі адштурхнулі лаўкі... Татар жа Джэлал-ад-Дзін загадаў прывязаць за ногі да коней і разарваць надвая.

Усё войска бачыла гэтае пакаранне, і такі страх напаў пасля гэтага на ўсіх, што ніхто ўжо не адважваўся здзяйсняць гвалты і рабаванні.

* * *

- ✓ *Мараль першая: за рабаванне бывае пакаранне.*
- ✓ *Мараль другая: ніводную вялікую справу нельга пачынаць з благога ўчынку.*

## Баязлівы рыцар

У аўторак 15 ліпеня 1410 года, у дзень рассейвання апосталаў, на палях блізу паселішчаў Таненберг і Грунвальд адбылася самая значная бітва сярэднявечча паміж аб’яднанымі войскамі польскага караля Уладзіслава Ягайлы і літоўскага князя Вітаўта з войскам крыжакоў вялікага магістра Ульрыха фон Юнінгена, пад харугвамі якога змагаліся рыцары большасці хрысціянскіх краін Еўропы. Калі два войскі з лютымі воклічамі і лаянкай на ўсіх жывых і мёртвых мовах народаў Еўропы і Азіі сышліся сярод раўніны, то ляскат мячоў і страшэнны шум ад дзід і ўдараў аб даспехі былі чутны на адлегласці многіх міль. І нельга было адрозніць нясмелага ад адважнага, мужнага ад баязліўца, бо тыя і іншыя згрудзіліся ў нейкі клубок і было нават немагчыма ні змяніць месца, ні прасунуцца на крок, пакуль пераможца, скінуўшы з каня ці забіўшы суперніка, не займаў месца пераможанага. І доўга нельга было зразумець за каго Марс. З абодвух бакоў пала мноства ваяроў, але войска крыжакоў панесла больш цяжкія страты рыцарамі, а да таго ж яго харугвы змяшаліся і правадыры іх былі перабіты. Цела вялікага магістра Ульрыха з дзвюма ранамі (адной — у лоб, другой — у грудзі) ляжала сярод сотняў паўшых крыжакоў. Было перабіта ўсё камандванне ордэна: вялікі комтур Фрыдрых Валенрод, вялікі маршал Конрад Ліхтэнштэйн, камандоры Іаган фон Зейн торуньскі, граф Іаган фон Вендэ меўскі, Арнольд фон Бадэн члухаўскі і ўсе найслынныя рыцары прускага войска. Астатняя маса крыжакоў павярнула назад і, паказаўшы тыл, кінулася наўцёкі. Сярод самых імклівых уцекачоў быў камандор эльбінгскі пыхлівы Вернер Тэцінген, які за некалькі гадзін да таго ўпікаў вялікага магістра за прамаруджванне з пачаткам бітвы. Збегшы з месца лютай сечы і дасягнуўшы Эльбінга, ён прыскакаў у свой радавы замак. У каміннай зале яго сустрэла жонка, белакурая Эльза. Радасці на яе твары Вернер не ўбачыў.

— Эльза, мая багіня, я так спяшаўся да цябе! Прыйдзі ў мае абдымкі!

— Пачакай. Спачатку адкажы: з чым ты спяшаўся да мяне, Вернер? З горам ці з радасцю?

— З горам, мая каханая, усё наша войска разбіта, вялікі камандор забіты…

— А чаму ты тут, а не сярод загінуўшых ваяроў?

— Я не хацеў паміраць. Я хацеў да цябе.

— А дзе твой рыцарскі гонар? Ты згубіў яго на полі пад Грунвальдам. Вярніся ж і забяры яго.

З гэтымі словамі Эльза выйшла з залы.

Але ўпарты Вернер не страціў надзеі. Ноччу ён увайшоў у спальню.

— Эльза, я прышоў выканаць абавязак твайго мужа.

— Добра. Дай мне ключ, я хачу сама адамкнуць замок пояса цнатлівасці, які ты надзеў на мяне перад паходам.

— Вось ён, вазьмі.

Эльза ўзяла ключ, падышла да акна і шпурнула ключ у хвалі бяздоннага возера.

— Вось так, Вернер. Лепш маё лона ніколі не будзе ведаць мужчыны, чым я аддамся баязліўцу.

Абраджаны рыцар не мог больш заставацца ў родным замку. З натоўпам уцекачоў ён трапіў у Марыенбург, сталіцу ордэна крыжакоў. Але і там у вачах былых паплечнікаў ён бачыў толькі агіду і пагарду. Кажуць, што ён крануўся розумам і падчас асады Марыенбурга памёр ад голаду.

* * *

✓ *Мараль першая і адзіная: жанчыны любяць смелых і не даруюць баязлівасці.*

## «Каралеўскі» ўчынак Уладзіслава Ягайлы

Раніцай 15 ліпеня года Гасподня 1410 войскі крыжакоў і палякаў з ваярамі Вялікага Княства Літоўскага стаялі ў баявым страі на полі пад Грунвальдам насупраць адзін аднога на адлегласці не большай за палёт стралы. Але бітва не пачыналася. Кароль Уладзіслаў у сваім шатры, які доўга не маглі разгарнуць з-за моцнага ветру, з глыбокай павагай праслухаў дзве абедні, адслужаныя яго духоўнікамі — Барталамеем, святаром клабуцкім, і Яраславам, калішскім плябанам. Не здаволіўшыся гэтым, ён схіліўся на доўгі час у малітве і прасіў цара нябеснага, каб сыход бітвы быў шчаслівы для яго, яго народа і хутчэй наступіла доўгачаканая перамога над лютым ворагам.

Ульрых фон Юнінген таксама не рашаўся пачаць бітву першым. Абодва ведалі, што на гэтым полі вырашаецца іх асабісты лёс і лёс іх краін на многія дзесяцігоддзі, а то і стагоддзі, наперад.

І тут каралю Ягайлу паведамілі, што да яго прыбылі два герольды ад вялікага магістра. Аказаўшы каралю належную павагу, герольды выказалі на нямецкай мове мэту свайго пасольства, прычым перакладаў Ян Менжык такім чынам: «Найсветлы кароль! Вялікі магістр Прусіі Ульрых дасылае табе і твайму брату (яны знарок не назвалі як імя Аляксандра, так і званне князя, каб абразіць таго) праз нас, герольдаў, якія прысутнічаюць тут, два мячы як заахвочванне да хуткай бітвы, каб ты з імі і са сваім войскам неадкладна і з большай адвагай, чым ты выказваеш, уступіў у бой і не ўтойваўся даўжэй, зацягваючы бітву і адседжваючыся сярод лясоў і гаёў. Калі ж ты лічыш поле цесным і вузкім для разгортвання твайго строю, то магістр Прусіі Ульрых, каб выклікаць цябе на бой, гатовы адступіць, наколькі ты жадаеш, ад роўнага поля, занятага яго войскам; ці абяры любое Марсава поле, каб больш не ўхіляцца ад бітвы».

Так сказалі герольды. І ў самы момант гэтай аб’явы было заўважана, што

войска крыжакоў, у пацвярджэнне сказанага герольдамі, адступіла на значную адлегласць, каб відаць было, што яно на справе пацвярджае пэўнасць заявы герольдаў. Гэта заява была, вядома, глупствам, але Уладзіслаў, кароль Польшчы, выслухаўшы дзёрзкае і ганарыстае пасольства крыжакоў, прыняў мячы з рук герольдаў без усякага раздражнення і даў такі адказ: «Хоць у мяне і майго войска досыць мячоў і я не маю патрэбы ў варожай зброі, аднак дзеля большай падтрымкі, аховы і абароны маёй справы справядлівай і гэтыя пасланыя маімі ворагамі, якія прагнуць маёй і майго народа крыві і знішчэння, два мячы, дастаўленыя вамі, я прымаю ў імя Бога і звярнуся да яго як да найсправядлівейшага суддзі, да яго маці, панны Марыі, і заступнікаў маіх і каралеўства майго, святых Станіслава, Адальберта, Венцаслава, Фларыяна і Ядвігі. Я буду маліць іх звярнуць гнеў свой на дзёрзкіх і ганебных ворагаў; бо іх нельга суцішыць і ўлагодзіць ні справядлівасцю, ні пакорай, ні прапановамі маімі, пакуль яны не пральюць кроў, не раздзяруць чэрава і не надзенуць нам на шыю ярма». Сказаўшы гэта і перадаўшы герольдаў пад ахову рыцара Дзівіша Мажацкага, герба Яліта, кароль надзеў шлем і ў імя Госпада загадаў войску выступаць і даць сігнал да бою, а рыцарам — пачынаць бітву.

Такім чынам, кароль, надзеўшы даспехі, сеў на каня і без усякіх каралеўскіх знакаў (за выключэннем таго, што перад ім неслі сцяг малога памеру з вышытым на ім белым арлом) узышоў на высокі ўзгорак, каб агледзець варожае войска. А да гэтага на ваенным савеце было вырашана, каб Уладзіслаў, кароль польскі, акружаны світай і адборнай аховай з целаахоўнікаў і рыцараў, не станавіўся ні ў якую харугву і трымаўся ў выдаленым і надзейным месцы, невядомым не толькі ворагам, але нават сваім. У розных месцах былі пастаўлены таксама хуткія коні, змяняючы якіх, кароль мог бы пазбегнуць небяспекі ў выпадку перамогі ворагаў, таму што жыццё аднаго караля тады ацэньвалі ў дзесяць тысяч рыцараў.

Сцяганосцам малога каралеўскага сцяга з белым арлом быў Мікалай Маравец з Кунашоўкі, герба Павала. Сам жа атрад целаахоўнікаў складаўся з шасцідзесяці рыцараў-дзіданосцаў. Галоўнымі каралеўскімі целаахоўнікамі былі наступныя: Земавіт-малодшы, князь Мазовіі; літоўскі князь Фядушка са значным атрадам ваяроў і Жыгімонт-Карыбут, літоўскі князь (пляменнікі і стрыечны брат караля па бацьку). Акрамя таго, пры каралі былі: Мікалай, падканцлер каралеўства Польскага, герба Тромба; Збігнеў з Алясніцы, герба Дзенбна; Ян Менжык з Дамбровы, герба Вадвіц; чэшскі барон Ян Залава, герба Тавачаў; галоўны каралеўскі спальнік Беняш Веруш з Бялы, герба Веруша; Генрых з Рогава, герба Дзялоша; Збігнеў Чайка з Навадвора, герба Дзенбна, які нёс каралеўскую дзіду; чэх Ян Сокал і многія іншыя. Аляксандр жа Вітаўт, вялікі князь Літвы, які аддаў ахову свайго жыцця і волі аднаму Богу, часта змяняючы з нешматлікімі спадарожнікамі коней, раз'язджаў па ўсім як польскім, так і літоўскім войску. У целаахоўнікі яму маці Бірута прызначыла двух юнакоў-блізнят з вынішчанага крыжакамі славянскага племя люцічаў, татэмнай жывёлай якіх быў воўк. Напярэдадні бітвы з дапамогай замоў жраца і сакрэтнага напою яны ўпадалі ў транс і на адзін светлавы дзень атрымоўвалі сілу і спрыт ваўкоў. Любы з юнакоў на ляту лавіў стралу, голымі рукамі прабіваў латы рыцара і зубамі рваў глотку каню. Падчас бою ніводны волас не ўпаў з галавы князя, хаця ён знаходзіўся ў самых пякельных месцах. Вітаўт аднаўляў у многіх месцах разладжаныя шэрагі літоўскага войска, зноў ішоў у бой і гучным крыкам і воклічамі заахвочваў і падтрымліваў сваіх. Ён першым павёў свае харугвы ў атаку, і частка конніцы трапіла ў падрыхтаваныя крыжакамі ямы-пасткі. Асабліва люты націск адчулі на сабе рыцары Смаленскай зямлі,

якія зацята ваявалі, стоячы пад уласнымі трыма сцягамі. Хоць пад адным сцягам яны былі жорстка пасечаны і сцяг іх быў утаптаны ў зямлю, аднак у двух астатніх атрадах выйшлі пераможцамі, ваюючы з найвялікшай адвагай, як і належыць мужам і рыцарам, чым заслужылі сабе вялікую славу.

Тым часам як крыжакі сталі напружваць усе сілы для перамогі, вялікі сцяг польскага караля Уладзіслава з белым арлом (які нёс Марцін з Врацімавіц, харунжы кракаўскі, рыцар герба Паўкозіц) пад варожым націскам пачаў падаць на зямлю. Аднак дзякуючы вельмі дасведчаным і заслужаным рыцарам, якія знаходзіліся пры ім, сцягу не далі ўпасці, паднялі яго і ўзнеслі на месца. Калі б адборны атрад адважнейшых рыцараў не ўстаў каля яго грудзьмі, абараняючы яго сваімі целамі і зброяй, то сцяг не ўдалося б зноў узняць. Каб загладзіць гэта ўніжэнне і крыўду, польскія рыцары ў лютым націску кінуліся на ворагаў і ўсіх тых крыжакоў, якія сышліся з імі ў рукапашным баі, скінулі на зямлю і забілі.

Тым часам у бітву ўступілі шаснаццаць свежых варожых харугваў, якія яшчэ не выпрабавалі ваеннага шчасця. Павярнуўшы шэрагі ў той бок, дзе стаяў кароль Польшчы толькі з целаахоўнікамі, яны, здавалася, накіраваліся на яго, патрасаючы дзідамі. Рыцар прускага войска, немец родам, якога звалі Дзіпольд Кікерыц фон Дзібер з Лузацыі, з залатым пасам, у белым тэўтонскім плашчы, з ног да галавы закаваны ў даспехі, выскачыў на рудым кані з шэрагаў вялікай прускай харугвы, затым, падскочыўшы туды, дзе стаяў кароль, і трасучы дзідай навідавоку ўсяго варожага войска, якое стаяла пад шаснаццаццю сцягамі, здавалася, збіраўся напасці на караля. Кароль Уладзіслаў, імкнучыся адбіць яго напад, і сам узмахнуў дзідай, што па рыцарскіх законах азначала: ён прымае выклік. У запале бітвы Уладзіслаў Ягайла хацеў выскачыць на паядынак з крыжаком, але целаахоўнікі яму гэтага не дазволілі, чым выклікалі гнеў караля. Тады Збігнеў з Алясніцы, каралеўскі натарый, без даспехаў і бяззбройны, папярэдзіўшы ўдар, які пагражаў каралю, абломкам дзіды ўдарыў нямецкага рыцара ў бок і скінуў яго з каня на зямлю. Кароль Уладзіслаў падскочыў і стукнуў ворага, які ляжаў на спіне, дзідай у шлем на лбе, не прычыніўшы таму асаблівай шкоды, бо, як вядома, лбы ў крыжакоў амаль каменныя. Але хіба каралеўская гэта справа біць бездапаможнага рыцара дзідай у лоб? Каралеўскія целаахоўнікі тут жа забілі ворага, а пешыя ваяры знялі з яго зброю і даспехі. Подзвіг Збігнева заслугоўвае асаблівай пашаны; бо ён адважыўся без зброі і даспехаў напасці на ўзброенага з галавы да ног, юнак на мужа, і прытым яшчэ неспрактыкаваны ваяр — на заслужанага рыцара. Абломкам дзіды ён пераадолеў даўжэзную шасціметровую дзіду і, скінуўшы грознага ворага з каня, абараніў не толькі свайго караля, але і ўсё войска, бо раненне ці смерць караля былі раўназначны паразе.

Целаахоўнікі навыперадкі сталі ўзносіць перад каралём адвагу Збігнева, і Уладзіслаў, польскі кароль, сказаў:

— Мой храбры юнак, за твой гераічны ўчынак я хачу аперазаць цябе рыцарскім поясам і прызначыць сваім целаахоўнікам.

Збігнеў сціпла адказаў:

— Мой кароль, я даўно вырашыў застацца ваяром Хрыстовым, і ў гэтым бачу сэнс служэння сваёй радзіме, свайму народу і табе, найсветлы кароль.

Усхваляваны такім высакародным адказам, кароль Уладзіслаў сказаў:

— У гэтым ты абраў лепшую долю. І калі я застануся жывы, то не забудуся адзначыць цябе для абрання пэўным духоўным санам, каб узнагародзіць твой подзвіг.

І з гэтага часу кароль яшчэ больш палюбіў Збігнева, аказваючы яму перад усімі выключнае спрыянне і літасць. Затым, з цягам часу, аблашчаны ласкай караля, ён быў узведзены ў сан біскупа кракаўскага, пасля таго як здзейснены тады грэх (забойства рыцара) быў адпушчаны папам Марцінам Пятым.

* * *

- ✓ *Мараль першая: нават каралі павінны адказваць за свае ўчынкі.*
- ✓ *Мараль другая: смелага дзіда баіцца, смелага меч не сячэ.*

## Маму не чапай!

Пасля славутай перамогі, якая залатымі літарамі выбіта на скрыжалях гісторыі славянскіх народаў, князь Вітаўт сустрэўся са сваім стрыечным братам каралём Уладзіславам Ягайлам. Яны ўзнеслі хвалу Госпаду і панне Багародзіцы, якія даравалі перамогу іх войску. Вітаўт паведаміў аб тым, што ім захоплены ў палон двое братоў ордэна крыжакоў, а менавіта Марквард фон Зальцбах, брадэнбургскі камандор, і Шумберг. А трэба сказаць, што гэтыя крыжакі ў час спаткання паміж згаданым Аляксандрам, вялікім князем Літвы і магістрам ордэна каля Коўна на рацэ Нёмане крыўдна і бруднымі словамі абразілі князя Аляксандра і яго маці, кажучы, што яна быццам бы была не асабліва цнатлівай і іншы раз дазваляла сабе тое, што не павінна рабіць жонка вялікага князя Кейстута. Ускіпеў тады Вітаўт, схапіўся за меч, але крыжакі былі пасламі і калі б князь забіў іх, то войска ордэна адразу б напала на Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае, якія на той час яшчэ не былі гатовы да вайны. Таму сцярпеў Аляксандр, скрыпнуў зубамі так, што ў паслоў перакасіліся твары, і пакляўся адпомсціць за абразу. А ўсе добра ведалі, што з помстай вялікі князь ніколі не марудзіць.

Маці Вітаўта, прыгажуня Біруга, некалі была жрыцай-вайдэлоткай. Вайдэлоткі ў юным узросце прымалі клятву цнатлівасці, служылі ў храмах багіні Праўрымы і ахоўвалі нясгасны агонь зніч. Калі вайдэлотка парушыла клятву цнатлівасці, то яе голай вешалі на высокім дрэве або жыўцом закопвалі ў зямлю, а іншы раз зашывалі ў скураны мяшок з камянямі, коткай, сабакам і змяёй, на дзвюх чорных каровах везлі да Нёмана і кідалі ў ваду. А калі па нядбайнасці вайдэлотак згасаў агонь ля алтара Перкуна, то іх спальвалі, а агонь здабывалі з крэменя, які знаходзіўся ў руках ідала Перкуна, і жрацы, прыпоўзшы на каленах да алтара, зноў распальвалі зніч.

Бацька Вітаўта князь Кейстут падчас свята вясны, што завецца Суцінкай, убачыў юную жрыцу Біруту ў белым ільняным хітоне, які не мог схаваць акругласцей яе юнага цела, створанага для кахання, а не для цнатлівасці. І пагляд яе бяздонных блакітных вачэй, якія абяцалі зямны рай, разбіў сэрца Кейстута. Насуперак усім забаронам жрацоў ён той жа ноччу прабраўся ў храм багіні Праўрымы і выкраў пятнаццацігадовую вайдэлотку. А яна і не вельмі адбівалася, бо хмяльная веснавая ноч з пошчакам салаўёў і апладняльным крэктам жаб разбудзілі ў яе целе спрадвечны жаночы інстынкт. На наступны ж дзень жрэц швальгон абвянчаў маладых, і хутка юная жонка зразумела, што шлюбнае ложа нашмат больш прыемная рэч, чым негабляваныя дошкі ў храме багіні Праўрымы. Вядома, па жорсткіх законах таго часу Біруту трэба было разам з коткай, сабакам і змяёй зашыць у скураны мяшок з камянямі, на дзвюх чорных каровах адвезці да Нёмана і кінуць у бяздонны

вір, але ў каго падымецца рука на жонку вялікага князя? Таму Бірута спраўна нараджала Кейстуту дзяцей і зараз цяжка сказаць пра тое, ці мелі пад сабой нейкую выснову абразлівыя словы крыжакоў: не стаялі мы там са свечкай. Адно вядома, што вакол Біруты групавалася жамойцкая язычніцкая партыя і пасля забойства свайго мужа Ягайлам яна была асуджана «да ўтаплення» ў Нёмане. Але Біруце цудам удалося выратавацца, бо, кажуць, што сваім паглядам яна магла зачараваць любога, і зноў стаць жрыцай.

Вялікі князь Літвы Аляксандр сказаў каралю Ягайлу:

— Я адсяку галовы гэтым крыжацкім нахабнікам!

— А можа, у гонар нашай перамогі ты іх пашкадуеш?

— А ты б пашкадаваў, каб яны абразілі тваю маці?

— Што ж, рабі так, як падказвае тваё сэрца, я не супраць.

— Дзякуй.

Вітаўт вярнуўся ў свой лагер каля Маронга і загадаў даставіць двух палонных братоў ордэна крыжакоў. Але і закутыя ў кайданы камандоры не страцілі сваёй пыхі і нахабства.

— Што ты скажаш зараз Марквард фон Зальцбах? Можа, хочаш папрасіць прабачэння? — запытаўся Вітаўт.

— Нікольк не страшуся я цяперашняй долі; поспех схіляецца то на той, то на другі бок. Зменіцца шчасце і падорыць нам, пераможаных, заўтра тое, чым вы, пераможцы, валодаеце сёння. І прасіць прабачэння я не збіраюся, — ганарыста і нахабна адказаў ён вялікаму князю.

— Тваё слова, камандор Шумберт.

— За наша вызваленне ордэн заплаціць столькі золата, сколькі ты пажадаеш, і мы яшчэ сустрэнемся на полі брані, князь! — злосна выгукнуў Шумберт.

— Не, сустрэнемся мы не на полі, а ў апошні раз я ўбачу вас на памосце, дзе вы будзеце абезгалоўлены. Ніякім золатам вам не адкупіцца за нанесеныя мне і маёй маці абра́зы. Рыхтуйцеся да сустрэчы з Усявышнім!

Спахмурнелі крыжакі і не знайшлося ў іх слоў, каб годна адказаць вялікаму князю.

І вось у наступную ж нядзелю, у дваццаты дзень ліпеня года Гасподня 1410 у лагеры каля Маронга кат адсек галовы двум ганарыстым крыжакам.

* * *

- ✓ *Мараль першая: хаця і кажуць, што жыццё падобна на скуру зебры, але не заўсёды можна дачакацца белай палоскі.*
- ✓ *Мараль другая: маму не чапай!*

## Страчаная надзея вялікага князя Вітаўта

Шмат славутых подзвігаў здзейсніў за сваё жыццё вялікі князь Вітаўт. Жорсткіх і крывавых учынкаў у яго таксама хапала. Ён быў сапраўдным валадаром свайго часу, калі для дасягнення пэўнай мэты не грэбавалі ніякімі сродкамі. Здавалася, ён дасягнуў усяго: багацця, пашаны, славы, але заставалася адна мара, якую князь доўгія гады песціў у сваім сэрцы: ён хацеў стаць каралём. Толькі тады Вялікае Княства Літоўскае магло здабыць сапраўдную незалежнасць і вызваліцца ад занадта цесных абдымкаў Польшчы. Для таго, каб каранавацца на тытул літоўска-рускага караля, Вітаўту патрабавалася згода

рымскага імператара, папы, а таксама падтрымка большасці каралеўскіх двароў Еўропы. І вось на свята Вадохрышча года Гасподня 1429 Вітаўт запрасіў да сябе ў Луцк гасцей з усёй Еўропы. З'ехаліся: кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла з кракаўскім біскупам Збігневам Алясніцкім і прыдворнымі, князь маскоўскі Васіль са світай, вялікі магістр ордэна крыжакоў Генрых фон Плаўэн з братамі ордэна, імператар рымскі з багатай світай, мітрапаліт маскоўскі Фоцій, паслы ад імператара грэцкага і папы, а таксама яшчэ шмат каго.

Я там не быў, мёд-піва не піў, але летапісцы пішуць, што такога балю не было з часоў Нерона. Кожны дзень на пачастункі гасцям гатавалі сто зуброў, сто вепрукоў, сто ласёў, семсот быкоў і кароў, тысячу чатырыста бараноў, а ўжо колькі смажылі лебедзяў, дроф, фазанаў, глушцоў, цецерукоў і іншых птушак, а таксама рознай рыбы — гэтага не падлічыць. Гарэлкі ў тыя часы, на шчасце, яшчэ не ведалі, таму абыходзіліся больш звыклым пітвом: віном, мёдам, півам. Прычым, мёд быў стаўлены. Гэта калі мёд з борцяў лясных пчол на трэць разбаўлялі сокам брусніц, чарніц, суніц ці маліны (і ніякай вады!), пітво разлівалі па вялізных бочках, чакалі зброджвання, а потым бочкі закрывалі накрыўкамі, засмальвалі і на сорак год закопвалі ў зямлю або ставілі ў склеп. Вось толькі тады атрымоўваўся напой, гожы княжага стала. Літоўцы са здавальненнем пілі свае нацыянальныя напоі: алюс, паскайлес і зброджанае малако кабыл з крывёй гэтых жывёл. Я б назваў гэтае пітво «крывавы кумыс».

Госці балявалі ў Луцку 7 тыдняў. Калі нехта з гасцей не вытрымліваў ап'яняючага дзеяння напояў (а такіх хапала), то іх прыводзілі ў прытомнасць вельмі эфектыўным спосабам: для пачатку чалавека кідалі ў высечаную ў лёдзе палонку, а потым пераносілі ў лазню, дзе аголеныя юныя прыгажуні хвасталі яго бярозавымі венікамі. Звычайна пасля гэтага госць мог працягваць баль. Праўда, у некалькіх братоў ордэна не вытрымлівала сэрца, але не можаш піць — не бярыся за чарку. На трэці дзень балявання, калі разагрэтыя пітвом і пачастункамі госці перайшлі ад размоў пра палітыку на больш звыклыя для мужчын тэмы: пра жанчын, паляванне і гераічныя ўчынкі, князь Вітаўт з усмешкай сказаў вялікаму магістру:

— Генрых, магу паспрачацца з табой, што літоўская жанчына перап'е любога твайго рыцара.

— Такога не можа быць.

— Праверым?

— Праверым.

— Паклічце Гражыну з кухміцерскай, — загадаў вялікі князь.

— Паклічце Людвіка фон Аўшэнбаха, — загадаў Генрых фон Плаўэн.

Прыйшлі: звычайная жанчына сярэдніх год і магутны рыцар. Жанчына сціпла пакланілася каранаваным асобам, рыцар таксама схіліў галаў у паклоне.

— Бочку пайскалесу! — загадаў вялікі князь.

А трэба сказаць, што пайскалес — гэта вельмі хутка ап'яняючы мёд, для ўжывання якога патрэбна звычка. Віначэрпі напоўніў дзве паўгарчоўкі, кожная з якіх умяшчала дзве кварты (каля двух літраў) напою і падаў удзельнікам спрэчкі. Вітаўт махнуў рукой: «Пачынайце!»

Людвік чатырма магутнымі глыткамі асушыў сваю паўгарчоўку і, усміхаючыся, глянуў на жанчыну. Тая нетаропка, іншы раз цмокаючы языком ад задавальнення, выпіла напой. Віначэрпі зноў напоўніў посуд. Рыцар выпіў пайскалес у сем глыткоў, і Гражына, не спяшаючыся, з яўным задавальненнем зрабіла тое ж самае. У трэці раз напоўніўся посуд. Людвік выпіў напой за дзесяць глыткоў. Ён ужо не ўсміхаўся. Затое ўсміхалася жанчына, выпіўшы свой

пайскалес. Наступны тур. Рыцар цадзіў напой, торгаючы вялізным кадыком і, здавалася, мёд хоча вярнуцца ў паўгарчоўку, таму Людвік доўга яго «ўтоптваў», а Гражына на гэты раз выпіла першай. Зноў віначэрпі напоўніў посуд. Рыцар з пакутай глянуў на вялікага магістра.

— Давай, Людвік! Не падвядзі мяне! — падбадзёрыў Генрых фон Плаўэн свайго рыцара.

Той паражагнаўся, заплюшчыў вочы, зморшчыўся і сударгава маленькімі глыткамі пачаў цадзіць напой. Гражына выпіла мёд за сем глыткоў і з усмешкай глядзела на крыжака. Кадык рыцара з усхліпам тапельца торгнуўся ў апошні раз, і Людвік зваліўся на падлогу. Ашаломленыя крыжакі маўчалі.

— Якую ўзнагароду ты хочаш? — звярнуўся Вітаўт да Гражыны.

— Яшчэ кварту пайскалесу, — мой князь, — адказала Гражына. — Вельмі ўжо ён смачны!

Вітаўт засмяяўся і махнуў рукой у знак згоды. Віначэрпі напоўніў паўгарчоўку. Гражына асушыла посуд у чатыры глыткі, пакланілася і, напяваючы нейкую песеньку, выйшла з залы. Госці аслупянелі, калі не сказаць большага, і гэтая незвычайная спрэчка потым знайшла адлюстраванне ў рыцарскіх хроніках.

На каранацыю Вітаўта галоўныя асобы, ад якіх гэта залежала, — папа і імператар рымскі — згаджаліся, але супраць былі палякі. Збігнеў Алясніцкі, біскуп кракаўскі, аўтарытэт якога быў вышэйшы за каралеўскі, усімі сіламі стараўся перашкодзіць каранацыі. Ён нават угаварыў Ягайлу адступіць Вітаўту польскую карону. Але Вітаўт на гэта не пагаджаўся.

— Чаму, княжа? — спытаўся біскуп Алясніцкі. — Ці табе мала польскай кароны?

— Не, польскай кароны мне зашмат. Але розніца ў тым, што ў Вялікім Княстве Літоўскім маё слова — закон, а ў Польшчы любы дробны шляхціц сваім «не позво́лям!» можа на сойме адмяніць любы каралеўскі ўказ. І памяніце маё слова, браты палякі, гэта «не позво́лям!» яшчэ наробіць бяды!

Меў рацыю вялікі князь.

Але дзякуючы хітрыкам Збігнева Алясніцкага каранацыю адклалі на больш позні час, і госці раз’ехаліся, умовіўшыся з’ехацца ізноў у 1430 годзе. На другі год з’езд сабраўся ў Троках. Прыехалі ўсе госці, акрамя імператара рымскага, які паслаў карону Вітаўту з нарочнымі пасламі. Але Збігнеў Алясніцкі з рыцарамі падпільнаваў паслоў і адабраў у іх карону. Летапіс паведамляе: «І ляхове, не жычыўшы Літве, карону от ніх (паслоў) тую адабраўшы і рассекшы яе на полы (палавіны), прыложылі к коруне біскупа краковского, каторая і цепер пры замку і косцёле св. Станіслава ёсць». Вітаўт быў хворы. Гэтай новай няўдачы ён не перанёс і 27 лістапада года Гасподня 1430 памёр.

* * *

- ✓ *Мараль першая: падступніцтва мацнейшае за любыя пачастункі.*
- ✓ *Мараль другая: няздзейсненыя мары скарачаюць жыццё.*

***Гісторыі гэтыя ў размове за чаркай добрага венгржына з кракаўскім канонікам Янам Длугашам выслухаў і запісаў для вас вандруючы бард Вялікага Княства Літоўскага Лёкса з-пад Лукомля, герба Яліта.***



Алесь КАМАРОЎСКІ

# ХТО СЕЕ — У БУДУЧЫМ ЖНЕ

## ВАДА

Рвануўся з нетраў скарб багаты,
Па венах выведзеных труб
Пацёк у сонечныя хаты,
Каб наталіць аскому губ.

Вада цякла, вада хацела
Напоўніць сілаю скразной
Спякотай змучанае цела,
Каб уваскрэсла яно зноў.

А за акном, як прывід тайны,
У парыванні маладым
Кустоў і дрэў раслі фантаны,
Як знак магутнасці вады.

Гарачым летам і у замяць
І ў дзень, і ў год, і ў цяжкі век
Вада заўсёды мела памяць,
Якую рэзаў чалавек.

І ўсё ж цякла на дапамогу,
Каб каласіла і расло,
Яна асвечвала дарогу,
Яна наструньвала вясло.

---

***Камароўскі Аляксандр Адамавіч*** *нарадзіўся 1 сакавіка 1947 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісе «Маладосць», у выдавецтве «Юнацтва», у часопісе «Вясёлка», у філіяле музея Якуба Коласа ў Смольні.*

*Аўтар паэтычных кніг «Пачатак» (1975), «Зямля маіх надзей» (1988), «Валошкі памяці» (2002), «Азбука жыцця» (2010), аповесцей для дзяцей «Адкрытая тайна» (1979), «Заварожаны мяч» (1989), «Пенальці» (2000).*

Ёй у зямлі, напэўна, цесна…
Выходжу, п'ю яе ўзахлёб…
Дажджынкай — кропляю нябеснай —
Вада страляе проста ў лоб.

## БАЦЬКАЎ КУБАК

Яму б свой сад і поле песціць…
Ды стала млосна аж званам:
Сарваўшы мроі, на дасвецці
Аднойчы грымнула вайна.

Ланцуг франтоў цягнуў натужна —
Акопы, рвы і бліндажы, —
Каб толькі ворага адужаць,
Да перамогі каб дажыць.

Калі пяршыла ў горле сушка
І ноч адводзіла бяду,
Ён прыпаяў да гільзы вушка
І часта піў з яе ваду.

Дым ад снарадаў віўся клубам,
Калі вышыні, дзоты браў,
І франтавыя гэты кубак
Сто наліваў гаркавых грам.

Губляў сяброў… І сэрца ў бедах,
Здаецца, біла па лязу —
І цяжкі кубак часта зведваў
Яго гарачую слязу.

Дый сам, прыкусваючы губы, —
Хвала уменню дактароў! —
Падносіў к вуснам чорны кубак —
І бачыў гэты кубак кроў.

Еўропы цяжкую дарогу
Прайшоў, параніўшы свой лёс,
У рукзаку ён Перамогу
І кубак дзіўны нам прынёс.

Магіла — між бярозаў купак
І жаль балючы не міне…
На падаконніку той кубак —
Унукам памяць аб вайне.

## УСПАМІН

Аж утуліўся шэры помнік —
Такі раптоўна хлынуў дождж…
І ты з'явілася, як промнік:
Блакітны світар, белы клёш.

Вачэй тваіх дзве чорных вішні,
На скроні — лёгкі завіток…
Мае пачуцці сонцам выйшлі,
Запульсаваў у сэрцы ток.

Зірнула ты адкрыта, смела —
І збег з дажджынкамі ручай…
Мая душа аж анямела
І прашаптала: «Выручай…»

І з той пары ідзём шчасліва,
Разбіўшы смутак, боль нягод,
Напэўна, злітыя тым ліўнем,
Пераступаем з году ў год.

Ён, успамін той, не загіне…
Ды уяўляецца найбольш:
Ідзеш, прыгожая багіня, —
Блакітны світар, белы клёш.

## СЯБРАМ-УКРАІНЦАМ

Не знішчыць народаў асновы:
Хто сее — у будучым жне.
Красуе Шаўчэнкава слова,
Купалава песня жыве.

У радасці, горы і скрусе
Радства не завялі вянкі
І мова маёй Беларусі
З украінскай вабяць вякі.

На колішніх сумных руінах
Засцелеце новы абрус…
Няхай зноў жыве Украіна,
Няхай зноў жыве Беларусь!



Сяргей САВІН

# ПАМІЖ ДУБЛІКАТАМІ ПУЛЬСУ

## 1

ты так бінтавала крывю ў ваколіцы — як воск цела свечкі
супроць халодных эфіраў, адлітых з цыстэрны святла,
на палец нанізвала неба,
бы габрэйскія бежанцы
звыклыя хуткасць трымаць па цэльсію ветру

ты так бінтавала крывю ў ваколіцы —
як дождж вераснёвыя травы
наводдаль дарогі жыцця,
дзе цвікоў больш, чым людзей
дзе Панцеляймон тыкаў зялёнку
у бровы Ісуса,
за спінай трымаючы кветкі Марыі

ты так бінтавала крывю, што я слухаў,
як грукае пульс
і бачыў стамлёных жанчын,
што ходзяць крывёю, як лесвіцай
ты проста была той, якая чуе
унутраны блюз
у лякарні…
на кухні…
на брудных сходах

---

***Савін Сяргей Раманавіч*** *нарадзіўся 2 мая 1997 года ў горадзе Магілёў-Падольскі Вінніцкай вобласці (Украіна). Студэнт інстытута журналістыкі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Т. Шаўчэнкі. Працаваў pr-менеджарам, экскурсаводам, літаратурным агентам. Друкаваўся ў часопісах «Полесадник», «Кременчук літературний», міжнароднай анталогіі паэзіі «Terra poetica».*

**2**

праслухоўка гукаў збірала хрыпы
праз бетонны плот трынаццаціпавярховак,
калі на адным з паверхаў
яна дыхала яму ў паўднёвае вуха

тады іхнія погляды разбіваліся,
бы апельсіны, што коцяцца з грузавікоў,
і яны цалаваліся — так, стабільна,
ды неяк скупа

між імі быў эндасімбіёз —
калісь гукавы, звонку — біялагічны,
дзе гуртажыткі ядналі ўсю ўрбаністыку
між рухамі пальцаў,
дзе кожнае збудаванне
дацягнецца неба —
як па дратах тэлефонаў музыкі,
што ніколі не стануць каханкамі

яны прыдумвалі басаногія гукі
навобмацак, бы студэнты далёкіх кансерваторый,
і кожны шанец памерці ад музыкі
заканчваўся не па-англійску,
калі іхнія погляды разбіваліся,
як апельсіны фантасмагорый
ён цалаваў яе
з вытрымкай
ірландскага віскі…

**3**

перавязаў памяць як крывацёк у будынку,
дзе стагоддзямі не было бінтоў,
і улагоджваў парасткі пяшчоты на пакорных збітых каленках
я хацеў аберагаць тваю кроў — як грунт цемры для кратоў,
моўчкі маскіруючы святло на чорных сценах

я хацеў аберагаць твае веі ад напругі,
што высахла на вятрах,
як кропкі вільгаці ад спёкі сілаба-тонікі
калі ты ўсміхалася сонцу — промні хаваліся на слупах,
адчуваючы рэўнасць і небяспеку

калі ты падала ў непатрэбнае цела —
як вірус чужых рэакцый у крывю,

і знаходзіла прытулак у кожнай пасудзіне
як у Сімоне дэ Бавуар,
я перавязваў памяць як крывацёк нямых пабудоў,
хоць і ведаў, што яе чакае сто восьмы ўдар

**4**

яна адчувала мільёны гукаў сярод мільярда літар,
як будаўнікі — цыгарку пад волкім цэментам
дзяўчынка ў арт-прасторы акустыкі і расстанняў,
ты як мора стамілася ад гукаў
у сваёй плацэнце

і колькі б ты ні маўчала — у хаосе арта чужых дажджоў,
і колькі б ты ні трымала папяросу — як нябожчыка ў апошні раз,
я буду чуць твой голас ТАМ, дзе божа вязе калачы,
я буду чакаць твой голас там, дзе яшчэ не памерлі пеўні

дзяўчынка ў прасторы арта часу, дзе абыякавыя лічбы маўчаць
у тэхнічных саркафагах дваццаць першай эпохі,

ты працягваеш верыць гуку
як у Пастэрнака яшчэ верыць свечка,
папярэдне інтуітыўна вывучыўшы яго крокі

дзяўчынка, мілая дзяўчынка, гэты вечар — музычны маршрут
не змантаваны, неабрэзаны, дзе гукі твае і нічые,
і кожны фрагмент — унісон усіх адкупленняў,
і кожная ілюзія — рух па дзявятай хвалі

**5**

«узброеная жанчына! як рэдка жывеш між туманамі?» —
крычалі табе мужчыны з найвышэйшых мацерыкоў
ты ўставала на дыбачкі стомы, што ў чарзе дажджылі ранамі
на целе скурчаных небам
неспадзяваных самалётаў

нябачная жанчына, над якімі ты плакала вершамі,
калі Бог заглыбляў у лёсе халодных мужчын?
час ад часу рабілася жорсткай,
як гадзіннік над прастытуткамі,
калі стрэлка мезенца ў трэшчыне
шукала сваіх бацькоў

**6**

і колькі б ні было апафеозу — я вярнуся ў сваё метро,
дзе кожная галіна прачынаецца мегаполісам,
дзе няма адліку паміж шрыфтам Брайля і умаўчаннем кропак,
дзе інквізіцыя не трымае, а калі трымае — вельмі хваравіта
і колькі б ні было стандартаў — я жыў для цябе проста, без межаў,
нягледзячы на інерцыю інтэршуму — і тысячы галасоў
а ты збягала ў аазіс далоняў, які ніколі не пяройдзеш
за табой, трымаючы не анёлаў — а сотні мастоў
і я прывыкаў да цябе — ведаеш — як сляпы да незнаёмых рук,
як малы ўпершыню ў царкве — з крыжыкам без грахоў
Бог, пэўна, хацеў зрабіць мяне з хімічных злучэнняў,
ды перадумаў —
і занёс… да Ісуса
ў хлеў

**7**

калі самалёт рухае неба — у напрамку страўніка-паветра
і цені ад хмар звісаюць, як транспарт паміж пеклам і раем,
дзе зрок анулюе пошук шрыфтоў да агляду святла,
ведай, што цемра свеціць тым, хто яе абірае

і хоць маю бясспраўнае права, мой выбар — глыбокі красавік
яго адлічваў на каленях, дзе мог адчуваць прытулак
а потым — рэгулярныя анексіі
асудзіце мяне неафітам
з рэзусам Дарыяна — у групе жывой сутнасці

вясна разбіваецца ў рытмах, высмоктвае з лета крывю
яго капіляры сохнуць і дозы паветра забіты вуснамі
без сну і паўтарэнняў у адну з рэк Геракліта
нырца даю сляпой рыбінай
якая ніколі не навучыцца хадзіць

***Пераклад з украінскай Юліі АЛЕЙЧАНКА.***



# ВЯРТАННЕ «ЗАБУГОРНАГА ПІСАКІ»

*Творчасць пісьменніка незвычайнага жыццёвага лёсу Гайто (Георгія) Іванавіча Газданава не так даўно стала вядомай на яго радзіме, у Расіі, якую ён пакінуў у гады Грамадзянскай вайны. Яна адносіцца да часу эміграцыі пісьменніка. Усе прыжыццёвыя публікацыі былі раскіданы па старонках рускамоўных часопісаў Францыі.*

*А нарадзіўся Газданаў у Пецярбургу ў 1903 годзе ў сям'і лесавода. Бацька і маці — асяціны, выхаваныя ў рускай культуры. Газданавым даводзілася часта пераязджаць з месца на месца, яны нядоўгі час жылі ў Сібіры, у Цвярской губерні, потым у Беларусі (у адным з апавяданняў згадваюцца «лугі Беларусі, рака Свіслач, Мінск»), і досыць доўга — у Палтаве і Харкаве. У Палтаве Газданаў вучыўся ў кадэцкім корпусе, а ў Харкаве — у гімназіі. Схільнасці да мастацкай творчасці тады ў яго яшчэ не было, але ў часы вучобы многа чытаў, набыў шырокую эрудыцыю.*

*У 1919 годзе, у няпоўныя 16 гадоў, Газданаў пайшоў добраахвотнікам у Белую армію, пасля вайны апынуўся ў эміграцыі. З 1923 года жыў у Парыжы, працаваў партовым грузчыкам, мыйшчыкам паравозаў, слесарам на аўтазаводзе, настаўнікам французскай і рускай моў, начным таксістам. Першы яго твор, раман «Вечар у Клэр», які выйшаў у 1929 годзе, быў высока ацэнены І. Буніным і М. Горкім. Газданаў — аўтар дзевяці раманаў, 37 апавяданняў, кнігі нарысаў «На французскай зямлі», а таксама дзясяткаў літаратурна-крытычных артыкулаў, рэцэнзій. Яго проза вызначаецца глыбокім псіхалагізмам, філасафічнасцю, тонкай настраёвасцю, вольнай манерай аповеду, яна нечым блізкая да прозы І. Буніна, А. Купрына, С. Маэма, А. Маруа. Пісаў Г. Газданаў пераважна пра жыццё рускіх эмігрантаў. Звыш дваццаці гадоў працаваў на радыёстанцыі «Свабода», якая вяла вяшчанне на Савецкі Саюз і лічылася «падрыўной, антысавецкай». Нягледзячы на тое, што Газданаў вёў там літаратурны аддзел, не займаўся «паклёпам на першую ў свеце краіну сацыялізму», ніколі не пісаў дрэнна пра рускіх, наадварот, у дакументальнай аповесці «На французскай зямлі» станоўча апісваў удзел у французскім Супраціўленні савецкіх салдат, якія ўцяклі з фашысцкага палону і сталі партызанамі. Кляймо «забугорнага пісакі» заставалася на ім нават нейкі час пасля распаду СССР, вось чаму ён не стаў вядомы ў Расіі адразу пасля вяртання многіх іншых забытых імёнаў. Спадчына Г. Газданава ў постсавецкай Расіі была паступова збольшага сабрана, ужо выйшлі як асобныя зборнікі, так і два (трох- і пяцітомны) зборы яго твораў.*

*Прапаную чытачам «Полымя» ў маім перакладзе апавяданне «Лёс Саламеі», напісанае Газданавым у 1957 годзе.*

***Міхась КЕНЬКА***

## Гайто ГАЗДАНАЎ

# ЛЁС САЛАМЕІ

Я пазнаёміўся з Андрэем яшчэ ў часы студэнцтва, у Парыжы. Ён быў досыць здольным чалавекам: некаторыя з яго малюнкаў былі вельмі высока ацэнены дасведчанымі людзьмі, якія звычайна ў сваіх ацэнках не памыляліся і якія прадракалі Андрэю бліскучую будучыню. Тыя дзве ці тры паэмы, якія ён напісаў за некалькі тыдняў, былі не менш выдатнымі, чым малюнкі. Нεставала ў яго хіба толькі творчай або духоўнай сілы, каб давесці хоць што-колечы да канца, і час паказаў, што і тыя, хто ацаніў яго малюнкі, і тыя, хто лічыў цудоўнымі яго паэмы, жорстка памыліліся, але не ў сваіх развагах пра іх эстэтычныя вартасці, а ў тым, што Андрэю была наканавана бліскучая будучыня ў жывапісе ці літаратуры. Але ў тыя далёкія часы мы ўсе верылі ў будучыню, і Андрэй у гэтым сэнсе не быў выключэннем. Развагі пра мастацтва мелі ў ягоным жыцці вельмі значную ролю. Ды ўсё ж галоўнае месца ў яго існаванні займалі тыя бурлівыя пачуцці, якія ён быў схільны перажываць і якія адцяснялі пытанні мастацтва на іншы план.

Прыблізна ў гэтыя ж часы ў Лацінскім квартале і на Манпарнасе стала паяўляцца жанчына, якой было наканавана сыграць у жыцці Андрэя вельмі важную ролю. Калі яна аднойчы праходзіла па кафэ, падняўшы галаву і прама гледзячы перад сабой, адзін з нашых сяброў сказаў, што яна падобная на Саламею. З тых часоў ніхто з нас яе інакш і не называў. Між іншым, у гэтай прыкмеце было нешта вельмі дакладнае: збоку выдавала, што гэтая жанчына сапраўды нясе ў руках нябачны паднос. Яна была вельмі прыгожая. Прыгожая настолькі, што нават яе недарэчны грым (замест броваў у яе былі дзве тонкія лініі, намаляваныя чорным алоўкам, яны рэзка загіналіся ўгору), вусны яна фарбавала кармінам, у якім пераважаў фіялетавы колер. Нават гэты грым не ствараў таго жудаснага ўражання, якое ён павінен быў бы ствараць. Валасы ў яе былі пафарбаваны ў бледна-жоўты колер. Пазней, пазнаёміўшыся з ёй бліжэй, я даведаўся, што кожную раніцу яна шчыравала над сваім тварам не менш, чым акцёр, які грыміруецца перад выхадам на сцэну. Гэта, зрэшты, не перашкаджала ёй паўтараць, што яе знешнасць зусім не цікавіць. Але вядома, калі б усё абмяжоўвалася толькі яе выглядам, яна ніколі не мела б таго поспеху, які суправаджаў яе ўсюды, дзе яна з’яўлялася. Прозвішча яе была Martin (Марцін), па-французску яна гаварыла з памылкамі і акцэнтам. Martin яна была па мужу, якога мы ніколі не бачылі і пра якога дагэтуль нічога не ведалі. Калі гаворка заходзіла пра яго, яна казала, што яго больш не існуе, менавіта так — il n’existe plus, — хоць гэта зусім не значыла, што ён памёр. Сама яна па нацыянальнасці была румынкай, у дадатак, здаецца, з прымесямі цыганскай і яўрэйскай крыві. Яна паступіла на гісторыка-філалагічны факультэт Сарбоны ў якасці вольнаслухачкі, таму што, паводле яе слоў, у яе былі нейкія непаразуменні з атэстатам сталасці. Праз некаторы час я зразумеў, што гэтага атэстата ў яе ніколі не было і не магло быць, хоць яна і казала, што скончыла нейкую сярэднюю навучальную ўстанову ў Румыніі. Яна не ведала такіх рэчаў, як хуткасць святла, розніца паміж арыфметычнай і геаметрычнай прагрэсіяй, лагарыфмы або закон прыцягнення. Але ў галіне мастацтва ў яе былі пазнанні гэткія ж шырокія, як і нечаканыя. Зрэшты, яе цікавіла толькі гэта, усё астатняе здавалася ёй не вартым увагі. Грошай у яе было вельмі мала, жыла ў невялі-

кай гасцініцы Лацінскага квартала. Адкуль атрымлівала тыя бедныя сродкі на жыццё, якія ў яе былі, таксама доўга было невядома, і толькі аднойчы зусім выпадкова высветлілася, што некаторую суму кожны месяц ёй дасылаў той самы былы муж, якога, як яна казала, не існавала. Ёй было ў гэтыя часы дваццаць два ці дваццаць тры гады.

Я думаю, адзінае, чаго яна зусім, здавалася, не выносіла — гэта прастаты. Прастата ў мастацтве або ў чалавечых адносінах ёй здавалася чымсьці зневажальна прымітыўным. Гэта выяўлялася нават у самых звычайных размовах — яна, напрыклад, ніколі не адказвала на пастаўленае ёй пытанне: «Ты будзеш заўтра ва ўніверсітэце?»

Яна, як быццам, была проста няздольная прама адказаць — так, буду, — ці не, не буду. Яна казала: «Чаму гэта цябе можа цікавіць?» альбо: «Хіба табе не ўсё роўна?» Таму нават нядоўгі час, праведзены з ёй, стамляў, нягледзячы на тое, што з ёй было калі-нікалі цікава пагаварыць.

У яе былі вялікія шэрыя вочы з нязменна сярдзітым выразам, і нават у яе смеху заўсёды чулася адценне нейкага незразумелага і, па сутнасці, беспрадметнага гневу. Мноства яе ўчынкаў вызначалася раздражняльнай непаслядоўнасцю. Яна дамаўлялася з кім-небудзь ісці ў кінематограф, па яе заходзілі ў гасцініцу, а яе не аказвалася дома, ці яна пакідала запіску — я перадумала. Абяцала прыйсці і не прыходзіла. Але іншым яна ніколі не даравала ні непаслядоўнасці, ні недакладнасці. Ёй жа гэта часцей за ўсё даравалася — таму што ні ў каго з нас не ўзнікала сумнення ў тым, што за ўсёй гэтай раздражняючай яе знешняй непрымальнасцю павінен існаваць ці не можа не існаваць цэлы свет, эмацыянальная напружанасць якога была адначасова бясспрэчная і нястрымна спакуслівая. Трэба было толькі пераадолець гэтыя знешнія перашкоды. І дзеля таго, каб пранікнуць нарэшце ў гэты свет, гэта, вядома, варта было зрабіць.

Калі ў гэтым былі перакананыя не ўсе ці, дакладней, не ўсе былі перакананыя да канца, то Андрэй дзеля гэтага быў гатовы на любое выпрабаванне. Збоку можна было падумаць, што ён быў створаны толькі для таго, каб стаць яе ахвярай. З самага пачатку ўсталявалася тое, што вызначыла іх адносіны: ёй было дазволена ўсё, яму не даравалася ні адна памылка. Прычым памылкай магло быць усё: не тая інтанацыя, недастатковая хуткасць або дакладнасць адказу, недарэчны жэст — усё, што заўгодна. Ён аднойчы прыйшоў да мяне, увесь ззяючы, і сказаў, што Саламея нарэшце пагадзілася прыняць ад яго ў падарунак кнігу вершаў, выбар якой яна даверыла яму. Але калі я сустрэў яго на наступны дзень, ён быў змрочны, засмучаны і маўклівы.

— Якую кнігу ты купіў і ці спадабалася яна ёй? — спытаў я. Ён пацісну́ў плячыма, уздыхнуў і адказаў, што ён купіў ёй Верлена. Яна аддала яму кнігу, сказаўшы, што яна ёй не патрэбна, і папрасіла яго пры гэтым больш не прыходзіць да яе. Ён пайшоў ад яе ў роспачы, зусім не разумеючы прычыны такога раптоўнага і невытлумачальнага раздражнення. Кожны раз, калі ён званіў ёй па тэлефоне, яна, пазнаўшы яго па голасе, тут жа вешала трубку.

— Ды пашлі ты яе да д’ябла, — сказаў я яму, калі ён распавёў мне гэта.

— Гэткай эмацыянальнай магчымасці ў мяне няма, — адказаў ён. — Калі б ты ведаў яе лепш, то зразумеў бы чаму.

Мне было яго шкада, і я спытаў Саламею, чаму яна так жорстка абышлася з ім.

— Я хацела, каб ён купіў мне Heredia (Жазэ Марыя Эрэдзіа — французскі паэт), — сказала яна, — а ён, дурань, не мог здагадацца.

Я перадаў яму гэта. Тады ён купіў ёй некалькі кніг, у тым ліку Heredia, і пакінуў ёй пакет у гасцініцы. Праз два дні ён рашыўся зноў пазваніць ёй па тэлефоне. Ён стаяў каля апарата, глытаючы ад хвалявання сліну і чакаючы яе адказу. Яна сказала:

— Што ж ты так даўно не званіў і не заходзіў? Я па табе сумавала.

Калі ён першы раз абняў яе, яна дала яму аплявуху і сказала, што такой подласці яна нават ад яго не чакала і што паміж імі ўсё скончана. Пасля гэтага ён не спаў дзве начы. На трэці дзень увечары яна прыйшла да яго. У яго была невялікая кватэра каля Булонскага лесу, у якой ён жыў адзін. Яна ўвайшла, глянула на яго сваімі гнеўнымі вачыма і прагна яго пацалавала. Яна правяла ў яго ўсю ноч, а ўранку ён адвёз яе на таксі ў гасцініцу. Пасля гэтага, п’яны ад захаплення, ён заявіўся да мяне, разбудзіў і стаў крычаць, што я ніколі не зразумею, што я не магу сабе ўявіць, што гэта... Я позна лёг напярэдадні, мне вельмі хацелася спаць, акрамя таго, я сапраўды не разумеў, што магло прывесці яго ў такі стан. Калі ён нарэшце растлумачыў мне, у чым справа, я толькі сказаў яму:

— Ну, жадаю табе далейшага шчасця, мілы дружа, — і заснуў. Калі я прачнуўся, яго не было, але попельніца была поўная недакуркаў — ён, відаць, прасядзеў у маім пакоі гадзіны дзве, усё аднаўляў у памяці тое, што адбылося, і думаў аб сваім асляпляльным шчасці.

Шмат пазней, імкнучыся сабе ўявіць, што, па сутнасці, вызначала тое непаслядоўнае жыццё, якое вяла Саламея і якое яна, калі магла, прымушала весці іншых, я прыйшоў да высновы, што гэта было жаданне не прымаць таго, што адбывалася, а ствараць тое, што павінна было адбывацца. Той, з кім яна пачынала нейкую размову, пра каго яна раней думала, павінен быў адказваць так, як яна сабе гэта загадзя ўявіла. Тое, што здаралася, павінна было адбывацца менавіта так, як гэта ўжо адбылося ў яе ўяўленні. У гэтым быў нейкі абсурдны і невылечны эгацэнтрызм: і для таго, каб ўчынкі і паводзіны чалавека адпавядалі яе ўяўленням, трэба было б, каб ён перастаў быць самім сабой і стаў бы чымсьці накшталт кнігі, якую яна напісала. Гэтак, вядома, быць не магло, яна гэта выдатна ведала і разумела, але гэта нязменна прыводзіла яе ў шаленства. Акрамя таго, яна ўпарта адмаўлялася ад адказнасці за свае ўчынкі і ад высноў, якія з іх маглі быць зроблены. Калі Андрэй, прыйшоўшы да яе на наступны вечар, паклаў ёй руку на плячо, яна скінула яе рэзкім рухам і сказала яму, што просіць ніколі больш гэтага не рабіць. Ён зноў упаў у адчай, стан, у які ён прыходзіў вельмі часта і вельмі лёгка. На гэты раз так доўжылася пяць дзён, пасля гэтага паўтарылася тое, што было ў яго на кватэры. Праз некаторы час ён зусім страціў уяўленне аб рэчаіснасці, нічога не ведаў і ні ў чым не быў упэўнены, акрамя таго, што без Саламеі яго жыццё не мае ніякага сэнсу. Гэта было ў пэўнай ступені дакладна: без Саламеі яго жыццё сапраўды не мела сэнсу. Але і з Саламеяй таксама — з чым ён, аднак, ніколі не пагадзіўся б.

— Ты, вядома, не той чалавек, які мне патрэбны, — сказала яна яму аднойчы. — Ты разумееш, той, каму я аддала б сябе ўсю, павінен быць перш за ўсё вышэйшы за мяне ва ўсіх адносінах. Я павінна была б увесь час адчуваць над сабой яго разумовую і фізічную перавагу. Яго разуменне мастацтва павінна быць беззаганным. Яго душэўныя рухі павялі б мяне за сабой. Гэта павінен быць чалавек, які вылучаецца сярод усіх астатніх. Ты разумееш? А што ты сабой уяўляеш? У цябе ёсць некаторыя здольнасці, але гэта і ўсё. Гэтага мне замала.

Праз некаторы час Андрэй атрымаў вестку пра тое, што ягоны бацька, які жыў у Тулузе, цяжка хворы. Андрэй паказаў Саламеі тэлеграму ад доктара і

сказаў, што ён павінен ехаць у Тулузу і прыйшоў з ёю развітацца. Яна зірнула на яго сваімі сярдзітымі вачыма і сказала:

— Няўжо ты думаеш, што ў такія хвіліны я пакіну цябе аднаго? Няўжо ты мог сумнявацца ў тым, што я паеду разам з табой? Ты прадставіш мяне твайму бацьку як сваю нявесту.

Яна сапраўды паехала з Андрэем у Тулузу і правяла там два месяцы, пакуль бацька Андрэя не памёр ад раку печані. Яна праявіла незвычайную самаадданасць, не адыходзіла ад ложка хворага, не спала начамі — калі пасля пахавання, яна вярнулася ў Парыж, Андрэй быў гатовы зрабіць для яе ўсё, што б яна ні захацела. Я падумаў тады, што ён праўду казаў мне аднойчы, што Саламея здольная на ўсё, і ўчынкаў яе нельга прадбачыць.

Ён неяк сказаў ёй, набраўшыся адвагі: — Ты лічыш сябе разумнейшай за ўсіх, каго ты ведаеш? — Не, — сказала яна. — Сябе я не лічу асабліва разумнай. Я толькі лічу дурнымі іншых, ва ўсякім выпадку — многіх.

— Акрамя таго тэарэтычнага чалавека, які табе быў бы патрэбны?

— Акрамя гэтага чалавека, — сказала Саламея.

— Яна заўсёды лічыць, што робіць усё правільна і жыве менавіта так, як трэба, — сказаў мне пасля гэтага Андрэй, — і пераканаць яе ў іншым нельга.

Я ведаў пра яе тое, чаго не ведаў Андрэй. Тое, што адбылося ўчора, ні да чаго не абавязвала яе сёння. Нейкая значная частка душэўнага жыцця ў яе была проста атрафіраванай. У яе не было ўспамінаў. Сённяшні дзень, з надыходам цемры, сыходзіў у нябыт, і тое, што адбылося за гэты дзень, пераставала для яе існаваць. Яна вельмі любіла музыку, хоць была цалкам пазбаўлена музычнага слыху і не магла адрозніць адну мелодыю ад другой. Паслядоўнасць гукаў прыводзіла яе ў стан незвычайнага душэўнага ўзбуджэння. Але запомніць гэтыя гукі яна не магла. Яна забывалася на іх гэтак жа, як забывалася на свае пачуцці і сваё ўласнае жыццё і жыццё тых, хто быў з ёй звязаны і хто сыходзіў у мінулае, аб якім у яе не заставалася ўспамінаў.

* * *

Саламея і Андрэй пражылі разам некалькі гадоў. Яна шмат разоў з'язджала і сыходзіла ад яго, ён пасылаў ёй тэлеграмы, доўгія, як лісты, затым яна вярталася, і ўсё пачыналася спачатку. Потым прагрымела вайна, Андрэй быў мабілізаваны ў войска.

Перад тым, як нямецкая армія заняла Парыж, Саламея знікла. Андрэй быў у палоне ў Германіі. Я чуў ад аднаго з нашых таварышаў, што Саламея апынулася на поўдні, прыняла актыўны ўдзел у партызанскім руху, выйшла быццам бы ў час вайны замуж за яўрэйскага банкіра, адмовілася выехаць з ім з Францыі — і была забітая падчас сутычкі партызанскага атрада з французскай міліцыяй. Яе пахавалі ў брацкай магіле, недзе недалёка ад Манпелье. Андрэй даведаўся пра гэта, вярнуўшыся з палону.

Я не бачыў яго каля дзесяці гадоў. Калі я выпадкова сустрэў яго ў Парыжы, не адразу пазнаў: ён пастарэў, злысеў, змяніўся. Але ён пазнаў мяне. Мы ўвайшлі з ім у кафэ, гэта было на Вялікіх бульварах. Ён адразу загаварыў пра Саламею, сказаў, што ездзіў шукаць яе магілу і не знайшоў.

— Нават гэтага суцяшэння ў мяне няма, — сказаў ён. — Як яна загінула, пра што думала ў апошнія хвіліны, чыё імя ўспамінала?

— Ты быў на вайне, — сказаў я. — Як можаш ставіць такія пытанні? Ты ведаеш, што ў гэтых абставінах людзі часцей за ўсё не паспяваюць ні пра што падумаць і не згадваюць ніякіх імёнаў.

— І мяне не было побач з ёй!

— Гэта не твая віна.

— Навошта я цяпер існую, я не вельмі ведаю.

Каб перамяніць размову, я задаў пытанне, што ён робіць. На яго твары з’явіўся выраз агіды.

— Што такое? — спытаў я.

— Я шчыра шкадую, што не загінуў там, як загінула яна, — сказаў ён. — Я вяду ганебнае жыццё.

— Гэта на цябе мала падобна.

— Разам з тым гэта так. Калі б ты ведаў, што я раблю, ты б адмовіўся падаць мне руку.

— Ты заўсёды быў схільны да перабольшання, — сказаў я. — Я гэтаму паверыць не магу. Што ў тваім жыцці ганебнага?

Ён патлумачыў мне, што ў час вайны ён страціў усё, што ў яго было, і цяпер вымушаны зарабляць на жыццё. Ён доўга шукаў працу, пісаў артыкулы пра мастацтва і рэцэнзіі на кнігі, але грошай, якія ён гэтым зарабляў, ледзь хапала на ежу. І тут яму зрабілі прапанову, на якую ён пагадзіўся.

— Гандаль жанчынамі, ці што?

— Не, — сказаў ён, — яшчэ горш. Тыя, хто гандлююць жанчынамі, ты разумееш, гэта прафесійныя мярзотнікі. Я не хачу сказаць, што я іх апраўдваю. Але яны жывуць у сваім уласным пракажоным свеце, ім кожную хвіліну пагражае турма, допыты ў паліцыі, грамадская пагарда і гэтак далей. Я раблю працу не менш подлую, чым яны, але з той розніцай, што мне нішто не пагражае.

— Што ж ты робіш, у рэшце рэшт?

Ён зноў зморшчыўся ад агіды і сказаў:

— Я пішу словы для песенек і куплеты для аперэтак. Ты разумееш? Успомні нашы ўніверсітэцкія гады, Малармэ, Валеры, Рыльке. І пасля гэтага...

— Але акрамя гэтага ты што-небудзь пішаш? Для сябе?

— Я спрабаваў, я не магу, — адказаў ён. — Я настолькі пранікся зараз гэтай аперэтачнай пахабшчынай і гэтым ідыятызмам, што адчуваю сябе хранічна атручаным.

Потым ён паглядзеў на мяне з адчаем і сказаў: — Ты ўяўляеш сабе, што сказала б Саламея, калі б яна была жывая?

Пра гэта ён, вядома, шмат думаў, — што сказала б Саламея.

Але для яго цяперашняга жыцця, акрамя пражытых гадоў і неадступных ўспамінаў пра Саламею, характэрна тое, што і раней было адной з галоўных яго асаблівасцей: ён жыў не так, як хацеў, і не рабіў нічога, каб змяніць сваё жыццё. Па сутнасці, нішто не прымушала яго абавязкова займацца тым рамяством, якое ён лічыў ганебным. Але зрабіць намаганне, неабходнае для таго, каб пазбавіцца ад гэтага, ён не мог.

* * *

У яго, увогуле, нічога не засталося: ні тых смутных спадзяванняў на нейкую будучыню ў мастацтве, якія былі ў яго ў маладосці, ні таго сэнсу жыцця, які перадвызначала для яго Саламея. І, вядома, для чалавека з яго эстэтычнымі поглядамі тое, чым ён вымушаны быў займацца, здавалася апошняй ступенню падзення. Цяжка было спадзявацца, што зараз, у ягоным узросце, ён раптам пачне іншае жыццё. У гэтым яму перашкаджалі, у прыватнасці, успаміны пра

Саламею: ніякая іншая жанчына не магла заняць яе месца. І паколькі прайшлі гады і гады з таго дня, калі яны рассталіся, і ўспаміны пра яе заставалася такімі, якімі яны былі ў самым пачатку, то здавалася відавочным, што гэта ўжо не магло змяніцца. Я даведаўся праз некаторы час, што ён напісаў пра яе цэлую кнігу. Ні адно выдавецтва не прыняло яе, таму што Саламея была апісана так наіўна рамантычна і так фальшыва, што гэта рабіла ўсю кнігу пра яе зусім непераканаўчай.

Я думаў, вядома, і пра Саламею. Што засталося ад яе? Нашы ўспаміны пра яе і гісторыя яе трагічнай гібелі, пра якую ў свой час пісалася ў газетах, але якая цяпер была забытая, як амаль усё, што адбывалася ў гады вайны. Але ўсё ж такі, думаючы пра Саламею, можна было тэарэтычна меркаваць, што толькі смерць спыніла яе на тым шляху, які ёй быў наканаваны, і які, быць можа, быў бы бліскучым. І вядома, калі б яна была жывая, то і жыццё Андрэя склалася б інакш.

Праз год пасля маёй сустрэчы з ім, падчас падарожжа па Італіі, я пасяліўся на некаторы час у Фларэнцыі. Я жыў на Via del Proconsulo, у маленькім пансіёне, з гаспадаром якога вечарамі вёў доўгія размовы. Ён быў пажылы італьянец, які гаварыў са мной на той мове, якую ён шчыра лічыў французскай, але якая на самай справе ўяўляла сабой вынік яго асабістага творчага намагання і была аднолькава далёкая і ад італьянскай, і ад французскай, нагадваючы, аднак, і тую і другую адначасова. Ён распавядаў мне пра сваіх суседзяў — уладальніка кніжнай крамы, гаспадара кафэ, пра сваіх пастаяльцаў, пра жыхароў Фларэнцыі наогул; ён казаў пра лёс Італіі і нават пра мастацтва, якое, на яго думку, перастала існаваць прыблізна ў першай палове сямнаццатага стагоддзя. Ён загаварыў аднойчы аб тым, што вайна прымусіла многіх фларэнційцаў пакінуць родны горад, з якога пры іншых абставінах яны ніколі не паехалі б, не захацелі б рызыкаваць сваім жыццём у чужых краінах — у халоднай Расіі, у гарачай Афрыцы, у Францыі. Ён распавёў мне пры гэтым гісторыю таго шаўца, які жыў недалёка ад яго пансіёна і ў якім ён быў сталым кліентам. Шавец гэты нарадзіўся і вырас у Фларэнцыі, і яму ніколі не ўступала нават у галаву думка, што ён можа пакінуць сваю вуліцу і свой горад. Такі выдатны шавец і такі добры чалавек. І вось, падчас вайны, ён быў мабілізаваны і трапіў у тыя атрады італьянскай арміі, якія акупіравалі поўдзень Францыі. Пасля паражэння Італіі ён паступіў у нейкі французскі партызанскі атрад, дзе быў цяжка паранены. Толькі праз некалькі гадоў, калі вайна скончылася, ён, нарэшце, вярнуўся ў Фларэнцыю. З Францыі, паміж іншым, ён прывёз з сабой францужанку, гэтага таксама было яму не трэба, у Фларэнцыі досыць італьянак. Але ён ажаніўся на сваёй францужанцы і вярнуўся да той шавецкай справы, якую ніколі не павінен быў бы кідаць. Жонка яму дапамагае. Яна старэйшая за яго, раней шавецкага рамяства зусім не ведала, але цяпер навучылася добра працаваць.

— А што ж яна рабіла ў Францыі?

— Была, відаць, бедная адзінокая жанчына, — сказаў ён. — Ёй пашанцавала, яна знайшла чалавека з добрым рамяствам, ён нядрэнна зарабляе, у мінулым годзе яны нават ездзілі на мора ўлетку. Вось, глядзі, як склаўся лёс гэтых людзей. Ён мог бы ніколі адсюль не выязджаць, яна б дажывала сваё самотнае жыццё ў Францыі. Яму б не хапала яе, ёй не хапала б яго. Але ад таго, што Мусаліні ўступіў у вайну таму, што лічыў сябе нейкім італьянскім Напалеонам, наш шавец апынуўся ў Францыі і яна прыехала ў Фларэнцыю, пра якую да гэтага яна, можа быць, нічога не ведала.

Верагодна, я быў значна меней схільны да філасофскай рэфлексіі, чым гаспадар майго пансіёна, таму што гісторыя фларэнтыйскага шаўца не зрабіла на мяне асаблівага ўражання. Любая дэталь у скульптуры Мікеланджэла, у бронзе Данатэла або Бенвенута Чэліні здавалася мне бясконца больш важнай у гісторыі чалавецтва, чым тая ці іншая вайна, смерць таго ці іншага дыктатара і доля іх сучаснікаў, у тым ліку фларэнтыйскага шаўца і ягонай жонкі. Я думаў тады пра іншыя рэчы і, у прыватнасці, пра тое, што кожны раз, калі я вырываўся з таго жыцця, якое вёў і якое было абмежавана колам нязначных, у сутнасці, ідэй і ўяўленняў, і вярнуўся да сузірання карцін Цінтарэта або Бацічэлі або статуй Мікеланджэла, я ўпадаў у стан звышнатуральнага і трагічнага захаплення, у параўнанні з якім усё астатняе здавалася зусім нязначным.

Я ішоў аднойчы ўвечары па горадзе, без пэўнай мэты, думаючы пра гэта, і раптам успомніў адну з размоў, якая ў мяне была з Андрэем шмат гадоў таму. Мы ішлі з ім тады па бульвары St. Michil, была празрыстая вераснёўская ноч. За некалькі дзён да гэтага ён вярнуўся з Венецыі, дзе пабываў упершыню, і распавядаў мне пра свае ўражанні. З усяго, што ён бачыў, яму больш за ўсё запомніліся тады — Ян Хрысціцель Данатэла і «Узнясенне» Цінтарэта.

— Высокі жабрак у бронзавых складках сваіх лахманоў, якога нельга забыць, — казаў ён. — І «Узнясенне». Ты разумееш: мноства крылаў анёлаў, якія ляцяць уверх, і ў сярэдзіне гэтага нястрымнага руху Хрыстос, якога ўзносяць на неба. Якім жудасным геніем трэба было быць, каб стварыць такія рэчы. Пасля гэтага пачынае здавацца, што жыць так, як ты жыў да гэтага часу, больш нельга.

— Мне заўсёды здаецца, што жыць так, як мы жывём, нельга, — сказаў тады я. — Можа быць, тое, што ты бачыў у Венецыі, толькі падкрэслівае, робіць гэта разуменне больш выпуклым, калі хочаш. Але калі ты ўспомніш аб тым, што ты думаў да паездкі ў Італію, ты ўбачыш, што ты ведаў гэта ўжо раней.

— Так, але і не так, — сказаў ён, — і не тое. Тое, што мяне забівае, ты разумееш, гэта адначасовае і паралельнае існаванне такіх розных светаў і гэтая нясцерпная разнастайнасць адчуванняў, якіх ніякая сіла ўяўлення не можа злучыць у адно. Кожны з нас вядзе некалькі існаванняў, і тая велізарная адлегласць, якая іх падзяляе, для мяне незразумелая і страшная. Я не магу сябе ў гэтым знайсці.

Ён спыніўся і апусціў галаву — і збоку атрымлівалася ўражанне, што ўначы на бульвары стаіць чалавек, які ўважліва глядзіць на свае ногі. Потым ён падняў галаву і сказаў:

— Я не магу зразумець, што чалавек, які сочыць за разлівам сімфоніі, за тым, як яна расце і пашыраецца, потым раптам цудоўна звужаецца і вяртаецца да тых дзвюх нотаў, з якіх яна нарадзілася, — я думаю цяпер пра Пятую сімфонію Бетховена — гэты чалавек, які на працягу доўгіх хвілін жыве ў гэтым свеце і ў якога назаўсёды ўвайшоў гэты незвычайны рух гукаў — як можа гэты чалавек пасля гэтага, выйшаўшы з канцэртнай залы, спакойна вярнуцца да таго, што было да гэтага часу.

— Я не бачу ў гэтым непрымірымай супярэчнасці, — сказаў я.

— Я не кажу пра супярэчнасць, я не супастаўляю зразуменне мастацтва з іншымі чалавечымі пачуццямі, — сказаў ён. — Але мяне палохае адлегласць, што раздзяляе на розныя светы тую прастору, у якой я згубіўся калісьці даўным-даўно і ў якой я больш не магу знайсці сябе.

— Можа быць, геній, у прыватнасці, валодае здольнасцю адначасовага спасціжэння ўсіх гэтых розных светаў — той здольнасцю, якой арганічна

пазбаўлены простыя смяротныя. Не пабудовы тэарэтычнай канцэпцыі, у якую з аднолькавым правам пайшлі б усе чалавечыя пачуцці ў іх неверагоднай разнастайнасці, — а нечага іншага — стыхійнага і беспамылковага разумення ўсяго гэтага.

— Можа быць, — прамовіў ён. — Але ў такім выпадку варта сказаць, што разуменне генія нам недаступнае. Не яго праявы, а яго прыроды.

Я ішоў цяпер па доўгай і вузкай фларэнцыйскай вуліцы. Была позняя ноч з нерухомым паветрам і зорным небам. Чвэрць стагоддзя таму назад, у Парыжы, калі мы гаварылі з Андрэем, тыя ж невырашальныя пытанні займалі маю ўвагу. Калі б мне сказалі тады, што мы пражывём дваццаць пяць гадоў, пройдзем праз разбуральную вайну, будзем сведкамі гібелі мільёнаў людзей — і пасля ўсяго гэтага зноў вернемся да тых жа пытанняў, я б не паверыў. Я б сказаў, што гэтага не можа быць, што нас чакае павольнае і натуральнае душэўнае здранцвенне, праз якое мы таксама павольна будзем ісці да смерці, усё будзе паступова губляць сваё значэнне — і пачуцці іншых людзей, і творы мастацтва, і прырода генія. Але гэта сталася не так. Кожнаму з нас быў дадзены ягоны асаблівы свет, законы якога не змяняліся ад часу. Таму цяпер у Фларэнцыі я думаў пра тое самае, пра што думаў тады ў Парыжы — з той самай бясплённай і безнадзейнай настойлівасцю. І якраз таму Андрэй вёў цяпер такое жыццё, адчуваючы агіду да таго, што ён рабіў, і думаючы пра тое, што сказала б Саламея.

* * *

Аднойчы ўдзень я ішоў спачатку па via Ghibellina, а затым звярнуў у вузенькую вуліцу, што адыходзіла ад яе пад прамым вуглом. Тут жылі вельмі бедныя людзі, якія займаліся збіраннем жалезнага хламу. Першы, каго я ўбачыў, быў смуглявы хлопчык гадоў пятнаццаці, які з выразам наіўнай радасці на твары нёс у руках некалькі заржавелых пружын з нейкай разламанай канапы. Праз вузкія ўваходы ў дамы былі часам бачны двары, заваленыя іржавым жалезам самага рознага паходжання. Дайшоўшы да сярэдзіны вуліцы, я ўбачыў майстэрню таго самага шаўца, пра якога мне распавядаў гаспадар майго пансіёна. Гэта быў шыракаплечы чалавек са смуглявай скурай: у недастатковым асвятленні — вуліца была цёмная — нерухомы ягоны твар мне здаўся падобным на бронзавы профіль. Насупраць сядзела ягоная жонка, тая самая жанчына, якую ён прывёз з Францыі. Калі я спыніўся каля акна, яна падняла галаву і зірнула на мяне — і я павінен быў зрабіць намаганне, каб не ўскрыкнуць ад здзіўлення. Я сустрэў знаёмы, абсалютна без змен, пагляд шэрых сярдзітых вачэй і пазнаў Саламею.

Я павярнуўся і хутка пайшоў да свайго пансіёна. Там я выклікаў пакаёўку і папрасіў яе аднесці запіску жонцы шаўца. У гэтай запісцы я прасіў Саламею прыйсці на наступны вечар, у сем гадзін, на вакзал, дзе я спадзяюся яе спаткаць.

Калі пасля вайны мне сказалі, што яна забітая, я вельмі смуткаваў. Але гэта было нішто ў параўнанні з тым халодным адчаем, якое ахапіла мяне ў той вечар, калі я чакаў яе на вакзале. Паўз століка, за якім я сядзеў, праходзілі турысты, немцы, англічане, амерыканцы, французы, да мяне даходзілі іх словы, якія я чуў, але не разумеў іх сэнсу. Я бачыў перад сабой твар Андрэя — не таго злыселага чалавека, які пісаў цяпер словы для прыпевак і адчуваў агіду да самога сябе і сваіх кліентаў, а Андрэя дваццаць пяць гадоў таму, з яго далёкімі і захопленымі вачыма, і чуў яго словы: — Не, ты не можаш

зразумець, ты ніколі не зразумееш. Не, гэта было занадта жорстка. Калі б Саламея была жывая...

Я думаў, што яна не прыйдзе. Але яна прыйшла. Калі яна наблізілася да майго століка і я ўстаў і падсунуў ёй крэсла, яна пільна паглядзела на мяне — так, быццам чагосьці баялася. Я не ведаў у яе гэтага выразу вачэй. Праглынуўшы сліну ад хвалявання, я спытаўся ў яе:

— Як усё гэта магло адбыцца?

Не адказаўшы на маё пытанне, яна спытала:

— Ён жывы?

— Жывы. Ён думае таксама, як думаў я да ўчарашняга дня, — што цябе забілі. Ён мала падобны цяпер на таго, якім быў да вайны, як ты не падобная на ранейшую Саламею.

— Ты знаходзіш, што я вельмі змянілася?

Не, вонкава яна змянілася менш, чым можна было чакаць. Яе твар ацяжэў, над ротам з'явіліся маршчыны, але яна была яшчэ прывабная.

— Я не меў на ўвазе знешнія змены. Але ты не адказала мне, як усё гэта адбылося. Паўтараю, мы ўсе былі ўпэўненыя, што цябе забілі на поўдні Францыі ў час вайны.

— Я была вельмі цяжка параненай, — сказала Саламея. — Я думала, што памру, я ў гэтым не сумнявалася. Потым адбылася звычайная сусальная гісторыя, ведаеш, як пішуць у дурных сентыментальных кнігах: мяне падабраў малады італьянец, данёс мяне да шпіталя і потым прыходзіў да мяне кожны дзень. Праз тыдзень доктар сказаў мне, што я застануся жывая.

Яна дастала цыгарэту і закурыла. Я ўспомніў, што раней яна не курыла.

— Ты памятаеш, што было ў час вайны? Для многіх людзей, у тым ліку для мяне, усё складанае знікла. Засталіся самыя простыя рэчы: голад, небяспека, страх смерці, холаду, болю, стомленасць і несвядомае разуменне таго, што ўсё ў жыцці проста і страшна. А тое, пра што можна марыць, гэта толькі цяпло, сон, ежа, бяспека, дах над галавой — што яшчэ?

— Так, так, я разумею, — сказаў я. — Але каменны век канчаецца.

— Калі мы потым прыехалі з ім у Фларэнцыю, — сказала яна, — вайна скончылася, небяспекі больш не было. Маленькія дзеці гулялі на вуліцах, свяціла сонца, было цёпла. Але ўсё, што было раней, перастала існаваць. Хіба ты не заўважыў, што таго свету, які быў да вайны, больш не існуе?

— Гэта можна было б сказаць, нават калі б вайны не было. Вядома, таго свету больш не існуе. Але той, які змяніў яго, не абавязкова павінен быць абмежаваны акном шаўца на вузкай вуліцы, якая выходзіць на via Ghibellina, і тым, што ўяўляе цяпер тваё жыццё. Варта было пражыць такое жыццё, прайсці праз такія выпрабаванні і ацалець — каб усё скончылася так? Мне здаецца, што ты заслугоўваеш лепшага.

— Ты ўпэўнены, што тое, пра што ты думаеш, лепшае?

— Не, — сказаў я. Можа быць, гэта мне ўяўлення нестае, але мне ўсё ж такі здаецца, што нельга больш скалечыць сваё існаванне, чым так, як ты гэта зрабіла. Я памятаю, што ў ранейшыя часы ты марыла пра іншае.

— А можа, шчасце ў тым, што табе ўдаецца абмежаваць сябе і зразумець, што галоўнае — гэта некалькі нескладаных рэчаў?

— Так жывуць дзясяткі мільёнаў людзей. Але ёсць іншыя, якім гэтага недастаткова.

Я паглядзеў ёй у вочы і раптам са здзіўленнем убачыў, што ў іх стаяў спакойны і абыякавы выраз, з тым лёгкім адценнем перавагі, які я ведаў раней, але які цяпер мне здаваўся недарэчным і незразумелым. Ранейшы адчай

ахапіў мяне, я падумаў, што так гэтага пакінуць нельга. Я сказаў: — Я прапаную табе наступнае. Зараз мы выйдзем адсюль. Мая машына стаіць за вуглом. Я заеду на некалькі хвілін у пансіён і аплачу за пражыццё. У цябе ёсць якое-небудзь пасведчанне? Заўтра мы будзем на французскай мяжы. Заўтра ўвечары ты будзеш у Парыжы, а яшчэ праз тыдзень ты забудзешся пра ўсё, што папярэднічала твайму вяртанню.

— Не, — сказала яна. — Ты паедзеш з Фларэнцыі і вернешся ў Парыж без мяне.

— Ты катэгарычна адмаўляешся ехаць?

— Што я буду рабіць — у гэтым далёкім чужым горадзе?

Толькі ў першую хвіліну размовы з ёй я пачуў у яе голасе хваляванне, гэта было тады, калі яна спытала, ці жывы Андрэй. Увесь астатні час яна была спакойная — стан, які ёй быў цалкам неўласцівы раней.

— Ты забываеш пра час, мой дружа, — сказала яна, устаючы. — Тое, у чым ты жывеш, гэта рух ценяў. Ад таго, якім ты быў раней, не засталося самага галоўнага, і ты ўпарта адмаўляешся гэта прыняць. Ты хочаш павярнуць час назад — гэтага не можа нават Бог. Калі б я паслухала цябе і з’ехала з табой у Парыж, я б страціла тое, што ў мяне ёсць цяпер, і засталася б у пустаце, якую нельга запоўніць ніякімі ўспамінамі. Правядзі мяне дадому. Таму што цяпер у мяне, ці ведаеш, ёсць дом? Раней у мяне яго не было, я не ведала гэтага паняцця.

Мы выйшлі з вакзала. Я некаторы час ішоў моўчкі. Потым я сказаў, паўтараючы яе словы:

— «Страціла б тое, што ў мяне ёсць». Іншымі словамі, суседства чалавека, які не разумее адной дзясятай таго, што разумееш ты?

— Калі я ўбачыла цябе ў акне, гэта мяне ўразіла, — сказала яна. — І я ведала, што ты не зразумееш таго, што я табе скажу. Можа быць, ты зразумееш гэта пазней. Але для гэтага трэба, каб ты ўявіў сабе зусім іншы свет, якога ты не ведаеш і ў якім я жыву.

— Гэта нейкая літаратура.

— Не, літаратура ў мяне скончылася, — сказала яна. — Літаратура — гэта ў цябе. І да таго часу, пакуль ты ад яе не адкараскаешся, ты не зразумееш таго, што трэба.

Мы дайшлі з ёй да вугла via Ghibellina.

— Ты яшчэ памятаеш назвы французскіх вуліц? — сказаў я. — Rue de Vaugirard, rue Monsieur le Prince, rue de Tournon, rue de Buci, boulevard St. Germain, rue de Saints Peres?

— Так, успамінаю, — сказала яна. — Але тых, хто там жыў у гэты час, больш не існуе. Да пабачэння.

Яна прайшла некалькі крокаў, потым вярнулася і сказала:

— Я не так з табой развіталася.

Яна прыціснула на секунду свае чужыя вусны да маіх вуснаў і пайшла. Я глядзеў ёй услед — яна захавала сваю прамую гнуткую хаду, за якую яе назвалі Саламеяй. Потым я вярнуўся на вакзал. Затым прыехаў адтуль у свой пансіён і праляжаў да поўначы, не засынаючы, упарта сочачы за тым, што яна назвала рухам ценяў, — без якога яна жыла цяпер, а я не мог сабе ўявіць свайго існавання.

Калі я вяртаўся ў Парыж, я ўсё ўспамінаў размову з Саламеяй. Усё, што яна казала, не магло вытлумачыць таго непапраўнага ператварэння, якое з ёй адбылося. Тое, што я лічыў яе недахопам, гэта адсутнасць успамінаў, цяпер ратавала яе: калі б яна памятала тое, што было раней, яна не магла б так жыць.

Яе ператварэнне, як мне здавалася, адбылося таму, што яна ўбачыла перад сабой смерць. Дайшла да яе і потым адчула жывёльную радасць вяртання да жыцця. І вось адзіныя абставіны, пра якія яна не забылася, былі менавіта тыя, калі яна зразумела гэты зварот да жыцця, якім яна была абавязана маладому італьянцу. Апошні твар, які яна бачыла перад сабой, калі думала, што памрэ, гэта быў ягоны твар. І першы, які яна ўбачыла ўжо іншымі вачыма, калі яна адчула, што будзе жыць, гэта быў ягоны твар. І гэта быў самы моцны і адзіны ўспамін, які вызначыў і яе ператварэнне, і яе цяперашняе жыццё. Інстынкт самазахавання заслаў перад ёй усё, што было раней, і вось чаму маё з'яўленне ў вітрыне яе так ўзрушыла, як яна сказала. Тое, што я ёй прапанаваў — вярнуцца ў Парыж, — вядома, было немагчыма, таму што гораду, дзе яна раней жыла, у яе цяперашнім жыцці не заставалася месца. Я думаў і пра тое, што Андрэю, вядома, нельга будзе распавесці пра Саламею; ён вырашыў бы, што гэта вынік трагічнага непаразумення або здрады. Але гэта не было ні непаразуменнем, ні здрадай. Гэта была смерць. Не Саламеі, якая жыла цяпер на маленькай вуліцы, што выходзіць на via Ghibellina, а таго свету, часткай якога яна была для нас, якога больш сапраўды не было, але без таго прывіднага ўспаміну, без якога мы не ўяўлялі сабе нашага існавання.

Я сустрэў Андрэя зімой у невялікім кафэ на рагу rue le Buci і Bouleard St. Germain, куды я зайшоў, каб выпіць кавы. Ён быў такі ж сумны, як заўсёды, і цяпер мне было яго асабліва шкада, таму што я так выразна памятаў тую вераснёвую ноч у Фларэнцыі, калі я расстаўся з Саламеяй. Мы размаўлялі з ім пра розныя рэчы, потым ён зноў вярнуўся да таго, што было да вайны, зноў загаварыў — гэта было непазбежна — пра Саламею і сказаў:

— Табе гэта, можа быць, здасца сентыментальнасцю, але я б усё ж проста хацеў ведаць, дзе яе магіла. Ты ведаеш, што я шукаў яе і не знайшоў.

— Мабыць, таму, — сказаў я, — што ў цябе пра гэта былі няправільныя звесткі і ты шукаў яе не там, дзе трэба.

***Пераклад з рускай Міхася КЕНЬКІ.***



**Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА**

# ЛІРЫЧНЫ РАМАН У БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЕ АПОШНЯЙ ТРЭЦІ XX — ПАЧАТКУ XXI СТАГОДДЗЯ

У розныя перыяды літаратурнага працэсу актывізуецца практыка стварэння не толькі ўласна эпічных, але і лірычных, драматычных раманных тэкстаў. Невыпадкова знакаміты балгарскі пісьменнік Панцялей Зараў зазначае, у прыватнасці, пра тэксты раманнага жанру апошняй трэці XX стагоддзя, што наватарскае авалоданне зместам і формай выступае крыніцай «унутранай пераканаўчасці рамана. Сучасны раман імкнецца да лаканізму, да адмаўлення апісальнасці і ўводзіць новую трактоўку інтэлектуальна-псіхалагічнай дэталі. У ходзе гэтага працэсу ўзрастае філасофска-этычнае гучанне рамана» [3, с. 89]. Часам дынаміка жыцця патрабуе выкарыстання новых жанравых сродкаў, стылёвай разнастайнасці і шматпланавасці. Пры гэтым пісьменнік акцэнтуе ўвагу, што, хоць раман і называлі то хронікай часу, то вытанчанай і займальнай гісторыяй нораваў, яго змест больш складаны і глыбокі.

Кожная з раманных формаў характарызуецца спецыфікай мастацкай структуры, адметным тыпам суб'ектнай арганізацыі. У. Дняпроў слушна зазначае, што ў XX стагоддзі ў заходнеўрапейскай літаратуры ўзнікае вялікая плынь лірычнай прозы як заканамерны напрамак развіцця рамана і, у прыватнасці, звяртае ўвагу на «аўтабіяграфічны раман, раман-успамін, раман-партрэт, адначасова дакументальны і мастацкі» [2, с. 520]. Не аспрэчваючы агульнапрынятага меркавання, што раман перш за ўсё выступае новай гістарычнай формай засваення эпічнасці, даследчык разам з тым раскрывае мастацкія варыянты спалучанасці ў рамане эпічнага і лірычнага пачаткаў. Невыпадкова, развіваючы тэорыю эпічнага і лірычнага раманнага тэксту, Н. Рымар называе лірычны раман адным з этапаў развіцця эпічнай формы. Гэта чарговы «антыраман», такі «этап дыскусіі з першапачатковай структурай эпічнага адлюстравання, на якім перабудова жанравай структуры закранула саму родавую аснову жанру» [5, с. 122]. Гэты працэс дабрачынна паўплываў на далейшае жанравае развіццё рамана, дазволіў умацаваць і ўзбагаціць яго эпічную аснову, а ў шэрагу выпадкаў і вярнуцца да эпічнай канцэпцыі, аднак ужо на якасна іншым мастацкім узроўні [5].

У беларускай прозе апошняй трэці XX — пачатку XXI стагоддзя вылучаецца шэраг тэкстаў, у якіх прасочваюцца эстэтычныя прыкметы лірычнага рамана. У прыватнасці, адметнай мастацкай апавядальнасці, калі малюнкі знешняй рэчаіснасці раскрываюцца праз унутранае іх перажыванне і асэнсаванне героем. Так, у лірычным рамане асноўным структураўтваральным прынцыпам выступае суб'ектыўнае светабачанне, што прадвызначае характар адлюстравання знешніх абставін. Мастацкі аповед вядзецца ад асобы героя, які і з'яўляецца выразнікам аўтарскай пазіцыі. Ён выступае маральна-этычным цэнтрам твора, выяўляе як характарыстыкі іншых персанажаў, так і ацэнку грамадскай сітуацыі. Урэшце суб'ектыўнасць лірычнага героя вядзе да ўзнікнення лірычнай сімволікі, якая ў сваю чаргу выступае сродкам выяўлення светабачання аўтара. Н. Рымар на разнастайных прыкладах заходнееўрапейскага рамана пераканаўча даказвае, што лірычнай прозе ў значнай меры ўласціва фрагментарнасць «як на ўзроўні

сюжэта, кампазіцыі, так і на ўзроўні адлюстравання асобных эпізодаў» [5, с. 68]. Гэтым абумоўлена тое, што значную мастацкую вартасць набываюць асобныя дэталі. У. Дняпроў аналізуе дзве спецыфічныя рысы лірычнай прозы XX стагоддзя. Па-першае, узрастае сэнсаўтваральная роля рытмічнасці, паводле якой аўтар паскарае або замаруджвае мастацкі час, паказвае падзеі і ўражанні ад іх героя з рознай інтэнсіўнасцю, выкарыстоўвае прыёмы мастацкага паралелізму і асацыятыўных сувязей. Па-другое, адбываецца «ўзмацненне вобразнага сэнсу, тая незвычайная канцэнтрацыя паэтычнага зместу і настрою, без якой не можа быць сапраўднай лірыкі» [2, с. 526], у чым лірычная проза ў пэўнай ступені прыпадабняецца да лірычнай паэзіі.

У айчыннай літаратуры апошняй трэці XX — пачатку XXI стагоддзя выяўляецца эстэтычная тэндэнцыя, якая раскрывае аўтарскае імкненне знайсці адметную мастацкую форму, арганізаваць матэрыял, каб дамінантную ролю выконвалі праўдзівыя факты або падзеі з жыцця самога пісьменніка. Такой формай выступае лірычны раман, які спалучае дакументалізм і мастацкасць, вылучаецца прыкметным аўтабіяграфічным пачаткам, можа адлюстроўваць успаміны або партрэтныя характарыстыкі. Адной з жанравых разнавіднасцей лірычнага рамана варта лічыць раман-споведзь, якому ў цэлым уласцівыя стылёвыя рысы спавядальнай прозы. Першапачаткова споведзь сфарміравалася ў паэзіі, літаратурны вопыт якой і выкарыстала лірычная проза, арганічна прадстаўленая ў творчасці пісьменнікаў-рамантыкаў. Так, А. Бярозка называе літаратурнай споведдзю мадыфікацыю аднаго з жанраў або жанравых утварэнняў дакументальна / мемуарна-аўтабіяграфічнай прозы, якая ўзыходзіць да хрысціянскай спавядальнай традыцыі. Літаратурная споведзь вызначаецца «формай аповеду ад першай асобы, максімальна мажлівым у літаратуры скарачэннем дыстанцыі паміж аўтарам і галоўным героем, устаноўкай на поўную шчырасць з боку гаворачага, яго найглыбокай самарэфлексіяй, акцэнтам на ўнутраных падзеях з жыцця аўтара (гісторыя душы)» [1, с. 40], а таксама фрагментарнасцю, сюжэтнай невыразнасцю, дыдактычнай скіраванасцю тэксту, наяўнасцю пазалітаратурных задач. Спавядальная проза свабодна спалучае выяўленчыя мажлівасці філасофскага эсэ, дзённікавых запісаў, зместавы дыяпазон можа вагацца ад пропаведзі і павучання да сатырычнага адлюстравання рэчаіснасці. Так, аўтарская спавядальнасць прадвызначае мастацкую спецыфіку паказу рэчаіснасці ў рамане ў навелах «Чужое неба» (1969—1973) Барыса Сачанкі. Як раман-споведзь вызначаецца твор Алеся Савіцкага «Пісьмо ў Рай» (2003).

На прыкладах заходнееўрапейскага рамана В. Кожынаў прасочвае эвалюцыю жанру і вылучае не толькі падзейны, але і псіхалагічны раман, дзе апавядальнасць «скіравана ў псіхалагічную глыбіню, губляе падзейнасць, пераўтвараючыся ў суб'ектыўную споведзь» [4, с. 404]. Гэта зместавая лінія на ідэйна-мастацкім узроўні і выяўляецца ў лірычных раманах. Пярэчаць класічнай жанравай форме, у прыватнасці, раманы «патоку свядомасці» і раманы-эсэ, структурная арганізацыя якіх не дазваляе ў поўнай меры паказаць грамадскае асяроддзе, выявіць эпічны ахоп рэчаіснасці, тады як раскрыццё паўнамаштабнага малюнка часу выступае ўстойлівай жанравай прыкметай раманнага тэксту. Даследаванне раманнай формы, даводзіць далей навукоўца, не можа адбыцца без вывучэння канкрэтнага зместу, мастацкае засваенне якога рэпрэзентуе жанр рамана як пэўную форму мастацкай творчасці. Структурная арганізацыя твора Сачанкі дае падставы назваць яго «антыраманам», дзе для ўвасаблення наватарскага ідэйна-мастацкага зместу пісьменнік імкнецца адшукаць адметную форму. У цэнтры мастацкай апавядальнасці — раскрыццё свету галоўнага героя, паказ яго жыццёвага шляху праз успаміны, якія ў нейкай ступені ўяўляюць плынь аўтарскай свядомасці і перадаюцца ад першай асобы, дапаўняюцца згадкамі іншых апавядальнікаў. Мастацкі псіхалагізм выступае дамінантным прынцыпам выяўлення асобы, у творы рас-

крываецца самарэфлексія, што заглыбляецца да лірычнай спавядальнасці. Гэта абумоўлівае падкрэсленую ўвагу да асобных жыццёвых момантаў, кожнаму з якіх прысвечаны навелістычны твор, такім чынам, навелістычная форма паслабляе падзейную аснову раманнага цэлага.

Успаміны галоўнага героя звязаны з яго маленствам, што прыпала на Вялікую Айчынную вайну. Аўтар засяроджваецца на ваенных падзеях, у прыватнасці, звяртаецца да раскрыцця трагічнай з'явы, якая не магла не паўплываць на дзіцячую свядомасць: карнікі спалілі родную вёску, жыхары якой былі звязаны з партызанамі («Вёска майго маленства»). Як шчыра прызнаецца герой, усё можа забыцца, толькі не той пажар: «Крычаць, гарлапаняць ва ўсе свае луджаныя глоткі немцы, гырчаць, кідаюцца на людзей аўчаркі-ваўкадавы, чуюцца то там, то тут стрэлы. А людзі стаяць, як заваражаныя, глядзяць, глядзяць страшнымі, крывавымі вачыма на злавесныя чорныя клубы дыму, што падымаюцца, падымаюцца над вёскай» [7, с. 193]. Адлюстраванне мінулага праз успаміны не дазваляе ўсеахопна выявіць ваенную рэчаіснасць, стварыць шырокае эпічнае палатно, якое адлюстравана ў вядомых раманах пра Вялікую Айчынную вайну, напрыклад, Івана Навуменкі, Івана Чыгрынава і многіх іншых пісьменнікаў. Аўтар ставіць за мэту завострана паказаць адзін зрэз тагачаснай рэчаіснасці, найперш раскрыць яе вачыма хлопчыка, які разам з сям'ёй быў прымусова вывезены ў Нямеччыну. Аўтабіяграфічны аповед узмацняецца аўтарскай споведдзю. Так, галоўны герой прызнаецца, што і пасля многіх гадоў ён усё думае пра Ганса Кегеля — немца, які дапамагаў іх сям'і. Гэты чалавек заўсёды сумна-самна ўсміхаўся, а галоўнае, як разумее пазней герой, быў па-сапраўднаму добрым. Так, атрымаўшы пахавальныя лісты на ўсіх пяці сыноў, ён жадае, каб бацька галоўнага героя, «рускі Іван», у якога таксама пяць сыноў, ніколі не перажыў такога: «І бацька, і маці, і мы, іхнія дзеці, бы паслупянелі. Стаялі з разяўленымі ратамі і не ведалі, што рабіць: бегчы даганяць Ганса, дзякаваць яму, спачуваць ці аставацца ў бараку, нікуды не выходзіць, нічога не гаварыць — маўчаць…» [7, с. 209]. Спавядальнасць пранізвае тэкст на ўсіх мастацкіх узроўнях, ператвараецца ў спецыфічны эстэтычны прынцып адлюстравання мінулага ў аповесці «Vixi» (1992—1993) Алеся Адамовіча. Мастацкі аповед спалучае форму дзённікавых запісаў з апошніх гадоў жыцця і ўспамінаў пра ваенны час, што прыпаў на падлеткавы ўзрост пісьменніка. Аўтар імкнецца асэнсаваць свой жыццёвы і творчы шлях у форме літаратурнай споведзі, якая вядзецца згодна з асноўнымі жанравымі патрабаваннямі мемуарна-аўтабіяграфічнай прозы.

Барыс Сачанка ў навеле «Памяць» адлюстроўвае ваенную рэчаіснасць паводле ўспамінаў бацькі і маці, навела «Цыке» ўяўляе ліст ад старэйшага брата Юркі, дзякуючы чаму ствараецца поліфанічнасць мастацкага аповеду, што ўласціва не столькі літаратурнай споведзі, колькі раманнаму тэксту. Выбраная пісьменнікам форма дазваляе замарудзіць мастацкі час, паказаць асобныя падзеі з жыцця героя ў асацыятыўнай сувязі (навела «Вочы»). Узмацненне вобразнага сэнсу, уласцівае лірычнай прозе, яскрава адлюстравана ў навеле «Сны», дзе герой прызнаецца, што зноў і зноў вяртаецца ў родную вёску, пазбываецца «сноў свайго трывожнага, абпаленага нягодамі вайны маленства…» [7, с. 282]. Такім чынам, у лірычным рамане Сачанкі на ідэйна-мастацкім узроўні выяўлены псіхалагічны партрэт асобы, які ўзмоцнены элементамі мастацкай спавядальнасці. Разам з тым раманны тэкст патрабуе раскрыцця канцэптуальнасці, што выступае адной з яго жанравых прыкмет і не можа быць у поўнай меры выяўлена без апоры на эпічнасць. Індывідуальны біяграфічны час галоўнага героя ўваходзіць у гістарычны: успамінаючы мінулае, пісьменнік усведамляе трагедыю свайго ваеннага дзяцінства, атаясамлівае ўласны лёс з лёсамі іншых людзей. Ваеннае мінулае праз уласныя ўспаміны, успаміны бацькоў і сваякоў асэнсоўваецца ў агульнабыццёвым кантэксце, у чым і выяўляецца філасофска-этычнае гучанне рамана.

Яскрава выяўленым лірычным пачаткам вызначаецца «Пісьмо ў Рай» Савіцкага, раман прысвечаны памяці бацькі, пры гэтым вобраз бацькі выступае своеасаблівым духоўным арыенцірам маральна-этычных пошукаў героя. Мастацкае даследаванне рэчаіснасці вядзецца праз асобу галоўнага героя, за якой прасочваецца аўтар, тэкст вызначаецца прыкметнай аўтабіяграфічнасцю, што адпавядае інварыянту лірычнага рамана. Мастацкая падзейнасць раскрываецца пераважна ад першай асобы, паводле стылёвых прыкмет уяўляе літаратурную споведзь з элементамі філасофскіх разважанняў: «Даруй мне, мілы бацька мой, даруй…

Гэтае маленне студзіць сэрца штораз, калі ўглядаюся ў твае вочы на фотакартцы, якую ты збярог у фашысцкім палоне. Цяпер давяраю яго паперы і дасылаю табе ў Рай. Перакананы, што ты цяпер там, бо кожнаму з нас на згоне жыццёвага шляху на зямлі небам дараваны толькі дзве дарогі — альбо Рай, альбо Пекла. Пекла ты адбыў тут, на зямлі. А двойчы туды, як кажуць мудрыя людзі, трапіць немагчыма» [6, с. 7]. Выяўляючы такім чынам мастацкую ўстаноўку на спавядальнасць, пісьменнік выкарыстоўвае прыёмы эпісталярнага пісьма, у прыватнасці, у тэкст уводзяцца вытрымкі з лістоў як прыватнай, так і афіцыйнай перапіскі. З іх вынікае асноўная паслядоўнасць падзей, што па-мастацку асэнсоўваецца ў творы: так, у сорак першым бацька пісьменніка прапаў без вестак на фронце, пасля вайны сям'я атрымала ад яго пісьмо, дзе паведамлялася пра раненне, палон, за які ён быў асуджаны на пяць гадоў і знаходзіцца ў лагеры на востраве Пуцяцін. Сын, выкарыстоўваючы ў тым ліку службовае становішча журналіста, спрабуе дапамагчы бацьку, але безвынікова. Аўтарская споведзь паступова дапаўняецца і развагамі над сацыяльнымі праблемамі пасляваеннага часу, у кантэксце якога раскрываюцца далейшыя жыццёвыя нягоды галоўнага героя, яны, па сутнасці, былі выкліканы спробамі заступіцца за бацьку. У літаратурную споведзь прыўносіцца публіцыстычнае адлюстраванне рэчаіснасці, што патрабуе выяўлення і дакументальнага пачатку, між тым асноўнай формай мастацкага аповеду застаецца лірычны роздум над жыццёвымі акалічнасцямі. Твор напісаны ў класічнай раманнай форме, аднак пісьменнік не выкарыстоўвае існуючых жанравых мажлівасцей для выяўлення эпічнай раманнай канцэптуальнасці.

У творы Савіцкага паказаны дынамічны мастацкі час, які запавольваецца пры адлюстраванні не толькі пасляваенных рэалій, але і перыяду 90-х гадоў, што асацыятыўна супастаўляюцца. Галоўны герой успамінае ваенныя падзеі, што прыпалі на яго падлеткавы ўзрост, партызанскую дзейнасць, асэнсоўвае асобныя моманты жыццёвага шляху, параўноўваючы маладосць і сталасць. З ваеннага мінулага прыгадваюцца найбольш яскравыя падзеі, напрыклад, як чэрвеньскай ноччу сорак другога года на Палаце перакуліўся човен, на якім падлеткі вырашылі вывезці з горада зброю і рушыць у партызанскі атрад. Дзякуючы гэтай шчаслівай выпадковасці яны ўратаваліся, не патрапілі ў нямецкую засаду, якая знаходзілася ля вусця Палаты. Пісьменнік імкнецца паглядзець на самога сябе збоку, для чаго ў пачатку і ў фінале твора вядзецца мастацкі аповед ад імя Смоліча. Герой, у прыватнасці, прыходзіць да высновы, што ў кожнага дзяцінства ёсць нейкае дзівоснае здарэнне, памяць пра якое не можа знікнуць ніколі: «Але раптам яму стала трывожна ад думкі, што нарадзілася неўспадзеў. Ты, дружа, не проста згадаў шчаслівы ранак свайго маленства з вышыні гадоў, што ў цябе за плячыма, ты зірнуў на сябе з нейкай далечы, над якой і сам ужо не ўладны, бо яна не належыць табе» [6, с. 220]. Такім чынам, аўтар асэнсоўвае чалавечае жыццё ў рэчышчы спавядальнай традыцыі, па-філасофску сцвярджаючы блізкасць розных жыццёвых перыядаў. Літаратурная споведзь выконвае ў творы дамінантную ідэйна-мастацкую ролю.

Творы Сачанкі і Савіцкага вызначаюцца пэўнай тэматычнай блізкасцю — гэта асэнсаванне ваенных падзей праз дзіцячае або падлеткавае ўспрыманне,

плённае выкарыстанне традыцыі літаратурнай споведзі, у выніку чаго пісьменнікі стварылі раманныя тэксты ў рэчышчы адметнай жанравай разнавіднасці. Як ілюструюць прааналізаваныя мастацкія творы, лірычны раман у цэлым выяўляе выключную аўтарскую ўвагу да раскрыцця духоўнага свету асобы, як вобраза галоўнага героя, паказанага на ідэйна-мастацкім узроўні, так і заглыбленасць у псіхалагічныя партрэтныя характарыстыкі іншых герояў.

У цэлым раману з элементамі спавядальнасці або раману-споведзі ўласціва мастацкая аўтабіяграфічнасць, аповед пераважна ад першай асобы, філасофска-этычнае асэнсаванне грамадскай рэчаіснасці. Пісьменнік можа звяртацца да традыцыйнай раманнай формы або выбіраць адметную структурную арганізацыю, што прадвызначае ступень выяўлення падзейнай асновы. Адметнасцю творчай манеры Сачанкі выступае лаканізм, нязначная ступень апісальнасці, тады як Савіцкі выяўляе публіцыстычны пачатак у раманным тэксце. Такім чынам, у лірычным рамане, як і ў іншых раманных формах, раскрываецца ўзаемадзеянне асобы і грамадства, аднак пры гэтым найперш выяўляецца сцвярджэнне пра значнасць суб’ектыўнага бачання свету героем і аўтарам.

## Спіс літаратуры:

1. Березко, А. Ф. Исповедальная проза в европейской традиции : генезис, эволюция, современное состояние / А. Ф. Березко : науч. ред. И. Ф. Штейнер ; М-во образования РБ, Гомель. гос. ун-т им. Ф. Скорины. — Гомель, ГГУ им. Ф. Скорины, 2012. — 124 с.

2. Днепров, В. Д. Черты романа XX века / В. Д. Днепров. — М-Л. : Сов. писатель, 1965. — 548 с.

3. Зарев, П. Творческая эволюция романа / П. Зарев // Судьбы романа : сб. ст.; пер. с англ., фр., итал., исп., нем., болг., рум. и словац. яз. — М.: 1975. — С. 86—89.

4. Кожинов, В. В. Происхождение романа / В. В. Кожинов. — М.: Сов. писатель, 1963. — 440 с.

5. Рымарь, Н. Т. Современный западный роман. Проблемы эпической и лирической формы / Н. Т. Рымарь. — Воронеж : Изд-во Воронеж. ун-та, 1978. — 127 с.

6. Савіцкі, А. Пісьмо ў Рай : раман-споведзь / А. Савіцкі. — Мінск : Маст. літ., 2012. — 221 с.

7. Сачанка, Б. Апошнія і першыя : аповесці, раман у навелах, апавяданні / Б. Сачанка. — Мінск : Маст. літ., 2004. — 447 с.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 4 мая 2016 года.

## Рэзюмэ

**Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА**

### Лірычны раман у беларускай прозе апошняй трэці XX — пачатку XXI стагоддзя

У артыкуле разглядаецца жанрава-стылёвая спецыфіка лірычнай раманнай формы на прыкладзе твораў «Чужое неба» Барыса Сачанкі, «Пісьмо ў Рай» Алеся Савіцкага. Выяўляецца адметнасць мастацкага часу, суб’ектнай арганізацыі, раскрываецца псіхалагічны партрэт асобы. Лірычнаму раману ўласці-

вы мастацкі аўтабіяграфізм, выкарыстанне элементаў літаратурнай споведзі, сцвярджэнне значнасці суб'ектыўнага бачання свету ва ўзаемаадносінах чалавека і грамадства.

**Ключавыя словы:** лірычны раман, эпічнасць, мастацкі псіхалагізм, Барыс Сачанка, Алесь Савіцкі.

## Summary

**Ganna NAVASELTSAVA**

## The lyric prose novel in Belarus in the last third of the XX century — beginning of the XXI century

The article deals with genre and stylistic the peculiarities of the lyric novel form on the data of the novels «Alien Sky» (Barys Sachanka), «Letter to Heaven» (Ales' Savitsky). Specific features of artistic time, narrative type, revealing of psychological characteristics of the human being are considered. The lyric novel possesses fiction autobiographic, usage of the elements of literary confession, affirmation of the world significance of the subjective vision of the relationship between man and society.

**Keywords:** lyric novel, epic, fiction psychology, Barys Sachanka, Ales' Savitsky.



**Ганна НАВУМАВА**

# ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І СЕРБІЯЙ

Узаемадзеянне паміж беларускім і сербскім народамі ў сферы культуры мае сваю гісторыю і свае заканамернасці. Але ж асобныя факты і сведчанні пра здзейсненае — гэта адно, а цэласнае ўяўленне пра агульную карціну міжнацыянальных зносін — усё ж такі іншае. Якраз і не хапала абагуленага погляду на тое, што́ ўяўляюць беларуска-сербскія культурныя кантакты на працягу гісторыі і ў цяперашні момант. Бо толькі праз пэўны сінтэз і падагульненні можна зразумець, у якім кірунку трэба ісці далей, каб рух быў мэтанакіраваным, мэтазгодным і як мага больш плённым. Цяпер такі аналітычны сінтэз існуе — дзякуючы кнізе «Беларусь і Сербія: шляхам узаемапазнання і ўзаемадзеяння» Івана Чароты*.

Паколькі многія вынікі ў сферы беларуска-сербскіх культурных (і асабліва літаратурных) сувязей звязаны з імем самога аўтара, то зусім натуральна, што менавіта ён змог нам прадставіць найбольш дакладную і поўную — сапраўды панарамную карціну, а не фрагментарны пералік асобных і як бы выпадковых фактаў.

Да грунтоўнага ўспрымання зместу гэтай кнігі рыхтуе прадмова, напісаная Срэчкам Джукічам. С. Джукіч — былы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь, які сардэчна і шчыра, называючы аўтара сваім сябрам, атэстуе яго як будаўніка мастоў — з тых, хто, як «сербіст, паводле паклікання і адчуванняў, без платы, прадстаўляе ў час крызісаў і ўсялякіх перабудоў» сербскі народ за мяжой. У гэтай атэстацыі асоба аўтара кнігі вымалёўваецца канкрэтна — праз надзвычай уразлівы спіс дасягненняў, згаданую колькасць навуковых прац і мастацкіх перакладаў, а таксама пералік узнагарод. Таму не проста як дзяжурны камплемент чытаецца прызнанне, што Джукіч «падчас свайго пасольства ў Мінску прафесара Чароту ўспрымаў як сербскую ўстанову культуры». Апроч усяго, ва ўступным слове належным чынам азначаны моцныя бакі прапанаванага сербскім чытачам выдання.

Кніга, у асноўным, складаецца з артыкулаў, інтэрв'ю, рэцэнзій, якія раней публікаваліся ў розных выданнях, і цяпер, нарэшце, зведзены разам, каб можна было скласці цэласнае ўяўленне пра беларуска-сербскія сувязі як праблему і адпаведны працэс вырашэння такой праблемы.

Большасць матэрыялаў кнігі прысвечана сербска-беларускім літаратурным кантактам. Гэта своеасаблівы летапіс адносін паміж двума народамі праз Слова, Славеснасць. У сувязі з гэтым не лішне падкрэсліць, што летапіс гэты павінен стаць азбукай для кожнага, хто спрабуе далучыцца да сербістыкі. Тут і грунтоўная факталогія, і прафесійнае асэнсаванне ўсяго ланцужка фактаў. Да таго ж ёсць шэраг раздзелаў з аналізам істотных, фундаментальных для абодвух народаў, праблем. Яны калі не цалкам агульныя, дык вельмі падобныя, і ўжо таму заслугоўваюць пільнай увагі. А тыя пытанні, якія характэрны толькі для аднаго з народаў, слушна ўздымаюцца да ўзроўню агульнай значнасці — таму, што менавіта па іх мы знайшлі паразуменне ў часы найцяжэйшых гістарычных выпрабаванняў.

---

* И. А. Чарота, Белорусија и Србија, Трагом узајамног упознавања и деловања, првоиздање. — Шабац : Центар академске речи, 2016.

У сваіх інтэрв'ю, якія таксама складаюць частку кнігі, І. Чарота засяроджана рэфлексуе па істотных пытаннях беларуска-сербскіх узаемаадносін, закранаючы актуальныя і шмат у чым правідэнцыйныя пытанні.

Паспрабуем сцісла ахарактарызаваць найбольш цікавыя праблемы, якія разглядае аўтар зборніка. Матэрыялам наогул уласціва прыкметная разнастайнасць паводле зместу, тэматыкі і праблематыкі. Таму, на наш погляд, ёсць сэнс зрабіць кароткі агляд, каб на яго падставе зацікаўлены чытач мог знайсці ў кнізе нешта блізкае сабе.

Па-першае, маюцца вельмі цікавыя матэрыялы для сербаў, якія жадаюць пазнаёміцца з Беларуссю. Каб даць зразумець, хто ж такія мы, беларусы, аўтар кнігі прапаноўвае адпаведныя ўяўленні «з сярэдзіны» пра айчынную гісторыю — робіць кароткі агляд яе ад сярэднявечча да сучаснасці, спыняючыся на вызначальных для развіцця нацыянальнай культуры момантах. Пры гэтым вядзе да ўсведамлення, што прэзентацыя ўласнай культуры павінна разлічвацца на канкрэтнага рэцыпіента: адна справа, калі мы прадстаўляем яе ўсходнеславянскаму чытачу, а зусім іншая — калі, скажам, брытанцу. У дадзеным выпадку сербам пра Беларусь распавядае чалавек, які ведае сербскую культуру, і такім чынам, быццам бы з дыстанцыі, загадзя разумее, што цікавіць менавіта сербскага чытача, што павінна прывабіць яго на падставах агульнасці і тыпалогіі, а што зацікавіць як экзатычная з'ява — асаблівая, непадобная, незразумелая, якую таму і патрэбна растлумачыць. І. Чарота спыняецца на ўнутраных і знешніх фактарах развіцця айчыннага літаратурнага працэсу, характарызуе вусную народную творчасць свайго народа, пісьменства і аўтарскую славеснасць новага часу, вылучае дамінуючыя настроі і матывы беларускага мастацтва слова. Ён разважае пра месца беларусаў у геапалітычнай гісторыі, спрабуючы прасачыць, як фарміраваўся іх менталітэт і нацыянальны характар. Асаблівая ўвага прысвячаецца існаванню на памежжы культур, што актуальна для сербаў не менш, чым для беларусаў. І вельмі важна, што аўтар многія рэчы тлумачыць на падставах уласнага жыццёвага вопыту, выкарыстоўваючы ўспаміны дзяцінства і сталага ўзросту — досвед «з першых рук», а ўсё гэта суправаджае таксама развагамі славіста, народжанага якраз «на памежжы».

Дзякуючы кнізе сербскі чытач атрымаў магчымасць здабыць уяўленне пра літаратурны працэс Беларусі ў яго цэласнасці, іманентнай абумоўленасці. Тут здзейснена спроба навуковага абагульнення з удумлівым вылучэннем самага істотнага, таго, што паўтараецца, не знікае, застаючыся вызначальным. Грунтоўная гаворка вядзецца пра так званую *спрадвечную існасць* (У. Дубоўка), якая выяўляецца, сярод іншага, у тыповых вобразах і метафарах. Паказальна, што, характарызуючы сучасны літаратурны працэс, аўтар кнігі звяртае ўвагу будучых сербскіх перакладчыкаў на асобныя імёны, якія варты таго, каб прадстаўляць нацыянальнае мастацтва слова за мяжой. І. Чарота стараецца даваць ацэнкі аб'ектыўна, выверана. У шэрагу выпадкаў ён не можа даць надзейных заключэнняў, а тым больш прагнозаў, у чым шчыра прызнаецца, адзначаючы, што толькі час расставіць усё на свае месцы.

Цікавыя звесткі пра Беларусь сербскі чытач таксама знойдзе ў перадрукаванай тут прадмове да «Анталогіі беларускай паэзіі», першае выданне якой выйшла ў 1993 годзе ў Бялградзе. Гэта вельмі інфарматыўны і змястоўны тэкст, у якім, дарэчы, гісторыя нашай краіны прадстаўляецца не столькі фактаграфічна, колькі гісторыясафічна. І. Чарота піша пра важныя моманты агульнага мінулага сербаў і беларусаў, вылучае асобы беларусаў, якія праславілі айчыну. І зноў жа, звяртаецца ўвага на тое, што нашы народы сутыкаюцца з аднолькавымі ці тыпалагічнымі праблемамі, якія абумоўлівалі спецыфіку гістарычнага развіцця і фарміравання культуры. Сярод іх — актыўны працэс «уніятызацыі» беларускага праваслаўнага насельніцтва, калізіі «культурнай двупрыналежнасці», аб'ектыўныя супярэчнасці жыцця на памежжы і г.д. У сваім аглядзе І.Чарота звязвае агульную гісторыю краіны і развіццё літаратуры ў прыватнасці як выяўленне духу народнага і настрояў

на кожным этапе грамадска-палітычнага развіцця. Ён не проста пералічвае гістарычныя факты, а сур'ёзна разважае пра тое, якi ўплыў на развіццё літаратуры мела тая ці іншая акалічнасць гісторыі — напрыклад, які след у літаратуры пакінула беларуская эміграцыя. Непазбежна ўвага засяроджваецца на праблеме ўзаемаадносін беларусаў са сваімі суседзямі. А для сербаў яна вельмі істотная і цяжка вырашальная, бо нават на агульнакультурным узроўні ў іх застаюцца нявырашаныя пытанні — да прыкладу, аб прыналежнасці да ўласна сербскай культуры тых асоб, якія ўжо прыпісаны да культуры суседзяў.

Іван Чарота дзеліцца думкамі пра нацыянальны характар беларусаў у сувязі з тым, як яго ўспрымаюць замежнікі. Акрамя таго, памяркоўна ацэньвае сучасны стан адпаведных даследаванняў, паказваючы на кірунак навуковай і творчай думкі сваіх суайчыннікаў.

Асобны падраздзел складаюць развагі пра значэнне спадчыны святых роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія для культуры беларусаў, роўна як і сербаў, і славян увогуле. Аўтар лічыць яе агульным падмуркам пісьменства і духоўнай культуры нашых народаў, бачыць у ёй тую жыватворную крыніцу, да якой мы павінны звяртацца, каб захаваць сябе ў якасці прадстаўнікоў народа Божага, і з якой павінны чэрпаць сілы для далейшага развіцця. Для сербаў на цяперашні момант вельмі балюча «адзываецца» ранейшая — абумоўленая высокімі матывамі стымуляваць братэрства і адзінства з суграмадзянамі па СФРЮ — паблажлівасць да суіснавання лацініцы і кірыліцы ў якасці дзвюх сербскіх графік. А беларусы падобныя этапы праходзілі таксама; праўда, з меншымі стратамі. І развагі І. Чароты вымушаюць усіх нас задумацца, чаму ж мы лёгка адракаемся ад свайго спадчыннага, спяшаючыся замяніць яго прывабным, але ў чужых запазычаным. Адсюль вынікае сур'ёзнае пытанне пра матывацыю ў тых, хто бяздумна ініцыіруе і стымулюе працэсы, відавочна штучныя для славянскіх культур.

І ў сербаў, і ў нас апошнім часам актыўна абмяркоўваецца пытанне мовы Царквы — адпаведна, Святога Пісання і богаслужэнняў. Выказваючы свае меркаванні, І.Чарота папярэджвае: «Па сутнасці, гэтая праблема распалена гарачкай паўсядзённай палітыкі». І запрашае зрабіць свае высновы па названых пытаннях самога чытача, прапаноўваючы яму дэтальную інфармацыю: якое месца займае беларуская мова ў літургічных практыках Беларускай Праваслаўнай Царквы і іншых канфесій, у якіх храмах служаць па-беларуску, на якім этапе знаходзіцца пераклад Святога Пісання і літургічных тэкстаў Біблійнай Камісіяй БПЦ, акрэсліваючы і агульны кантэкст — як дадзенае пытанне вырашаецца ў іншых праваслаўных Цэрквах. Цікавым і змястоўным падаецца аналіз практычна ўсіх існуючых перакладаў Святога Пісання на беларускую мову. Істотна, што ацэнка іх якасці вынікае менавіта з грунтоўнага разбору як адмоўных, так і станоўчых якасцей. У рамках названага пытання разглядаецца і іншыя, таксама актуальныя, але не вырашаныя адназначна. На думку аўтара, трэба звяртаць увагу на меру навуковай карэктнасці пры выкарыстанні паняцця «беларуская мова» адносна даўнейшых перакладаў Бібліі, нельга не ўлічваць непазбежнасці разыходжанняў у багаслоўскай тэрміналогіі пры наяўнасці розных традыцый багаслоўя, а разам з тым шукаць шляхі, на якіх беларусы маглі б прыйсці да кансэнсусу. І важна, што аўтар не раіць займаць крайнія пазіцыі, калі сапраўды ёсць жаданне вырашыць такія пытанні.

Для філалагічнай грамадскасці Сербіі цікавасць можа ўяўляць раздзел, прысвечаны праблемам мастацкага перакладу ва ўмовах білінгвізму. Моўная сітуацыя ў Беларусі і сама па сабе, незалежна ад перакладчыцкай праблематыкі, даволі спецыфічная. Ужо таму яна заслугоўвае асаблівай увагі, а тым больш — калі ідзе гаворка пра прэзентацыю нашай моўнай культуры сербам. Сербы, на жаль, мала ведаюць пра яе. Часта задаюць пытанні накшталт: «А беларуская мова адрозніваецца ад рускай?»; «На якой мове гавораць у вашай краіне?»… Важна ўсведамляць, што двухмоўе не толькі па-свойму арганізуе жыццё грамадства на побытавым узроўні, але і выразна абумоўлівае культурнае развіццё наогул, у тым ліку стан літаратурнага перакладу і працэс яго эвалюцыі. Карацей кажучы, безліч дылем

узнікае ў перакладчыка, пакуль ён вырашае, на якую мову ён будзе перакладаць замежны твор у Беларусі. І. Чарота не пакідае без увагі і якасць перакладу, і змест перакладаемых твораў, якія часта прыходзяць да нас праз мовы-пасрэднікі, пераважна рускую. Як прафесійны перакладчык і перакладазнаўца, І. Чарота слушна робіць акцэнт на тым, што ў працэсе фарміравання нацыянальнага корпусу перакладаў павінна адбывацца ўзбагачэнне нацыянальнай мовы на ўсіх узроўнях. Адпаведна, паводле азначэння, перакладчыкі закліканы не толькі «імпартаваць» мастацкія вобразы, праблематыку і духоўны досвед замежных твораў, але і спрыяць усебаковаму развіццю сваёй літаратурнай мовы.

Цікавы раздзел, прысвечаны надзённым праблемам мінулага і будучыні нашага народа, — «Унія і нацыянальная самасвядомасць беларусаў». У ім прадстаўлена агульная характарыстыка рэлігійнага жыцця ў Беларусі на працягу стагоддзяў і тая сітуацыя, якая склалася на сённяшні дзень. Пытанне міжканфесійных адносін разглядаецца з прыцягненнем многіх статыстычных звестак, якія адлюстроўваюць дынаміку рэлігійнасці і змены колькасці прыхільнікаў таго ці іншага веравызнання, а таксама з аналізам знешніх уплываў, маніпуляцый і прыхаваных тэндэнцый. Асноўны прадмет разгляду тут — унія, якая ў свой час была навязана з палітычнымі мэтамі, як справа палітыкі прымусова распаўсюджвалася, а цяпер некаторымі прыхільнікамі інтэрпрэтуецца як «нацыянальная вера беларусаў». Якраз у сувязі з гэтым аўтар фіксуе вельмі распаўсюджаную з'яву апошняга часу — імкненне даказаць «адноснасць відавочнага і бясспрэчнага» з дапамогай шматлікіх эфектных, але несумленных прыёмаў.

«Пра Еўропу, Беларусь і Сербію» — гэта філасофска-публіцыстычны раздзел кнігі, у якім аўтар, імкнучыся пазбегнуць публіцыстычнасці ў яе негатыўным сэнсе, тлумачыць вельмі актуальныя і для сербаў, і для беларусаў праблемы з пункту гледжання культуралогіі. Найперш гэта датычыцца ўласцівага масавай свядомасці імкнення да еўрапеізацыі. Асобна звяртаецца ўвага на разбурэнне традыцыйнай моўнай свядомасці — выкарыстання запазычанняў з нейтральнай канатацыяй замест лексем, якія ў славянскіх мовах абазначаюць выключна негатыўныя з'явы; ужыванне чужых літаратуразнаўчых клішэ пры аналізе айчыннага літаратурнага працэсу; падмена паняцця «еўрапеізацыя» паняццем «касмапалітызацыя» і г. д. І такія працэсы, што з жалем канстатуецца, не пакідаюць перспектыў як для славянскасці, так і нацыянальнага патрыятызму ўсіх славянскіх народаў, у межах агульнага «еўрапейскага дома».

Ад разгляду агульных праблем аўтар пераходзіць да аналізу сумесных дасягненняў беларускага і сербскага народаў. Вельмі важна ўсведамляць сябе паўнавартаснымі суб'ектамі адносін, каб далей будаваць плённы дыялог і наладжваць узаемакарысную міжкультурную камунікацыю. Пэўна, для гэтага трэба ведаць гісторыю ўзаемакантактаў і разумець, на чым засноўваецца агульнасць інтарэсаў, падабенства прыярытэтаў і чым стымулюецца супрацоўніцтва. Агляд беларуска-югаслаўскіх сувязей аўтар правозіць не толькі ў аднайменным артыкуле. Гэтае пытанне закранаецца і ў многіх іншых тэкстах. Уласна, яно — лейтматыў кнігі і, можна сказаць нават, усёй творчай біяграфіі яе аўтара. Як ужо адзначалася, І. Чарота шмат зрабіў для высвятлення многіх фактаў гісторыі гэтых сувязей, а таксама для непасрэднай рэалізацыі працягу іх ва ўмовах сённяшняга дня. Пры гэтым, калі ідзе гаворка пра адкрыццё новых старонак у гісторыі беларуска-сербскіх зносін, сваё месца ў гэтым працэсе ён вызначае сціпла: «Так склаліся абставіны». Насамрэч, большасць дасягненняў у сферы беларуска-сербскіх зносін апошніх часоў мае непасрэднае дачыненне да асобы прафесара І. Чароты. Істотна тое, што факты міжкультурных кантактаў, якія цяпер панарамна прадстаўлены ў дадзенай кнізе, збіраліся літаральна па крупіцах на працягу дзесяцігоддзяў. Іх прыходзілася пільна адсочваць, выбіраць, сістэматызаваць. Аўтар кнігі не толькі летапісец і бібліёграф, але і актыўны перакладчык. Для нас, чытачоў, трымаць у руках гатовы пераклад — гэта адно, а пачуць пра досвед перакладчыка, даведацца, як тая ці іншая кніга перакладалася, які водгук у чытача атрымаў перакладзены

твор, — зусім іншае. Тады мы задумваемся пра матывацыю чалавека, які працуе над тым, што на першы погляд падаецца бессэнсоўным і нікому не патрэбным, дзе ён шукае сілы і чэрпае натхненне. Перакладчык, які перажывае кожны твор, прапускае яго праз сябе, пераствараючы мастацкі змест, дзеліцца з намі сваімі ўражаннямі. Ён можа паведаміць нам пра сапраўдную сутнасць твора, яго мастацкую вартасць, а таксама пра тое, штó і чаму будзе цікава нашым народам у працэсе ўзаемапазнання.

Пытанне сувязей між нашымі народамі аўтар асвятляе ў двух артыкулах: адзін з іх быў напісаны ў 1989 годзе, другі — у 2002-м. Даведваемся пра тое, каго з беларусаў ведаюць у Сербіі, як складваліся асабістыя кантакты паміж пісьменнікамі нашых краін, якія творы перакладалі ў Югаславіі, якія выбаркі-панарамы і зборнікі беларускай паэзіі друкаваліся, а таксама пра імёны найбольш актыўных перакладчыкаў і папулярызатараў беларускай літаратуры ў Сербіі. Таксама можна знайсці вельмі цікавыя — па сутнасці, унікальныя дадзеныя пра тое, як нашы класікі яшчэ пры жыцці былі прадстаўлены ў Югаславіі. Прыводзяцца звесткі пра першыя пераклады іх твораў, рэцэнзіі, аглядныя артыкулы пра беларускую літаратуру пачатку XX стагоддзя. Гэта вельмі каштоўная інфармацыя, мала каму вядомая.

Гэткі ж агляд тычыцца таго, як прадстаўлены літаратуры краін Югаславіі ў Беларусі — з 1910 года, якім датуецца першы вядомы пераклад з харвацкай мовы, да нашых дзён. Гісторыя нашых узаемаадносін паказваецца праз панараму зробленых перакладаў, тэматычных твораў, алюзій-падражанняў, артыкулаў, а таксама летапіс непасрэдных творчых кантактаў. Вызначаюцца істотныя вехі ў развіцці гэтых зносін, калі з’яўляюцца першыя спецыялісты, перакладчыкі, дзякуючы якім выбар перакладаемага становіцца невыпадковым, абгрунтаваным, а сувязі прыкметна актывізуюцца.

Вельмі важна, што І. Чарота звяртаецца не толькі да гісторыі, але і да перспектыў беларуска-сербскіх кантактаў: тлумачыць нам, хто з вартых увагі сербаў на дадзены момант невядомы беларускаму чытачу, які сегмент сербскай культуры і літаратуры яшчэ не дастаткова прадстаўлены, вывучаны і чакае свайго даследчыка і перакладчыка.

«Мы, насамрэч, адно другога не ведаем», — прызнаецца аўтар. Гэта не адчайная маркота, не абвінавачанне — гэта стымул для далейшай працы, натхненне для самога сябе і будучых пакаленняў. У кнізе можна знайсці адначасова смешныя і сумныя факты пра тое, як мала мы ведаем адно пра аднаго, і да якіх камічных сітуацый гэта можа прывесці. Усе канстатацыі пра становішча сённяшніх сувязей, на жаль, не абнадзейваюць, але падштурхваюць да дзейнасці: І. Чарота сцвярджае, што мы ў апошні час не толькі не крочылі наперад, але нават і не вярнуліся да былых колькасных паказчыкаў, калі гаворка ідзе пра адзінкі перакладу ў параўнанні з сітуацыяй савецкіх часоў. Феномены масавай культуры, камерцыялізацыя мастацтва, глабалізацыя ніяк не спрыяюць нармальнаму развіццю глыбокіх культурных кантактаў. Але аўтар падкрэслівае, што ўсё ж такі ёсць сегмент, цікавы сучаснаму ўсходнеславянскаму чытачу: гэта творы сербскіх багасловаў XX—XXI стагоддзяў, якія актыўна перакладаюцца і запатрабаваныя ў чытачоў.

У артыкуле «Косава як галоўная тэма сербалогіі» І. Чарота разважае пра месца касаўскай праблематыкі ў свядомасці і культуры сербаў. Ці магчыма Косава назваць калыскай сербскай гісторыі? Мабыць, слова «рызніца» больш трапнае? Ці абодва словы не перадаюць таго значэння, якое мае гэта святая зямля для кожнага серба? Аўтар кнігі неаднаразова бываў у Косава, сам бачыў, як складвалася сітуацыя на гэтай зямлі, як яна мянялася часам, як жывуць людзі цяпер, што іх турбуе і на што яны спадзяюцца. Ён выказвае думку пра тое, што мірнае суіснаванне этнасаў у гэтым краі магчыма: албанцы маглі б мець усе правы нацыянальнай меншасці. Але ж умешваюцца розныя штучныя фактары, з-за якіх мы маем сённяшнія праблемы, трагедыі, канфлікты. Па гэтым артыкуле мы таксама можам прасачыць, як развіваліся гістарычныя сувязі паміж усходнімі

славянамі і сербамі і якое месца займала косаўская тэма ў гэтых кантактах. Аўтар не абмяжоўваецца толькі літаратурнымі зносінамі: гаворка ідзе пра запазычанні ці сыходжанні ў іканапісных сюжэтах, пра арганізаваныя ў свой час выставы фотаздымкаў, выступленні ансамбляў, кінафестывалі, а таксама пра тое, як людзі з нашых краёў рэагавалі на балканскую трагедыю 90-х гадоў.

Характарыстыка літаратурных сувязей прадугледжвае таксама аналіз рэцэпцыі класікаў замежнай літаратуры ў межах айчыннай культуры і навукі. І. Чарота трапна адзначае, што беларусам вельмі блізкае праблемнае кола раманаў сербскага Нобелеўскага лаўрэата Іва Андрыча: як і сербы, мы жывём на памежжы Захаду і Усходу. Гэта абумоўлівае наша светаўспрыманне і накладвае свае абмежаванні на працэс культурагенеза. Любяць у нас і Дэсанку Максімавіч, якая, між іншым, шмат зрабіла для літаратур усходніх славян у цэлым і беларусаў у прыватнасці.

Змешчаны таксама водгукі І. Чароты на дзве цікавыя кнігі македонскага і сербскага аўтараў, праз якія мы таксама можам даведацца аб тым, што сёння турбуе і натхняе іншаславянскіх пісьменнікаў.

Асобная частка кнігі — водгукі сербскіх калег на некаторыя працы І. Чароты. Такія рэцэнзіі, агляды каштоўныя для ўсіх, бо дапамагаюць зразумець, што менавіта больш за ўсё цэніць сербская інтэлігенцыя, што знайшло водгук у сэрцах, што патрэбна людзям у дадзены момант.

Некалькі інтэрв'ю з І. Чаротам — цікавы матэрыял тым, хто шукае ўласныя крыніцы натхнення для роздумаў пра беларускую літаратуру, наша месца сярод славянскіх народаў, мастацтва ўвогуле, айчынную гісторыю і будучыню нашай краіны. Задаецца шмат добрых пытанняў, і на іх даюцца не менш цікавыя адказы. Можна прачытаць пра жыццёвы шлях самога аўтара. Яго біяграфія вельмі павучальная для славістаў: з самага яго нараджэння на памежжы культур, праз тое, як стаў славістам і да таго, як на гэтым шляху затрымаўся. І. Чарота распавядае пра свае планы на будучыню, акрэслівае кола нявырашаных на сённяшні дзень задач у галіне сербістыкі, натхняе ўсіх нас да працы. Цікава таксама даведацца з першых вуснаў пра тое, як чытачы ўспрымалі анталогіі паэзіі — беларускай у Сербіі і сербскай у Беларусі.

Частка тэкстаў тэматычна звязана з падзеямі 90-х гадоў на Балканах. І. Чарота пісаў і гаварыў пра бамбёжку 1999 года і папярэднія войны, пра тое, як беларускі народ перажываў страшную трагедыю разам з сербскімі братамі, што было высока ацэнена калегамі аўтара і грамадскасцю Сербіі. Пра гэта сведчаць водгукі-рэакцыі, прыведзеныя ў кнізе.

У дадатку да кнігі змешчаны вельмі каштоўны матэрыял, вынік шматгадовай працы аўтара — беларуска-сербская літаратурная бібліяграфія, класіфікаваная па наступных раздзелах: «Сербскія пісьменнікі ў Беларусі (пераклады на беларускую мову, пераклады на рускую мову)»; «Беларускія пісьменнікі ў Сербіі».

Такім чынам, перад намі свайго роду партфоліа чалавека, які ўвасабляе сабой беларуска-сербскія літаратурныя сувязі апошніх дзесяцігоддзяў. Самы актыўны чытач, крытык, даследчык, перакладчык сербскай літаратуры, а таксама аналітык, бібліёграф, выкладчык, папулярызатар — дзе ж вытокі літаральна немажлівага плёну ў працы на гэтай ніве? Адкуль чэрпаць энергію і натхненне для падобных дасягненняў? Мабыць, адказ можна пашукаць у словах самога аўтара. Ён заклікае нас вярнуцца да ўспрымання слова як вышэйшай матэрыі, «не графічнага знака (літары), а Логаса» — без усведамлення гэтага філолаг ніколі не стане сапраўдным спецыялістам. Са Словам нельга гуляць, яго нельга абясцэньваць, лічачы ўсё прамоўленае самамэтаю, бачыць у кожным наборы сімвалаў сэнс і значэнне. Не імкнуцца за модай, а выбраць істотнае, важнае, адвечнае, засяродзіцца на ім і заўсёды заставацца верным сваёй місіі.

Менавіта пра гэта кніга Івана Чароты: пра Слова, якое яднае, пра Слова, якому варта прысвяціць жыццё, пра Слова, якое перад усім, па-над усім.

Юрась КЛІМОВІЧ

# ПРАЗ ПАКУТЫ ДА ПАПАРАЦІ-КВЕТКІ

*Гарун — ад слова «гора». Ці ва ўсякім выпадку ў аснове ляжыць сугучнае яму — «гараваць». Сапраўднае ж прозвішча яго — Прушынскі. Звалі Аляксандрам, па бацьку Уладзіміравічам. Беручы сабе творчы псеўданім, імя захаваў, толькі перайначыў на беларускі манер. Так і з'явіўся ў літаратуры Алесь Гарун. Карыстаўся і псеўданімам А. Сумны. Праўда, наконт таго, што гэты псеўданім належыць менавіта А. Гаруну, у некаторых даследчыкаў няма ўпэўненасці. Сваю пазіцыю яны абгрунтоўваюць тым, што ніводзін з твораў, якія падпісаныя «А. Сумны», А. Гарун не ўключыў у сваю адзіную паэтычную кнігу «Матчын дар» (1918). Магчыма, аўтарства іх належыць каму-небудзь іншаму. Аднак такі довад шыты белымі ніткамі. Што ўключаць у свае кнігі, а што не — права кожнага пісьменніка. Затое ніякіх сумненняў няма наконт яшчэ аднаго псеўданіма А. Гаруна — І. Жывіца. Жывіца — прозвішча ягонай маці. Прагучала б, калі б толькі ім і карыстаўся.*

*Ды такі час быў, калі больш падыходзілі прозвішчы з сацыяльнай афарбоўкай. У рускай літаратуры, як вядома, былі Максім Горкі, Дзям'ян Бедны... У беларускай з'явіліся Цішка Гартны, Янка Журба... І ён, Алесь Гарун. Кожны са сваім талентам. Дый з уласным лёсам. Толькі творчы лёс А. Гаруна быў далёка не шчаслівы. Добра вядомы ў пачатку XIX стагоддзя, Аляксандр Уладзіміравіч затым амаль на 7 дзесяцігоддзяў выпаў з літаратуры. Вярнуўся ў яе толькі ў 1987 годзе, калі споўнілася 100 год з дня ягонага нараджэння. Дый то пра творчасць А. Гаруна спачатку нагадала ўсесаюзная «Литературная газета». Родная ж Беларусь успомніла пра яго пазней.*

*Нічога дзіўнага: сітуацыя звычайная. Ніяк не навучымся мы цаніць тое, вартае ўвагі, што ёсць у нас. Не заўважаем тых, хто заслугоўвае высокай ацэнкі і ўдзячнай памяці. Хоць, калі ўжо быць да канца праўдзівым, то голас у абарону тых, хто сам сябе абараніць ужо не можа, узнімаюць сумленнейшыя з сумленнейшых. Першым А. Гаруна ў «Литературной газете» абараніў не хто-небудзь, а народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Васіля Уладзіміравіча прывабіла «трапяткое слова аднаго з самых пакутных беларускіх песняроў».*

*Сам зведаўшы нямала несправядлівасці, ён не мог далей трываць яе ў дачыненні да А. Гаруна. Таму першым і сказаў пра яго сваё мужнае, прынцыповае дый, як на той час, смелае слова. Смелае, бо А. Гарун, нягледзячы на змены ў жыцці грамадства, усё ніяк не ўпісваўся ў тую сістэму, якая па-ранейшаму яшчэ працягвала дзяліць усіх — творцаў не ў апошнюю чаргу — на сваіх і чужых.*

*Алесь Гарун быў «чужым». Мала таго, што ў бальшавіцкую партыю некалі не ўступіў, дык яшчэ з'яўляўся эсэрам. Калі ж эсэр, то значыць — не наш. А не наш, то навошта пра яго ўспамінаць. Успамінаць жа трэба. Чым часцей, тым лепш, бо ён — з тых творцаў, якія робяць гонар беларускай літаратуры. То і прасочым ягоны жыццёвы і творчы шлях. Балазе зроблена ўжо не так і мала. Найперш намаганнямі Алега Лойкі і Уладзіміра Казберука, якія сваімі*

*публікацыямі і пераканалі: вялікая роля належыць А. Гаруну ў станаўленні беларускай літаратуры. В. Быкаў запаліў святло на дарозе вяртання А. Гаруна з небыцця, а У. Казбярук і А. Лойка ператварылі гэтае святло ў той полымны агонь, які пастаянна вабіць да сябе. Больш за тое, у серыі «Нашы славутыя землякі» выйшла кніга У. Казберука «Светлай волі зычны звон», у якой падрабязна прасочваецца жыццёвы і творчы шлях А. Гаруна. Дзякуючы У. Казберуку двойчы выдаваліся і ягоныя творы: «Сэрцам пачуты звон» у серыі «Спадчына» выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1991) і «Выбраныя творы» ў бібліятэчцы «Беларускі кнігазбор» (1996). Ёсць і факсімільнае выданне «Матчынага дару».*

## Закалка ў рабочым асяродку

Сацыяльная афарбоўка пры выбары асноўнага псеўданіма Аляксандру Прушынскаму спатрэбілася не толькі таму, што пастаянна сутыкаўся з несправядлівасцю, з маленства і юнацтва на свае вочы бачыў, як гаротна жывецца простаму люду. Хоць, бадай, гэта ўсё ж галоўная прычына, чаму ён стаў, напрыклад, не І. Жывіцам, а А. Гаруном. Аднак нясоладка жылося і сям'і, у якой станавіўся на ногі. Яго бацькамі былі колішнія бедныя сяляне з вёскі Падстарынь Сталовіцкай воласці Наваградскага павета. Па цяперашнім адміністрацыйным дзяленні — гэта Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці. У пошуках кавалка хлеба яны перабраліся ў Мінск, дзе ў іх і нарадзіўся сын, якога назвалі Аляксандрам.

Уладзімір Казбярук вычытаў у метрычнай выпісцы Кальварыйскага касцёла для судовых органаў, што гэта адбылося 27 лютага 1887 тода. «Але, — заўважае Уладзімір Міхайлавіч, — не сказана, які гэта стыль — стары ці новы. Між тым каталіцкі касцёл ужо некалькі стагоддзяў карыстаецца новым стылем. У дарэвалюцыйнай Расіі быў узаконены стары стыль. Можна дапусціць, што ў выпісцы, прызначанай для афіцыйнай дзяржаўнай установы, прадстаўнікі касцёла падалі свае звесткі па старым стылі. Гэта дае падставы лічыць, што Алесь Гарун нарадзіўся 11 сакавіка».

Зрабіў У. Казбярук і яшчэ адно важнае ўдакладненне: «У якасці месца нараджэння называецца не вуліца Багадзельная ў Мінску (сённяшняя Камсамольская), як гэта ўсюды пісалася да апошняга часу, а Новы Двор Мінскакальварыйскага прыходу. Гэта, мабыць, была невялікая вёска ці фальварак ля Ракаўскай капліцы».

Відавочна, што юнацкія гады А. Гаруна, з якіх і пачынаецца сталасць чалавека, супалі з тымі зрухамі, што адбыліся ў жыцці грамадства. Як вядома, дзякуючы Першай рускай рэвалюцыі 1905 года моцныя парасткі дало беларускае нацыянальнае адраджэнне. Не застаўся ў баку ад яго і А. Гарун, тым больш, што, нягледзячы на малады яшчэ ўзрост, далучыўся да яго чалавекам, які паспеў ужо нямала спазнаць у жыцці. Праўда, вялікай адукацыі не атрымаў. Тры гады вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе ды яшчэ тры на дрэваапрацоўчым аддзяленні рамесніцкага вучылішча. Затое апошняе навучанне дазволіла яму атрымаць вельмі запатрабаваную прафесію. Калі ж прыняць пад увагу, што А. Гарун стаў не проста сталяром, а высакакласным майстрам сваёй справы, то набытая прафесія адкрыла перад ім шырокія магчымасці. Не тое, што без работы не застаўся, а выбіраў тую, якая была больш даспадобы. У адной майстэрні папрацаваў, у другой… Потым уладкаваўся на мэблевую фабрыку.

Гэта быў усё рабочы асяродак, у тую пару асабліва рэвалюцыйна-настроены. Праўда, у савецкія часы афіцыйная прапаганда настойліва даводзіла, што ці не ўсе рабочыя падзялялі погляды бальшавікоў. Але ў сапраўднасці гэта было не заўсёды так. Работнікі ад станка, канешне, марылі аб шчаслівым, разняволеным жыцці, пазбаўленым прыгнёту і здзекаў, аднак свае лепшыя спадзяванні

яны ўскладалі не толькі на бальшавікоў, а і на іншыя партыі. Яскравы прыклад таму — А. Гарун, які ўступіў у партыю эсэраў. Больш таго, падзяляў погляды асабліва ваяўнічых — тых, хто адносіў сябе да максімалістаў. Гэта, аднак, не перашкаджала яму падзяляць ідэі сацыялізму.

Чым прывабілі эсэры маладога сталяра, звестак не захавалася. Адно можна сказаць пэўна: гэта быў усвядомлены выбар. Стаўшы эсарам у 17-гадовым узросце, ён праявіў вялікую актыўнасць. Удзельнічаў у сходах, пісаў тэксты лістовак, пракламацый, распаўсюджваў іх. Часам і сам станавіўся за друкарскі станок. У падпольнай друкарні на мінскай вуліцы Шырокай, калі друкаваў адозву «Да ўсіх працоўных», 4 сакавіка 1907 года А. Гаруна і арыштавалі. Адозва гэтая была рускамоўная. Можа ўзнікнуць пытанне: чаму не на беларускай мове? Маладым рэвалюцыянерам хацелася, каб яе прачытала як мага больш людзей, а гарадское насельніцтва, як яны добра ведалі, на жаль, рэдка карысталася беларускай мовай. Перавагу аддавала рускай мовай ці польскай. Гэтым усё і тлумачыцца.

На судзе А. Гарун двойчы праходзіў са сваім паплечнікам Абрамам Левітасам. У час следства спрабаваў не назваць сваё сапраўднае прозвішча. Заявіў, што ніякі ён не Прушынскі, а пскоўскі мешчанін Пётр Іваноў. Толькі з жадання ўвесці ў зман улады нічога не атрымалася. Справу вёў вопытны юрыст Кабека, які належаў да тых, каго на мякіне не правядзеш. Без асаблівых складанасцей ён устанавіў, хто перад ім. Яшчэ падчас знаходжання арыштаваных у мінскім астрозе. Калі ж іх перавялі ў Вільню, у сумна вядомыя Лукішкі, засталося толькі давесці следства да яго лагічнага завяршэння. У выніку 10 ліпеня 1908 года А. Гаруна і А. Левітаса адправілі на пасяленне ў Сібір.

Галоўнае абвінавачванне, прад'яўленае ім, — друкаванне адозвы «Да ўсіх працоўных». Яна ж была цалкам вытрымана ў духу эсэраў-максімалістаў, а яны не збіраліся цацкацца з тымі, супраць каго выступалі: «[…] Трэба […] змагацца не на жыццё, а на смерць, бо без барацьбы няма свабоды і шчасця. Цары-дэспаты, уладальнікі зямлель, меня і грошавых капіталаў заўжды будуць ставіць перагародкі на шляху да нашага вызвалення, пагэтаму трэба да ўсяго быць падрыхтаванымі. Барацьба павінна быць крывавай, упартай, і толькі цераз трупы ворагаў узыдзем мы на шлях яснага жыцця, жыцця свабоднага і шчаслівага, — іншага выхаду няма. Барацьба павінна весціся не за дробныя паляпшэнні, а за сацыялізм, які адзін толькі і можа даць людзям шчасце і свабоду».

## Не зламаны выгнаннем

Трапілі А. Гарун і А. Левітас у Кірэнскі павет Іркуцкай губерні. Спачатку знаходзіліся ў сяле Макараўскім, а потым у вёсцы Крывая Лука. Там і спатрэбілася Аляксандру Уладзіміравічу набытая ў юнацтве прафесія. Што ж, сталяр і ў Сібіры — сталяр. Але на пасяленні А. Гарун быў не толькі сталяром, а і цесляром. Праз два гады пачаў працаваць у параходстве. Вясной 1914 года яго запісалі ў сяле, да гэта дало права жыць па ўсёй Сібіры. Будучы на рацэ Лене вадалівам, даплываў на баржы нават да Якуцка. На гэтай жа баржы ў вольны час даводзіў да ладу і свой паэтычны зборнік «Матчын дар», які восенню 1914 года адаслаў у Вільню. Давялося папрацаваць і на прыісках у Бадайбо.

Як нялёгка жылося А. Гаруну на пасяленні, не так і цяжка ўявіць. Аднак наконт гэтага ёсць і канкрэтнае сведчанне самога выгнанніка. Захаваўся адзін ліст Аляксандра Уладзіміравіча, адпраўлены ім на радзіму. Адрасат ягоны не ўстаноўлены. Ды гэта не так і важна. Куды больш істотна, што А. Гарун, няхай і коратка, расказвае пра тое, як жылося яму і гэткім жа, як і ён, пакутнікам: «У гэтым годзе ў Кірэнскі павет Іркуцкай губ. прыйшло 4 партыі, а ў іх многа «палітыкаў». Калі гэта перастануць пхаць сюды народ?! І так тутака людзі галадаюць, бо для ўсіх няма работы, дык і не ўсе ўмеюць што рабіць». Ды няма ліха без дабра. У Бадай-

бо пазнаёміўся з Язэпам Лёсікам. Іхняе сяброўства прадоўжылася па вяртанні ў Мінск, калі абодва былі вызвалены пасля Лютаўскай рэвалюцыі.

Праўда, А. Гарун, пры жаданні, мог бы і застацца ў Сібіры. Пасля таго, як прыйшла вестка аб перамозе Лютаўскай рэвалюцыі, яго выбралі дэпутатам Савета Ленскай золатапрамысловай акругі, што, безумоўна, сведчыць аб яго вялікім аўтарытэце. Аднак было, прынамсі, дзве прычыны, якія не дазвалялі яму заставацца ў далечыні ад Беларусі. Кожная з іх — па-свойму істотная. У сувязі з чарговай рэвалюцыяй з'явіліся новыя спадзяванні на адраджэнне роднага краю. Разумеў: яго месца толькі ў Мінску. Дый здароўе моцна падарваў. Дома ж і родныя сцены дапамагаюць. Таму ў верасні 1917 года і вярнуўся ў Мінск. Прыехаў, па словах Максіма Гарэцкага, «худы, зжаўцелы, з пастаянны далікатна-тужлівым поглядам і нейкай дакорлівай маўклівасцю».

У Мінску яшчэ больш пасябраваў з Я. Лёсікам, як было ні сябраваць, калі душа душу знайшла. Яшчэ больш збілізіла і тое, што звязалі свой лёс з Беларускай сацыялістычнай грамадой. Я. Лёсік прымкнуў да правага крыла яе, рэдагаваў газету «Вольная Беларусь». А. Гарун быў выбраны адным з дванаццаці членаў Цэнтральнага камітэта гэтай самай уплывовай партыі, якая абараняла інтарэсы беларускага народа. Калі ж БСГ распалася, стаў членам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Па-ранейшаму працягваў актыўную грамадскую дзейнасць. У час нямецкай акупацыі рэдагаваў газету «Беларускі шлях». Узначальваў Часовы беларускі нацыянальны камітэт. Шмат друкаваўся. І як паэт, і як публіцыст, адстойваючы права беларусаў звацца беларусамі, даючы адпор усім «дабрадзеям», якія ў сапраўднасці думалі толькі пра свае шкурныя інтарэсы.

## Пачатак як пачатак

Час расказаць і пра яго творчасць, кажучы словамі В. Быкава, гэтага «аднаго з самых выдатных паэтаў пачатку стагоддзя (маецца на ўвазе XX стагоддзе. — *Ю. К.*), паплечніка Купалы і Коласа […]». За пяро Гарун узяўся ў зусім юным узросце. Аднак не на роднай мове, а па-руску. Дый былі гэтыя вершы — не «сур'ёзныя», а гумарыстычныя. Ніводзін з іх не захаваўся, хоць і так няма сумнення, што нельга ўсур'ёз гаварыць аб якіх-небудзь мастацкіх вартасцях такіх ранніх проб пяра. Бадай, і да месца прымаўка: «Чым бы дзіця не цешылася, толькі б не плакала». Гэта тычыцца і спробаў рыфмавання. Да роднай жа моўнай стыхіі ў сваёй творчасці ён далучыўся пазней.

«Пісаць па-беларуску, — па сведчанні М. Гарэцкага ў яго «Гісторыі беларускае літаратуры», — Гарун пачаў 1905 году, а беларускае друкаванае слова першы раз увідзеў у 1903 ці 1904 годзе, прыпадкова знайшоўшы абадраную, запэцканую, без пачатку і канца, цікавую кніжку, друкаваную лацінкай. Як надта вялікі ахвотнік да […] усякага друку, ён пачаў чытаць і гэтую кніжку, думаючы, што яна польская». «Але з першых жа прачытаных слоў незвычайна здзіўлены хлапец пачуў, як неўспадзеўкі закалацілася яго сэрца, на вачах, немаведама чаго, накруціліся слёзы». Кніжка аказалася ніякая і не польская: «Перад вачмі было тое, чаго ніколі не бачыў: сваё роднае, хатняе друкаванае слова!» Як даведаўся А. Гарун крыху пазней, у рукі яму трапілася «старое выданне аповесці «Гапон» Марцінкевіча». Знаёмства з кніжкай, якую напаткаў выпадкова, і паспрыяла таму, што і самому захацелася выказваць на паперы свае думкі па-беларуску: «У 1905 — 1906 гадах напісаў ён і пашыраў сярод моладзі і работнікаў некалькі сацыяльна-рэвалюцыйных вершаў, цяпер згубленых, ці нікім яшчэ не знойдзеных («Чаму так, скажэце, жывецца на свеце?» і інш. Тады на яго мелі ўплыў вершы Цёткі, яе ананімныя адозвы і лістоўкі, якія разам з «Нашай нівою» і рознай агітацыйнай літаратурай пашыраў Прушынскі».

13 студзенем 1905 года датаваны і першы твор, падпісаны псеўданімам А. Сумны. У жанравых адносінах, па меркаванні А. Лойкі, гэта «ні то апавяданне вершам, ні то паэмка «Мае Коляды»». Калі аўтарства яго сапраўды належыць А. Прушынскаму, то гэта першы з ягоных вядомых твораў. Сюжэт яго няхітры: лірычны герой, сялянскі хлапец, закаханы ў паненку-полечку Марылю — сястру свайго школьнага сябрука Казюка, «з прадзедаў пана». Казюк як можа спрыяе яму, але ў Марылькі ёсць жаніх. Ды не абы-хто, а барон. Сябры дамаўляюцца выкрасці яе дзявочы вянок, калі яна пасля танцаў з хлопцам сама назаўтра не падорыць яго. А, можа, нават і яе саму забраць. Толькі да гэтага не даходзіць. Закаханы юнак раніцой, асэнсаваўшы сваю закаханасць, пачынае да ўсяго ставіцца куды цверазей, чым да гэтага. Блуканне ў нябёсах у яго праходзіць. Панства, няхай і праз каханне, яго ўжо не вабіць:

Стала стыдна мне стыду,
Паказаўся я брыдай
Для сябе нат самога…
Застыдаўся я — кога?
Свайго роднага таты!

Сваёй роднае хаты!
Сваёй роднай сярмягі!
Сваёй роднай павагі!
Сваёй роднае мовы —
Беларускай — вясковай!
Бяды свае з мусу!
Ды што я — з беларусаў!..

Прызнаўшы за А. Гаруном аўтарства «Маіх Колядаў», можна сказаць, што малады аўтар, напісаўшы гэты твор, зрабіў свой першы сур'ёзны крок да беларускасці. Сур'ёзны, хоць прасвятленне лірычнага героя наконт гэтага ў творы амаль не абгрунтавана псіхалагічна. Дый відавочна, што каханне і праяўленне сваёй выразнай грамадзянскай пазіцыі знаходзяцца ў розных плоскасцях, адно з другім усё ж слаба вяжацца. Тым не менш, ухвальна, калі чалавек у раннім узросце задумваецца над тым, кім быць, як жыць. Ператварацца ў перакаці-поле, ці ўсведамляць сябе сынам, гаспадаром сваёй зямлі.

Як бы там ні было, але і без «Маіх Колядаў» А. Гарун паскорана навёрстваў тое, чаго быў пазбаўлены: заглыбляўся ў свае вытокі, усведамляў сябе часткай той зямлі, на якой нарадзіўся. З замілаваннем пра яе пісаў і ў сваім дэбютным вершы «Маці-Беларусі», змешчаным у 28 нумары газеты «Наша ніва» за 1907 год:

Родная, мілая старонка ты маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю,
Бедныя нівы твае, сенажаці
І нешчаслівую долю тваю.
Горам, матуля, даўно ты замучана,
Б'юць і дратуюць сямейку тваю.
Аборкай жалезнай, як сеткай, абкручана,
Ціха маўчыш ты на долю сваю.
Але ўжо блізіцца сонейка яснае,
Свету ўсё болей і болей шле нам,
Гора бо горкае, доля няшчасная,
Маці, дадзелі тваім ўжо сынам…

Што наконт гэтага можна сказаць? Калі коратка, дык так: проста, але на дзіва шчыра. Якіх-небудзь адкрыццяў у творы няма, хоць іх у гэтым выпадку і не трэба шукаць. Лірычнаму герою даўно хацелася паспавядацца ў тым, што даўно хвалюе яго, жыве ў сэрцы, толькі ён ніяк не мог выказаць яго. Калі такая мажлівасць нарэшце з'явілася, дык чаму б і не пакарыстацца ёю.

Годам пазней у той жа «Нашай ніве» былі змешчаны яшчэ два вершы А. Гаруна — «Януку Купале» і «Начныя думкі». Першы з іх — паэтычны водгук на выхад першай Купалавай кнігі «Жалейка». Таксама не сказаць, каб твор у нечым арыгінальны. У радках прысутнічае звычайная радасць з такой нагоды: «Хоць прастая і малая// «Жалейка» твая, // Але надта пена грае, // Як паслухаў я. […] Так спявае, так іграе // «жалейка» твая… // Табе «дзякуй» скажа ўсякі, // Дык скажу і я!» Затое «Начныя думкі» — гэта ўжо менавіта сваё, тое, чаго ніхто іншы выказаць не мог.

Пісаўся верш «Начныя думкі», і пераважная большасць твораў, што склалі змест ягонага «Матчынага дару», калі А. Гарун ужо знаходзіўся ў далечыні ад родных мясцін, але згадкі аб іх, асабліва першым часам, не давалі спакою. Беларуская зямля пастаянна прысутнічала ў ягоных думках, абуджаючы памяць, прымушаючы ўсхвалявана біцца сэрца. Прытым наступалі часіны, калі нават цяжка было разабрацца: адбываецца гэта ў рэальнасці, падчас начнога роздуму ці прыходзіць у снах. Настолькі і ў першым, і ў другім выпадку ўсё выглядае праўдзіва, пераканальна.

Розныя станы лёгка пераходзяць з аднаго ў другі і, разам узятыя, сведчылі на карысць таго, наколькі чалавек цесна павязаны, злучаны і спалучаны з тым, што для яго з’яўляецца самой сутнасцю існавання. Мройнае і сапраўднае стваралі адзін цэласны малюнак — шматколерны, рознапалосны, як і само жыццё лірычнага героя выгнанніка:

Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязведаны край,
Повен то шчасця, то жаласці, плачу,
То зло-хмурлівы, то светлы, як рай.

## Не паэт… чаму?

З выгнанніцкіх твораў А. Гаруна асабліва вызначаецца верш, ужо назва якога пры ўсёй сваёй простасці, звычайнасці гаворыць вельмі шмат — «Людзям». Менавіта так яго А. Гарун назваў нездарма. Хоць, як на першы погляд, не менш падыходзіла і назва «Беларусам». У нечым нават больш канкрэтная, бо акурат сваіх суайчыннікаў найперш меў на ўвазе паэт. Але беларусамі ён успрымаў не толькі прадстаўнікоў нацыі, да якой належаў сам, а і ўсіх, хто жыў у яго роднай спакутаванай старонцы. Яны гэтаксама былі блізкімі яму, успрымаліся адной сям’ёй. Гэты твор А. Гаруну, відаць, быў асабліва дарагі, таму і ўзяў яго свайго роду запеўкай да зборніка «Матчын дар», які мае падзагаловак «Думы і песні (1907—1914) і прысвячэнне: «Гэтую першую кніжку думак і песняў сваіх матцы сваёй прысвячаю».

Зборнік і адкрываецца вершам «Людзям»:

Люблю і я скляпенне зор,
Люблю зямлі абшар,
І роўны луг, і ўзгібы гор,
І шум лясны, і гвар.
Люблю жыццё, а ў ім людзей
І кшталты іхніх душ,
Люблю вянкі плясці з надзей, —
А не паэт. — Чаму ж?

Кідаецца ў вочы, што пакуль роднай мовай валодаў яшчэ недасканала. Таму і ўжыты два польскія словы: гвар, што азначе «розныя галасы», і кшталты — яно перакладаецца, як «формы». Дарэчы, польскія словы можна напаткаць і ў некаторых іншых яго творах. Да месца, у сувязі з гэтым, прывесці меркаванне У. Казбе-

рука: «[…] даводзілася пісьменніку — без падручнікаў і граматык, нарматыўных і тлумачальных слоўнікаў, без бібліятэк і роднага асяроддзя — не толькі засвойваць, але і выпрацоўваць для сябе правілы і нормы роднай мовы з яе багатымі стылявымі і вобразнымі магчымасцямі, з выкарыстаннем лексічных багаццяў, якія зберагла яго маладая памяць. Не трэба забываць, што гэта быў перыяд, калі правапіс і літаратурныя нормы беларускай мовы яшчэ толькі складваліся там, дзе з'яўляліся першыя перыядычныя выданні, кнігі, зборнікі, календары».

Ды на тое, што выкарыстана іншае слова, чым трэба, не зважаеш. Куды важней, што А. Гарун, па-ранейшаму знаходзячыся яшчэ на пачатку свайго творчага шляху ў далечыні ад Радзімы не толькі не адцураўся роднай мовы. Пішучы свае творы, ён ужо ўсур'ёз задумваўся аб прызначэнні паэта, а таксама аб прызначэнні і ролі літаратуры ў складаны час нацыянальнага адраджэння, удзельнікам якога ўжо не мог быць. Разам з тым А. Гарун разумеў: сам ён толькі падступаецца да таго, каб насіць высокае і ганаровае званне — паэт. Таму і задаваў пытанне: «Чаму ж?»

У такой пастаноўцы яго відавочна ўнутраная пераклічка з Я. Купалам, які, як вядома, першы верш сваёй «Жалейкі» назваў «Я не паэта». Я. Купала, канешне, не адмаўляў свайго права размаўляць з сучаснікамі ад уласнага імя. Больш за тое, падкрэсліваў, што ён ніхто іншы, а менавіта Янка Купала. У той жа час нагадваў: карыстаючыся гэтым правам, ні пра славу марыць, ні пра ўзнагароду. У яго іншае жаданне, іншае памкненне — калі-небудзь пабачыць долю «у родным народзе». Адсюль і вытокі Купалавага прызнання: «Я не паэта, ой крый мяне, Божа! // Не рвуся к славе гэткай німала». Толькі значна пазней, калі мінулася больш чым дзесяцігоддзе ён прамовіў у вершы «Мая навука»: «Цяпер беларускай я песні ўладар».

Несумненна, нешта падобнае цягам часу мог бы сказаць і А. Гарун. Ды пакуль што яму было цяжка самасцвярджацца творча. Умовы, у якіх жыў, былі зусім неспрыяльнымі для таго, каб штосьці пісаць. Але пра тое, як цяжка яму, гаворыць мала. Толькі ўсяго тры радкі ў вершы наконт гэтага, але як шмат яны значаць!:

Часамі праца ўдзень кіпіць, —
Цярплю і я прыгон, —
Аж косць аб косць у плячу рыпіць…

Наколькі ёмкі, аб'ёмны атрымаўся вобраз: «косць аб косць у плячу рыпіць»! Слоў мала, а сказана на дзіва шмат. Так і бачыш перад сабой знясіленых пакутнікаў-выгнаннікаў, якія ад стомы і знямогі ледзьве перастаўляюць ногі. Ссутуленыя, знясіленыя, яны нібыта прывіды. Уся істота бедалаг працівіцца насіллю, здзекам. Гэтае рыпенне касцей — таксама трывожны напамін пра тое, што выгнаннікі ўжо знаходзяцца на мяжы сваіх магчымасцей. Толькі да гэтага нікому аніякай справы: дзень на дзень падобны і пачынаецца ён і заканчваецца аднымі і тымі ж гукамі — рыпеннем, напоўненым і болем, і роспаччу, і адчаем. Але адначасова і спадзяваннем на лепшае. Прынамсі, лірычны герой твора куды шчаслівейшы за сваіх сяброў-пакутнікаў, бо валодае талентам. Пакуль ён не паэт яшчэ, аднак ім стане. Абавязкова мусіць стаць, каб сказаць усю праўду і пра сябе, і пра сваіх таварышаў. Дый і пра час, у якім жыве:

Загасне дзень. Іду дамоў,
Кладуся спаць, — і ў ноч
Цякуць радкі звінючых слоў,
І сон адходзіць проч.
Тагды пішу. Перад вачмі
Нясецца зданняў рой,
І хтось стаіць па-за плячмі,
Здаецца, блізкі, свой.

Абыйме шыю пара рук
І кос дзявочых шоўк,
Ўзмацніцца ў сэрцы мерны стук,
А звон ў душы не змоўк…
Зірну: пакой пусты, няма…
А час слізнуў, як вуж.
І за вакном радзее цьма…
А не паэт… — Чаму ж?

Гэтае «Чаму ж?», што прагучала другі раз, узмацняе безвыходнасць становішча, у якім апынуўся лірычны герой: «Бо мой прыгон глытае час, // Мне воля — рэдкі дар». У той жа час, як відаць з наступных радкоў, герой гэты і разумее, што ён — не адзін, для каго няма магчымасці быць тым, кім можна быць: «Такіх паэтаў шмат у нас, // Дзе сам народ — пясняр». Аднак неабходнасць нічога не пісаць — звыш усялякіх сіл, таму «Сваіх тут жменьку я спісаў // Маркотных песняў-дум; // Маёй душы іх сам спяваў // Па краю родным сум».

Верш завяршаецца як своеасаблівае пажаданне самому сабе. Яно гучыць аптымістычна. На падобнае здатны толькі той, хто хоць у нечым унутрана і сумняваецца, але не страчвае надзеі на лепшае і гэтае спадзяванне надае яму ўпэўненнасці, дапамагае выстаяць на пакутніцкіх дарогах. Не зламацца ні фізічна, ні маральна, ні духоўна:

Скажу яшчэ, чаго б хацеў:
З дзявочых вуст пачуць
Хаця б адзін мой бедны спеў,
Хаця б калі-нібудзь!

## Супраць крыўды сваіх дзён

Безумоўна, верш «Паэту» найперш успрымаецца як пажаданне іншым творцам, але разам з тым ён у пэўнай ступені і праграмны для самога А. Гаруна. Матывы гэтага твора, канешне, падказаны і тым становішчам, у якім знаходзілася Беларусь. Аднак яны зноў жа ўзмацніліся дзякуючы зведанаму А. Гаруном у выгнанні. Крыўда нашых дзён — і тая, з якой неаднойчы сутыкаўся на Бацькаўшчыне, і гэтая, якая штодня нагадвала аб сабе на пасяленні — ператварылася для яго ў згустак, што даўкім камяком засеў у горле, не дазваляў пець аб прыгожым, узвышаным. Таму і прагучала катэгарычна, нібы на нейкім душэўным зрыве, калі слёз не відаць, але яны напаўняюць усю істоту:

Пакінь, пакінь спяваць а праўдзе тэй, што ў небе?
Яна чужая нам, таемных праўда сіл;
Яна не сходзіць к нам ў канечнае патрэбе,
Калі пакуты дзень так довег і не міл!

Ды адной катэгарычнасцю многага не дасягнеш. Не менш можа даць даверлівасць у гаворцы. Калі словы прамаўляюцца спакойна, яны хутчэй і лягчэй становяцца зразумелымі, даходзяць да сэрцаў субяседнікаў. Таму ў вершы «Паэту» і мяняецца інтанацыя. Лірычны герой ужо не патрабуе, а просіць:

Прашу цябе, мой брат, спявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.
Прашу цябе, спявай аб горы песнь адну ты
І наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй,
Тагды, убачыш сам, парвуцца духа путы
І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй.

Неабходнасць звароту да падзей даўніх («спявай […] аб тым, што[…] і даўней было» прагучала невыпадкова. Сам А. Гарун не проста расказваў пра іх, а ставіўся да мінулага так, што нават ідэалізаваў яго. На гэта ішоў усвядомлена, разумеючы, што добрае веданне сваёй прошласці спрыяе лепшай кансалідацыі нацыі. Абуджэнне ж пачуцця гонару за сваіх продкаў не можа не паўплываць на паскарэнне працэсаў адраджэння. Тым больш, што ў гісторыі беларускага народа было што ўспомніць: «У старыну беларус, не падданы, // Гаспадарыў, быў сам над сабою // І далёка ў свеце быў знаны // За літоўскай і ляшскай зямлёю». Пішучы творы гістарычнай тэматыкі, А. Гарун рабіў тое ж, што і іншыя тагачасныя беларускія пісьменнікі. На гэта звярнуў увагу А. Лойка: «У цэлым ідэалізацыя мінулага Беларусі ў А. Гаруна, як і ў Я. Купалы, К. Каганца, Ф. Багушэвіча была фактам адраджанізму і сацыяльна-рэвалюцыйных настрояў».

Высокую ацэнку творчасці А. Гаруна даў у артыкуле «За тры гады» Максім Багдановіч: «З паэтаў «Нашае нівы» назавём перш за ўсё А. Гаруна, ад каторага наша літаратура можаць шмат чаго спадзявацца. Лёгкасць і мілазычнасць верша, рупная шліфоўка яго, новае і вельмі пекнае счэпліванне рыфм, — усё гэта дужа аздабляе яго паэзію. У дзе якіх спатыкаецца сіла і сціснутасць мовы. Галоўнае ж тое, што пры ўсім гэтым А. Гарун ні да кога іншага непадобны, што ён не зрабіўся нічыім «адгалоскам». Гэта зарука, што нашы надзеі на яго талент не пойдуць на марна».

Ён і сапраўды не быў «нічыім «адгалоскам»». Але гэта не азначае, што яго не прыцягвалі матывы, якія прысутнічалі і ў творчасці іншых паэтаў. Пра гэта ўжо сведчыць хоць бы тое, што, як і Я. Купала, А. Гарун на пачатку творчага шляху праяўляў сціпласць, не называў сябе паэтам. Аднак на карысць таго, што, не з’яўляючыся ў паэзіі, літаратуры «адгалоскам» каго-небудзь, А. Гарун, па сутнасці, не быў адарваны ад тагачаснага беларускага працэсу сведчыць яго верш «Малітва».

Гэты твор вельмі сугучны Купалаваму «Цару неба і зямлі». Цікава і тое, што гэтыя вершы былі напісаны амаль адначасова: А. Гарун у сваёй «Малітве» паставіў апошнюю кропку 26 кастрычніка 1912 года, Купала завяршыў «Цару неба і зямлі» 24 снежня таго ж 1912-га. Толькі паміж публікацыямі гэтых твораў вялікі прамежак. «Малітва» з’явілася ў апошнім, 51-52 нумары «Нашай нівы» за 1912 год, а верш «Цару неба і зямлі» ўпершыню быў надрукаваны ў кнізе Купалы «Спадчына», якая выйшла, як вядома, у 1922 годзе.

Паэты ж, якія заходзіліся на адлегласці ў некалькі тысяч кіламетраў, думалі і пісалі па сутнасці аднолькава. Дэталёвы параўнальны аналіз гэтых твораў зрабіў У. Казбярук. Абодва вершы — гэта свайго роду малітва да Бога. Розніца ў тым, што Я. Купала да Цара неба і зямлі звяртаецца ад свайго імя. А. Гарун жа падышоў да гэтага не на прамую. Ён зрабіў своеасаблівым пасрэднікам паміж абяздоленым беларускім народам і Богам Ісуса Хрыста. Сыну Божаму ад убачанага стала не па сабе. Пры гэтым лірычны герой не адмаўляе сваёй прысутнасці:

Я бачыў: Сын Яго стаяў
На пушчы і маліўся
І словы ў гневе прамаўляў,
А твар слязьмі абліўся.
— Ах, дай мне, Ойча, моцных слоў!
Маланак слоў палючых,
Бо кроў мая сачыцца зноў
Із ранаў тых балючых…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паглянь: паўсюль з краю ў край
Рабунак, глуз пануюць,
І льецца смех тых чорных зграй,
І ўсё з зямлёй раўнуюць.

Янка Купала прасіў Усявышняга: «Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа, // Калі Ты цар і неба, і зямлі». У Гаруна свая просьба: «Ах дай мне, Божа, гэткіх слоў // Зямля б ад іх траслася!» Прасіў ён і жаліўся: «Баляць бо раны мае зноў // І кроў з іх палілася…» Раны гэтыя балелі невыносна, так балелі, што трываць далей было немагчыма: «[…] Гарыць душа, баліць ізноў… // Вялікі! дай, як можаш!»

Гэтымі радкамі верш і завяршаўся. Радкамі-просьбай… Радкамі-спадзяваннямі… Радкамі ўпэўненасці… Ды, звяртаючыся да Бога, Гарун ніколі не забываў і пра свой народ. Ці пачуе Бог — упэўненасці ў яго не было. Народ жа, у гэтым А. Гарун быў перакананы, не можа не пачуць. Яму ён і прысвяціў свой цудоўны верш, так і названы — «Народ»:

Народ — не мы, не чалавек, —
Яму нішто ні год, ні век,
Ні бой насмерць, ні гнеў, ні здзек;
Народ — не слабы чалавек.
Народ — крыніца. Шмат лам’я
Кідала ворагаў сям’я
Ў крыніцу тую — цёк спыніць,
Каб жыццё смерцю замяніць.
І ўсё дарма: з варожых пут
Народ ўстае, як нейкі цуд.

Параўнанне свайго, беларускага народа з крыніцай, нечаканае. Ні ў каго з паэтаў нічога падобнага не знойдзеш. Так і бачыш перад сабой гэтую крыніцу, якой цесна ў яе берагах. Яна прагне вырвацца з іх, разліцца па наваколлі, ператварыцца нават не ў возера, а ў мора. Каб гайдаць на хвалях сваіх караблі, якія плывуць у светлую будучыню. Але апроч народна-паэтычнага вобраза, вядома, быў і рэальны народ. Да яго Гарун звяртаўся ў вершы «Кліч»:

Гэтай, народзе, трэба ўставаць,
Дух свой з рабства распрастаць, —
Чуеш: Волі зычны звон
Будзіць, кліча меддзю ён
Ўсе народы ўсіх старон,
Каб разбурыць крыўды трон.

Скрозь, куды хаця зірні, —
Здзівіць з дзіваў дзіва-цуд:
Ў небе літара-агні
Свецяць ноччу і пры дні —
«Вызваль дух свой, рабскі люд!».

Ў гэты час пракляты будзь,
Хто свой карк захоча гнуць,
Й рукі ворагу лізаць,
Й словы льслівыя казаць.

## Лягчэйшы — не значыць слабейшы

Алеся Гаруна-паэта, канешне, найперш стварыў талент, якім ён быў адораны ад нараджэння. Аднак нямала паспрыяла гэтаму і тое, што, дзякуючы свайму лёсу, змог акрэсліць кола тэм, асабліва блізкіх яму. Іх здолеў раскрыць праўдзіва, яскрава — так, што ўсё гэта бярэ за душу, выклікае пачуццё замілавання, прымушае здзіўляцца, якая гэта вялікая сіла — сапраўдная паэзія. Пра што б ні пісаў — пра свае выгнанніцкія будні ці пра жыццё горада, блізкага і дарагога яму з маленства, юнацтва; пра імкненне народа да лепшага жыцця, жаданне рэвалю-

цыйным шляхам перамагчы зло, насілле, сацыяльны і нацыянальны прыгнёт альбо пра тое, што ідэі хрысціянства, веры ў самым шырокім значэнні гэтага слова ніколькі не пярэчаць агульначалавечым матывам — усё гэта сваё, яно ні ў кога не ўзята, а народжана ў глыбіні ўласнай душы. Душы спакутаванай, але прагавітай да прыгожага, да абнаўлення свету. Свет жа гэты — жыццё беларусаў і жыццё Беларусі. Але трэба прыслухацца і да меркавання А. Лойкі: «А. Гарун не быў бы паэтам, каб сам не вычуў трагічнага ў будучым павароту свайго лёсу». Для падмацавання гэтай думкі Алег Антонавіч спасылаўся на тры вершы паэта з «Матчынага дару»: прысвечаны Якубу Коласу «Усе з аднэй мы вышлі нівы», а таксама «Думы ў чужыне» і «Слабасці».

Першы з іх цікавы тым, што А. Гарун, нагадвае пра тое, што і ў яго самога, і ў Я. Коласа адны і тыя ж вытокі. Абодва прыйшлі ў літаратуру з народных нізоў, хоць адзін з іх па сваім сацыяльным паходжанні рабочы, а другі — селянін:

Усе з аднэй мы выйшлі нівы,
І сейбіт нас адзін кідаў,
І кожан з нас той дзень шчаслівы
Ў сваёй душы благаслаўляў.

Толькі лёс у кожнага склаўся па-рознаму:

А вецер быў. І хто цяжэйшы,
Астаўся там, куды ўпаў,
А хто, як я, хто быў лягчэйшы,
Ў далёкі свет павандраваў.

Гэты «цяжэйшы» — Я. Колас. Ён «узрос на роднай глебе, пусціў глыбока карані». Чаго не скажаш пра «лягчэйшага» А. Гаруна, якія воляй абставін надоўга быў адарваны ад Радзімы, таму ў яго і не такія глыбокія, моцныя карані. У вершы відавочна прысутнасць іроніі. Але ёсць і іншае: уменне радавацца чужому таленту, ускладаць на яго вялікія спадзяванні:

Цвіці ж, расці, буйней надзіва
Ў сям'і прыгожых васількоў.
З тваіх зярнят хачу праўдзіва,
Убачыць поле каласкоў.

Верш «Думы ў чужыне» — як бы працяг папярэдняга. Але адлучанасць ад Беларусі ўжо не проста канстатуецца, а і выклікае ў душы трывожны неспакой. Лірычнаму герою становіцца не па сабе ад усведамлення таго, што ён можа ператварыцца для Радзімы ў свайго роду чужынца: «Горшая мука ўтрапляець, што сынам я // Быць перастану сваёй старане». Ад гэтага ўсведамлення балюча на сэрцы. З'яўляецца боязь, што з-за няпэўнасці можна ступіць на той шлях, які яшчэ больш адштурхне ад таго, без чаго не хочацца жыць. Адлегласць да родных мясцін, якая і так вымяраецца тысячамі кіламетраў, стане зусім не пераадольнай. Пасля гэтага ўжо ніякае вяртанне стане немагчымым. Аднак, як нечакана з'яўляецца такая трывожная думка, гэтаксама нечакана яна і знікае. Не, адлучыць ад Радзімы, ад Беларусі ніхто і нішто яго не зможа:

Памяць не доўгая, любасць не вечная;
Страсць, бязлюднасць — іх трудна нясці;
Мо, пажагнаўшыся з старым, на вечнае
З шляху звярну, па другім каб ісці.

Страшна мне нават аб гэтым і згадываць,
Страшна і думаць, і не хачу,
Толькі ж надзеі не маю чым зрадаваць,
Сэрца і слёзы ссушыць уваччу.

Ды, як ведаем цяпер, трывога ў А. Гаруна ўсё ж была не марнай і небеспадстаўнай. Тое, што паэт адчуваў інтуітыўна, адбылося. Па вяртанні ў Мінск, як ужо гаварылася, ён уліўся ў жыццё, блізкае і дарагое яму, адразу стаўшы ў ім зноў сваім. Працаваў бы і далей, калі б здароўе дазваляла. Але, калі б жыў, здарылася б трагічнае. Несумненна, што яго кандыдатура як нельга лепш падыходзіла б для залічэннння ў міфічны «Саюз вызвалення Беларусі». Як-ніяк эсэрам з'яўляўся!

Парадокс ці не праўда? Жыццё абарвалася рана, аднак, калі б не хвароба, яно таксама, верагодней за ўсё, было б нядоўгім. Сапраўды ўжо, як сказаў Аляксандр Кушнер, «времена не выбирают, // в них живут и умирают». Крыўдна, аднак, тое, што асабліва несправядлівы лёс часам да самых сумленных і чысцейшых. А. Гарун быў такім чалавекам і такім паэтам. Тым больш крыўдна, што, стаўшы выгнаннікам пры жыцці, ён амаль 70 гадоў заставаўся выгнаннікам у літаратуры.

У вершы «Слабасці» — таксама роздум А. Гаруна пра няпростае становішча, у якім ён апынуўся ў выгнанні. Але ў гэтым творы гаворка набыла крыху іншы аспект. Лірычны герой знайшоў для сябе абярэг. Толькі абярэг гэты незвычайны і нечаканы — праклёны. Ён і сам разумее, што паддавацца гэтаму — не лепшае выйсце: «Няхай душы, каторай Бог надаў любоў, // Праклёны — грэх, — аб гэтым буду знаць я!» Аднак без праклёнаў не абысціся. Яны неабходны лірычнаму герою для таго, каб абараніць сябе ад мінутнай слабасці, што можа прывесці да непапраўнага, забраўшы сілы для супраціўлення абставінам, пазбавіўшы жадання жыць далей:

Кляну цябе, кляну цябе ізноў і зноў,
І буду праклінаць я.
Тое ж ты ка мне прыйшла, як волю адабраў
Тыран маю, скуў цела ланцугамі,
І думкі вольныя з душы павыдзіраў,
І растаптаў нагамі.
То ж ты прыйшла тагды і стала ля вакна
І ў вочы мне зірнула цераз краты,
Ты, подлая, ніхто, як ты адна,
Ты будзь праклята.

Трэба пагадзіцца з А. Лойкам, што ўсё ж «[…] адна з вяршынь грамадзянскай лірыкі дакастрычніцкай паэзіі ўвогуле» верш А. Гаруна «***Хто сказаў: "І я з народам"».

Хто сказаў: «І я з народам»,
Хто з ім поплеч стаў, як з братам,
Хто пайшоў з ім роўным ходам
К роўным зыскам, к роўным стратам, —
З тым і я. Няхай жа ліча,
Будзе трэба — хай пакліча.

Хто ж сказаў, а потым здрадзіў,
Хто пайшоў, а потым кінуў,
Хто ў душы сумленне згладзіў,
Ў кім апошні сорам згінуў, —
Хай дрыжыць. У дзень прысуду
Ў страшны дзень, я сведчыць буду.

Патлумачу: згладзіў — гэта паланізм, ужыты А. Гаруном у сэнсе знішчыў. Сваё ўражанне аб гэтым творы, А. Лойка падмацаваў развагамі, што гэта «бадай, адзін у кнізе («Матчын дар». — *Ю. К.*) па незвычайнай публіцыстычнай напружанасці, максімалісцкай катэгарычнасці, якая не дае ні сабе, ні каму-небудзь іншаму паслаблення, літасці верш».

Да самазабыцця ўлюбёны ў родную мову, пра што сведчаць шмат якія яго вершы, у Беларусь, з пашанай ставячыся да мінуўшчыны, А. Гарун не замыкаўся

толькі гэтай праблематыкай. Шмат у чым абганяючы свой час, напаўняючы развагі філасофскім зместам, у думках ён сягаў і ў касмічныя высі, як гэта рабіў той жа Багдановіч. Пры гэтым, у чым пераконвае верш «Адбітак», заставаўся на дзіва арыгінальным. У самым пачатку твора адчуваецца нават пэўная парадаксальнасць, калі прыгадаць, чым для А. Гаруна нязменна заставалася Беларусь. А тут лірычны герой раптам пачаў быццам пярэчыць самому сабе. Сумуе, што яму лёсам не наканавана трапіць туды, дзе таямнічае і нязведанае:

Дзіўлюся я на ззянне ясных зораў, —
І сумна-сумна так, што я не разам з імі,
Што жыць не лёс мне ў вышыні нагорнай
І сцежкамі хадзіць па небе залатымі.

Тут жа і абгрунтоўвае сваё жаданне, канкрэтызуючы яго: «Сярод нязнаных мне, не бачаных прастораў // Раўнінай той, што завецца Бесканечнасць, // Я лётаў думкаю б і воляй непакорнай // І, можа б, там пазнаў цябе, Адвечнасць». Аднак самая нечаканая выснова гучыць на завяршэнні твора:

Дзіўлюся я на зораў ясных ззянне,
На сцежках іх, ўсё тыя ж, як прад векам,
І сумна гэтак мне, і родзіць сум пытанне:
Нашто пачаўся я ад Бога — чалавекам?

Адказу на гэтае «нашто» ў вершы няма. Дый у ім няма неабходнасці. А. Гарун і так дастаткова поўна выказаў тое, што хацеў сказаць. З аднаго боку душэўныя пакуты, якія не пакідалі яго ў далечыні ад Радзімы. З другога — жаданне праз сусвет лепш убачыць свет, што акружае цябе. Дый разабрацца ў самім сабе, а ў такім выпадку нярэдка не абыходзіцца без катэгарычнасці сцвярджэнняў. Таму і з’явілася гэтае: «нашто пачаўся я ад Бога — чалавекам?»

## Працягваючы нацыянальныя традыцыі

Спрабаваў А. Гарун свае сілы не толькі ў паэзіі, а і ў прозе. Яго абразкі, апавяданні змяшчаліся ў газетах «Наша ніва», «Вольная Беларусь», «Беларусь»... Гэтую частку ягонай творчай спадчыны вярнуў сучаснаму чытачу зноў жа У. Казбярук. Пераважную большасць празаічных твораў А. Гаруна ён у канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя прапанаваў часопісу «Полымя» (1988, № 6). Публікацыі папярэднічала прадмова, у якой даследчык улавіў найбольш істотнае і характэрнае ў мастацкай дзейнасці А. Гаруна-празаіка. Уладзімір Міхайлавіч пераканаўча засведчыў, што проза А. Гаруна «надзейна апіралася на нацыянальныя традыцыі літаратурнага і бытавога апавядання. Але адначасова яна неабмежавана расшырала рамкі традыцыйных формаў вобразнасці, мастацкага стылю, кампазіцыі. Зусім новая з’ява ў нашай літаратуры — і жанравая форма трыпціха (наогул такой жанравай формы ў прозе тэорыя літаратуры нават не ведае), і спалучэнне рознамаштабных падзей у рамках аднаго і таго ж твора, і нечаканае, зусім нетрадыцыйнае выкарыстанне фантастыкі ў чыста, здавалася б, рэалістычным апавяданні, і смелае ўвядзенне ў мастацкую літаратуру народных гутарковых лексічных, сінтаксічных, стылёвых ці марфалагічных формаў, што не заўсёды адпавядалі нават тагачасным літаратурным нормам».

Дазволіў сабе такую доўгую цытату, каб не паўтарацца, бо У. Казбярук вельмі дакладна спасцігнуў сутнасць прозы А. Гаруна, разгледзеў, вобразна кажучы, яе твар. Хіба трэба толькі дадаць, што думкі А. Гаруна ў апавяданнях «Пан Шабуневіч» і «Свята» вельмі сугучныя таму зацікаўленаму стаўленню да роднай мовы, якое ў наш час у нацыянальна-свядомых беларусаў перажывае новы ўздым.

З сімпатыяй, замілаваннем расказвае герой-апавядальнік пра свайго знаёмага Шабуневіча («Пан Шабуневіч»), які ў самых неспрыяльных умовах не выракся матчынай гаворкі. Адначасова разважае аб гэтым з трывогай, бо бачыць: «Беларускую мову яшчэ раз выкасавалі з ліку родных моў: напісалі, што роднай мовай маіх дзяцей (бо я не пакідаю надзеі ажаніцца) павінна быць ці польская, ці расейская, ці жыдоўская, ці літоўская, ці іншая. Чаму ж яшчэ не прылучылі французскай, нямецкай, японскай, не ведаю. Усё ж нічога сабе мовы».

А як хараша перадае пісьменнік душэўны стан свайго героя ў апавяданні «Свята»! Грыневіч — персанаж у многім аўтабіяграфічны. Гэта ж А. Гарун, як і Грыневіч, нечакана для самога сябе, апынуўшыся ў сібірскай глушы, на сваіх катаражных дарогах, знаходзіць ён «родную душу». У «страшнай сібірскай самоце» прыходзіць для яго сапраўднае свята: «Бабка гаварыла па-беларуску! Словы, якімі яна зрабіла свой адказ нявестцы, звінелі, як тыя, каторымі ён думаў. Адкуль тут яго родная мова?» Як высветлілася, старэнькая бабулька — родная сястра бабулі Грыневіча, пра лёс якой ён так доўга нічога не ведаў.

Хочацца перачытваць абразок Гаруна «Першы снег». Пра вечную вабнасць першароднага ён. Аб той чысціні — у прыродзе, жыцці, — якой так прагне кожнае новае пакаленне, і адначасова аб буднях жыцця, што гэтую чысціню жыцця знішчаюць. Падаюць сняжынкі. «Як тысячы моладзі нашай з мяккай вясёлай душой радасна ўступаюць у жыццё», так ляціць да нас снег «увесь чысты». Але праходзіць час: «… ужо ходзяць па ім, ужо топчуць нагамі і з граззю мяшаюць, і з брудам нячыстым…» У паўсядзённасці таксама даволі часта самыя светлыя мары не здзяйсняюцца…

Па-свойму падышоў Гарун да асэнсавання выгнанніцкай тэматыкі ў апавяданні «Маладое». Пры ўсёй рэалістычнасці гэтага твора ў ім прысутнічаюць і элементы фантастычнага. Зняволеныя, якія ўцяклі з астрога, нямала зведалі на сваім шляху выпрабаванняў, многае перажылі. Нават не ўсе вытрымалі гэта, але тыя, хто быў больш фізічна моцны, упэўнены ў сабе, настойліва імкнуліся наперад. Поспех ім спадарожнічаў і таму, што яны маглі незаўважна праходзіць каля іншых людзей. Гэта сведчыць на карысць таго, што для чалавека, які ставіць перад сабой высакародную мэту, няма нічога немагчымага.

«Своеасаблівым празаічным трыпціхам» назваў У. Казбярук апавяданне Гаруна «П'ера і Каламбіна». Тры гісторыі, аб'яднаныя адной тэмай — тэмай кахання, вернасці — хоць сюжэтна і самастойныя, аднак якраз гэты агульны стрыжань і лучыць іх між сабой. Ідылічнаму каханню ў творы супрацьпастаўляецца жорсткасць жыццёвых абставін. Закаханая пачынае зусім іншымі вачыма глядзець на свайго абранніка, калі бачыць, што ён не абараняе яе перад тымі, хто не абараняе іх.

Значна пашырае ўяўленне аб прозе Гаруна апавяданне «У Панасавым сяле». Яно цалкам фантастычнае. Як слушна заўважыў У. Казбярук, «у творы арганічна спалучаюцца рэальнасць і фантазія, трапная назіральнасць і выдумка, прыватнае і глабальнае, мясцовае і сусветнае, шырокае абагульненне і дэталізацыя, пераплятаюцца бытавыя і казачныя матывы». Тым самым, можна сцвярджаць, што і А. Гарун стаяў і каля вытокаў беларускай фантастыкі. Праўда, пішучы гэты твор, ён у пэўнай ступені як бы працягваў апавяданне «Панас на небе» Змітрака Бядулі. У абодвух пісьменнікаў паводле іх мастакоўскай задумы Панасава сяло апынулася на небе. Палешукі, трапіўшы ў новы, нязвыклы для іх асяродак, мусяць па-новаму ладзіць свой побыт.

Гэтыя людзі ўжо не такія, якімі былі на зямлі. Дый турботы іх розняцца ад зямных. Апроч таго, для іх разбурыўся той звыклы ўклад жыцця, што складваўся, фарміраваўся стагоддзямі. Пра гэта герой-апавядальнік даведаўся ад самога чорта. У яго да ўсяго сваё стаўленне, таму і ацэньвае ён змены ў чымсьці з гумарам: «Палешукі толькі вочы таропілі на тое, што дзеецца, але покуль раскусілі гарэх, дык час прабавілі — спозніліся. Цяпер, па-праўдзе, дык не яны ўжо

гаспадары, але гэтыя, новыя. Панаса з хаты яны выгналі, той сабе ў варэннай (на кухні — *Ю. К.*) ціханька сядзіць, як мыш у мяшку, ды толькі вохкае, каб чаго горшага не дачакацца. Рэшта палешукоў сядзяць і не рыпаюцца на што-небудзь».

Апавяданне «У Панасавым сяле» — своеасаблівая рэакцыя Гаруна на змены, што адбываліся ў жыцці грамадства. Пачынаючы сваю рэвалюцыйную дзейнасць з уступлення ў партыю эсэраў, ён усё ж верыў у ідэалы сацыялізму. Падзяляў гэтыя ідэі і пазней. Хоць у нечым і мяняў свае палітычныя арыенціры, у галоўным прытрымліваўся адных і тых жа поглядаў. Для яго было добрым тое, што добра для Беларусі. На паверку ж аказалася, што не ўсё так проста, як падавалася. Нярэдка адбывалася тое, пра што ў апавяданні сказана коратка, але вычарпальна: «А за новымі парадкамі паляшуцтвам ужо мала цікавіліся: больш пыталіся, з якой партыі».

За жыццём Панасавага сяла паўставала непрыглядная рэчаіснасць. Сапраўды ўжо: хто быў нічым пачынаў станавіцца ўсім. Іншыя ж, хоць дагэтуль ніяк і не праяўлялі сябе, аказаліся на вышыні. Прытым, што амбіцыі ў іх былі, дый немалыя ёсць, а вось «амуніцыі» бракавала, таму з гэтага нічога добрага і не атрымалася: «На млыне няма завозу, бо ніхто нічога не прывозіць, а што было, дык чысцюнька вымелі. Борух ярмолку страціў і, бегаючы, барадой трасе; няма ўжо Борухавай карчмы — цяпер тамака клюб зрабілі. Гарэлку, аднак, п'юць мацней, чым даўней у карчме, а што ў беднага Боруха сэрца кроўю абліваецца гледзячы — такі профіш страціць! Усё цяпер па-іншаму ў Панасавым сяле. Не тыя пайшлі парадкі, не даўнейшыя. Хто ў пашане быў, той цяпер тамака ў запечку сядзіць, а той, чыйго духу там даўней не было, — найбольшую пашану мае. Панасіху, хоць яе яшчэ там і няма, лепш ведаюць і болей шануюць, чым самога Панаса, каторы сялу пачатак даў. Цяпер хочуць сяло на рэспубліку перайначыць, а Панасіха, кажуць, мае прэзідэнтам зрабіцца».

Амаль на самым завяршэнні апавядання размова чорта з апавядальнікам пераходзіць на рэальныя тагачасныя беларускія справы:

«[…] Што ж у вас тут, якія навіны?

— Ад ліха — ціха, дабра не чуваць…

— Ці хутчэй: «Папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад»? А Рада што?

— Рада — як Рада…»

Сапраўды, на момант напісання апавядання, у 1920 годзе, спадзяванні на тое, што Беларусь па-сапраўднаму стане незалежнай, не спраўдзіліся. Зрабіць гэта Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі па розных прычынах не ўдалося. Гаруну давялося змірыцца з такім становішчам. Адзінае, што мог ён зрабіць, напісаць апавяданне «У Панасавым сяле», невыпадкова даўшы яму падзагаловак «Бывальшчына». Хоць усяго таго, пра што расказваецца ў творы, і не было ў сапраўднасці, але яно, як быццам і было, настолькі фантастыка шмат у чым адпавядала рэчаіснасці. Апавяданне «У Панасавым сяле» сведчыць аб тым, што А. Гарун-празаік меў значны патэнцыянал і, калі б лёс да яго быў больш спрыяльным, ён мог бы напісаць яшчэ шмат таго, што, несумненна, папоўніла б скарбонку лепшых набыткаў беларускай літаратуры.

## Што казка, што ява — таленту праява

Алесь Гарун, як ці не ўсе пачынальнікі новай беларускай літаратуры, паспяхова асвойваў розныя жанры. Не абышоў ён сваёй увагай і драматургічны. Гэта відаць з ягонага ліста, які 30 кастрычніка 1912 года з Кірэнска адправіў Вацлаву Ластоўскаму:

«Высокапаважаны Пане Ластоўскі!

Пасылаю Пану, для «Н[ашай] Н[івы]» зноў сваіх колькі вершаў. З песнямі пакуль што маўчу. Ёсціка ў галаве пара матываў, але пакуль што заняты другім: як

урву якую вольную часінку, то пакладаю напісанне драмы для беларускага тэатру. Драма ў вершах, з сучаснага жыцця і будзе меці тытул «Дэпутат». Можа, крыху другі, але кончэ з «дэпут». Першы акт наперша скончыў, пачаў другі, але калі ўсё давяду да канца — не ведаю […]».

Дарэчы, у выгнанні А. Гарун займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю. Вядома, што ён пераўвасобіў па-беларуску паэму Юльюша Славацкага «Русалка». Пра гэта пісала «Наша ніва» ў сваёй «Паштовай скрынцы» ў нумары № 1 за 1911 год: «Пераклад Славацкага «Русалкі» добры».

Што да драмы «Дэпутат», то, на жаль, ні першы акт гэтага твора, ні ўся п'еса, калі ўсё ж яна была завершана, не захаваліся. Аднак, тым не менш, уяўленне аб А. Гаруну-драматургу можна атрымаць. Зрабіць гэта дазваляе зборнік яго п'ес «Жывыя казкі», зарыентаваны на дзіцячы тэатр. Гэты зборнік пабачыў свет у 1920 годзе. Як успамінаў Змітрок Бядуля, «[…] Апошні год Гарун амаль не выходзіў з хаты. Яго «Жывыя казкі» яму даводзілася пісаць у ложку». Спяшаўся завяршыць пачатую справу, не сумняваючыся, што драматургічныя творы значна пашыраць уяўленне аб ім як пісьменніку значных мастакоўскіх магчымасцей, засведчаць аб тым, што і ў дзіцячай літаратуры ён быў чалавекам не чужым, невыпадковым. Дый у драматургіі таксама, бо казкі гэтыя прызначаліся не столькі для чытання, колькі для пастаноўкі на сцэне дзіцячага тэатра.

Сама па сабе цікавая ўжо прадмова да гэтай кніжкі. У ёй А. Гарун прызнаўся, адкуль у яго з'явілася такая задумка, чым кіраваўся ён, выбраўшы менавіта жанр казкі. Выказваў і асобныя пажаданні тым, хто пазнаёміцца з гэтымі творамі. Прынамсі, быў не супраць таго, што некаторыя чытачы згодзяцца як бы стаць яго суаўтарамі. Не проста рыхтаваў іх да зборніка, а і хацеў, каб першае знаёмства з ім не стала апошнім, а, наадварот, выклікала жаданне зноў звярнуцца да прачытанага. А. Гарун пісаў у прадмове:

«Жывымі» назваў я казкі […] дзеля таго, што я не чуў іх ад каго-небудзь і потым запісаў, але ўласнымі вачыма бачыў і вушамі чуў усё тое, што ў іх дзеецца. Спадзяюся, што мае чытачы гэта і самі ўмеюць: бачыць тое, чаго для іншых саўсім няма.

«Жывымі» назваў я іх яшчэ і дзеля таго, што хацеў, каб з іх была для маіх чытачоў большая карысць, чым з тых апісанняў больш ці менш цікавых здарэнняў, каторыя звычайна называюцца таксама казкамі і па прачытанні часцей забываюцца. Я хацеў, каб кожная з маіх казак пасля яе прачытання выклікала ахвоту паказаць прачытанае ў асобах — «згуляць»; адным словам, мае дарагія прыяцелі, да вашых гульняў я хацеў дадаць вам яшчэ тры гульні: у «хлопчыка ў лесе», у «шчаслівага чырвонца» і ў «дзіўны лапаць».

Пры гэтым я саўсім не буду пакрыўджаны, калі, гуляючы — паказываючы гэтыя казкі, вы штось у іх зменіце подлуг свайго ўпадабання, што-нішто дадасцё, што-нішто ўйміцё. Наадварот, я буду вельмі рады гэткаму папраўлянню, калі б, заахвочаныя сваёй працай над гэтым, выдумалі б нешта саўсім новае, то я віншаваў бы сябе з тым, што мае казкі добрыя ўдаліся».

Зборнік «Жывыя казкі» — не такі і аб'ёмны. Гэта і апраўдана для кніжкі, у якой змешчаны драматургічныя творы, тым больш, калі адрасаваныя дзецям. Ім А. Гарун прапанаваў тры ўласныя казкі: «Хлопчык у лесе», «Шчаслівы чырвонец», «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць» і перапрацаваную з польскай мовы п'есу «Датрымаў характар», таксама разлічаную на дзіцячую аўдыторыю. Як і ў некаторых «дарослых» творах А. Гаруна, у казках нямала фантастычнага, якое вытокамі сваімі пачынаецца ў фальклоры, у народных казках. Але, безумоўна, шмат значыць і багатая фантазія самога аўтара, у выніку чаго ствараецца непаўторны свет, у якім традыцыйна сутыкаюцца дабро і зло, цёмныя сілы і светлыя. Дэкларуецца справядлівасць, сумленнасць. Асуджаецца ўсё тое негатыўнае, з чым нельга не змагацца. Не абыходзіцца, зразумела, і без пэўнага дыдактызму. Аднак гэта толькі на карысць, бо тым самым пісьменнік

пераконвае дзяцей у тым, кажучы словамі Уладзіміра Маякоўскага, «что такое хорошо, а что такое плохо», прывівае ім лепшыя якасці, якія так спатрэбяцца пазней, у дарослым жыцці.

Адкрываецца зборнік казкай «Хлопчык у лесе», якая, пры ўсёй сваёй самастойнасці, так і «напрошваецца» да параўнання з драматычнай паэмай Я. Купалы «Сон на кургане». Хлопчык Гаруна, як і герой народнага песняра Сам, трапіўшы ў дрымучы гушчар, заблудзіўся. На яго долю выпадае нямала дзіўных, нечаканых прыгод. Адчуванне такое, што ён, як і Купалаў Сам, праходзіць праз «сон на кургане».

У тым, што адбываецца з Хлопчыкам, ёсць, праўда, і адрознасць. Яму яшчэ пашанцавала. Прырода не выступае супраць яго, а становіцца ягонай заступніцай. Розныя кветачкі спрыяюць Хлопчыку — Званочкі, Незапамінайкі, Рожы (Ружы)… Гэта ў іх увасобіліся добрыя лясныя духі. Яны ж і паслалі на Хлопчыка такі дзіўны сон, калі і разабрацца цяжка, дзе ява, а дзе казка. Бо сама казка набліжаецца да жыцця, а жыццё такое, што можа адбывацца і немагчымае.

Аднак А. Гарун, паспяхова асвойваючы жанр казкі, не заўсёды прытрымліваецца няпісаных правіл, што прысутнічаюць у аўтарскіх творах, калі ў аснове іх фальклорныя матывы. Казка «Хлопчык у лесе» — найлепшае пацвярджэннне гэтаму. У народных казках, як вядома, лясы, рэкі, азёры, багны насяляюць злыя таямнічыя істоты. Яны настолькі агрэсіўныя, што могуць зрабіць з чалавекам што заўгодна. Літасці, спагады ад іх чакаць марна. У гэтай жа казцы А. Гаруна жывуць добрыя духі. Яны пастаянна апякаюць Хлопчыка, абараняюць яго ад розных праяўленняў зла.

Але адначасова з гэтым светам ёсць і іншы. Ён таксама зачараваны. Толькі лепей туды не трапляць, бо правіць гэтым царствам злы ўладар. З ім і сутыкнуўся Хлопчык. Ды не загінуў, а выйшаў пераможцам. Дзякуючы кветкам-духам, ён заснуўшы, трапіў у казачную краіну. Там здабыў зачараваную жалейку, з якой і выгнаў уладара заклятага царства. Сам жа шчасліва вярнуўся ў рэальны свет.

Харошая, светлая казка. Калі б яе хто-небудзь узяўся паставіць, яна б прынесла дзятве нямала радасці. Напісаная вершам, яна лёгка ўспрымаецца. Дый у творы шмат песень, прычым з нотамі. Урэшце, і іншыя казкі А. Гаруна — цікавыя. Дабро, справядлівасць, у прыватнасці, перамагаюць і ў «Шчаслівым чырвонцы». Сюжэт гэтага твора крыху нечаканы. Старая, хворая, а таму зусім слабая Жабрачка ходзіць па свеце, не просячы кавалка хлеба на пражыццё. Іншая турбота ў яе: яна раскідвае па дарозе чырвонцы. Ды незвычайныя: хто возьме такі чырвонец, становіцца шчаслівым. Праўда, шанцуе не ўсім, а толькі людзям сумленным, якія нікога не падманваюць, нікому зла не робяць.

Нечаканыя прыгоды дзякуючы таленту А. Гаруна перажывае яшчэ адзін хлопчык — Пастушок з казкі «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць». Пачынаецца ўсё з таго, што ён знаходзіць незвычайны лапаць. Гэты атопак не толькі ўмее гаварыць, а і нават чытаць чужыя думкі. Аднак такая дзіўная знаходка прынесла хлопчыку не толькі радасць. Давялося яму сутыкнуцца і з мясцечковымі злодзеямі Шымановічам і Галяковічам. Казачная сітуацыя ўвязваецца і з блізкай пісьменніку рэальнасцю. З маёнтка, што знаходзіцца поруч з вёскай, у якой жыве Пастушок, уцякае пан. Парабкі ўтвараюць свой камітэт.

Такі сюжэтны паварот у творы для дзяцей, праўда, выглядае крыху штучным. Тым не менш, сведчыць аб тым, што А. Гарун нават у казках, не абыходзіў блізкую яму рэчаіснасць, пра іх выказваў сваё стаўленне да тых ці іншых падзей. Яшчэ ў большай ступені гэта характэрна для ягоных публіцыстычных артыкулаў. Прынамсі, як відаць з артыкула «Увагі да нацыянальнага руху», бязлітасна змагаўся з тым, што, на яго думку, было «вайной словам, агнём і мячом проці нацыянальнага адраджэння», з’ўлялася «хвальшывымі поглядамі на нацыянальнае пытанне і нацыянальны рух».

* * *

Лёсам А. Гаруну наканавана пражыць усяго 33 гады. Заўчасна звяла ў магілу тая ж хвароба, што і Багдановіча, дый некаторых іншых беларускіх пісьменнікаў — сухоты. Але змагаўся да апошняга. Калі ж стала асабліва блага, сябры нарэшце ўгаварылі ў ліпені 1920 года падлячыцца. Ужо быў такі бездапаможны, што ў санітарны цягнік, які ішоў у Кракаў, яго давялося ўносіць на насілках. Ды лячыцца было позна. Да прыкарпацкага курорта Закапанэ так і не даехаў. У тым жа месяцы Гаруна і не стала. Свой вечны спачын знайшоў на вайсковых могілках у Кракаве.

Пра сваю апошнюю хвіліну ён, бадай, як і кожны чалавек, не мог не думаць. Гэтая думка у тым ці ў іншым варыянце прасочваецца ў шмат якіх ягоных творах. «xxx Думкі — дыяменты, краскі жыцця…» — не выключэнне:

Слухайце ж, думкі: як прыйдзе мой скон,
Ў хатку зляціце ка мне,
Хай перадсмертны уцішыцца стон,
Сэрца на момант спачне.
    Хай заспяваю, як лебедзь, калі
    Прыйдзе гадзіна яму,
    Ўзнёсшыся ў неба ад маці-зямлі,
    Рыне ў адвечную цьму;
Хай заспяваю аб сне залатым
Веку людскога радства,
Роўнасці, вольнасці, брацтва — аб тым
Веку красы хараства.

Беларусь, любоў да яе ніколі не пакідалі яго. Да роднага краю звяртаўся паэт, бачачы ў еднасці з ім выратаванне ад усіх бед, тую апору, адчуваючы якую пад нагамі, можна выстаяць на самых суровых і сіберных паўстанках жыцця і лёсу. Гатовы быў заставацца хоць бы маленькай часцінкай Бацькаўшчыны:

Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,
Бераг вадой абмываць, цалаваць;
Дай мне век цэлы дружыці з табою,
Хвойкі і зоры ў сабе адбіваць.

Дай мне купальскую кветку ў рукі,
Путы жалезныя мне развяжы,
Дай ты мне зелля на гора і мукі,
К шчасцю гасцінец мне дай, пакажы!

Праз пакуты ён ішоў да сваёй папараці-кветкі. Шукаў яе сам, а цяпер дапамагае знайсці яе ўсім нам, хто далучаецца да яго творчасці. Да творчасці таго, чыё імя займае годнае месца ў спісе заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, у якім Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі…



Святлана ВОЦІНАВА

# ВАНДРОЎКІ ПА ЯЕ БЫЛЫХ ВАКОЛІЦАХ

**Прысвячаю свайму мужу,
без якога немагчымыя ніякія вандроўкі.**

*Падчас напісання гэтага тэксту мне раптам вельмі захацелася ўспомніць, калі і з якой нагоды ўлезла ў голаў думка яго напісаць (рэдактараў, якія ацэняць гэты тэкст як варты друкавання, я папрашу пакінуць тут «голаў», на «галаву» не перапраўляючы, бо аўтарка збольшага не капрызная, але часам такой бывае). Не ўспомніла. Памятаю толькі, што каб напісаць яго, трэба было мне здзейсніць адно падарожжа.*

*Гэта не было падарожжа ў звычайным яго разуменні, гэта была экспедыцыя, самая сапраўдная, у поўным сэнсе слова навуковая, хутчэй за ўсё — этнаграфічная, але з адценнямі іншых кшталтаў. Даследчыца схапіла ў ёй не толькі інфармацыі, але і ўражанняў, здзейсніла сустрэчы і з людзьмі, і з іншымі істотамі, мела не столькі працу, колькі пажыўную і даволі смачную ежу для інтэлекту і інтуіцыі, да таго ж атрымала на свой corpus amygdaloideum нашмат больш містыкі, чым на тое разлічвала. Але галоўнае — гэта была спроба не проста асвоіць машыну часу, а навучыцца так прасякаць яго, каб літаральна гойсаць туды-сюды: з канца XIX у пачатак XXI стагоддзя і назад без аніякіх перашкод і прамаруджванняў, з хуткасцю, роўнай хуткасці гартання старонак якой-небудзь звышзахапляльнай кнігі (незалежна ад таго, папяровая яна ці ўяўляе сабой тое, што прыхільнікі банальнасцяў называюць кнігай жыцця). Спроба ўдалася.*

## Пакуль яшчэ толькі прадмова

Уяві, чытач, ціхую вёску. Ланцужком расцягнутая паўз Нёман, яна да яго так блізка падпушчана, што праз вокны хат відаць ён, не трэба з іх нават высоўвацца. Спачатку ўяві сабе вёску старую, даўнейшага часу. Намалюй ва ўяўленні спавіты дажджыстай імглою блакітны занёманскі лес і тое, як у гэтай вось імгле — бачыш? — па высакароднай паціне воднай гладзі павольна сунуцца то ўшчэнт загружаныя дрэвам тратвы, а то — выключна нёманскі каларыт! — віціны са збожжам. З гэтай жа самай імглы, з таямніча-неспасцігальнай, сівой і глухой, бо старой, як і сам гэты свет, цішыні наваколля тчэцца шэры — ў адценнях бязмежнай прасторы — велічэзны, спрэс дзірчасты плашч. Накрытыя гэтым плашчом, стаяць пры Нёмане хаткі. А Нёман сабе цячэ. І дзіўна: вада сплывае, а рака застаецца. Ці не гэтак жа сама сплывае і час — пакорліва пакідаючы будучыні ўсё тое, што ёй яшчэ можа спатрэбіцца?..

Уяві цяпер іншую вёску. Тую самую, ланцужком паўз Нёман расцягнутую, але іншую — не даўнейшую, а ўжо нашага часу. *Lapsus linguae!* Абзацам раней я прасіла ўявіць яе, вёску, старой, а цяпер, выходзіць, прашу ўявіць яе новай, хоць

сама па сабе такая расстаноўка эпітэтаў-акалічнасцяў часу выглядае як мінімум памылкай або недарэчнасцю: якая ж, скажыце, старая, калі ад пачатку яе існавання мінула менш часу, чым ад пачатку існавання цяперашняй, якую невядома навошта называем новай?.. Але ці мала ў мове (любой!) заскокаў, закідонаў ды іншых ляпсусаў, і ці патрапім тут разабрацца з усімі — пытанні хутчэй рытарычныя. Таму лепш пакінуць як ёсць.

Значыцца, уяві, чытач, тую ж вёску, але ўжо з гледжання нашага часу. Паміж ланцужком звёнаў-хатак і вадой вялікай ракі ўяві пясчаную дарогу, ушчэнт разбітую настойлівым дажджом, і вялікі шэры, колерам з гэтым дажджом зліты аўтамабіль, які сунецца па ёй — бачыш? — за малым у раку не звальваючыся. Думкі, якія ў гэты час нараджаюцца ў яго сціплай (бо шмат чым абмежаванай) прасторы, па сутнасці сваёй вельмі розныя. А па колькасці іх толькі дзве. Першая думка — мужчынская, сфарміраваная акурат над рулём, — лаканічная: «Чорт!» Другая — жаночая: «Прыгажосць! Літаральна «над Нёманам»!»

Пакінем ненадоўга тыя думкі, працягнем гуляць ва ўяўленні. Калі цябе, скажам, завуць Эліза, а прозвішча тваё Ажэшка і, маючы вострае пёрка ў камплекце са слабым здароўем, ты ахвотна штогод пакідаеш «афрыканскія сквары» Гродна літаральна на цэлае лета, каб бавіць свой час *na wsi*, то раман, напісаны табою вось тут жа, у вёсцы над Нёманам, ты не можаш назваць іначай як толькі «Над Нёманам», ці не так? Прынамсі, калі б я была Элізай Ажэшка, я б нядоўга да гэтай назвы дадумвалася. Хоць, ведаеш, калі б раман меў назву «Мезальянс» (як, здаецца, збіралася здарыцца) — больш інтрыжную, менш эпапейную, — то быў бы цяпер больш прадавальным. Але вось сунецца ўздоўж берага аўтамабіль, ледзь-ледзь у раку не спаўзаючы, — і разумееш усю літаральнасць і назвы твора, і мясцовасці, дзе ён быў напісаны, і мэты, з якой той аўтамабіль па гэтай мясцовасці сунецца. Пра тое і думка. Што да прыгажосці… Якая ўжо там прыгажосць, калі наўкол — бясконца-бязмежны лівень. Колы сунуцца праз гразь, шкло вадой кожны міг залівае... А пісьменніца, між іншым, папярэджвала наконт мясцовых



*Фота Уладзіміра Цвіркі.*

*Прыгажосць! Літаральна «над Нёманам»!*

дажджоў, якія так псуюць тутэйшыя дарогі, што рухацца па іх неўзабаве робіцца немагчыма... І на хаты асабліва не налюбуешся: на дахі іх паўсядаліся пухнатыя хмары і, гарэзуючы, да самых ганкаў звесілі свае доўгія ногі ў мокрых шэрых шкарпэтках, вада з якіх сцякае аж да брамак.

У адну з такіх небаракаў-брамак, праз адзін з такіх затопленых ганкаў, пад адзін з дахаў, ангажаваных нябёсамі, наўздагад, трэба будзе ўвайсці ўладальніцы адной з тых дзвюх думак. Натуральна, другой — аптымістычнага кшталту.

Мяркуеш, ёй гэта страшна? Ха! І *c'est la vie*, і *no problem*! Хто ўмее валодаць сабой, той валодае светам. Ні дождж, ні лужыны, ні самі хмары не ведалі, што ўладальніца аптымістычнай думкі і аўтарка гэтых радкоў рада апынуцца тут, над Нёманам, у якое заўгодна надвор'е. Яна, канечне ж, была гатова да такой неспадзяванкі — адважна пакідаць сухі аўтамабіль, выходзіць з яго цеплыні пад самы бязлітасны дождж і самым бязлітасным чынам тапіць свой абутак у глыбокіх мяккадонных лужынах, якія, між тым, апынуліся нечакана цёплымі. І быць раз-пораз хвастанай (з лагоднасцю, уласцівай усяму, што мокрае) галінамі чыста (і не вельмі) вымытых дрэў і кустоў, праз якія часам пралягае адзіны шлях да патрэбнай хаты. Абы толькі трапіць (з надзеяй на доказ такой верагоднасці) адсюль — туды: з вёскі нашага часу — у даўнейшую. Вось неспадзявана і сурочыла: дождж не спыніцца ні на хвіліну. Ён будзе настойліва ліцца ўвесь дзень і скончыцца толькі тады, калі скончыцца ўласна вандроўка. А даследчыца будзе прамакаць і высыхаць папераменна — ты толькі ўяві! — сто тысяч з паловай дзясяткаў мільёнаў разоў, ловячы ў кожнай хаце, у кожнай краме, на кожнай вуліцы спачувальны пагляд заўсёдна мітуслівай гаспадынькі або нязменна памяркоўнага гаспадара і чуючы іх бясконцыя: «Вой-вой!» і «А дождж жа!»

Ды не дождж гэта быў, мае дарагія, а слёзы. Проста неба знячэўку заплакала. Чаму? Не пытайся. Ці мала ў неба прычын, каб заплакаць?!.

## Мэта, задачы, аб'екты, прадметы (калі сур'ёзна)

Мэта, па вялікім рахунку, простая: перанесціся ў час і прастору Элізы Ажэшка — апынуцца ў летніх наднёманскіх вёсках, дзе пісьменніца, адпачываючы ад спёкі і тлуму нялюбага, але з розных іншых прычын каранямі ў сэрца праpraслага Гродна, стварала вобразы і занатоўвала рэальнасць. Я не ведаю, ці звярнулі сур'ёзныя (не ў прыклад аўтарцы гэтых радкоў) даследчыкі творчасці нашай двойчы нобелеўскай намінанткі сваю навуковую ўвагу на тое, што мастацкія яе творы адмысловым чынам запаралельваюцца ў свядомасці ўніклівага чытача з творамі публіцыстычнымі і ўтвараюць з імі своеасаблівыя літаратурныя дуплексы, але бясприкладная даследчыца, аўтарка гэтых радкоў, даўно заўважыла згаданую акалічнасць і лічыць такімі мастацка-публіцыстычнымі дуплексамі наступныя пары твораў: «Апошняе каханне» і «Некалькі слоў пра кабет», «Меір Эзафовіч» і «Пра яўрэяў і яўрэйскае пытанне», «Над Нёманам» і «Людзі і кветкі над Нёманам». Апошні мастацка-публіцыстычны дуплекс (мо няма такога тэрміна, дык што ж цяпер?), маючы выразнае наднёманскае паходжанне, якраз і з'яўляецца тым, што, нагадваючы (нечым няўлоўным) геалагічную антыкліналь, дазволіць разгайдаць арэлі часу ў тым месцы, куды трапіла даследчыца ў дажджлівую сераду, трынаццаты дзень сёмага месяца 2016 года ад пачатку эры хрысціянскай.

Вандроўкі па яе, Элізы Ажэшка, былых ваколіцах былі задуманы з мэтай вырашэння трох даволі рознавектарных задач: першай — пашукаць у памяці сучасных жыхароў мясцовасці (а таксама на старых вясковых могілках) сляды людзей, якія ведалі пані Элізу і якіх сама яна згадвала ў серыі нарысаў «Людзі і кветкі…»; другой — знайсці расліны, пра якія пані Элізе маляўніча распавялі мясцовыя *zielarki*, але якіх яна сама так і не ўбачыла, а значыць, не мела ў сваім гербарыі і таму не магла аддаць на навуковую ідэнтыфікацыю ні праз галоўрэда

часопіса «Wisła» Яна Карловіча, ні як-небудзь яшчэ нікому з варшаўскіх натуралістаў (як утрапёна рабіла гэта з іншымі наднёманскімі раслінамі); трэцяй — убачыць на свае вочы тое, што, як піша пані Эліза, «некалькі тыдняў запар штогод аказвае ўплыў на наднёманскі люд», то бок, стаць сведкай «адной са значных і арыгінальных рысаў наднёманскага жыцця», з'явы, якая «пануе на рацэ і яе ўзбярэжжах», «пачынаецца адразу ад западзення вячэрняга змроку і трывае да позняй начной гадзіны».

Аб'ектамі даследавання выбраны чатыры вёскі, назвы якіх ужываюцца ў нарысах «Людзі і кветкі...» у спалучэнні з імёнамі, прозвішчамі і мянушкамі тагачасна-тамтэйшага люду. Гэтыя вёскі, размешчаныя ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці, — Мінявічы, Багатырэвічы, Глядавічы і Паніжаны. У іх жа ваколіцах, а хутчэй, у галовах вяскоўцаў, сярод самай рознай усялячыны і іншага замарачэння трэба шукаць і патрэбныя *trawki* — загадкавыя *зязюльчыны ручачкі* і экзатычныя *казіныя бароды*. Першыя, чыя надземная частка «ў канцы мае форму дзвюх ручак, пераплеценых пальцамі», выкарыстоўваліся для абуджэння пачуцця кахання. Другія на высокай сцябліне маюць вузкія прадаўгаватыя лісты і ліловую кветку, а з зямлі вырваныя і ўніз павернутыя, нагадваюць бараду казы.

Апісаная Элізай Ажэшка прыродная з'ява, якая ці то белым расістым даждЖом сыплецца на лодкі, паверхню вады і нёманскіх рыбакоў, ці то мноствам снежных кропак віецца ў ружовым або залацістым дымку, што сунецца да агню, распаленага ў лодках і на беразе, — гэта масавае «нараджэнне» і «паміранне» істот, якіх «на мове мясцовай, як рускай, так і польскай» называлі словам «яціца». «Якую назву мае гэтае насякомае на мове навукі і ці нашы натуралісты звярнулі на яго ўвагу — не ведаю», — піша Эліза Ажэшка. Мы ж ведаем: навуковае імя яціцы — *Palingenia longicauda*, па-беларуску — палінгенія даўгахвостая, у прастамоўі — падзёнка. Гэтая экспедыцыя магла адбыцца ў любы час, абвешчаны календаром як летні, але была спланавана так, каб даследчыца, аўтарка гэтых радкоў мела хаця б нейкі шанец заспець вылет падзёнак і назіраць яго яснай (як было запісана ў спісе задач-спадзяванняў) ноччу, калі «незлічоныя зоркі і праменістая мгла, што авейвае Млечны Шлях, на неба ўжо выступілі». За хараство гэтай з'явы трэба нам дзякаваць эвалюцыі і Стваральніку, хараству і майстэрству яе апісання — вучыцца ў Элізы Ажэшка, а за тое, што гэтая мэта хоць і спраўдзілася, але не так, як задумвалася, — ушчуваць айчынных сіноптыкаў, праца якіх больш нагадвае варажбу на пёрках аблокаў, чым навуку метэаралогію.

Вернемся да людзей як асноўнай часткі прадмета даследавання. Спіс асоб для пошуку, абгрунтаваны нарысамі Элізы Ажэшка «Людзі і кветкі над Нёманам», выглядае наступным чынам.

У Мінявічах трэба шукаць памяць пра Слабошыху, якая, мяркуючы з тэксту, лічылася ведзьмай. «Ведзьмы звычайна ўбогія альбо ўдаюць убоства, — піша аўтарка, — і са сваім рамяством спалучаюць жабрацтва, нахабна карыстаючыся гэтым». У лісце, адпраўленым Элізай Ажэшка з Мінявіч 8 жніўня 1886 года, адрасаваным малодшай сяброўцы Юзэфе Савіцкай, таксама пісьменніцы, вядомай пад псеўданімам Астоя (гасцявала ў Мінявічах перад тым недзе каля шасці тыдняў і вельмі ўсіх замілавала), чытаем наступнае: «Памятаеш Слабошыху? Была аднаго разу ў нас на гарбаце, ела куранят у падліве рукамі і неабгрызеныя ножкі для дзеда свайго хавала». У нарысе пры апісанні ведзьмаў пані Элізай звяртаецца ўвага на такую акалічнасць, што «ўсялякая адмова, зробленая ім, можа пацягнуць за сабой фатальныя наступствы». І тут жа, як прыклад, згадваецца такі выпадак: ведзьма Слабошыха «за тое, што адмовіліся даць ёй кавалак сала, нешта такое зрабіла Карасю і яго жонцы, што яны не перастаюць з таго часу сварыцца паміж сабой».

Ці гэта значыць, што памяткі пра Карася і яго жонку таксама можна пашукаць у Мінявічах? Згадваецца ў нарысе Марыся Карасёва, але ж не як жыхарка Мінявіч. Марыся Карасёва з Паніжан — «жонка заможнага гаспадара, але дачка кабеты, якая мае ў ваколіцы дрэнную славу ведзьмы, і нават досыць злоснай».



*Фота Уладзіміра Цвіркі.*

*«А пісьменніца, між іншым, папярэджвала наконт мясцовых дажджоў, якія так псуюць тутэйшыя дарогі, што рухацца па іх неўзабаве робіцца немагчыма...»*

Сама Марыся Карасёва, «хоць не такая злосная, як яе маці, але заўсёды мае сілу і ўменне, каб зрабіць людзям якую шкоду». На час напісання Элізай Ажэшка згаданага нарыса Марыся мае сорак з лішкам гадоў. Высокая, стройная, з правільнымі рысамі твару, светлай скурай, блакітнымі, як незабудкі, вачыма і прыветным паглядам. «Калі заможны гаспадар узяў дзяўчыну з такога пагарджанага і нават небяспечнага роду сабе за жонку, — піша далей пані Эліза, — вытлумачыць гэта можна толькі тым, што ў маладосці яна была надта прыгожая». Значыць, маці той Марысі, якая Карасям даводзіцца нявесткай, таксама ведзьма. Зрэшты, «узаемаадносіны нявестак са свякроўкамі ў нашых сялян» — гэта хоць і маленькі, але таксама акцэнт — і таго нарыса, і гэтага даследавання.

У тых самых Паніжанах жыла яшчэ і Ганулька Высоцкая — «маладая, добрая, мілая і на дзіва паэтычная дзяўчына, неабыякавая да кожнай кветкі і, здаецца, кожнай безыменнай травінкі».

Недзе ў тых вёсках трэба шукаць памяць пра шляхціча Стралкоўскага — высокага, шыракаплечага, мажнага рудога мужчыну «з лянівым крокам і з вуснамі найчасцей адкрытымі ў прыязнай, але разам з тым нейкай і дурнаватай усмешцы». Што папытаеш — паціскае плячыма і дурнаватым голасам кажа: «Ці ж я ведаю?» «Калі яго ў самы поўдзень спытаць пра тое, дзень цяпер ці ноч, інакш не адкажа», — піша пані Эліза. «Памятаеш дзівака Стралкоўскага? — пытаецца яна ў тым самым лісце да Астоі. — Ходзім да яго грушкі трэсці і есці, як хадзілі па агрэст і парэчкі. Прымае нас вельмі гасцінна і размаўляе штораз болей вобразна».

Месцам жыхарства шляхціца Багатырэвіча правільна было б ад самага пачатку лічыць вёску Багатырэвічы, хоць прамога ўказання на тое ў нарысе «Людзі і кветкі…» няма. Шляхціц Багатырэвіч — гэта фурман, які перавозіў пані Элізу з адной вёскі ў другую на сваёй каламажцы, «светлавалосы, вельмі разумны, надзвычай гаваркі мужчына». Цікава табе будзе, чытач, пазнаёміцца з яго каламажкай: яна ўвесь час «трапляла ў надта небяспечныя пазіцыі», бо «чаплялася за

ўсе камяні» і «падскоквала ў шалёным тэмпе», а разам з ёю «на паўлокця, а то яшчэ і вышэй» падскоквалі пасажыркі — пані Эліза з таварышкай. Калі ж яны, як піша дасціпная пані Эліза ў сваім досыць маляўнічым нарысе, «уехалі ў невялікі лясочак на крутую, зрытую каранямі дрэў дарогу», дык думалі ўжо, што загінуць. Але, дзякуй Богу, не загінулі, а проста за невялікім лясочкам убачылі вёску Глядавічы, «трошкі пабітыя».

Даследчыца, аўтарка гэтых радкоў, убачыла вёску Глядавічы ў іншым становішчы — трошкі мокрая. Каго або што ёй тут трэба знайсці? Па-першае, памяць пра лекарку Люцю, якая мела паласаты фартух, была невысокай і ударлявай, а калі казала, што стамілася, «ажно ў вачах цёмна», гэта нязменна азначала адно: трэба ёй выпіць гарэлкі. Мела добрага мужа, свайго заступніка перад нявесткай. Хата ў іх была малая, пачарнелая, «з шыбкамі замест вокнаў». З гаспадаркі — шэры кот (заспеты пані Элізай «у задуменнай паставе»), чорны дварняк, яркі певень і куры. Каго яшчэ можна шукаць у Глядавічах? Жыла тут сям’я Сымона Круля, старасты.

Ці згадвае хто цяпер, хаця б у балачках і бабчыных казках, той самы люд, што быў тады вядомы па розных прычынах усёй ваколіцы? Ці знойдуцца чые-небудзь магілы? Хто сёння носіць прозвішчы з таго часу і хто гэтым людзям Эліза Ажэшка, якая іх прозвішчы ўвекавечыла і белетрызавала?..

Тры задачы, чатыры вёскі, адны старыя могілкі, сем персон, дзве расліны, адзін від насякомых і адзін — спрэс дажджлівы! — дзень.

Вёска-ланцужок, праз якую сунецца шэры аўтамабіль, брамка, якая адчыняецца першай, першы затоплены ганак і першая хата, на даху якой сядзіць хмара, — усё гэта…

## Мінявічы, або Частка першая

*«Mam do napisania Panu taki million rzeczy, że nie wiem, jak z tego w jednym liście wywiązać potrafię»*. Эліза Ажэшка напісала гэта ў лісце да сябра і калегі Тэадора Томаша Ежа, датаваным 7 жніўня 1881 года з прыпіскай: *«Miniewicze nad Niemnem»*. Я таксама, апынуўшыся ў Мінявічах над Нёманам, займела да паведамлення свайму чытачу такі мільён рэчаў, што не ведаю, як у адным тэксце атрымаецца ўсё звязаць. Што найперш? Выконваю абяцанне самой сабе пераносіцца з часу ў час, як тая падзёнка — з дэвонскага палеазою ў антрапагенавы кайназой.

*Wieś Miniewicze* — гэта, як вынікае з лістоў пані Элізы да калег і прыяцеляў, зняты на лета на адлегласці некалькіх міляў ад Гродна, сяк-так на пяць пакояў скляпаны, даволі цесны і не вельмі зручны дом, вакол якога раскіданы сад — занядбаны і густы. З аднаго боку ад саду цячэ Нёман, за якім звініць зязюлькамі сасновы бор. З другога пралягае глыбокі яр, даволі маляўнічы. З трэцяга — шырокае поле з рэдкімі старымі грушамі і таполямі, а па полі гэтым бяжыць пара белых дарог, абсаджаных вербамі.

Што сёння? З аднаго боку — Нёман, у які ўпадае дождж (рэдактараў прашу прачытаць тут гульню слоў, ацаніць яе і пакінуць без змен, бо нічога іншага не мелася на ўвазе), з другога, трэцяга і, калі трэба, чацвёртага — дождж, дождж і дождж. І недзе пасярод дажджу — дамок пад гарэзлівай хмаркай. Заходзім?

Бабуля, заспетая ў вохкай шэрані пярэдняга пакоя сядзячай на канапе без якога б там ні было занятку (ні пруткоў, ні кніжкі, ні пяльцаў у яе руках не было відаць), вельмі прыязная і сімпатычная (зрэшты, усе яны, бабулі, сімпатычныя, нават калі сядзяць без занятку, бо ўжо ж заслужылі і так пасядзець), прадставіцца ад сціпласці не захацела, але ахвотна паведаміла, што ніякага дома, у якім жыла Эліза Ажэшка, у іх вёсцы няма.

— Няма, — кажа, — ніякага дома. Ёсць два клёны, паміж імі арэлі, але пра тое вам хай лепш Тэрэса раскажа. Яна ў Багатырэвічах жыве, у жоўтай хаце.

— А ці расказвае тут хто пра Слабошыху, якая жыла ў той час? Ажэшка яе ой як цікава апісвала…

Пытаюся далікатна (каб не сказаць дыпламатычна). Ну не казаць жа мне наўпрост, што іхняя (хоць і з XIX стагоддзя) Слабошыха ёсць знакамітая на ўсю ваколіцу ведзьма! Да таго ж, адкуль мне ведаць, хто перада мною — мо якраз і Слабошыха, толькі з нашага часу? У сэнсе, раптам завуць яе так…

— Слабошыха? Слабошыхі я, дзіцятка, не ведаю. Я ў 1937-м нарадзілася, то яе ўжо мо не было на свеце. Але Слабош — гэта наша прозвішча, мінявічскае. Жыў тут некалі, яшчэ да вайны, як я малая была, дзядзька Фёдар Слабош. Дык пра яго ўсе расказвалі, што ён чытае кнігі па чорнай магіі.

— Як вы сказалі?

— Кнігі па чорнай магіі. Але больш я нічога не ведаю. Хіба што пра дом — ён стаяў на месцы, дзе цяпер выкуплены ўчастак, там будуецца катэдж на два паверхі. Вы ўбачыце той дом, як паедзеце ў Багатырэвічы.

— А там, вы кажаце, мне трэба да Тэрэсы?

— Да Тэрэсы, так. Да Тэрэсы Багатырэвіч. Шукайце яе ў жоўтай хаце. Яна калі будзе дома, то ўсё-ё-ё вам раскажа… Але ж і дождж!..

І яна засталася, а я пайшла. Яе працягвала ахутваць шэрань хаты, мяне зноў пачаў хвастаць дождж. Ці не яго я абяцала табе, чытач, у якасці галоўнага героя?..

Катэджаў на два паверхі мы налічылі два. Але што нам хаця б да аднаго з іх? Зрабілася трошкі сумна: часовых парталаў у Мінявічах, акрамя таго ганка, не знайшлося.

Увогуле, шмат хто з мясцовых жыхароў, да каго ў той дзень давялося звяртацца з пытаннямі, быў упэўнены, што я шукаю магілу паўстанцаў 1863 года і помнік Яну і Цэцыліі. І літаральна кожны даволі ахвотна і з вялікім гонарам за сваю малую радзіму і ўласную дасведчанасць імкнуўся скіраваць мяне ў напрамках згаданых аб'ектаў, а пасля, канечне ж, вельмі расчароўваўся. Мясцовае насельніцтва трошкі крыўдзіў той факт, што я іду не па слядах рамана «Над Нёманам», напісанага іх слаўнай зямлячкай на іх маляўнічай зямлі пра іх, па сутнасці, продкаў, а кіруюся замест гэтага нейкім публіцыстычным творам, які, хоць («ну, дапусцім») таксама пісаўся тут, пра тое і пра тых, але ім чамусьці зусім не вядомы. Тое, што пра абедзве магілы — паўстанцаў і Яна з Цэцыляй (у самых розных варыяцыях, як я зразумела) тут гатовы расказваць малы і вялікі, малады і стары, заняты і вольны, заспеты ў краме і запынены пасярод вуліцы, — ёсць не толькі прыкметай штодзённа падаграванай увагі да згаданых помнікаў гісторыі і культуры з боку сваіх і замежных турыстаў, але і неабвержным сведчаннем таго, што раман «Над Нёманам» ледзь не ўсе тут чыталі. Болей за тое, шмат хто, як высвет-



*Так выглядаў дом у Мінявічах, у якім Эліза Ажэшка, як сама прызнавалася, бывала шчаслівай чатыры месяцы ў годзе.*

лілася, мае яго ў сваёй хаце. Некаторыя валодаюць польскамоўным выданнем. Асобныя — нават рарытэтным, з дарчым надпісам, зробленым… «Здаецца, самой Ажэшка ён і зроблены…», «Кажуць, яна сама гэтую кнігу бабці некалі падарыла…», «Ой, была ж недзе кніга, старая, яшчэ дарэвалюцыйная, пісьменніцай падораная…» Па той, бадай, самай што ні ёсць важкай прычыне, што кніга «недзе была», мне яе не паказвалі. Трэба, аднак, верыць (і хочацца верыць), што кожны такі экзэмпляр, пра які найчасцей чула ў Глядавічах, яшчэ «недзе ёсць»…

Далёка я, між іншым, забегла. Трэба пакуль што назад, у Мінявічы. Дарога, мой чытач, сам ведаеш, размытая, але шляхі, якімі бягуць нашы думкі, няхай застаюцца ніяк на яе не падобнымі.



*Тэадор Томаш Еж, ён жа Зыгмунт Мілкоўскі.*

«Першыя дні па прыездзе сюды нічога рабіць не хочацца, хіба толькі на ўсё пазіраць, да ўсяго прыслухоўвацца і думаць пра нябесныя мігдалы», — піша Эліза Ажэшка пра Мінявічы. Ды і ў наступныя дні, калі надвор’е добрае, сад і ганак ніяк ад сябе не адпускаюць. Каб узяць у руку пёрка і хоць што-небудзь напісаць, адно хіба можа быць выйсце — «замкнуць сябе ў пакоі супраць волі».

Што з сябе ўяўляе той пакой? Каб праз яго акно ўбачыць Нёман, з-за бюрка можна не ўставаць, піша пані Эліза. Значыцца, адзін пакой у доме займаюць пані Эліза і яе бюрка (тое, што тут не пералічана іншая мэбля, зусім не азначае, што яе ў пакоі няма, а толькі тое азначае, што бюрка для Элізы Ажэшка — не проста мэбля). Хто насяляе астатнія?

«Паколькі сям’і не маю, то здалёк тая немалая колькасць асоб выглядаць можа дзіўна», — піша Эліза Ажэшка, «знаёмячы» Тэадора Томаша Ежа з «нібыта сям’ёй», складзенай з «нібыта чужых», але па сутнасці *najbliższych i najdroższych*.

«Выязджае нас на вёску пяць асоб, з якіх адной з’яўляюся я, другой — адзін шасцідзясяцігадовы адвакат, з якім мяне дваццаць гадоў лучаць стасункі найгарачай прыязні і ўзаемнай удзячнасці за мноства на працягу паловы жыцця аказаных узаемных паслуг, чалавек вядомы на ўсю Літву сваімі здольнасцямі і бездакорным характарам, і цяпер яшчэ вельмі актыўны працаўнік, але ўжо досыць заможны, каб дазволіць сабе трохмесячныя вакацыі, на працягу якіх лечыцца, палюе і збірае сілы для зімовай адвакацкай працы, найбольш цяжкай тут, чым недзе яшчэ. Ён для мяне асоба найважнейшая не толькі ў нашай грамадцы, але і на ўсім свеце».

20 чэрвеня 1883 года гэтыя радкі пра гродзенскага адваката Станіслава Нагорскага былі адпраўлены з Мінявіч у Швейцарыю ў суправаджэнні мноства іншых радкоў, схаваных у тоўсты канверт, які да самай Лазанны патыхаў аптымізмам.

А 14 жніўня, трошкі менш чым праз два месяцы, у пасланні да Леапольда Меета, якога пані Эліза ўважала за сардэчнага брата, чыя чуласць да яе мела такую ступень, якую нават кроўная сувязь не заўсёды здольная даць, з кім дзялілася ў перапісцы самым патаемным, з тых жа Мінявіч тым самым почыркам, але ўжо ў Варшаву было напісана літаральна наступнае: «Ці не гневаецца на мяне шаноўны і дарагі Пан за такое занядбанне нашай карэспандэнцыі? Ад усяго сэрца прашу прабачэння. Не магу паведаміць прычыны, але некалькі тыдняў знахо-

джуся ў такім стане, што нават лістоў пісаць не магу. Маю надзею ў хуткім часе ўзняцца з той маральнай хваробы, у якую трапіла, і вярнуцца да розных заняткаў і стасункаў. Цяпер жа досыць таго, што жыву. Няхай Пан ніколі не запытае, чаму так. Не раскажу. Няхай мне Пан верыць, як і ў тое, што хоць да Пана не адгукаюся, але пачуцці прыязні і ўдзячнасці мае да яго заўсёды нязменныя».

Няхай чытач паверыць і няўрымслівай аўтарцы гэтых радкоў, якія так і скачуць (таксама няўрымслівыя), што ёсць у яе на тое прычына, і даруе ёй далейшае лёгкае занядбанне аповеду пра тыя пяць асоб, што выязджаюць на вёску. Не на замену таму аповеду, а толькі перарваўшы яго, тут будуць апісаны акалічнасці не тое каб вясковага побыту, але асабістага жыцця славутай да нашага часу пісьменніцы і яе стасункаў з вядомым некалі адвакатам. Мушу папярэдзіць, што ўвага мая да гэтай гісторыі не народжана нічым іншым як толькі жаданнем перанесці з XIX стагоддзя ў XXI (калі ўжо мы з табой, чытач, да такой ступені асвоілі машыну часу) тры парадоксы, якія мо і не з’яўляюцца прыкметамі той эпохі, але ў нашу эпоху даволі патрэбныя ў якасці менавіта прыкмет. Першы з іх — жаночая мужнасць, якая дэманструецца тут на фоне трагедыі асабістага шчасця і абвяшчае перамогу: над штодзённым — дзеля вечнага, над сабою закаханай — дзеля іншых, абяздоленых. Другі — сяброўства мужчыны з жанчынай як родных брата з сястрой без ніякіх перадгісторый і пасляслоўяў. Трэці — эпісталярнасць жыцця з уласцівай ёй кранальнасцю стасункаў, што так высока было б сёння ўзнята над мітуснёй і тлумам шматлікіх віртуальных сацыяльных загонаў, названых сеткамі, напэўна ж, нездарма.

З увагі на пералічаныя акалічнасці астатнія тры асобы з драўлянай пяціпакаёўкі над Нёманам 1883 года няхай чакаюць згадкі пра сябе яшчэ некалькі важкіх абзацаў.

10 верасня таго ж 1883 года, усё яшчэ з Мінявічаў, зноў у Варшаву Леапольду Меету: «Дарагі і найлепшы Пане! Ліст твой сардэчны і добры якраз у пару прыйшоў. Усцешыў ён мяне і ўзмацніў. З прычын, пра якія таму толькі табе не расказваю, што не адной мяне яны датычныя, хварэла маральна цяжка і люта, ды і цяпер яшчэ нездаровая. Сама сабе толькі могучы быць лякаркай, раўнавагу духу вяртаю вельмі марудна, але ж вяртаю, і хутка, не сумняюся, жыццё маё паплыве звыклым, ранейшым рэчышчам, дзе пад гладкай паверхняй знаходзяцца нікому не вядомыя глыбіні і бездані. Пругкасць характару і якіясьці рэшткі даўнейшых скарбаў сэрца ўтрымліваюць мяне на паверхні. Хутка працаваць пачну, значыць, пісаць. Адразу, як толькі змагу, напішу Вам тую кніжачку. Прашу прабачэння, што дагэтуль таго не ўчыніла, але нават лістоў пісаць не магла. Не толькі на сэрца, але і на жаночы мой гонар звалілася штось накшталт распаленага каменю, ад чаго паўстала блытаніна і ў галаве. Побач з тым бязладдзем пішчаў яшчэ цэлы хор дробных прыкрасцяў. Мяне гэта на нейкі час паралізавала. Аднак агульнага плану жыцця і дарогі сваёй я не змяніла, буду па-ранейшаму вучыцца і пісаць, і, як раней, любіць тых, каго любіла, і каму, у рэшце рэшт, патрэбна».

Элізе Ажэшка, схіленай над бюркам у пісанні гэтага ліста, споўнілася 42 гады, але яна працягвае вучыцца: чытаць, чытаць, чытаць... Яе валасы даўно ўжо — яшчэ з 26 гадоў, калі, закаханая ў аднаго доктара, таксама вучылася (біялогіі і хіміі — апантана чытала «Кнігу прыроды» Шэдлера і «Кругазварот жыцця» Маляшота), кранутыя сярэбранай ніткай. Яна нядаўна падумвала пра тое, каб узяць дазвол улады на выезд да Варшавы ды пасяліцца там у якім-небудзь «доме здароўя», бо ўпала тут, у Мінявічах, у такую роспач, што цэлымі днямі найвялікшай яе прагай было «плакаць так, каб заплакацца да смерці»…

Памятаецца, «наднёманскі» герой Анзэльм Багатыровіч, успамінаючы ў размове з Юстынай Ажэльскай трагічны для яго час маладосці, калі каханая Марта адмовіла яму ў шлюбе, прамаўляе такія словы: «Калі б чалавек мог слязьмі сцячы ў магілу, то я ўжо напэўна сцёк бы». Яму, Анзэльму Багатыровічу, «убіліся ў галаву глыбіні Нёмана». Вось і пані Элізе, якая яго прыдумала, часам так роспачна, што хочацца «ісці да Нёмана».



*Леапольд Меет, сардэчны сябар і духоўны брат. Партрэт пэндзля Станіслава Ленца, зроблены ў 1894 годзе.*

Яна інтравертка, яе душа ад дзяцінства пакутніца. Маленькае даследаванне з выкарыстаннем гамеапатыі, ідэя якога прыйшла да мяне адным светлым ранкам за кубкам англійскай гарбаты і якое я здзейсніла дзякуючы ўрачу-тэрапеўту, спецыялісту па гамеапатыі Таццяне Аляксеевай трошкі раней, чым гэтую вандроўку-перамяшчэнне ў прасторы і часе, дало магчымасць ярчэй высветліць псіхалагічны партрэт пісьменніцы — пацвердзіць нешта з ужо вядомага, а нешта новае — адкрыць. Асобы тыпу, да якога належыць Эліза Ажэшка, хоць і могуць выглядаць шчаслівымі, адкрытымі ўсяму свету і вельмі ў сабе ўпэўненымі, на самай справе такімі не з'яўляюцца. Проста ў іх атрымліваецца заганяць самы моцны эмацыйны боль у самыя глыбокія глыбіні, проста яны навучаны хаваць ад людзей сапраўдныя памеры сваіх перажыванняў і сваю заўсёдную нясмеласць. І нікога, нават самага блізкага чалавека, не можа наведаць думка пра жывучую ў іх ад веку незнішчальную прагу смерці.

Чытач, я ведаю, заўважыў парадоксы ў папярэднім сказе. Мушу, відаць, патлумачыцца. Эліза Ажэшка ледзь не ўсю другую палову свайго жыцця прасіла Бога забраць яе да Сябе — і пры гэтым, скажам наўпрост, самімі акалічнасцямі жыцця свайго не давала Яму гэта ўчыніць.

Такія, як яна, не паміраюць ад гора. Бо хіба смерць ёсць нешта іншае як не жыццёвая неабходнасць? І хіба не па той прычыне яна трагедыя, што не прыходзіць па жаданні да тых, хто жыцця ўжо не прагне? Такія, як яна, хутчэй памерлі б ад шчасця, калі б яго раптам займелі. Ад самага што ні ёсць звычайнага бязмежнага жаночага шчасця. Такога яна не мела. І ці не гэта ператварыла яе ў «галерніцу»? Бо смерць жа — пані ганарыстая і не вельмі даступная: яе найвялікшую ласку — збаўленне ад пакут, усіх адразу — трэба яшчэ заслужыць. Цяжкая праца — не вельмі кароткі шлях да гэтай высакароднай мэты, але менавіта такі шлях можа бачыцца найкарацейшым.

Працягваем паралелі.

Эліза Ажэшка ў лісце да Меета: «Праца жыцця такая цяжкая, што адбіраць можа сілы ў працы пяра». Анзэльм у размове з Юстынай: «Хоць так працую, што ажно потам увесь абліваюся, а ўсё адно пра разбітыя надзеі і пра марнасць усяго думаю». Розніца паміж выразамі з лістоў пісьменніцы і словамі героя яе ж аповесці — прамежак часу працягласцю ў тры гады. А месца напісання супадае — тая самая пяціпакаёўка з відам на Нёман і зязюлькавы бор. І тое самае бюрка.

Пра тое, што здарылася ў Мінявічах мо такім самым дажджлівым (і таксама ж ліпеньскім) днём за 133 гады да вандроўкі, якая апісваецца на гэтых старонках, што ўвяло пісьменніцу ў такі адчай, расказаць было магчыма хіба што Меету ды і тое агульнымі словамі. І мы, авалодаўшы часам, зноў бачым, як, схіліўшыся над верным бюркам, 42-гадовая пані Эліза выводзіць рукою словы пра тое, якую страшную блытаніну ў яе жыцці ўсчыніў чалавек і разумны, і ў іншых сітуацыях сумленны.

«Толькі не думай, што гэта нейкая новая гісторыя, якая мо, зважаючы на мой узрост, магла б падацца смешнай. Мае яна пятнаццаць гадоў. Пачалася ў росквіце маладосці, для яе без жалю аддала ўсё: свет, цяпло сямейнага агню, нават добрую славу кабеты», — спавядаецца пані Эліза, і горкія словы пра добрую славу, прачытаныя ў лісце знакамітай пісьменніцы, здольныя балючым комам застраць у грудзях даследчыцы, з лёгкасцю працяўшы два стагоддзі і знайшоўшы водгук у душы, якая таксама паранена.

Даследчык жыцця пісьменніцы Эдмунд Янкоўскі ў каментарыях да яе лістоў адзначае, што ў гэты час яна перажывала балючае расчараванне ў дачыненні да згаданага адваката, пачуццё да якога, якім бы ні было моцным, не магло быць «легалізавана замуствам», пакуль жыла яго хворая жонка. Расчараванне Элізы Ажэшка, такое моцнае, магло быць звязана са здрадай Нагорскага, калі можна так увогуле сказаць, зважаючы на неадназначнасць сітуацыі.

Жонка Станіслава Нагорскага хварэе *na śpiączkę* ў яго гродзенскім доме на Садовай. А сам адвакат, маючы пачуццё да пісьменніцы, увесь свой вольны ад працы і святочных стасункаў час праводзіць у яе гродзенскім доме на Сеннай. І ў Мінявічы на цэлае лета яны выязджаюць разам. Пры гэтым, як піша пані Эліза Леапольду Меету, «апрача дзвюх асоб, якія ўваходзяць у гульню, ніхто-ніхто нічога не ведае».

…Нешта ў ёй тымі днямі ў Мінявічах памерла, пасля чаго пачало здавацца, што ўжо ніколі нічога нават на гэтай маляўнічай гаючай прасторы яе не ўсцешыць. Прычыны сумнявацца ў тым, што яна можа абуджаць прывязанасць — сардэчную, шчырую і назаўсёды, як да адзінай каханай жанчыны, якую мужчына ніколі не пакрыўдзіць ніякімі няпэўнасцямі яе становішча, — «штылетам утапіліся недзе пад сэрцам». Рэальнасць, якая на блізкіх прыкладах запэўнівае, што жаночае шчасце ў свеце ёсць (ды яшчэ якое!), і жорстка адсякае: «Не табе!», — хіба можна нанесці жанчыне больш моцны ўдар?..

Што сябар Меет? Ён хацеў бы для Пані палёгкі і, калі б толькі мог, услаў бы дарогу яе жыцця кветкамі, але ж, як бедны прасталюдзін, няшмат для Дарагой Пані зрабіць можа. Ён добра разумее, што значыць балючае расчараванне, што значаць змарнаваныя гады, якія пакідаюць па сабе горыч і смутак. Але што рабіць? Адчай — занятак непрадуктыўны, хоць, як і слёзы, ён часта прыносіць палёгку. Што сапраўды трэба — дык гэта старацца забыць, — піша сябар. Памяць — рэч выгодная, але часта яна, няўмольная, на бяду нам.

«Хто здолее забыць перажытыя пакуты, той дасягне сапраўднага цуду. Наколькі гэта магчыма, не думай, Дарагая Пані, пра тое, што цябе так балюча кранула ў жыцці, падумай толькі пра тое, колькі ў Сабе і вакол Сябе маеш выдатнейшых адзнак найпрыгажэйшага існавання ў працы і дзеянні. Падумай, Дарагая Пані, Тая, якая так добра ведае пакуты людзей, колькі вакол Цябе істот, якія зайздросцяць акалічнасцям Твайго існавання».

І быт незалежны яна мае, і сяброў, верных ёй *do deski grobowej,* і святое полымя найпрыгажэйшага таленту, і найвышэйшае прызнанне ў грамадстве. «То і спытай Сябе: ці многім кабетам на свеце такія дары дадзены?»

Слушна, і нават вельмі. І выклікае светлую думку пра літасцівасць лёсу, які даў і тое, пра што напісана, і сябра, які так суцяшае. На гэта нельга не адказаць тымі найвялікшымі «любоўю і ўдзячнасцю, на якія можа быць здольная толькі істота, народжаная ў пустым гняздзе, а пасля вельмі-вельмі глыбока параненая». Але ні задавальненні творчай працы, ні трыумфы ўласнага кахання не могуць, як піша пані Эліза, прыбіць у ёй атрутную думку: «*Nie jestem kochaną*».

Не перастаючы плакаць і скардзіцца сябру на маральны стан і псіхічны настрой, ужо ў лістападзе той жа восені Эліза Ажэшка пачне пісаць абяцаную яму і выдавецтву «Światło» аповесць «Нізіны» («тую кніжачку», як піша яна ў лісце, што цытуецца трошкі раней) — і ў хуткім часе напіша яе (надрукуе не «Światło»,

а «Kraj»). І возьмецца за новую сялянскую аповесць, «Дзюрдзі», хоць і будзе пачуваць сябе не лепш і зноў будзе скардзіцца.

Ведаеш, чытач, яе скаргі на што б ні было — жыццё, здароўе, лёс, тлум Гродна, колер снегу і іншае, — якімі б ні былі яны штодзённымі і слязістымі, усе як адна (і не ў прыклад скаргам чалавечай большасці з яе і нашага часу) цалкам, я табе скажу, апраўданыя, бо годна кампенсаваныя справамі. Так скардзіцца, напэўна, дазваляецца. Асабліва калі ўжо выведзена і ўкладзена ў вусны героя формула ратавання: «Твае пакуты датычныя толькі цябе, а твая праца, думкі, дзейнасць — належаць грамадству. Грэбуючы імі па нейкай асабістай прычыне, пазбягаючы іх або разнявольваючы сябе хаця б на імгненне, ты здзяйсняеш крадзеж, бо адбіраеш плады сваёй духоўнай сілы ў грамадства, якому яны належаць». Гэта было напісана яшчэ ў 1869-м, для суцішвання болю героя аповесці «У правінцыі». Колькі ж ран атрымала аўтарка яшчэ да таго часу?

Ну, але чалавек, па словах самой пісьменніцы, заўсёды дзіця, якое забаўляецца надзеямі. Мінае год, надыходзіць новая восень, пані Эліза зноў піша да сябра Меета ў Варшаву, схіліўшыся над тым самым бюркам у сваім пакойчыку ў Мінявічах. Піша, што яшчэ не ў Гродне (хоць ужо і кастрычнік, а значыць, ваколіцы над Нёманам ужо не выпраменьваюць радасць, а толькі ўсміхаюцца, і сонца рассцілае над імі плашч бляклага золата, але не распальвае яркіх кастроў), што зможа быць там не менш як праз два або тры тыдні, бо «пра перавоз пана Нагорскага не можа быць гаворкі».

«Цяжка, доўга і небяспечна хварэў, і хто ведае, ці выжыў бы, калі б не энергічная дапамога лекара і клопат тых, хто побач».

Дыягназ пана Нагорскага — вострае запаленне бронхаў, спалучанае з запаленнем горла і тыфоідным ліхаманкай. Ці бачыць чытач, як ляжыць ён, хворы, абкружаны клопатам дасведчаных дактароў і мілажальных жанчын, тут вось, у Мінявічах? А ўсё мясцовыя дажджы…

«Праляжаў 26 дзён, з іх 16 у бесперапынным трызненні. Усе 26 дзён мелі ў сябе доктара Замкоўскага з Гродна і некалькі разоў — іншых гродзенскіх лекараў». 16 дзён пані Эліза і дзве яе таварышкі не здымалі сукенак, сплючы па дзве гадзіны і ледзьве даючы рады спраўляцца з задачай, бязмежна ўскладнёнай цеснатой і нязручнасцямі вясковай хаты, аддаленасцю аптэкі і ўсялякіх прадуктаў. І ўсё ж «уратавалі бедака».

Няхай цяпер чытач убачыць усмешлівы і, як прынята пісаць пра людзей, замучаных хваробай, завостраны твар выратаванага пана Нагорскага — слаўнага адваката, які праз дзесяць гадоў павянчаецца са знакамітай пісьменніцай. Але ж мы перарвалі распачаты аповед пра тое, хто насяляе пакоі ў наднёманскім доме. То шчасліва вяртаймася да асноўнае лініі.

Трэці пакой займаюць дзве панны, з якіх адна — Моніка Гажкоўская, другая — Марыя Сямашка. Як у Корчыне «Над Нёманам», у доме Бенядзікта Карчынскага, так і ў Мінявічах над Нёманам, у доме за сотню крокаў ад сядзібы гаспадароў Каменскіх, «мілых, шчырых і прыязных», панна маладая і панна ва ўзросце дзеляць адзін пакой.

З Монікай Гажкоўскай пісьменніца знаёмая, як і з Нагорскім, гадоў дваццаць. Старэйшая за пані Элізу, таксама незамужняя. Не мае ніякага іншага дома, акрамя дома пані Элізы, не вельмі адукаваная, але добрая і ласкавая. Паміж заняткамі гаспадаркай бавіць час за швейнай машынкай, напаўняючы дом яе «туркатам».

Марыя Сямашка — *lektorka* пані Элізы. Юнае ўзнёслае дзяўчо. Чытае і перапісвае, а ў вольныя хвіліны шчабеча, як жаўрук, і смяецца, як званочак. Да яе пісьменніца ставіцца як маці. Марыя вельмі часта хварэе, але ад таго яна пані Элізе яшчэ даражэй.

Чацвёрты пакой займае «стары выгнаннік» Любамір Абрэмбскі, чалавек без маёнтка, сіл да працы і аднаго вока. Амаль нічога не бачыць, бо і другое вока «мізэрнае». Пасля паўстання 1863 года ён пятнаццаць гадоў правёў у Сібіры і па

вяртанні адтуль вось ужо пяць гадоў атрымлівае ласку і даброты чужых, па сутнасці, людзей. Родныя яго дзеці дарослыя, але бедныя. У Гродне ён толькі начуе ў сына, днямі ж прападае ў доме пані Элізы.

Пяты пакой выконвае ролю покоя сталовага і адначасова салона. Сюды, да гэтай грамадкі з пяці чалавек, часта і надоўга далучаюцца прыяцелька пані Элізы Вілюня (Вільгельміна) Касцялкоўская, сын «старога выгнанніка» Максіміліян Абрэмбскі (*gagatek*, які, вось пабачыце, жэніцца на Марыі Сямашка), сакратар адваката Баляслаў Згурскі (інтэлігентны і хваравіты малады чалавек) і некаторыя іншыя асобы, якія не могуць сюды не наведвацца, бо ў Гродне прыходзяць да пані Элізы на Сенную вуліцу кожны дзень — «то на абед, то на гарбату, то на сумеснае чытанне». У Мінявічы яны прыязджаюць не на абед і не на гарбату, а на тыдні і нават месяцы гасцявання. Хоць гасцямі, увогуле, не з'яўляюцца, — піша пра іх пані Эліза: «Быццам таксама радня, проста трошачкі больш далёкая».

Вось такі сямейны адпачынак *na wsi* ў Элізы Ажэшка, якая сваёй сям'і не мае. Яна выкарыстоўвае яго для папраўкі здароўя, якога таксама амаль не мае, але галоўным чынам — для пісання. Хоць цэлымі днямі можа не рабіць нічога ўвогуле або, прынамсі, нічога не пісаць — бо вочы яе не вельмі здаровыя. Але шмат чытае. Вялікая ахвота да чытання часам на цэлыя тыдні адцягвае яе ад пяра, але яна не надта супраціўляецца. «Чалавек пішучы з'яўляецца такім не толькі ад пісання, але і ад чытання», — кажа пані Эліза. І нельга з ёй не пагадзіцца.

Часам яна здзяйсняе экскурсіі па ваколіцы на шляхецкай каламажцы, вывучаючы «розныя цікавыя людскія групы», або ў таварыстве засцянковых шляхціцаў і шляхцянак «адбывае фармальную студыю» мясцовай батанікі і мясцовых жа песень, казак, паданняў, загадак «тутэйшага польскага люду». У верасні таго года, калі скончыла тут сваю найвялікшую аповесць (натуральна, «Над Нёманам», у 1887-м), напісала Нікадэму Іваноўскаму, мастаку і пісьменніку, з якім пазнаёмілася два гады таму, што некалькі тыдняў па завяршэнні названай працы жыве тут, у Мінявічах, «з людзьмі і кветкамі», двойчы на дзень выпраўляючыся хадзіць па шляхецкай ваколіцы. У полі і лесе яна збірае расліны і, высушваючы іх з выкарыстаннем адмысловых тэхналогій — што ў дробным пясочку, што пад прасам, каб захаваць колеры, — складае гербарыі, аздабляе кветкамі альбомы, паштоўкі, шкатулкі, закладкі, веера ды іншую «драбязу».

Вечары тут часта цёплыя і ціхія, але нават калі шумяць у шэрай прасторы цёмныя галовы дрэў, то хмаркі, што прабягаюць над імі, вельмі ахвотна, ледзь толькі засланіўшы, зноў адкрываюць цэлыя зграйкі зор. У паветры ліпеньскага вечара нараджаецца нешта некае: не сотні і не тысячы, але мільёны, а мо і мільярды найпрыгажэйшых істот, празрыстых як шкло і белых як снег, аднолькава трапяткіх у палёце і стане спакою, вылятаюць з вады невысока, на некалькі локцяў, узвіваюцца над яе паверхняй і некалькі гадзін запар ладзяць у паветры свае гульні, з якіх у бязмежнай колькасці нараджаюцца жыцці і якія завяршаюцца такой жа бязмежнай колькасцю смерцяў. Вада паступова пакрыецца мноствам нежывых цельцаў тых, хто ахвяраваў сабою дзеля будучыні, не прамінуўшы пакінуць спадчыну, а здавацца будзе, што на высакародную пацiну нёманскай гладзі пасярод ліпеня выпаў снег.

Пані Эліза так захоплена падзёнкамі, што апісанне іх раення ў «Людзях і кветках…» займае некалькі старонак, вельмі яскравых, ледзь не самых маляўнічых ва ўсім нарысе. Гэта, аднак, не змушае пісьменніцу дадаць у загаловак трэці элемент, і людзі застаюцца з кветкамі. Падзёнак яна звязвае з людзьмі. Вельмі любімыя рыбамі, гэтыя насякомыя з'яўляюцца «бясконца важным тварэннем прыроды, прызначаным для рыбалоўства», а першы іх вылет дае сігнал «для пачатку цікавых ловаў, заснаваных на прыцягванні іх да агню, што разнесены па чаўнах і зямлі». Чым больш людны бераг ракі, тым больш агеньчыкаў плыве па вадзе.

Яціца — істота палахлівая, і рыбакі, ведаючы гэта, выбіраюцца па яе толькі ў ціхія вечары. Падчас ловаў на рэчцы захоўваецца поўная цішыня — нават

вясло апускаецца ў ваду так, каб яе не парушыць. І што? І праз непрацяглы час, калі рыбакі як след засяродзіліся, насустрач іх ціхім чаўнам выплываюць, на цішыню не зважаючы, іншыя — чаўны, з якіх ліецца ў прастору чароўная сумная песня пра беднага салдата, які *idzie borem, lasem, przymierając z głodu czasem*. Гэта моладзь «абедзвюх плоцяў», якой неверагодны, агнямі прыўкрашаны вечар «нешта такое ўчыніў», пасела ў чаўны і таксама падалася на ваду з агнямі і спевамі. Дагэтуль у фантастычнай ілюмінацыі пасярод белай імглы панавалі праца і промысел, а цяпер да іх далучыліся паэзія і забава. Рыбакі, ясная рэч, незадаволены: абураюцца, нават лаюцца. Але дарэмна: да песень хутка далучаецца смех. А пасля яшчэ і гармонік зайграе, і ўжо весела, а не нудна, пад гармонік спяваючы, плыве ракой моладзь. А яціца ад яе ўцякае. Спрабуюць уцячы і рыбакі ад моладзі, зразумеўшы, што лаянка не дапаможа. Але не дапамагаюць і ўцёкі: сярод рыбакоў таксама знаходзяцца тыя, хто падхоплівае спевы і каго адольвае смех. А недзе далей чуецца яшчэ адзін хор. Адна песня другой не шкодзіць, бо адна нясецца ў даліне над самай вадой, а другая ўзлятае пад неба. І абедзве гучаць так выразна, што польскія словы адной і рускія словы другой дасягаюць вуха слухача зразумелымі. Нічога ні на зямлі, ні ў небе не шкодзіць тым песням: люстра вады іх ад сябе адбівае, а лёгкі вецер пагоднай ночы разносіць так далёка, што далятаюць яны аж да вокнаў шляхецкіх хат, якія свецяцца, бо хіба ў такую ноч можна ім не свяціцца?

Яціца таксама далятае да вокнаў хат, узвіваецца ў пакоі пад самую столь, кружыцца вакол лямпы і, распраўіўшы крылцы, падае на панскія бюркі, усцеленыя кнігамі і паперамі. Вось і на бюрка пані Элізы некалькі насякомых звалілася. Яна якраз задумалася пра тое, што час лоўлі яціцы супадае з часам самай цяжкай і самай паспяховай працы ў полі — жнівом. І ўсе, хто бярэ ўдзел у начных *festynach*, цэлы дзень перад гэтым абліваліся потам, жнучы пад спякотным сонцам, вяжучы снапы, звозячы іх да стадолы і там укладаючы. «Здавалася б, легчы ім у канцы мазольнага дня нерухомымі калодкамі ды заснуць сном каменным», — занатоўвае пані Эліза для нарыса, над бюркам раз-пораз галаву ўздымаючы і на раку пазіраючы. «Але не. На вадзе і на сушы некалькі начных гадзін забаўляюць сябе эфектамі збліжэння жывёлінак і агню, крычаць, жартуюць, граюць, спяваюць…» Быццам для таго толькі гэта робяць, каб пані Элізу адолела пытанне: якой псіхічнай прычыне належыць гэта ўсё прыпісаць? Мо ёй гэта толькі здаецца, але на яе думку прычына не можа быць нічым іншым як толькі «паэтычным інстынктам», што вынікае з «прагі эстэтычных уражанняў», якой гэты люд неўсвядомлена падпарадкуецца.

«Непрыстойнай сваволы ці якой-небудзь бойкі ў такія вечары, даўно іх назіраючы, не заўважала ніколі», — напісала толькі што пані Эліза, завяршыўшы абзац. І пёрка адразу асвоіла новы радок: «А гераіня гэтых вечароў, бедная яціца, канчае сумна. Арыгінальна выглядаюць людзі, якія вяртаюцца дамоў з набітымі ёю торбамі. З галавы да ног яны ахутаны паміраючымі, але яшчэ жывымі істотамі, а здаецца, што абраслі мноствам белых трапяткіх крыльцаў. Маюць іх на валасах, адзенні і ў халявах ботаў, а пры кожным руху рук цэлыя роі вытрасаюцца з рукавоў».

Пані Эліза адклала пёрка ўбок і задумалася. Успомніла, як гэты люд рассыпае пуды яціцы на падворку, гарышчы, у свірнах, высушвае яе, каб пасля, змяшаўшы з глінай, ляпіць «кулі» і кідаць у раку дзеля добрых уловаў. Пра гэта яна таксама напіша, але пазней, мо ўжо заўтра, бо цяпер трэба класціся спаць.

А днямі яна пойдзе на пошту, каб адправіць у Варшаву разам з лістом да Яна Карловіча *zielnik* («раслін у ім 84»), рукапіс чарговай часткі артыкула-нарыса («баюся толькі, каб не прыйшоў ён позна і не падаўся занадта вялікім, бо значна большы, чым першы») і экзэмпляр яціцы («гэтая драбяза такая далікатная, што пры распакоўцы можа пакрышыцца, а было б добра, калі б які-небудзь натураліст далучыў да яе ў артыкуле навуковую назву»). Артыкул пісаўся для

часопіса «Wisła» — лепшага, на думку пісьменніцы, *rocznika* ў Польшчы: «не толькі для ведаў, але і для фантазіі». Артыкул не спозніцца. Ян Карловіч яго надрукуе.

Тут, у Мінявячах, пошту пані Эліза атрымлівае і адпраўляе толькі раз на тыдзень. Але дзякуючы гэтай пошце мы ведаем, што, напрыклад, у чэрвені 1882 года яна напісала навелку «Добрая пані», прызначаную для кніжкі, прысвечанай 25-годдзю творчасці Тэадора Томаша Ежа, публіцыста і пісьменніка-рамантыка, які ад нараджэння зваўся Зыгмунтам Мілкоўскім. Што ў жніўні таго ж года яна некалькі дзён запар мела дарагіх гасцей з Варшавы — адваката Генрыка Эйзенберга і яго маладую, вельмі прыгожую сястру. Што ў верасні яна нічога не пісала акрамя лістоў, бо пакутавала на неўралгію ў правай руцэ. Што лета 1883 года было сырым і халодным настолькі, што яго правядзеннем яна пахваліцца не можа. Ну яшчэ б!

…Летам 1884-га ў яе гасцяваў Леапольд Меет, сардэчны брат, аматар мастацтваў, калекцыянер і трошкі пісьменнік, пасля чаго яна чакала прыезду доктара Генрыка Нусбаума, фізіёлага, філосафа медыцыны і журналіста (бываюць і ў наш час такія спалучэнні). Летам 1886 года (якраз пачала пісаць «Над Нёманам») у яе шэсць тыдняў гасцявала Астоя, але гэта чытач ужо ведае. У жніўні пані Эліза напіша ёй, што ўсё ў іх як заўсёды, і ўсе даволі здаровыя, толькі яна сама пакутуе часцей, чым раней, ад болю ў галаве, які не дае ёй пісаць. Перашкаджаюць гэта рабіць і госці — паляўнічыя, якія прыехалі да пана Нагорскага. Уяві, чытач, тры дні зранку і вечарам дом напаўняўся іх гучнымі галасамі. «Было, аднак, досыць весела», — адзначыць пані Эліза. Што яшчэ? «Марылька са сваім Адамам плывуць бесперапынна па рацэ чуласці, восенню пабяруцца шлюбам, а зайздросны Ляўковіч усё часцей і маркотней спявае ў кухні і полі. Паны Нагорскі і Вейскі б'юць з дубальтовак, а ўчора злавілі ў Нёмане вялізнага сома».

Манька (Марыя Сямашка, канечне) цалуе пані Элізу больш як тры разы на дзень, а Юзэфу (Савіцкую, адрасатку) любіць да фанатызму, які, аднак, не можа давесці яе да напісання ліста. «Енчыць мне толькі над вухам, каб табе пісала і ад яе цябе цалавала па сто і тысячу разоў. Але я і сама для сябе тваіх бусякоў патрабую. Раз, два, тры, дзесяць, сто, тысячу разоў. І калі ж ты зноў мне напішаш?»

## Багатырэвічы, а з імі і Частка другая

Дзіўная рэч: дні даюцца людзям адны і тыя ж, але кожнаму розныя. Па працягласці і хвілінаўмяшчальнасці. Па яскравасці і глыбіні. Бывае, што дзень выцякае з нябёсаў бляклай лужынкай кволых надзей, неістотных жаданняў, сціплых памкненняў і здранцвелых амаль спадзяванняў. Лужынка, знайшоўшы які-небудзь жалабок, перацякае ў раўчук дзеянняў і цвёрдых, быццам вера, ды пругкіх, як сусвет, намаганняў. Раўчук той схаваецца некалі ў рэчцы, якая зноў без асаблівай на тое прычыны апынецца як-небудзь бляклай лужынкай.

Пра што гэта? Проста думкі.

Першая жоўтая хата, якая трапляе ў поле зроку па ходзе руху, стаіць за шырокімі варотамі, на ландшафтным аддаленні ад іх, у глыбіні прасторнага двара, на выгляд круглага і вельмі маляўнічага. Нельга сказаць, што маляўнічасць ствараюць кветкі, або калодзеж, або сабачка на прывязі, або колер дома ці «круглась» двара, паколькі ўсё гэта рэчы звычайныя. Прыемныя воку, але па вялікім рахунку звычайныя. Калі б мне трэба было патлумачыць прычыну гэтай маляўнічасці, такую невытлумачальную на першы пагляд, я б, далібог жа, далася ў «высокія матэрыі» — выводзіла б яе з эфекта сінэргіі, якая ёсць не проста арыфметычная сума (у нашым выпадку — сума наяўных прыкмет хараства), а тая яе разнавіднасць, з якой часцей за іншых маюць справу маркетолагі і рэкламшчыкі, бо ў тых 1+1 не заўсёды 2. Але якая тут сінергія?! Тут ха-ра-ство!..

Пазмагаўшыся з засаўкай, заходжу ў гэты двор, так справядліва пераканаіы ў сваёй выключнасці, над якой нават дождж не ўладарыць. Я не ўпэўнена, што менавіта ў гэтым жоўтым доме жыве патрэбная мне Тэрэса Багатырэвіч, але ж не толькі яна мне патрэбна.

Пакуль ногі (па чарзе — то адна, то другая) стаяць на ганку, а рукі (адразу дзве) трымаюць парасон, дыктафон, тэлефон і блакнот, у галаву пранікае думка спытаць найперш пра шляхціца Стралкоўскага, які нібыта жыў тут раней. Ці не ведае гаспадыня, якая нарэшце выйшла да неспадзяванай візіторкі на яе працяглы і шматразовы стук у дзверы (які, канечне, цяжка было пачуць з-за дажджу, што так нахабна, з выклікам барабаніць па даху і шыбах), хто б гэта мог быць такі? Ды ў XIX стагоддзі…

— …Эліза Ажэшка апісвае ў адным сваім нарысе чалавека з такім прозвішчам, а я — вандроўніца, цікаўлюся часам, калі яна жыла, і яе летаваннем у наднёманскіх вёсках, вось тут, у вас…

Наскрозь прамоклая, але ж сапраўдная (і ад таго, што мокрая, мо яшчэ больш сапраўдная) вандроўніца! На сур'ёзную даследчыцу я, безумоўна, ніяк не цягну, хутчэй на цікаўную Варвару. І гэта калі не браць у разлік прадстаўнікоў мокрага птаства.

— Але ж і дождж!.. Заходзьце ў хату...

У хаце цёпла. Люблю, калі ў хаце цёпла. Хочацца распытваць гаспадыню бясконца.

— У лісце да сяброўкі Эліза Ажэшка піша, як хадзіла да Стралкоўскага есці грушкі… І што Стралкоўскі гэты…

Я не паспела сказаць, што дакладна «гэты Стралкоўскі» — гаспадыня мяне, можна сказаць, разупэўніла нешта казаць — нечаканым паведамленнем пра тое, што яна і ёсць Стралкоўская.

— Ад нараджэння Багатырэвіч, але па мужу — Стралкоўская, Ірэна.

Вось і не паверыць мне чытач. Ніколі не паверыць, што я гэта не прыдумала.

— У тым канцы, — гаспадыня махнула рукой недзе ўбок, — усе спрадвеку Багатырэвічы, а ў гэтым канцы пяць дамоў Стралкоўскіх, астатнія — прымакі: Капчэўскія, Станеўскія, Ляўковічы… Пра Ажэшку мы ўжо не помнім нічога, бо я, напрыклад, у 1937-м нарадзілася, а яна ў 1910-м памерла. Бабушка, канечне, расказвала, што Ажэшка сюда на лета прыязджала, але я вам не скажу нічога падрабязнага, бо нічога не ведаю.

Не адзін яшчэ раз у той дзень я здзіўлюся, пачуўшы на фоне агульнай сціплай інфармацыі («хіба я ведаю?») гэтае быццам з малаком усмактанае: «Яна ў 1910-м памерла» (з адценнем іроніі кшталту «як жа я магу яе памятаць?»), «яна за Нагорскага замуж пайшла» (тонам, якім звычайна маці хваліцца сваёй добра ўладкаванай дачкой), «але ўсё роўна падпісвалася Orzeszkowa» (гэта ўжо з гонарам за сваё веданне такога факта, але таксама тонам, якім прамаўляюцца звесткі пра любімую суседку). Здаецца, і гады жыцця Элізы Ажэшка, і яе дзявочае прозвішча, і прозвішча яе другога мужа, і назвы яе твораў тут вывучаюць асобным урокам. Яшчэ мо да школкі.

— …Лядоўня, якая належала Стралкоўскім, існуе і дагэтуль. І сад у яго, ведаю, быў.

Той самы, у якім Эліза Ажэшка грушкі страсала, куды з Юзэфай Савіцкай па агрэст і парэчкі хадзілі? Неверагодна! Той пан Стралкоўскі, які пры пані Элізе вучыўся гаварыць вобразна, забываючыся на сваё «хіба я ведаю», меў, як аказалася, лядоўню, якую можна ўбачыць і сёння. Прынамсі, пакуль… Пах шынкі з яе, вядома, выпетрыўся, а вось пах часу… Ён, я ведаю, застаецца.

—…а над Нёманам раслі два клёны, паміж імі стаяла лавачка, на ёй яна сядзела і пісала. Цяпер ужо лавачкі даўным-даўно нету, бо яна была дзеравянная, то згніла.

Сачы за аповедам, мой чытач, — і даведаешся, у што пазней ператворацца згаданыя клёны. Бо арэлі, пра якія гаварылася ў Мінявічах, заўваж, ператварыліся ўжо ў лавачку. Я ж пакуль што згадваю пра новую персону:

— А яшчэ яна ў тым нарысе напісала, што па наваколлі яе перавозіў на каламажцы шляхціч Багатырэвіч.

— Можа Ян?

— Прыгожы, светлавалосы, высокі, блакітнавокі.

— Ну наверно ж Ян такі быў. Но точно я не магу вам сказаць.

— А яшчэ пісала, што ў нейкай з гэтых вёсак жыла ведзьма, якую звалі Слабошыха.

— У Мінявічах Слабошаў некалькі дамоў было. Я ведала Фёдара Слабоша.

— Таго, які да вайны яшчэ жыў?

— Не, Фёдар Слабош гадоў дзесяць таму памёр. А дачка яго выйшла замуж у Жылічы, мо кіламетраў за шэсць адсюль.

Значыцца, быў яшчэ адзін Фёдар Слабош…

— А Тэрэса Багатырэвіч…

— А Тэрэса Багатырэвіч за намі жыве, у яе таксама хата жоўтая. Да яе сцежачка ёсць. Скуль жа вы прыехалі?

— З Мінска.

— То выбралі ж вы надвор'е. Ну, але нічога, дожджык цёплы.

Пакінуўшы Ірэну Стралкоўскую ў яе цёплым доме, перасякаю маляўнічы двор, зноў змагаюся з засаўкай, шукаю ў кустах абяцаную сцежку, у якой ужо падазраю партал, і, трошкі абсохлая, макрэю наноў у высокай траве пад нізкімі галінамі старэнькай яблыні. Абяцаю сабе сарваць з яе яблык, але на зваротным шляху.

Сцежка сапраўды аказваецца парталам. Іду па ёй — і здаецца мне, што нешта нейкае робіцца з часам. Бо як можна, зрабіўшы колькі дзясяткаў крокаў, адчуць, што прамінула ледзь не вечнасць?.. І зноў жа гэтыя «проста думкі», якія ўрываюцца ў галаў, — гэтым разам пра тое, як вецер з шалёным рыкам гоніць аблокі некуды паўз. Паўз дахі і дрэвы, слупы і платы-агароджы. Што чалавеку з той дзікай гонкі? Калі чалавек сядзіць у хаце, у якой паліцца печ, ля печы вуркоча кот, а ногі чалавека ў цёплых тапках — што можа быць болей прывабным, чым тая адчайна шалёная гонка аблокаў? З такімі думкамі я падыходжу да ганка, зноў мокрая.

Але ж тут мяне ўжо чакаюць!

— Заходзьце, хутчэй заходзьце.

Высокая высмуклая кабета ў лёгкай майцы, з голымі рукамі (мне аж глядзець холадна, д-д-д-р-р-р…) стаіць на парозе, высунуўшыся пад дождж верхняй сваёй паловай (…а ёй хоць бы што), і так прыязна прыспешвае мне хаду, быццам пра мой візіт шырока паведамлялася. Фантастычнае адчуванне.

— Ну і дождж! І цэленькі дзень без упынку!

Непрывычна нізкім, але прыемным вуху голасам яна запрашае ў хату, прамаўляе «прошэ сядаць» і просіць тро-о-ошачкі пачакаць — пакуль навядзе парадак, які належыць мець у доме пры сустрэчы госця і якога яна не мае, бо стол («во гляньце!») увесь у крошках. Яна змятае са стала крошкі, прыгаворваючы то пра нядбайных унучак, якія прыехалі, насмецілі, а прыбраць за сабой не прыбралі («Хоць абяцалі: «Бабушка, усё будзе добра»), то пра дождж, які лье і лье, так бясконца, што на вуліцу ніяк не выйдзеш. І яшчэ пра «пенсячку», якую атрымала ўчора.

— …не, пазаўчора. І паклала яе ў кашалёк. І трэба ж — такая памяць: увесь дзень пераварочвала дом, каб знайсці той кашалёк. Але знайшла! Божа, Божа, што ж ты зробіш, неяк трэба дажыць.

Даўно заўважыла такую рэч: жанчыны, якія шмат самага рознага пражылі супраць сваёй добрай волі, шмат чаго былі пазбаўлены і шмат ад чаго адмаўляліся



*Здымак вяселля, невядома чыйго, зроблены невядома ў якім годзе, але дакладна ў вёсцы Багатырэвічы, прывезены з вандроўкі, якая ад апісанай тут не залежала і была здзейснена значна раней падарожнікам Уладзімірам Цвіркам.*

самі, — трапяткіх стасункаў з жыццём, як правіла, не маюць. Яно, жыццё, для іх як абавязак, які трэба пакорліва выканаць. Мо і ёсць у ім нейкія бонусы, але не настолькі каштоўныя, каб адпускаць перад ім рэверансы. Скажы каторай з такіх жанчын сёння, што заўтра канец жыцця, — ніводная не засмуціцца. Яны гатовы. Даўно гатовы. Гэта канец жыцця бадзяецца недзе, нягоднік, — не прычакаць.

— Раскажыце мне ўсё, што ведаеце, — прашу я Тэрэсу Багатырэвіч, калі яна ўсядаецца нарэшце да мяне за стол, бо мэту свайго візіту я выклала ёй адразу, яшчэ да пачатку навядзення марафету (у якім некалькі разоў парывалася ўзяць удзел), і ўсе імёны-прозвішчы, якія мяне цікавяць, даўно назвала. — Пра лекарку Люцю мо ведаеце?

— Люця — гэта з Глядавіч? — пытаецца пані Тэрэса, змахваючы рукой са стала нешта дагэтуль не змеценае (не можа быць!). І дзіўна чуць адразу такую ўпэўнена праўдзівую інфармацыю. Не верыцца неяк.

— Так, з Глядавіч. Але яна там жыла ў другой палове XIX стагоддзя. Ці мо ёсць нейкая іншая Люця? — пытаюся, каб зразумець, ці зразумела яна, што я не зусім зразумела, ці правільна яна мяне зразумела.

— Ёсць Люця. Яна замуж выйшла, то прозвішча яе цяперашняга я не знаю, а была Занеўская. Тут, у Багатырэвічах, жыла Лёля, дык яе дачка якраз Люця і ёсць. Яна паехала ў Гродна вучыцца і вывучылася на лекарку: медыцыну нейкую скончыла. Каго лечыць, я не скажу, але як сёлета было шмат кляшчоў, то яна ўсіх ратавала. Што яшчэ вам сказаць?

— А Слабошыха?

— Слабашова. Гэта ў Мінявічах. Хатка над самым Немнам стаіць. Вось там жыла Слабашова. Але нічога я пра яе не ведаю, — і трошкі цішэй: — А што яна, Слабашова, праўда ведзьма?!

— Тая, пра якую піша Ажэшка? Так, ведзьма, дакладна ведзьма. Але яна жыла сто сорак гадоў таму.

— Мо і ведзьма… — прамаўляецца на мае словы распеўна і так, быццам яны не былі пачутымі.

— А пра Ажэшку ў вашай вёсцы ўспамінаюць?

Тут замест адказу я чую доўгую і даволі прыгожую гісторыю, якая адбылася…

— …некалі, яшчэ за польскім часам, але год я не скажу, бо ў мяне памяць цяпер дрэнная, а па-другое, мне гэта ўсё расказвала мая цётка, бацькава сястра. Яна мяне расціла, бо мама мая рана памерла.

Значыцца, так. Бабка маёй субяседніцы нарадзілася ў сям'і, дзе было пяцёра дзяцей. Мама той бабкі, то бок, прабабка, таксама рана памерла, і таму бабку яшчэ дзяўчынкай узяла ў свой дом — хто б ты, чытач, думаў? Эліза Ажэшка. Дзяўчынку звалі Марыляй, яна пасля працавала ў доме пані Элізы, але кім — невядома.

— Што рабіла, не знаю. Но служыла долгое врэмя. А Эліза Ажэшка пазнакомілась тут з маім дзедушкам, ён Адам называўся. Ну, і кажа яму: «Веш со, Адаме? Сасватаю табе панну добрую». А тады ж лічылася як? Калі шляхцянка, то вазьму, а як не шляхцянка… «Не, — кажа Эліза Ажэшка, — шляхцянка». Ну, і падсватала, і дзед мой Адам ажаніўся з маёй бабкай Марыляй. Прозвішча дзеда Стралкоўскі, то і Марыля Стралкоўскай стала. І я была Стралкоўскай, але стала Багатырэвічава, бо замуж пайшла.

Ці ўспамінае чытач адзін ліст, пісаны пані Элізай у Мінявічах і прыведзены мною тут у першай частцы? «Марылька са сваім Адамам плывуць бесперапынна па рацэ чуласці, восенню пабяруцца шлюбам», — пісалася ў ім.

— Ну і слухайце, што далей было. Як нарадзіўся ў іх першы сын, то яны ўзялі за хросных Элізу і Нагорскага. Яна, Эліза, пайшла за Нагорскага замуж, але ўсянно пісалася сваёй фаміліяй — Ожэшкова. Дык вось яе і Нагорскага ўзялі за хросных.

…8 снежня таго самага 1886 года, у жніўні якога пані Эліза пісала Астоі, Юзэфе Савіцкай, пра Марыльку з Адамам, якія «восенню пабяруцца шлюбам», сябру Меету было напісана наступнае: «Колькі дзён таму, уяві сабе, мела я ў доме вяселле! Мая служачая выйшла замуж за аднаго з жыхароў Багатырэвіч — той ваколіцы, што пры нашым доме ў Мінявічах. А паколькі з'яўляемся з гэтымі суседзямі моцна спрыязненымі, наехала іх вельмі шмат».

Панну младу везла да шлюбу сама пані Эліза, пана младага вёз пан Нагорскі, а Марыля (канечне, Сямашка) была адной з дружак. «Пабраліся па каханні, — піша пані Эліза. — Бо дзяўчына была ўбогая, адно што прыгожая і сумленная. Пан млоды, трыццацігадовы, мае дзесяць моргаў зямлі, дом пад плакучымі бярозамі, сам арэ і малоціць, вельмі добра па-польску чытае і піша. І закахаўся ў дзяўчыну, і чакаў яе два гады, пакуль яна, служачы, збірала грошы сабе на выправы».

Няўжо пані Эліза пісала гэта пра бабку і дзеда маёй субяседніцы, гэтай мілай жанчыны, якую слухаць і слухаць, бясконца — і вось яно, шчасце!

— …І назвалі сына Леапольд, — прамаўляе яна, вылучаючы першае «о» адмысловым чынам. — Эліза Ажэшка яго, свайго хрэсніка, вывучыла ў Варшаве, і стаў ён паручнікам. Значыць, Леапольд Стралкоўскі — польскі афіцэр. Ён загінуў… як жа гэта?.. Дзе цяпер самалёт разбіўся. Там іх многа насабіралася, польскіх афіцэраў, і там ён пагіб.

— Ля Катыні?

— Ля Катыні. Ён думаў, што вайна хутка скончыцца. У яго быў сабачка Рэксік. Як на вайну сыходзіў, сказаў мне: «Тэрэня, глядзі майго Рэксіка, я хутка вярнуся». Ну, не вярнуўся. Ён быў жанаты, жона памерла, і дочка была, жыла ў Варшаве. На лета сюда на отдых прыязджалі, палова дома іх была, палова наша. Што яшчэ вам сказаць?

На яе фірмовае «што яшчэ вам сказаць» мой бязгучны адказ нязменны: «Хоць што-небудзь».

— Стаяў тут маленькі домік, і жыў у ім адзінокі Адам, па прозвішчы… Чакайце, успомню… Мо Ляўковіч…

«…а зайздросны Ляўковіч усё часцей і маркотней спявае ў кухні і полі», — згадваецца працяг з ліста. Няўжо і праўда тое самае вяселле?!

— … і яна ўсё да яго хадзіла. А ён заўсягда замыкаўся, дык яна пастукае ў дзверы: «Пане Адаме, прошэ адэмкнуць». Ён тады: «А-а-а, это Элі-і-іза! Ты як прыедзеш, дык і з-пад пазногця выкалупнеш!» А яна пісала тут кнігу, то ўсё выспрашвала пра даўнія часы, каб яе напісаць. І ён, Адам той, усё ёй расказваў. І прыгаворваў: «Калі ажанюся, дык толькі з Элізай Ажэшка».

Смяецца.

— А доміка таго няма?

— О-о-ой, няма. Але я по-о-омню той домік. І дзедушку, які там жыў, помню. У нас ён браў малачко.

Задумваецца.

— Дык гэта ж быў той самы Адам!.. Стар-ы-ы быў дом. Я з 1934 года. А ён тады быў старэнькі, пан Адам. Вельмі любіў малачко. У яго яшчэ збаночак такі быў. Бабушка мая той збаночак раз узяла ды памыла. Надта ж ён перажываў: «А-я-яй, а-я-яй, усю смятанку мне змыла. Ото баба, усю смятанку змыла». Што яшчэ вам сказаць?

Зноў «хоць што-небудзь», як іначай?

— Помню, як фільм накручвалі. Тут, у Багатырэвічах. І бегалі ўсе глядзець артыстак — як хадзілі тыя ў пышных плаццях. Фільм «Над Немнэм» — яго якраз тут накручвалі. І з нашай вёскі можна было ехаць у Гродна задарам яго глядзець. Тады па Немну плылі яшчэ такія… як жа яны называліся?… дзерава збітае… Тратвы! І яна гэта ўсё апісала ў кнізе, і ў кіно так было. Што яшчэ я магу вам сказаць? Я тут і радзілася, і вайну перажыла, і замуж пайшла, са Стралкоўскай стала Багатырэвіч…

— Ажэшка піша, што яе на каламажцы перавозіў высокі, яснавалосы, вельмі прыгожы, вясёлы пан па прозвішчы Багатырэвіч, які з-за сваёй дапытлівасці — цытую пані Элізу — «меў самыя дакладныя звесткі пра ўсё і ўсіх на некалькі міль вакол». Як яго маглі зваць? Ён жа, відаць, адсюль быў, калі Багатырэвіч. То хто гэта?

— Мо пан Ян?

— І суседка ваша так сказала.

— Ну, значыць, пан Ян і быў. Яны жылі ў тым канцы, дзе ўсе Багатырэвічы, бо ў нас у гэтым баку Стралкоўскія. Яны ўтрох жылі, пасля адзін жаніўся. Пан Ян, пан Ян, што яшчэ той пан Ян?.. Геронім яшчэ быў, а пан Ян самы младшы. Пана Яна і я яшчэ помню. Людзі тады былі не такая граматныя. Як прыйшлі Саветы, то ён стаў старшынёй сельсавета, бо ўмеў пісаць. Вот які быў пан Ян. Што яшчэ вам сказаць?

— Недзе тут у вас ці то лавачка, ці то арэлі пад клёнамі…

— Знаю, што была ў тым канцы Багатырэвіч лавачка, на ёй заўсёды ў нядзелю збіраліся. Первым долгом, я вам скажу, ехалі ў Лунну, у касцёл. Хто меў чым ехаць, то ехаў, а хто і пяшочкам хадзілі. Цяпер можна ўсім ехаць, але ўжо нікто не едзе, а тады людзі былі больш намоленыя, у Бога больш верылі. І ў нядзелю нікто нічога не рабіў, только кушаць навараць — і ўсё. Прыбіралі дом, каб чысценька было, таму што гэта вас-кра-сенне,васкрэсны дзень. І ўсе-е-е ехалі ў касцёл. А пасля касцёла маладыя пары, каторыя ўжэ пажаніліс, сабіраліс над Нёмнам на лавачцы. Я помню, як сядзелі там і расказвалі — і пра даўнейшыя часы, і пра наш час: кто что будзет сеяць. Патом гаварылі, што Эліза Ажэшка там сядзела, на той самай лавачцы. Дык яна ж магла на любой лавачцы сядзець!..

Ну і праўда.

— … Гэта былі апошнія часы за Польшчай, калі сядзелі на лавачках. А потым інакш пайшло.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

Станіслаў КРЭПСКІ

# КРОСНЫ ЖЫЦЦЯ

*Памяць — гэта тое, што дазваляе расказаць сваім унукам, і не толькі ім, як на маёй радзіме, для іх ужо ў даўнія часы, жылі нашы продкі, што іх турбавала, а турбавала так, што дзіву даешся, як яны выжылі. Праўда, не ўсе і выжылі, але памяць аб іх засталася ў згадках родных, сяброў, нашчадкаў; жыццё іх ткалася на вогненных кроснах быцця.*

*Маім унукам цяжка ўявіць, як жылі іх продкі і прашчуры без электрычнасці, радыё, тэлевізара і асабліва інтэрнэта. Калі іх дзед Стась быў малы, то ў вёсцы не кожны меў веласіпед.*

*Цяпер кожны працуе, каб потым на зробленыя грошы адпачыць, а ў тыя «далёкія часы» адпачынкам лічыўся толькі сон, астатняе — праца, праца і праца. Крыху «палайдачыць» дазвалялася толькі ў святую нядзельку, а тое, што ў гэты дзень ты варыў ежу жывёле, накарміў яе, прыбраў, падаслаў свежай саломы, напаіў ля студні вадзіцай — не надта лічылася працай, так сабе — звычайная паўсядзёнка.*

*А цяпер крыху згадаем пра тое, што ўзнаўляе памяць.*

## «І тчэ забыўшыся рука...»

Люты 1955 года, субота, недзе шостая гадзіна вечара, але ўжо добры прыцемак. Дзед Антось у гумне здрабняе на сячкарні сухі бульбоўнік з канюшынай і ячневай саломай. З гэтай сумесі будзе рыхтавацца ежа для каровы. У хаце пад столлю гарыць газавая лямпа.

Я, шасцігадовы Стасік, сёння буду начаваць у дзядулі з бабуляй. Мне тут добра і ўтульна, не горш, як дома, да таго ж дзедава хата значна большая, ёсць дзе пабегаць, а калі адчыніць дзверы з залы ў прыхожую, то гэта будзе метраў дзесяць, супроць нашай хаткі ў шэсць метраў. Я з цікавасцю пазіраю, як бабуля Маня тчэ на кроснах сінюю з ярка-жоўтым узорам посцілку. Узор падобны на беларускі арнамент, але бабуля называе яго «ўзорам у шашачкі», яна моцна б'е бёрдамі, збіваючы нітку за ніткай у аснову палатна. На невялікай палічцы ляжаць цэўкі з жоўтымі і сінімі ніткамі. Бабуля перыядычна закладвае патрэбную ёй цэўку ў драўляны чаўнок і снаравіста пракідвае яго паміж ніткамі асновы на другі бок, хапае яго другой рукой, б'е нітку бёрдамі, затым націскае нагой на патрэбную ёй педаль, пры гэтым ніжнія ніткі асновы перамяшчаюцца ўверх, а верхнія ўніз. Так адбылося перакрыжаванне і зноў ляціць між ніткамі чаўнок.

Кросны займаюць амаль палову пярэдняй. Яны зроблены з моцнай драўніны, від якой вызначыць нялёгка. Яна ад часу ўжо здаецца ператварылася ў костку светла-карычневага колеру.

— Бабуля, а колькі гадоў гэтым кроснам?

— Яны, мабыць, і самі забыліся, хто іх майстраваў, а хто ведаў — тых ужо няма. Яны мне дасталіся ад свёкра Яна, а, па праўдзе кажучы, — ад свякрухі

Міхаліны. Міхаліне кросны перайшлі, быццам бы, ад яе бабулі, калі яна бралася шлюбам з Янам. Во як, унучак.

— Дык у іх жа яшчэ добры выгляд.

Але, але, унучак, кожную рэч трэба берагчы, шанаваць, тады яна табе аддзячыць доўгай і спраўнай службай. Вось пайдзі купі такую посцілку ці абрус, альбо той жа ручнік, ведаеш колькі грошай аддасі? А я і сабе, і для вашай сям'і вытчу, ды не абы-якія, а ў рознакаляровыя шашачкі. І кужаль тут адмысловы, сама на сваіх сотках лянок выгадавала, гэта табе не калгасны, не на пустой зямлі вырас — найвышэйшага гатунку. Праўда, Антось снапоў дзясятак прынёс і калгасных, сам выбіраў лепшанькія, уперамешку са сваёй часала на часале. Кудзелька атрымалася мякенькая, бы пух, ніткі сукаць было адно задавальненне. А калі лён нягеглы: тонкі, дробны, то часцінкі кастрычкі застаюцца ў кудзелі і калюць пальцы, а нітак трэба насукаць — уга, колькі.

Так, расказваючы мне пра кросны і кужаль, бабуля ні на імгненне не спыняла сваёй працы. Вось сапраўды: «і тчэ забыўшыся рука».

— Стасік, наматай мне на станочку са шпулі жоўтых нітак на цэўкі.

Ля кроснаў стаяць тры шпулі з ніткамі: чырвонымі, жоўтымі і сінімі. У адным са слупоў кроснаў ёсць адтуліна, куды ўстаўляецца драўляная вось, на якую насаджваецца шпуля. Цягнеш за нітку і шпуля прыходзіць у рух, падаючы нітку на цэўку, якая замацоўваецца на станочку з драўляным махавіком, ты рукой прыводзіш у рух махавік і тонкая, бы палачка, цэўка становіцца бухматай ад наматанай на яе ніткі.

— Во, бач, які ты мой памочнік, праз год ужо зможаш падпаскам хадзіць з пастухом, пабегчы адвярнуць кароў ад шкоды, а наглядаць за авечкамі зможаш і гэтым летам, авечка рахманая скацінка. Я ў твае гады ўжо была сірацінай, рабіла многа рознай работы, у мачыхі не паспіш лішняга і не з'ясі колькі хочаш. Мачыха нават падглядвала за мной, калі я даіла каровак, ёй здавалася, што я п'ю малако ў хляве. Часам выгаворвала:

— Ну што, свавольніца, думала я не пазнаю, вунь вусны мокрыя ад малака.

— Не, гэта я прытамілася, Малюта цяжка раздойваецца.

Мая маці Зоня адышла ў вечнасць, калі я была недзе ў гадавалым узросце. Жыццё мяне, як бачыш, унучак, ткала на суровых кроснах, але душой я не зачарсцвела, слухала старэйшых, набіралася іх вопыту, сталай мудрасці, з мачыхай не паскуралася, не пярэчыла ёй ніколі, бо ведала, што ніхто за мяне не заступіцца, ды і бацька мяне ні разу не пашкадаваў, не запытаўся, як мне жывецца, бо сам быў пад абцасам у жонкі, а я ж так хацела прыціснуцца да яго, адзінага, роднага чалавека, але ён быў халодны. Аднойчы сама падышла да яго, калі ён быў нечым засмучаны, каб супакоіць яго, пашкадаваць. Ды толькі палажыла руку на яго плячо, у гэты ж момант мачыха залямантавала так, быццам яе апяклі гарачай качаргой.

— Што гэта ты надумала, бач ты — лезе не ў свае справы, ведай месца сваё.

— Прабачце, я больш так рабіць не буду.

— Вядома не будзеш, я не дазволю, бо кудлы павырываю.

— У мачыхі было дзве дачкі, яна іх вывучыла, абедзве атрымалі вышэйшую адукацыю і аселі ў Расіі, ведаю, што адна вывучылася на ўрача, другая… — не ведаю.

З бацькам мачыха прыжыла двух хлопцаў: Яна і Адася і дзяўчынку Зоську, пры родах Адася яна памерла, я тады ўжо была ў шлюбе за тваім дзедам Антосем. Адась нарадзіўся ў адзін год з тваёй матуляй, дык вось аднойчы мой бацька Фэлька, першы раз у жыцці, наведаўся да мяне на футар Калінава, ды не адзін, а з загорнутым у коўдру Адасікам, дзіця было такое знясіленае, што нават голасу не падавала.

Фэлька як стаяў, так і бухнуў на калені.

— Манечка, дачушка, выратуй дзіцятка, іначай яно памрэ.

Ураган думак пранёсся ў маёй галаве, я стаяла ў нейкім здранцвенні, імгненна ўспомнілася ўсё маё гаротнае дзяцінства, і тут я першы раз пачула ад бацькі словы звароту: «Манечка, дачушка». Во як, — падумала: век пражывеш і Кузьму бацькам назавеш. Была Манька-караўка, гэтак мяне называла мачыха, а як прыціснула цябе гора горкае, то ўспомніў, што я дачушка, а чаму ты, гаспадар сваёй хаты, не паказаў ёй на дзверы, калі ўбачыў, што зневажаюць тваю сірацінку. Слабавольны ты чалавек. Апрытомнеўшы ад убачанага і пачутага, я ўзяла сябе ў рукі; ён жа даў мне жыццё, а зараз клапоціцца аб жыцці свайго дзіцяці, у якога, як некалі і ў мяне, памерла маці. А гэта Бог пасылае нам выпрабаванні: яму і мне, а мы павінны з годнасцю іх вытрымаць, тады ў старасці цябе не будзе мучыць сумленне за здзейсненае, альбо не здзейсненае.

— Давай яго сюды, татка, малака ў мяне, дзякуй богу, хопіць на дваіх. Адасік мяне першую назваў мамай. Так і няньчыла дваіх немаўлят: тваю матулю Зоньку і зводнага браціка Адасіка, аж пакуль Адаська не пачаў сам есці, а мой бацька не прывёў у хату ўжо трэцюю па ліку жонку. Гэта была гаротная жанчына-ўдавіца, у якой ад шкарлятыны памерла пяцёра дзяцей. Адась зваў яе мамай, і яна яго любіла, але ў пяцігадовым узросце страціў і яе, моцна плакаў над яе дамавінай. Старэйшы брат Ян супакойваў:

— Не раві, твае слёзы яе не вернуць.

Для старэйшага Яна Карнэля была мачыхай, а для Адася — мамай. Прайшло з таго часу нейкіх чатырнаццаць гадоў: старога Фелікса Луцэвіча забілі немцы падчас карнай акцыі супраць партызанаў, маладыя выскачылі з атачэння, а ён, нямоглы, схаваўся ў яме, ды сабакі ўнюхалі. Ян загінуў у Польшчы, быў санітарам, падарваўся на міне, Адась ваяваў на Далёкім Усходзе з японцамі, вярнуўся да мяне, я яму знайшла дзяўчыну з Барка, перавезлі яго сям'ю на Раўчак, адбудавалі дамок, зараз жывём амаль па-суседству. Во як, унучак, нас жыццё мяла, трапала, часала, затым у нітку ссукала, бы лён той, і выткала не радно якое, а ладнае палатно. Не хвалюся, але скажу: мы людзі годныя, умелыя, працавітыя, чулыя і не зайздросныя. Жывём, свой хлеб жуём, да хлеба маем, чужога не чапаем, запрашаем людзей у госці, чужому не зайздросцім, ды каб пачэснай была жыццёвая дарога, то дзякуем за ўсё Госпада Бога.

А посцілкі на кроснах прыбывала і, калі яна дапоўнілася сантыметраў на трыццаць, бабуля ўстала з зэдліка, зняла фіксатары з бабіны асновы і вала, на які намотваецца палатно, зрабіла адзін паварот і зафіксавала яго, затым напяла ніткі асновы да струннага звону, села на зэдлік, і чаўнок зноў стаў снаваць па аснове з хуткасцю маланкі.

Посцілкі бабулі Мані аздаблялі ложкі і нашай хаткі, а яе ручнікі выцiралі твар насуха, не так як цяперашнія штучныя: трэш, трэш, а шыя мокрая.

## Я і Стасік

Як хутка бяжыць час, і чым ты сталей, тым хутчэй мільгаюць за акном жыцця твае асабістыя дні. Гэта ж толькі падумаць — мне ўжо далёка за шэсцьдзясят, а душой я, здаецца, яшчэ дзіця, якое са здзіўленнем глядзіць на гэты свет, сілячыся яго зразумець. Дык колькі на сёння маёй душы? Не паверыце — столькі, колькі маёй малодшай унучачцы Любачцы, я жыву яе светам, яе пачуццямі. Гэта мая аддушына ў жыцці. Старэйшая ўнучачка Арыначка ўжо дарослая, ёй у сакавіку спаўняецца чатырнаццаць. Яна ўжо мала што памятае пра нашы гульні з ёй, а я ж з Арыначкай прыдумваў рухомыя гульні. Яна толькі памятае, што мы бегалі з ёй ад кухні па калідоры ў спальню і я «не мог ніяк» дагнаць яе, хоць раз-пораз хапаў за спаднічку. А тое, што мы з ёй ездзілі на веласіпедзе па палях і лясах,

таксама многае забылася. Ёй падабалася, як прыдарожныя кусты і дрэвы білі нас па тварах сваімі мяккімі маладымі галінкамі, клейкае маладое лісце прыліпала да адзення… — і шмат што іншае.

Чаму яны так хутка забываюць шчаслівыя моманты жыцця? А я ж, здаецца, памятаю ўсё да драбнютак.

Але, калі быць сумленным, то можна прыпомніць моманты, калі бацька ці матуля гаварылі:

— Памятаю, сынок, як ты мне аднойчы сказаў...

— Не, мама, прабач, забыўся.

— А ці памятаеш ты, як мы на кані пераязджалі Цітаўку па лёдзе паўз стары драўляны мост, дык ты раптам спытаў...

На той момант я не ўспомніў, што спытаў, а з часам забыў нават тое, што гаварыў бацька. Хаця, памятаецца, як у той раз, ці другі, ехалі мы на запрэжаных санях па лёдзе ля млына, ды толькі я спытаў іншае, убачыўшы санны след з конскімі «яблыкамі» ўздоўж ракі. Мне бацька адказаў:

— Гэтай зімой такія моцныя маразы, што можна ездзіць па сярэдзіне ракі да млына з абодвух бакоў, гэта вельмі зручна, бо шлях значна карацейшы.

— Вось гэта памятаю.

— Не, што ні кажы, а час сцірае з памяці шмат падзей, застаюцца толькі тыя, якія кранулі душу: былі асабліва прыемнымі, радаснымі, альбо, наадварот, надзвычай прыкрымі, крыўднымі, смяртэльна небяспечнымі. Вучоныя кажуць, што гэта цудоўная асаблівасць нашага мозгу, каб ён не перагружаўся з-за падзей, якія даўно адбыліся і ўжо не ўплываюць на наша жыццё. Праўда, калі пакапацца ў шэрым рэчыве нашага пульта кіравання жыццёвымі працэсамі, то тое-сёе ўсё ж выплыве, і гэта таксама цудоўна.

Дык што я сам памятаю?

Памятаю, як па вуліцы матуля нясе мяне на руках і кажа:

«Ты, сынок, ужо цяжкаваты, хутка я не буду насіць цябе на ручках» і апусціла на зямлю. З гэтага моманту, мабыць, я ўжо не сядзеў у яе на ручках.

А вось я з дзедам Антосем сяджу на высачэзным бухматым возе са снапамі жыта і мы вязём іх у вялізнае гумно пры лесе Ёдкаўшчына, там стаіць шэрага колеру малатарня.

Маленькая хатка на Раўчаку (наша страя хатка) — зіма, маёй матулі нехта прынёс фланэлевы касцюмчык карычневага колеру. Футболачка зверху была камбінавана фланэллю чорнага колеру. Нейкая агіда апанавала мяне ад карычневага колеру, я заплакаў і сказаў, што нізавошта не надзену яго. Тады мама сама пашыла мне з тканіны сіняга колеру «матроску»: ззаду — шырокі каўнер, абшыты белай стужкай, спераду — гальштук, таксама з дзвюма белымі папярочнымі палоскамі.

Яшчэ памятаю з больш ранняга дзяцінства, а было мне ў той момант гады два, не болей, бо сястры Галі яшчэ не было. Ды дзіўна, што той выпадак уразіў мяне і запомніўся.

Мабыць, была нядзелька, у хаце мама, цётка Яня і яшчэ нейкая жанчына, якая прыйшла на прымерку. Жанчына зняла верхняе адзенне і надзела стракатую сукенку без рукавоў, мама папрасіла яе падняць руку, каб падрэзаць проймы для іх пад пахамі. Бог ты мой, у нос ударыў пах едкага поту. Хатка маленькая, дзявацца не было куды, я заплакаў. Цётка Яня спытала, чаму я плачу. Я, хоць і зусім быў малы, але ўжо схітрыў, сказаў, што хачу піць, бо ведаў, што вада ў першай хаце, там дзе печ і свежае паветра. Цётка Яня адчыніць дзверы і пакуль возьме кубак, зачарпне вады, дзверы будуць адчынены, за гэты час другая палова хаты праветрыцца.

Дзіўна, што ў такім узросце я ўжо мог прыдумаць такую камбінацыю, мабыць, ад безвыходнасці. З гэтага вынікае, што чалавек, які, здаецца, яшчэ не

мае ніякіх ведаў аб акаляючым свеце, ужо мае нейкую генетычна закладзеную інфармацыю аб ім. Чаму ён баіцца гучнага груку, крыку, а гучная вясёлая ці сумная песня цешыць яго душу. Баіцца калматага сабакі, цемры, вышыні, баіцца ўпасці і пабіцца, хаця яшчэ не падаў.

Дык вось цётка Яня хутка вярнулася з кубачкам вады і падала мне. І тут адбылася, ды дзіўна, што запомнілася, яшчэ адна з'ява. Я падышоў да ложка, стаў да яго спінай, адкінуў на яго сваю галоўку і заліў з кубачка вады ў адкрыты роцік. Вада адразу папала ў дыхальныя органы. Я закашляўся і заплакаў.

Яня спытала:

— Хто цябе пакрыўдзіў?

— І што ты думаеш я адказаў?

— Стасік, ён наліў мне ў рот вады.

Усе засмяяліся, вельмі нечаканы быў адказ. Але яны нават не здагадваліся, чаму я так адказаў.

Справа ў тым, што ў гэтым узросце я яшчэ не атаясамляў агульнасці майго цела і майго «Я» (душы), яны існавалі паасобку. Мая душа было «Я», а цела — Стасік, маё Я яшчэ прывыкала да свайго імя. Гэты момант мне чамусьці запомніўся на ўсё жыццё. Магчыма, я і забыў бы, каб не гэты выпадак і смех прысутных.

Ці ж не дзіўна, што памятаю, калі я быў неяк асобна ад цела, а цягам часу мы зліліся ў адно, здаецца, неразрыўнае, калі Я стала Стасікам. Але гэта толькі здаецца, што яно неразрыўнае. Прыйдзе час, калі грубая і тонкая матэрыі зноў разарвуцца.

Хочаш — вер, хочаш — не вер, твая справа, але так яно будзе і не іначай.

Памятаю той момант, калі я ўжо атаясамляў сябе са Стасікам: Стасік — гэта Я.

Была восень, мая матуля са сваёй сястрой Яняй выбіралі на нашых палетках у шэсцьдзясят сотак бульбу. Бацька падворвае канём рады, жанчыны завіхаюцца, а як жа, нанач бульбу не пакінеш, можа прымарозіць.

Я стаю ў глыбокай разоры, мне амаль у пояс, бяру бульбіну і кідаю ў Янін кош. Яня падхоплівае мяне пад пахі і выкідвае з разоры.

— Станіслаў Іванавіч, вам бы заняцца чым іншым, а не замінаць, можа, пабегаць, пахадзіць…

Я спытаў:

— Хто такі Станіслаў Іванавіч?

— Гэта ты… як станеш дарослым, менавіта так і будуць цябе называць. Для мамы, бацькі, дзеда, бабы і мяне ты Стасікам так і застанешся, чужыя ж людзі будуць звяртацца да цябе — Станіслаў Іванавіч.

— А чаму Іванавіч?

— А як завуць твайго бацьку?

— Янак.

— Не, гэта па-простаму, як Стасік.

— У метрыках ён запісаны як Іван, а ты Станіслаў, я — Яніна, твая мама — Соф'я, ты сын Івана, значыць — Іванавіч. Я з тваёй мамай па бацьку Антонаўны, твой бацька — Іосіфавіч.

Во дзіва, падумаў я, але мне чамусьці спадабалася…— Станіслаў Іванавіч, недзе ў душы я нават заганарыўся, што я такі значны чалавек. Гэта ж трэба…— Станіслаў Іванавіч! А то Стасік, ды Стасік…

У сувязі з пахамі прыгадаўся яшчэ адзін выпадак. Мне было недзе чатыры з паловай гады, у той дзень я знаходзіўся ў двары дзеда Антося, арыентуючыся па надвор'і і па тым, як мяне апранулі, гэта, мажліва, быў канец, альбо сярэдзіна красавіка, бо снег ужо сышоў. Раптам з боку лесу Смалоўшчына загрукаталі танкі. Мяне быццам ветрам падхапіла і панесла ў бок вулачкі, па якой будуць рухацца гэтыя аграмадзіны. І тут я, як кажуць, даў маху, — заско-

чыў у вузкую вулачку, дый далекавата. У гэты час паказалася ў праёме гэтага вузкага «тунэля» першая машына, бегчы назад не выпадала, але ратавацца трэба. Добра, што Іван Казак з гэтага боку зладзіў плот з жэрдак, што, не ў малой ступені, паспрыяла мне ўскочыць на ніжнюю жардзіну, а за трэцюю ўхапіцца рукамі. За спінай ужо ляскалі стальныя гусеніцы, ды раптам механік-вадзіцель, параўняўшыся са мной, хутчэй за ўсё, як я цяпер разумею, знарок, газануў так, што мяне атуліла едка-смярдзючае чорнае воблака выхлапных газаў дызельнага рухавіка ў пяцьсот конскіх сіл. Шырокая выхлапная труба танка якраз з левага боку, дзе, учапіўшыся маленькімі ручкамі за тоўстую жардзіну, знаходзіўся цікаўны Стасік.

Вось грукоча другая баявая машына і зноў, параўняўшыся з малым хлапчанём, выкідвае чорнае воблака дыму. Мабыць, гэта забаўляла механікаў-вадзіцеляў, а я ж мог пахіснуцца і зваліцца пад гусеніцы. Так мне давялося вытрымаць цэлую танкавую роту, а гэта дзесяць машын.

Я не злез, а споўз з плота і, хістаючыся, пайшоў дамоў. У горле было прыкра горка. Выйшаўшы з вулачкі, я ў роспачы падумаў: — Чаму ж я не спыніўся на скрыжаванні вуліцы, тады б можна было ў выпадку небяспекі адбегчы далей і наталяць сваю цікаўнасць рухам танкаў.

А так, можна сказаць, я іх не бачыў, затое добра адчуў. Гэтыя пачуцці мяне не пакідалі доўга.

Пазней, падыходзячы да танкаў, падлеткам ужо, я баяўся пачуць той пах, таму са страхам абыходзіў гэтую выпускную адтуліну, якая вечна была з чорнай пушыста-калматай сажай. Менавіта сажа і мела той прыкры пах.

Прайшлі гады. І вось, мабыць, па іроніі лёсу, я камандзір, менавіта, танкавага ўзвода і, зноў-такі па іроніі лёсу, служу ў сябе на малой радзіме, там дзе бегаў па танкадроме босы, ужо грабу яго гусеніцамі танкаў. Хаця на вайсковай кафедры БДУ рыхтавалі мяне як камандзіра мотастралковых падраздзяленняў. Таму атрымаў накіраванне ў мотастралковы полк восьмай гвардзейскай танкавай дывізіі, а ў тым мотастралковым палку ёсць танкавы батальён, куды мяне перапназначылі ў першую танкавую роту камандзірам другога танкавага ўзвода. Во, якая карусель.

Калі я запярэчыў, то мне па-вайсковаму даходліва патлумачылі:

— Цябе ж на кафедры знаёмілі з танкам, давалі асновы тактычных дзеянняў танкавых падраздзяленняў, гэта ж павінен ведаць камандзір-мотастралок. А наколькі нам вядома, ты ж і нарадзіўся пад гул танкаў. Можа, скажаш не аблазіў іх у дзяцінстве?

— Усё гэта так, ды я не знаёмы з матэрыяльнай часткай новых танкаў.

— А навошта табе яна, ты што іх рамантаваць будзеш? Дык і гэта не спатрэбіцца, усе машыны нулёвыя, без прабегу па Беларусі. Мы самі вывучаем зараз ніжнетагільскі Т-62 і табе дадзім кніжку, праўда, без права вынасу за тэрыторыю в/ч, бо яна з грыфам «сакрэтна». А тактыка ў танкістаў нават крыху прасцейшая. Астатняму цябе навучаць на месячных курсах прафесіяналы-выкладчыкі, а ўжо канкрэтна падшліфуюць айцы-камандзіры роты, батальёна.

Лета 1972 года, наш гвардзейскі танкавы батальён перапраўляецца на левы бераг Бярэзіны, недзе ніжэй Бабруйска. Я ўжо стаю на левым беразе і любуюся, як са дна ракі выходзяць бліскучыя, прыгожыя сваёй моцай машыны. Я ж зноў, як і тады, у дзяцінстве, з іх левага боку. Але гэта ўжо іншыя машыны: з сучаснымі рухавікамі ў пяцьсот восемдзесят конскіх сіл, у якіх паліва згарае поўнасцю, таму ў трубе сажы не шмат. Вось вылазіць з вады апошняя машына, што задымлівала пераправу рухавіком, у які падаецца вялікая колькасць паліва, яно не згарае і выходзіць праз выпускны калектар магутнымі белымі клубамі.

Экіпаж здымае прыстасаванні падводнага кіравання танкам, а з ім і клапаны з выпускнога калектара, ён увесь чорны ад калматай сажы, акрамя таго, сажа

мокрая, што прыдало ёй непаўторнай прыкрасці водар. Механік-вадзіцель, кратаючыся з месца, дае поўны газ, і я адчуваю забыты пах. Мае вантробы так тузанула, што аж страўнік забалеў, добра, што ў ім з раніцы нічога не было. Нехта, не памятаю, мяне спытаў:

— Чаго ты збялеў?

— Ат, мабыць, нешта нядобрае з’еў.

— Ну, дык выпі шмат вады, ды пальцы ў рот, а затым упакоўку актываванага вугалю праглыні, як рукой здыме.

— Так і зраблю.

У гэты момант прагучалі каманды, я надзеў шлемафон і пагрузіўся ў гулкі эфір.

Падалі ўмоўны сігнал «Шторм», і танкі пачалі распаўзацца ў баявы парадак.

У віхуры вучэнняў «сустрэча з дзяцінствам» адышла на задні план, ды так далёка, што забылася. Сёння ж усплыла як малазначны эпізод. То няхай і для яго знойдзецца месца.

## Бацькаў трактар ДТ-45

Спякотны жнівень, мы з матуляй ідзём па дарозе на Грабаўё, там, за лесам, арэ поле мой татка Янак, у яго трактар гусенічны ДТ-45 з нумарам на борце — 25. Я, праўда, гэтага яшчэ не ведаю. Сонца пячэ нясцерпна, босыя ножкі апякае мяккі дарожны пыл, быццам прысак вогнішча. Спыняемся ўжо на другім канцы лесу ля вялізнай хвоі. Хвоя не надта высокая, бо расце на ўскрайку лесу, каржакаватая са зломанымі з боку дарогі тоўстымі сукамі, якія, мабыць, заміналі нейкай магутнай тэхніцы, знізу яна шэра-чорная, а вышэй, ну, проста залатая. Вось мы ўжо дачакаліся калі пад’едзе з другога канца поля бацька. Ён спыняе свайго сталёвага каня, дае рэзка газу і глушыць. Наступае такая цішыня, што, здаецца, чуцен піск камароў недзе за Грабаўём. Бацька ідзе размашыстымі крокамі, у руках нясе двухлітровы алюмініевы бачок з накрыўкай, у бачку вада, ён выцягвае тугую накрыўку, адпівае крыху вады і палошча рот.

— Вот жа сёння спякота і пылюга.

Мама бярэ з яго рук бачок і палівае яму на рукі, падае абмылак гаспадарчага мыла. Бацька неяк надта старанна намыльвае далоні, затым просіць матулю трошкі пырснуць вадзіцы і расцірае іх аж пакуль яны не пакрыліся густой пенай з буйнымі бурбалкамі, затым мые твар.

— Во, аж пасвяжэла, хоць і вада ў бачку цёплая.

Выцірае ручніком твар і рукі, затым садзіцца на траву ля імправізаванага стала, сёрбае з глінянага гладыша халаднік, хлеб адкусвае вялікімі кавалкамі, потым есць скварку з вэнджанай шынкі і зноў адкусвае хлеб на ўвесь рот. Затым, наталіўшы голад, крышку прыпыняецца, паволі дастае корак з бутэлькі, у якой свежае малако, і, упрыкуску з хлебам, няспешна п’е. Вось я ўжо ў трактары, бацька вырашыў мяне пакатаць. Я сяджу на высачэзным сядзенні трактара, у якога не было дзявярэй і нават шкляных вокнаў. Бацька пускачом пачаў заводзіць трактар. Ну і лапатаў жа гэты пускач, пакуль не запрацаваў рухавік. Я ў кабіне так перапужаўся, што крычаў мацней за пускач. Яшчэ цёплы рухавік хутка завёўся, і вось я ўжо мерна пагойдваюся на няроўнасцях поля. Ды і потым раз-пораз мне даводзілася ездзіць з бацькам у трактары. Тады я быў самы шчаслівы — хоць бы ад таго, што ў мяне ёсць бацька, чаго ў многіх вясковых хлопцаў не было, што я неяк па-асабліваму адчуваў і разумеў, як мне ў жыцці пашанцавала, нават быў страх страціць гэта.

Яшчэ памятаю, як я з бацькам паехаў на кані ў Пухавічы ў бальніцу і там нам паказалі ўчора вечарам народжаную маю сястрычку Галачку. Пакуль матуля

знаходзілася ў бальніцы, за мной наглядала Ліза Халецкая з Наваполля, мне тады не было і трох гадоў. Аднойчы яна мяне забрала з сабой у Наваполле, мабыць жа, хоць крыху, несла на руках, праўда, адлегласць паміж нашымі вёскамі была не болей за кіламетр. А чаму была? Наваполле маральна і фізічна вымерла, засталося толькі поле.

Дык вось Ліза пакінула мяне аднаго ў хаце, папярэдзіўшы, што хутка вернецца. Я, вядома, баяўся знаходзіцца ў чужой хаце, пачаў уважліва ўсё разглядаць, раптам мой позірк скіраваўся ў кут, дзе віселі абразы. Адтуль з дакорам на мяне глядзелі вочы нейкіх дзядзькоў. Я кінуўся да дзвярэй, памятаю высокі парог, значыць, я быў занадта малы. На крык прыбегла Ліза, я ёй паказаў, каго я спалохаўся. Яна мяне супакоіла, і мы пайшлі на Раўчак. Дый пазней у іншых хатах я крыху жахаўся абразоў, мабыць, не падабаўся я ім «грэшны».

Аднойчы мы вярталіся вечарам з бацькам з поля, вушы яшчэ гудзелі ад дызельнага рухавіка трактара, нас каля хаты сустракала матуля з маёй маленькай сястрычкай Галачкай. Галачка пацягнулася рукамі да бацькі. Ён узяў яе на рукі і прытуліў да сябе, суседка Дубовічыха раптам сказала: «ось дзе бацькава любіміца, праўда, любіш яе больш за іншых?» Няхай сабе і так, але я быў такі шчаслівы, што гэта заўвага не мела ніякага значэння, хоць і некалькі мяне здзівіла. Каго іншых? Я ж адзін, праўда, ёсць яшчэ матуля. Але ж як так можна гаварыць сталай жанчыне ў прысутнасці іншых дамачадцаў. Бацька нічога не адказаў і не зважаючы на Дубовічыху рушыў у свой двор, так мы пакінулі бабу Надзею сам-насам з яе нетактоўнай высновай.

Зноў сяджу ў бацькавым трактары ДТ-45 з левага боку, які на няроўнасцях поля то задзірае свой перад, то кідае ўніз, і мне гэта падабаецца, быццам асядлаў рахманага коніка. Залажу босымі ножкамі на сядзенне і пагладаю праз задняе акенца трактара, як сталёвыя плугі старанна пераварочваюць глебу з жытнёвым іржышчам. Недзе сярэдзіна жніўня. Трактар рухаецца паволі, з хуткасцю ў 4-5 кіламетраў у гадзіну. На жалезным сядзенні чатырохлемяховага плуга сядзіць плугар дзядзька Алесь, пры развароце трактара ў канцы поля ён з дапамогай жалезнага штурвала ўздымае лемяхі над глебай, а затым апускае іх на край раллі.

Ды не заўсёды давалі плугара, тады трактарыст у канцы поля спыняў трактар, сам паднімаў лемяхі плуга, разварочваўся, зноў вылазіў з трактара, круціў штурвал і так працягвалася на другім канцы поля, праўда, некаторыя ўмудраліся хадзіць, як казалі, укругавую

Я асцярожна прысядаю на сядзенне і пазіраю, як з выхлапной трубы дызельнага рухавіка пыхкае дым. Адчуваю, што нешта пачало непакоіць бацьку, ён глядзіць некуды ўніз з правага боку, я таксама ўчапіўшыся за яго плечы, пазіраю туды. Бацька заўважыў, што з трака высоўваецца сталёвы палец, значыць, перацёрся шплінт, ён павольна бярэ за сядзеннем кувалду з доўгім чаранком і чакае, калі гэты палец чарговы раз параўняецца з кабінай, — вось і ён.… Не спыняючы трактар, бацька спрытна наносіць па ім даволі моцны ўдар, пры гэтым прыгаворвае:

— А ты, трыпер, куды выпер?

Мне праз тры месяцы будзе пяць гадоў, а гэта для вясковых дзяцей, на той час, ужо даволі: і карову сустрэць, загнаць яе ў хлеў, каб авадні не грызлі, нарваць у бульбе травы і кінуць свінням у карыта, збегаць на поле глянуць авечак, каб не залезлі ў шкоду, заслаць ложак, падмесці ў хаце і гэтак далей.

Я ўжо ўважліва прыслухоўваюся да гаворкі дарослых, хоць раблю выгляд, быццам яна мяне не цікавіць, каб яны паводзілі сябе вальней у размовах і стасунках між сабою. Памятаю, калі не ведаў значэння якога-небудзь слова, то сам сабе казаў:

— Вось вырасту, тады даведаюся…

У нашай сям'і быў заведзены такі парадак: дзеці не ўмешваюцца ў размову дарослых, бо гэта вельмі непрыгожа і не па-шляхетнаму. Нам казалі, такое можа здарацца толькі ў мужыцкіх сем'ях, пры гэтым прыводзіліся прыклады:

— Я Надзеі Дубовічысе кажу, ваш сабака Тарзан сёння насіўся па нашых градах, а там жа й кураняты недалёка… Можа б, на дзень пасадзілі яго на цэп? А нанач, як ужо сабе хочаце… Яе ўнук Валік бессаромна сунуў свой мурзаты нос у размову дарослых, дый кажа:

— Ён не карова, грады не патопча.

— Тут я раззлаваўся, дый кажу. Твая справа цялячая, аб…ся і стой, размаўляю не з табой. Адчэпліваеш свайго Тарзана, то й пасі яго.

Але ж мне надта спадабаўся бацькаў рыфмаваны зварот да вылазячага з гусеніцы пальца, тым больш, бацька прыгаворваў з усмешкай, мабыць, быў задаволены, што ў час заўважыў няспраўнасць, акрамя таго, адкуль жа я ведаў, што гэтая штука называецца пальцам, можа, яе так і называюць, як зрыфмаваў бацька. Гэта слова для мяне было новым папаўненнем лексічнага запасу, ды такое хлёсткае, з нейкім асаблівым хрустам першых зычных і рокатам апошняй, што па ім не грэх і кувалдай пекануць, а калі, пры гэтым яшчэ і зрыфмаваць… Я быў упэўнены, што яно і павінна быць жалезным.

Пачало вечарэць, сонца на Захадзе завісла над вершалінамі лесу Смалоўшчына. Мы вяртаемся з поля з хуткасцю 7 кіламетраў у гадзіну. Каля раўчацкай кузні ўжо шчыруюць над сваімі сталёвымі коньмі бацькавы сябры-трактарысты. Я бегаю сярод трактароў, вітаюся з кожным трактарыстам і яго памочнікам-плугаром. Барыс Гуткоўскі якраз шплінтуе пальцы свайго дзіўнага трактара «Нацíка», у якога быў газагенератарны рухавік, газ утвараўся ад спальвання дроў.

Барыс кувалдай заганяе пальцы ў тракі, каб лацвей зашплінтаваць, і тут я ў рытм яго ўдараў выпаліў бацькаву прымаўку. Толькі ў гэты самы момант Гуткоўскі кінуў кувалду на зямлю, наступіла поўная ціша, а ў ёй гучаў мой голас. Па выразе твараў прысутных я зразумеў, што нешта здарылася незвычайнае і не ў маю карысць. Нават з кузні выйшаў каваль Ціт Грынкевіч, каб падзівіцца на такога «адукаванага» падшыванца. Паветра ўзарваў мужчынскі рогат, Эдзік Матусевіч так і сеў на пярэдняе кола свайго «ХТЗ». Не смяяўся толькі мой бацька, ён адвёў мяне ад кузні і патлумачыў:

— Калі чаго не ведаеш, не трэба вымаўляць незнаёмыя табе словы дарослых, бо яны могуць аказацца брыдкімі.

— А чаму ж тады ты так брыдка абзываў свой трактар?

— Дык я думаў, што за яго лапатаннем ты не пачуеш брыдкіх слоў. Давай дамовімся, ты не будзеш болей вымаўляць гэта слова.

Я толькі кіўнуў галавой.

Што словы бываюць брыдкія, я ўжо ведаў, праўда, не ўсе. З узростам гэты лексічны запас папаўняўся.

Толькі прыгоды дня на гэтым не скончыліся. Я зайшоў, а можа, забег у кузню, там на земляной падлозе ляжала нейкая шэра-блакітная дэталька. Адкуль я мог ведаць, што яе хвілін пяць як выкінулі з горна. Яна ж, здаецца, проста вабіла да сябе сваім незвычайным колерам. Малы Стась накіраваў на яе не толькі погляд, але і босыя ногі. Рукі кранулі чаруючы блакіт. Як я апынуўся на двары, не памятаю. Боль апечаных пальцаў пранізаў усю істоту, я не ведаў куды дзявацца, што рабіць.

Выратаваў Эдзік Матусевіч, ён дастаў з-пад сядзення свайго трактара алюмініевы бачок з халоднай вадой і сунуў туды маю руку. Ад здзіўлення я не ведаў, як яму дзякаваць, толькі папрасіў:

— Дзядзечка Эдзік, не забірайце ад мяне ваш бачок.

— Добра, добра, мой ты хлопча, пакуль падрасцеш, яшчэ не раз наб'еш сабе гузакоў. Гэта найменшае, што можа быць.

Яго словы мяне ўразілі, я падумаў:

— Калі гэта найменшае, то што больш жудаснае чакае мяне ў жыцці?

Душа згарнулася ў гарошыну, а магчыма, і ў макавае зярнятка. Мае дзіцячыя летуценні аб жыцці недзе з-пад нябесся бразнуліся аб зямлю. Праўда, цягам часу, паволі ўзняліся недзе вышэй галавы, але не намнога, я заўсёды памятаў, што там, уперадзе жыцця, мяне «чакаюць» гузакі, таму стараўся «ступаць» у складаных сітуацыях асцярожна. Ды дзе ж ты іх усе ўгледзіш? Апечаныя пальцы можна сунуць у халодную ваду, а атрыманы нечакана гузак ад даверлівых стасункаў з нядобразычліўцамі нікуды не змесціш, ён праходзіць доўга і балюча.

У Бібліі ёсць Кніга Эклезіяста, альбо Прапаведніка, а там у восьмым раздзеле — верш адзінаццаты: «Бо не хутка дзеецца суд супраць ліхіх спраў, ад гэтага сэрца сыноў чалавечых натхняецца чыніць зло.

А гэта значыць — Бог ім суддзя».

## Адхланне

Га, не ведаеш, што такое адхланне? І я не ведаў, ды мая бабуля Маня «падкінула» ў мой слоўнікавы запас гэтае слова і патлумачыла яго.

Але ўсё па парадку…

Вялікдзень — гэта чаканне нечага незвычайнага, непаўсядзённага і нават таямнічага, бо гэта Божае свята.

Першая такая ўрачыстая падзея пасля Калядаў і Новага года, акрамя таго, на двары вясна. Праўда, было свята 8 Сакавіка, мы рыхтавалі для матулі падарункі: нешта малявалі каляровымі алоўкамі ў шэсць асноўных колераў, вышывалі гладдзю кветкі на белай тканіне. Неяк, ужо ў старэйшым узросце, я ў падарунак сваёй матулі змайстраваў з новых дошак шпакоўню. Мама ўсміхнулася і спытала:

— Сынок, гэта ты для мяне дамок змайстраваў?

— Не, мама, гэта каб ты, гледзячы на шпакоўню, радавалася прыходу вясны, прылёту шпакоў, іх гарэзлівы свіст так жывіць прыроду.

— Праўда, праўда, сынок, мне падабаецца, як ты спасцігаеш акаляючы свет, я прымаю твой падарунак, толькі куды мы яго ўсталюем?

— На клёне.

— Клён не яблыня, можна і цвікамі замацаваць.

Толькі гэта свецкае свята, тут няма нейкіх незвычайных таямніц, чакання цудаў. Яшчэ ў суботу, якую называюць «чырвонай», праходзілі галоўныя прыгатаванні да свята. З ранку выключалася радыё, у гэты дзень не павінна было быць аніякіх увесяленняў: смеху, песень, забаў, бо Госпад Езус ляжаў у труне. У дванаццаць гадзін ночы Ён паўстане з мёртвых.

Бацька скончыў вэндзіць шынкі, лапаткі, паляндвіцы, каўбасы, некалькі кавалкаў сала і яшчэ адну смакату — кіндзюк, напханы абрэзкамі мяса, якое ўтвараецца пры фарміраванні, скажам так, эстэтычнага выгляду паляндвіц, брускоў сала. Усё гэта заносіцца ў кладоўку, падвешваецца на круках да бэлькі, каб часам не папсавалі мышы. Пакоі хаты ў адно імгненне напаўняюцца водарам вяндліны. Працэдура вэнджання была неабходна для захоўвання мясных прадуктаў. Халадзільнікаў у той час у вёсках не было, дый у які ты халадзільнік змесціш дзве шынкі па кілаграмаў дваццаць пяць, дзве лапаткі — па дзесяць, кіндзюк — каля васьмі, а каўбасы ды павяндліцы…

У хаце наўкол цябе мноства прысмакаў, але, бронь божа, каб ты папрасіў хоць бы пакаштаваць... не, сёння шчыры пост. Вось заўтра… Мама гатуе вячэру, гэта будзе вараная бульба, у вялікай місцы агурочны расол з дробна нарэзанымі агуркамі і цыбуляй, талерка з грыбамі-ваўнянкамі, запраўленымі льняным алеем з цыбуляй. На абед сёння быў суп з фасолі і невялікая талерачка адвараных суша-

ных грыбоў з алеем і зноў-такі з цыбуляй, снедалі смажанай на алеі траской і, вядома, гарбата з белым хлебам і слівовым варэннем. Дык які ж гэта шчыры пост, калі людзі ахвяруюцца зусім нічога не есці, нават поснай яды? Мае бацькі лічылі гэта супярэчлівым пытаннем. Мая мама казала:

— Галоўнае — быць у міры з Богам і людзьмі, не грашыць ні ў чым, хоць бы ў гэтыя дні чування.

Увечары трэба па-святочнаму прыбраць у хаце: памыць падлогу, павесіць свежыя фіранкі на вокны, стол заслаць накрухмаленым і адпрасаваным абрусам. Мама фарбуе лушпіннем цыбулі курыныя яйкі, яна сочыць, каб яны не толькі фарбаваліся раўнамерна, але і каб не патрэскаліся. Выпяканне велікодных булак таксама адказны момант, трэба, каб яны добра прапякліся і не падгарэлі, тут патрабуецца асаблівае майстэрства. Засланку печы нельга адчыняць дачасна, бо цеста можа асесці і аддзяліцца ад скарынкі, тады гэтымі булкамі застаецца толькі карміць свіней, дый куры з качкамі не адмовяцца…

Так, у жывёлы посту няма, яе трэба накарміць, напаіць, вынесці гной на кучу за хлявом. Днём веснавое сонца разагрэла гэту кучу і над ёю пачало ўздымацца воблачка белай, быццам дым, пары, гэта добра, гной перапрэе і тады ён стане найбольш якасным для глебы, неперапрэўшае ўгнаенне выдзяляе серавадарод, які замаруджвае рост і развіццё раслін.

Позні вечар, усе змораныя да неверагоднасці. Я выйшаў на двор, наўкол было ціха, шпакі ўжо спяць у сваіх шпакоўнях, здаецца, крышку прымарожвае, не, не здаецца. Якраз за нашым агародам пры лесе чуцен плёскат вады, якая падае недзе амаль з паўметровай вышыні ў меліярацыйную канаву. Вада сцякае сюды з паўночных, адносна вёскі Раўчак, паплавоў. У нас так і назаваюць гэта месца вадаспадам. Адзін вадаспад гулка грукатаў у начной цішы.

У чыстым небе сярод іскрыстых зорак усталяваўся зыркі месяц. Поўня. Значыць, праваслаўны Вялікдзень будзе недзе ў другой палове красавіка.

Велікодная раніца, мама не паліць у печы, усе прыгатаванні адбыліся ўчора, і для людзей, і для жывёлы. Печ і грубка паліліся аж да самага вечара, таму ў хаце цёпла, але неяк незвычайна... мама не завіхаецца каля печы. Бацька ўжо аднёс ежу жывёле, падкінуў у яслі мурожнага сена карове. Не спяшаючыся, старанна мыў над эмаліраваным тазам гаспадарчым мылам рукі, твар і шыю, затым, узяўшы ў рукі ручнік, загадкава ўсміхнуўся і сказаў:

— Ну што, выбралі сабе мацакі? Будзем спаборнічаць па-сур’ёзнаму.

— Пачакай, бацька, давай усё па парадку, сядайце за стол, трэба спачатку з’есці адно на ўсіх велікоднае яечка, а забавы потым…

На стале стаіць талерка з нарэзанай вяндлінай, паўлітровы слоік з хрэнам, міска з фарбаванымі яйкамі, быццам вялізная кветка, па сярэдзіне стала ўзвышаўся разрэзаны на чатыры часткі качан квашанай капусты. На маленькай талерачцы ляжыць абабранае яйка, збоку месціцца сальнічка. Па правілах гэта яйка павінна было быць свянцоным, але дзе ж ты ва ўсходняй Беларусі знойдзеш касцёл, таму матуля памалілася Хрыстовай малітвай і перажагнала стол, падзякаваўшы Госпаду за сямейны здабытак.

Пасля яйка прыступілі да іншых страў. Бацька, жартуючы, падае мне слоік з хрэнам, каб я ацаніў яго моц, я ведаю, што пасля аднаго ўдыху з вачэй пасыплюцца з гарошыну слёзы.

— Не, тата, ты мне палажы хрэн на талерку, дык я за адно і панюхаю, і паспытаю з вяндлінай.

Так, спрабуючы ўсе стравы па чарзе, якія з’яўляюцца з жарала яшчэ не астыўшай печы, пераходзім да велікодных булак незвычайнай смакаты, яны, здаецца, растаюць у роце, асабліва калі запіваеш салодкай чабаровай гарбатай.

Вось я ўжо на вуліцы, іду да бабулі, такі звычай, унукі ідуць па велікодныя яйкі, яны, канешне, не надта мне патрэбныя, але абавязкова трэба адведаць бабу-

лю з дзедам, занесці ім два яечкі і невялікую, спечаную спецыяльна для гэтага, булачку, каб яны ацанілі майстэрства маёй матулі. Я разумею, што адзнака будзе найвышэйшай, бо гэта іх дачушка, а не нявестка. У гэтым сэнсе маме, можна сказаць, пашанцавала. Яе свякруха, разам са свёкрам і малодшым сынам у 1945 годзе з тэрыторыі Германіі адправіліся ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе, хто раней, а хто і значна пазней спачылі ў Бозе.

Вось і дзедаў двор, на ганку сядзіць іх кошка Мурка, убачыўшы мяне, яна трэцца аб мае ногі. Яшчэ з парога я крычу:

— Езус Хрыстус з мёртвых паўстаў!

У адказ гучыць:

— Сапраўды паўстаў!

Дзед Антось у нас вялікі жартаўнік. Калі бабуля дае мне два яйкі, ён патрабуе пабіцца з ім. Я ўжо ведаю, што самае моцнае яйка дрэнна афарбоўваецца, акрамя таго, яно больш вастрэйшае спераду, для гаспадынь не сакрэт: з яго вылупіцца пеўнік.

Бабуля, вядома, дае мне больш прыгожыя яйкі, якасна афарбаваныя, кругленькія. Дзед у два махі пабіў мае яйкі і па правілах абодва іх забраў. Я, па праўдзе кажучы, не надта люблю ў крутую звараныя яйкі, таму і не надта сумаваў. Дзед лезе рукой у кошык і адтуль дастае два амаль белыя яйкі і падае мне.

— Вось дзе сапраўдныя мацакі, трымай, сёння ты ўсіх пераможаш.

Затым мы садзімся да стала, п'ём зерневую каву з малаком, каштуем бабуліны велікодныя булкі. Пасярэдзіне стала стаіць макацёр з цёртым макам з цукрам, мы лыжкамі накладваем цягучую масу на тоненькі наліснік, загортваем яго ў выглядзе канверта і ядзім. Смаката вышэйшай якасці, можна параўнаць хіба толькі з мёдам…

Бабуля, як звычайна, садзіцца насупраць мяне і распавядае біблейскую гісторыю пра Езуса, місію Яго прыходу на Зямлю і пакуты за ўсё чалавецтва.

Асабліва мяне ўражваў Езусаў казначэй Іуда. Бабуля Маня казала:

— Вось як д'ябал праз грошы разбэшчвае чалавека, і ён гатоў пайсці нават на здраду, забойства. Іуды і ў наш час існуюць, бо чалавек ад прыроды грэшнік, таму мы павінны пільнаваць самі сябе, каб не ўпасці ў грэх.

Мы пачынаем разважаць пра далейшы лёс Іуды. Я вельмі любіў сваю бабулю, таму стараўся з усіх сіл паказаць, што добра разумею яе, бо іначай будзеш сядзець пры бабулі да самага абеду, у той час, калі вясковыя хлопцы ўжо збіраюцца гуляць у «пікара». Але ўсё ж задаю пытанне:

— Бабуля, а чаму ў мужыкоў Вялікдзень не супадае з нашым, Бог жа ў нас адзін і Езус той жа?

— Гэта вельмі сівая гісторыя. Яшчэ ў восьмым веку пасля нараджэння Хрыстовага астролагі палічылі, — суткі дакладна не роўныя дваццаці чатыром гадзінам, таму за сто гадоў набягае адзін дзень, нягледзячы на тое, што праз кожныя чатыры гады ў лютым таксама дабаўляецца дзень. Дык вось святары ўсіх хрысціянскіх канфесій падзяліліся ў поглядах на выснову астролагаў: заходнія — каталікі прызналі, усходнія — праваслаўныя не… Праваслаўныя тлумачылі: «мы не бачылі гэтых дзён». Яны і сёння не бачаць, што на іх зімняе сонцастаянне дзень прыбыў амаль на паўгадзіны.

Мужык ён цвердалобы, на веру яму нічога не даецца, хоча ўбачыць, памацаць. Гэтакія Тамашы-няверуючыя, ты ж паглядзі, — прыходзіць у краму каталік, просіць адмераць яму, напрыклад, два метры паркалю, яму адмералі, адрэзалі, ён разлічыўся і пайшоў. Мужык жа будзе мацаць гэты паркаль сваімі каравымі рукамі, тузаць яго, спрабуючы на разрыў, аж пакуль не выведзе са спакою крамніцу.

— Бабуля, а яўрэі таксама ж вераць у Бога, ды не вераць у Хрыста. На што яны маюць надзею? Мы выкуплены крывёю Хрыста, а яны?..

Бабуля быццам чакала гэтага пытання.

— Яны вераць у дзесяць Божых запаведзяў, Бог іх даў, каб паказаць, што чалавек сам не зможа іх выканаць і, калі прыйшоў час разумення гэтага, — паслаў людзям Хрыста, каб Ён коштам сваёй крыві выкупіў чалавецтва. Нават Майсей гэта зразумеў, калі ўбачыў, у якім стане яго народ, які ён вывеў з егіпецкага палону моцай Госпада. Яўрэі адвярнуліся ад Бога і ўкленчылі перад ідалам, залатым цяльцом. Майсей у роспачы разбіў аб скалу скрыжалі з гэтымі запаведзямі. Ён тады, мабыць, адзіны зразумеў, што чалавек не зможа па асабістай волі іх выканаць як бы ні стараўся.

— Бабуля, веруючыя ў Хрыста пойдуць у рай, нявернікі ў Бога — у пекла, а яўрэі?..

— Яўрэі пойдуць у адхланне.

— Што такое адхланне?

— Знешняя цемра, там, дзе ў бясконцасці няма Бога, тэрыторыя, якая не апякаецца Ім. Там, у адхланні, будуць у вечнасці і душы паганаў.

— Адхланне, — не сунімаўся я ад пачутага новага слова, — гэта лепш, ці горш за пекла?

— Не ведаю… — пекла для непакаянных грэшнікаў, якія ведалі, — выратаванне Хрыстос, ды не павярнуліся да Яго. Адзін з укрыжаваных разам з Хрыстом прызнаў Яго Госпадам і быў выратаваны ад пекла. Што даражэй, — кароткае зямное жыццё, у якім некалькі гадкоў дзяцінства і вось ты падлетак ужо, гадоў пяць юнацтва, сталасць і вось яна старасць, — ці Вечнасць?

— Вечнасць, бабуля. У знешняй цемры, мабыць, холад, адхланне гэта таксама жудасна.

У мяне аж мурашкі па скуры пабеглі. Ды нарэшце сябрукі знайшлі мяне ў бабулі.

— Стась, пайшлі ў пікара гуляць, мы здабылі прыгожую бляшанку з-пад замежнай фарбы.

Я выбег на вуліцу, выйграў сваім мацаком у хлопцаў-шляхцюкоў тры яйкі, аж пакуль адзін са свавольнікаў знарок не дзеўбануў па ім драўляным яйкам. Не вельмі засмуціўшыся, і, каб здабыча не перашкаджала гуляць, раздаў яе хлопцам. Яйкі былі з’едзены ў адно імгненне, і мы рушылі на выган, дзе нас чакала прыгожая замежная бляшанка з-пад замежнай фарбы.

Праўда, пазней я пачуў слова адхланне ў іншым значэнні. Так старая Волька Няпомнічыха неяк сказала: «Малацілі лён, праца там бесперапынная... не адхінуцца, як упражэшся, то ні продыху табе, ні адхлання, добра, калі хто на хвіліну падменіць адысці па патрэбе. Тут я не ўтрымаўся і папрасіў бабулю Вольку патлумачыць выраз «ні продыху табе, ні адхлання». Яна адказала не адразу, мабыць, падбіраючы сінонімы:

— Гэта значыць — не дух перавесці, не крыху перадыхнуць. Напрыклад: жну я сваю дзялянку калгаснага жыта, завіхаюся, ад хуткіх рухаў засаплася, — распрамлюся, удыхну паветра на ўсе грудзі і зноў згінаюся, жаць трэба нізенька. Вось табе і продых….

Але ж мяне больш цікавіць адхланне, таму настойваю:

— А што ж тады ўжо адхланне?

— Дык вось... жну далей, стома навальваецца нясцерпным цяжарам на плечы, у спіну нібы кол загналі. Зноў разагнешся і стаіш хвіліну-дзве нерухома. Адчуваеш, як з плячэй, рук, ног нібы кайданы зваліліся, кроў ад галавы адхлынула, вядома, увесь час сагнуўшыся… Таму і назаваюць гэта адхланнем, цяжар адхлынуў ад цела. Хто цяжка працуе, той разумее такі стан, табе гэта яшчэ невядома за бацькамі, а як пойдзеш на свой хлеб... пазнаёмішся і з продыхам і з адхланнем.

Ну, што тут скажаш? Ёсць словы аднолькавыя па гучанні, ды розныя па значэнні.

## Вясковыя прыкметы

А вось мне ўжо гадоў сем. Марозны зімні вечар, матуля паслала мяне да бабулі Мані па малако, бо наша кароўка ўжо запусцілася перад цяленнем, а бабуліна месяц як прывяла пярэсценькую цялушачку. Я іду па заснежанай вуліцы Раўчака, яе прачысцілі трактарным клінам. Клін рассунуў снег па абодва бакі, ад чаго ўтварыліся два гарбатыя насыпы снегу, але пасярэдзіне дарога за дзень добра ўтапталася людзьмі, коньмі і санямі. У небе нясцерпна зыркі месяц, хоць іголкі збірай — поўня. Ды вось дзіва для малога Стася: месяц ідзе разам з ім, вось ён ужо над хатай Зосі Ажгірэіхі, бяжыць па яе садзе, затым над пачатковай школай, і вось я адчыняю веснічкі дзедавага двара, а месяц ужо тут — у двары.

Я аглянуўся назад, там — за метраў дзвесце наша хата, і там светла, але ж у дзедавым двары намнога ярчэй. Вось з будкі, лявіва пацягваючыся і нешта сам сябе буркнуўшы, вылез сабака Жук. Затым неяк гулліва падбег да мяне, зазірнуў сваімі сабачымі вачыма мне ў твар і пайшоў побач да дзвярэй хаты. Жук хоць і жывёліна, але з ім неяк спакайней і не так боязна на пустыннай вуліцы ці двары. Адным словам — жывая і дружалюбная да цябе сабачая душа. Здаецца, у дзеда два апошнія сабакі насілі імя Жук і былі чорнымі дварнягамі, да іх быў рыжынькі, калмаценькі сабачка Шарык, ды яго падчас вартаўніцтва калгаснай аўчарні з'еў воўк.

Бабуля наліла паўлітровую бутэльку малака, заціснула яе коркам і сказала:

— Бяжы ўжо дамоў, мо пазаві з сабой Жука, з ім табе смялей будзе.

Жук сапраўды ўвязаўся за мною, правёў метраў пяцьдзясят, затым, страціўшы да мяне ўсякі інтарэс, пераскочыў праз разгорнутыя трактарам гурбы снегу, — збочыў на вядомую яму сцежку, знайшоў дзірку ў плоце, прабег па чужым агародзе, з ходу пераскочыў плот з жэрдак і быў ужо ў сваім двары.

Вось я зноў адзін, хаты і хлявы асветлены месяцам так, што нават дробныя дэталі вызначаюцца, а ценевы бок — непраглядная цемра. Раптам з гэтай цемры ад ценю хлява ўзнялася галава ў цёплай хустцы, быццам яна была без цела, я аж жахнуўся знячэўку ад такога прывіду. Галава на паўметра прыблізілася да мяне аслупянелага, пад ёй з'явілася цела ў бухматым авечым кажуху. Дык гэта ж цётка Зоня Фінская, альбо, як мы яе называлі па прозвішчы цяперашняга мужа Гуткоўскага, — Гуціха.

— Куды ж ты хадзіла, дзіцятка?

— Да бабулі па малако.

— А ці многа ж дае кароўка?

— Не ведаю, бабуля дала паўлітра.

— Ну, зіма ж, вядома, ага — бяжы дамоў, мароз во як паціскае.

Ніводзін вясковы хлапчук не скажа табе, колькі малака дае яго кароўка, нават калі яна і бабуліна, каб не сурочыць сваю скацінку, а раптам гэта ласкавая жанчына пазайздросціць. А калі хто падобнае пытанне задасць гаспадыні, то яна ўхілiста адкажа:

— Ат, трохі дае, як далей будзе, не ведаю. Красавік — галаднаватая пара, травы яшчэ няма, а леташнія кармавыя буракі скончыліся, падмешваю ў сечку трохі болей ржаной мукі, ды баюся, каб не абдрысталася.

— А ты не запарвай, а завары муку ў выглядзе пойла, дый падмешвай.

— Во, дзякуй, што падказала.

— А няхай лепш пашкадуе, чым пазайздросціць.

Наступны двор Стася Кавэцкага, цікавы ён чалавек, дакладней сказаць — дзіўны. У Стася ўсе хлявы і хлевушкі запіраліся на замкі, у нас ва ўсёй вёсцы ніхто гэтага не рабіў. Кавэцкі ніколі не працаваў у калгасе, усё больш па бізнесе завіхаўся. Сваю кладоўку ў хаце ён прыстасаваў пад вясковую краму, для аматараў выпіць «чарнілка» без грошай завёў гросбух, дзе пазначаў, хто і колькі браў,

затым вылічаў выбраную суму ў жонкі, калі тая прыходзіла нешта купіць. Ох, і крыку тады было, жанчыны пракліналі яго, як толькі маглі. Толькі Кавэцкаму гэта не шкодзіла і ён працягваў «рэгістраваць» вясковых п'яніц, акрамя таго, яны распівалі свае напоі ў пярэдняй яго хаты, пры акне стаяў невялікі стол, а на ім замызганыя шклянкі. Трактарысты, едучы з палёў, заходзілі да Стася, як яны казалі, пафарбаваць лыч, ды толькі трактар не глушылі і ён лапатаў гадзінамі. Аднойчы, калі мне ўжо было гадоў пятнаццаць, мне надакучыла гэта лапатанне «Беларуса» і я вырашыў пасваволіць. Быў цёмны зімні вечар, праўда, на электрычным слупе каля хаты Кавэцкага гарэў ліхтар, але гэта не перашкодзіла мне прывязаць доўгі дрот адным канцом да трактара, а другім да плота. Праз некаторы час на добрым падпітку трактарыст, даўшы празмерна газу, крануўся з месца. Цэлае прасла плота вылецела на вуліцу і з усяго маху ўдарыла ў электрычны слуп, ды так, што загойдаліся туга нацягнутыя правады, тут ужо і я спалохаўся. Трактарыст, быццам нічога не здарылася, вылез з трактара, адчапіў дрот, даў газу і знік у віхуры снегу. У хуткім часе да нас у хату завітаў Кавэцкі і запытаў у мяне, хто б гэта мог зрабіць. Тады я яму сказаў:

— А хто ж гэта, дзядзька, вам прызнаецца, я б таксама вам не прызнаўся, але думаю, што гэта ўдзячныя вам жанчыны, а можа, і проста свавольнік. — Кавэцкі пакінуў хату, а я зразумеў, што крыху перабраў.

Вельмі дзіўным было для мяне тое, што Кавэцкі не ўмеў кіраваць веласіпедам. Аднойчы ў яго краму праз маленькае акенца залез шаснаццацігадовы хлопец Іван Буглак. Стась высачыў яго і адабраў веласіпед, але вось незадача, Кавэцкі нават каціць яго не мог. Гэта трэба было бачыць. Стась, зрабіўшы адзін крок, падаў на веласіпед, паднімаў і зноў ляцеў на яго, як куль саломы, затым, падхапіўшы гэта непаслухмянае стварэнне аберуч, панёс яго перад сабой.

Зноў набягаюць успаміны з вельмі ранняга дзяцінства. Я начую ў бабулі з дзядулем, спаць зімой клаліся звычайна ў дзевяць гадзін вечара, бо ў гэтую пару была глыбокая ноч, а ўставалі ў шэсць, калі пачынала працаваць радыёкропка. Дарэчы, радыё пры гэтым не выключалася, напрацаваўшыся за дзень, спалі, не зважаючы на гукі, што ішлі адтуль. Недзе ў гадзіну ночы бабуля, пачуўшы, што мяне нешта пачало турбаваць, пыталася:

— Стасяк, можа ты сюкаць хочаш?

Паднімала мяне і вяла да цэбра з сечкай для каровы, і я з малога зэдліка «сюкаў» у гэту ежу для каровы. Дзед з бабай, вядома, на цэбар не хадзілі, для іх у халодных сенцах стаяла пасудзіна, так што гэта прывілея была толькі для мяне. Раніцай у цэбар засыпалася крыху мукі і ўсё гэта запарвалася кіпетнем. Праз хвілін трыццаць цэбар дастаўляўся ў хлеў.

Я заўсёды ўплятаўся за цэбрам, бабуля раіла мне застацца дома, бо надта ж моцны мароз, але мне хацелася паглядзець на жывёлу, асабліва на маленькае цялятка, дый моцны мароз «паспрабаваць», які ён там моцны.

Ужо з ложка я ўкідваў ногі ў мякенькія бурачкі, бабуля апранала мяне ў самашытую світку з белым трусіным каўнерыкам, усю гэтую вопратку зладзіла мая матуля, яна адмысловая краўчыха на ўсе чатыры вёскі нашай калгаснай брыгады. Рот і нос замотваўся шалікам па самыя вочы і мы «ўсёй хатай» шыбавалі ў хлеў, пад дахам якога вісеў тэрмометр.

Хлеў падзяляўся на дзве часткі: злева — гумно для сена, саломы, розных цяслярскіх прылад і канешне — сячкарня для здраблення больш цвёрдых раслін: бульбоўніку, ячневай саломы і канюшыны.

— Во пекануў мароз, дваццаць пяць градусаў. Дым з комінаў уздымаецца слупам, значыць, будзе пагодлівы дзень, да абеду мароз спадзе на градусаў дзесяць, а ўвечары зноў прыцісне, — сказаў дзед.

У размову ўступіла бабуля.

— Калі сёння пад вечар у прысаку будуць чырвоныя вугельчыкі, мароз яшчэ патрымаецца, а калі яны, пры гэтым, і раздзьмухвацца будуць, то і ўзмоцніцца.

Сапраўды, усё наўкол трашчала: сцены хат, хлявоў, платы, нават некаторыя дрэвы і снег пад нагамі.

У хляве было цёпленька. Прывычны водар хлява не надта бянтэжыў, акрамя таго, паветра было насычана пахам якаснага сена, канюшыны і сухога бульбоўніку, запаранай сечкі ў цэбры.

— Пасып, Антось, у цэбар солі, смачней кароўцы вадзіца будзе піцца,— гаварыла бабуля.

Дзед адчыніў катух, а там цялятка. Радасць мая была бязмежнай, яно, пазнаўшы ўва мне таксама дзіцё, бегла да мяне і пачынала дурэць, прыціскалася сваёй мызай да перагародкі стойла. Я адштурхоўваў яго рукамі, але, адчуваючы, што сілы могуць аказацца няроўнымі, хаваўся за дзеда, акрамя таго, яно магло паваліць мяне на гной, а гэта перспектыва мне не падабалася.

Бабуля сварылася на нас з дзедам.

— Ідзіце ўжо ў хату, я буду карову даіць, бач нарабілі тут вэрхалу, жывёла нервуецца. А ты, бацька, не патурай дзіцяці сваволіць, падурэлі і хопіць.

## Бойня

Зноў зіма, мы з бацькам едзем у санях праз лес, мабыць, з Пухавіч, неба ўсыпана зоркамі, але не надта светла, бо няма месяца, які поўзаў па небе ўвесь дзень, быццам ганарыўся тым, што быў вышэй за сонца. Дрэвы, закіданыя снегам, выглядаюць неяк містычна. Бацька, знарок прыхінаючы мяне да сябе, пачынае прыдумваць персанажы казак гэтым дрэвам:

— Вунь елачкі падобныя на русалак, нават хвост рыбы намяло завірухай, а вунь дзед Мазай з вяслом ды калматай шапкай.

Я дзіўлюся яго прыдумкам, а праязджаючы каля гэтага Мазая, мацней тулюся да бацькі.

І так мне хораша і ўтульна. Бацька на момант замаўчаў, а мне хочацца, каб ён гаварыў, нешта прыдумваў, абы не маўчаў, таму я, каб размова працягвалася, спытаў:

— Татка, а чаму гэты лес называецца Бойня?

— Дакладна не ведаю, але мне пераказваў стары Марцін Масілевіч, а яму апавядаў пра нашы мясціны бацька Кастулі Казака, гэта значыць, дзед Івана Казака. Дык ці гэта легенда такая, ці то быль? Легенды павінны быць сівымі, так і кажуць: «Было гэта так даўно, што ўжо ніхто дакладна не можа сказаць, як там яно было». А тут размова ідзе пра дзевятнаццатае стагоддзе. Ты думаеш, што гэта было вельмі даўно? Не, для гісторыі гэта эпізод невялікай даўнасці, у нейкія там сто гадкоў. Вунь таму ж Масілевічу ўжо дзевяноста сем гадоў, а ты ў яго запытайся, ці многа гэта і пачуеш у адказ, што не надта, — як учора быў маладым і дужым.

Дык вось што казаў Марцін:

«У 1812 годзе, падчас адступлення французскіх войск, расейцы ўчынілі ім засаду перад Зацітавай Слабадой на старым шляху (тады ён быў не стары), ды французская разведка, з ліку паходнай аховы, яе высачыла. Паколькі было вызначана, што ў засадзе нязначныя сілы, французы прыпыніліся ў Грабаўі каб папоўніць свой правіянт; за ўсё добра плацілі, таму вёска ў сорак двароў на нейкі момант ператварылася ў кірмаш».

Трэба заўважыць, што вёска Грабаўё была даволі заможнай, не толькі руплівасцю яе гаспадароў, але і якасцю зямлі. Жыхары Зацітавай Слабады казалі:

— У Грабаўі ўваткні палку ў зямлю — зацвіце, — альбо, у нас спякота, а ў Грабаўі дождж ідзе. Якасныя землі не толькі ў Грабаўі, але і на Раўчаку, Наваполлі, Баравой. Нездарма ў трыццатыя гады створаны калгас назвалі «Ураджайны

край», хоць наўкол былі: «Чырвоны Кастрычнік», «Краіна Саветаў», «Першае Мая» і гэтак далей.

Але ж вернемся да французаў у Грабаўі.

Людзі валаклі на вуліцу кублы з салам, неслі вэнджаныя шынкі і каўбасы, асабліва патрабаваўся хлеб. Некаторыя жанчыны, зарыентаваўшыся, пачалі выпякаць праснакі, нават бліны пайшлі ў ход. Макар Аўсянік прадаў французскім афіцэрам два чорныя кароткія кажушкі, ён быў майстар іх шыць ды аздабляць рознымі дэталямі. Адзін афіцэр надта ж радаваўся набытку, хваліўся перад таварышамі, тыя яму зайздросцілі, пыталіся, ці мае майстар яшчэ такі тавар. Макар жартаваў:

— Калі з тыдзень пачакаеце, то змагу пашыць яшчэ два такія кажухі і атачу іх так як жаўнер пажадае, але не болей.

Піліп Райка, пачуўшы аб патрэбе французаў у цёплым адзенні, прыпёр стары кажух нябожчыка бацькі і прадаў. Затым наогул, страціўшы пачуццё меры і сумлення, ахоплены прагай нажывы і моманту, прыпёр старую зашмальцаваную з адарванай кішэняй світу, але з аўчынным, паедзеным моллю, каўняром. Нейкі жаўнер, як кажуць, у падшытым ветрам шынялі, доўга круціў дзіўную вопратку, а затым, крактануўшы ў роспачы, усыпаў, не лічачы, у жменю Піліпа нейкія медзякі і адышоў з набыткам. Райка яшчэ доўга стаяў і лічыў атрыманыя грошы, быццам прыкідваў, ці не затанна прадаў яшчэ годную рэч, якую мог бы тадысяды і сам апрануць пры патрэбе, а тут на табе... страціў назаўсёды. Усё ж такі, не вытрымаўшы, стаў хваліць ужо прададзеную світу:

— Не глядзі, Макар, што яна крыху зашмальцаваная, але ж, даў Бог, цёплая, ведама гэтулькі воўны ў яе некалі ўбухаў, ды, варта нагадаць, ёмкая ў працы: ці ты на стозе, ці ты пад стогам, ці ты з сякерай у лесе, альбо з сахой у полі.

— Піліп, кінь плявузгаць, не табой яна была пашыта. Я ведаю, гэта світа яшчэ твайго цесця Захара Няпомніка.

— От, табе абы ўпікнуць мяне. Усё ты ведаеш, усюды быў, акрамя, як у воўка ў дупе... Я вунь чалавечыну абагрэў, голад не цётка, але ж і холад не дзядзька, гэтую світу й куля не працне, у воўне засядзе.

— Добра, добра, ідзі ўжо, цябе благуту толькі зачапі…

Французскі палкоўнік звярнуўся да Макара, ці ведае ён дарогу, каб абысці расейскую засаду і выйсці да Пухавіч. Макар, удакладніўшы, дзе знаходзіцца засада, запэўніў яго, што ім вельмі пашанцавала.

— Ёсць такі шлях, во мой унучак Зміцер вас крыху правядзе за Ёдкаўшчыну, а там дарога прамая, яна і прывядзе вас да моста. Гэты лес невялікі, метраў трыста, а там поле, з Усходу вы будзеце прыкрыты парослымі лесам пагоркамі. Праз кіламетры два ўвойдзеце ў другі лес, на выхадзе з якога ўбачыце Пухавічы.

Такі дэталёвы расказ Макара расчуліў палкоўніка, ён падазваў свайго ардынарца, той прынёс скураны ранец. Палкоўнік дастаў адтуль каля дзясятка манет і высыпаў у мазолістую руку Макара.

Зайздросны Піліп Райка спытаў:

— Колькі ж чырвонцаў адваліў табе палкоўнік?

— Вось жа табе свярбіць, я ў цябе не пытаюся, колькі ты ўгандляваў за кубел леташняга сала. Ты ж не бачыў, што гэта чырвонцы, але каб ты ўцешыўся, то я табе асабіста скажу. Не жоўта не зелена, ды не з г…а змелена.

— Як гэта?

Макар працягваў здзекавацца з Піліпа.

— Не золата і не медзь, — нечага ў чужую кішэню глядзець. Срэбныя манеты ў тваіх зайздросных вачах золатам заблішчэлі. Гэта ж трэба, каб так чалавека турбавалі спакушэнні ад подступаў граху зайздрасці. Прасі, Піліп, Госпада, укленчыўшы ў малітвах, каб спакуснік д’ябал ад цябе адступіўся. Лягчэй жыць будзе... пільнуй жа сам сябе ад спакусаў рагатага.

Піліп, як пабіты сабака, паплёўся да сваёй сядзібы.

Французскія войскі рэзка павярнулі ўлева, вырашылі цішком абысці засаду лясамі: з Грабаўя пайшлі на Раўчак, з Раўчака падаліся па дарозе, што вяла праз гэты лес да Пухавіч. Ды толькі расейская разведка іх высачыла; пакуль французы адпачывалі ў Грабаўі і ад’ядаліся, а хто і чарку гарэлкі прапусціў, расейцы сачылі куды яны пойдуць. Як толькі высветлілася, што яны кіруюцца на гэты лес, — перакінулі сюды войскі. Расейскія пехацінцы атачылі дарогу ў стратэгічна выгадным месцы з абодвух бакоў, страляючы з-за дрэў, яны заставаліся нябачнымі, а французы былі, як на патэльні. Вядома ж, колькасна французы значна перавышалі расейскія войскі, але, апынуўшыся ў мяшку, ва ўмовах абмежаванага манеўру, гінулі дзясяткамі ад аднаго толькі залпу. Французскія жаўнеры было кінуліся ў лес на ворагаў, ды тыя з-за дрэў сасновага бору працінялі іх штыкамі, секлі шаблямі. Ніхто не ведае, але, здаецца, ніхто з расейскіх салдат не пацярпеў. Снег у тым месцы быў заліты крывёю настолькі, што калі падаў новы, то і ён чырванеў праз некаторы час, і так усю зіму. Вясной у бок Пухавіч цяклі крывавыя раўчукі, якія збягалі ў Цітаўку, і гэтак не адзін дзень, адкуль, здавалася, бярэцца… Вядома, падчас бойні зямля была мёрзлая, не ўвабрала ў сябе… Таму кроў і пакацілася па вірлівых раўчуках, то з аднаго боку дарогі, то з другога. У адным месцы на полі стварылася крывавая азярына, якая праіснавала там з тыдзень, аж пакуль з яе кроў не прабілася да ракі. Казалі потым, жыта на гэтым месцы вырасла магутнай сцяной з нейкім асаблівым дурманлівым водарам, ці то ад самой расліны, ці то ад глебы.

Толькі падчас бойні адбылося цікавае здарэнне: раптам пачуўся лямант на беларускай мове:

— Хлопцы, не страляйце, тут ёсць і свае, здаёмся.

Падняўшы рукі, устала чалавек дваццаць, іх узялі ў палон, за імі сталі паднімаць рукі французы. Палонных беларусаў аб’явілі падданымі Яго імператарскай вялікасці і сказалі стаць у шэрагі расейскіх войск. Параненага ў сцягно беларуса перавязалі і адправілі ў Грабаўё на лячэнне, дзе ён і апісаў падзеі расейскай засады. Зайздросны Піліп пачаў кпіць з Макара:

— Аей, аей, не паспелі французы панасіць твае кажушкі, як іх расейцы падралі штыхамі.

— Піліпка, браце, дык яны ж не паспелі і тваё пражоўклае леташняе сала з’есці, так што і мне прыемна, што і тваё прапала, толькі паранены салдат казаў, што тыя два афіцэры ў маіх кажушках здаліся ў палон. Як бачыш, я пацікавіўся, а ты не. А світу тваю, казалі, куля працяла.

Паколькі ніхто з французаў не выскачыў з тактычнай торбы, таму і назвалі гэту падзею бойняй.

Расейцы без затрымкі прайшлі праз Пуховічы і падаліся да Турына, там прыпыніліся, прывялі сябе ў парадак і рушылі далей.

Дзе пахавалі французскіх ваяроў, невядома, можа, дзе ў гэтым лесе ляжыць іх сотні дзве, не меней. Глеба тут лёгкая, чарназёму трошкі зверху, а там жоўценькі жвірок. Расейцы брацкую магілу выкапалі хутка, напачатку паставілі нейкі надмагільны арыенцір, магчыма, — слуп, цягам часу ён згніў, насып прасеў, зарос падлескам і ўсё пакацілася ў небыццё, забылася, сцерлася з памяці. Быццам не ў закуцці рабілася, ды ўсё хутка забылася. Што ты хочаш, дзевятнаццаты век быў багаты на падзеі, не раўнуючы, як і дваццаты. Напачатку людзі гаварылі: «Я быў у тым лесе, дзе адбылася бойня». А потым... «ішоў, альбо ехаў праз бойню», у дадзеным выпадку, як падзею, затым яна замацавалася як назва, ужо з вялікай літары — Бойня.

Вось такая згадка пра гэты лес.Таму цяпер можна пачуць:

— Вось дзіўная назва лесу — Бойня. З чаго б гэта?

— А хто яго ведае, а цябе гэта вельмі хвалюе?

— Не, ды ўсе назвы наўкол тлумачацца, а гэта дык не.

У другой палове таго ж веку ў ім адбылася бойка паміж двума панамі: Ёдкам і Смалоўскім. Гэты добры кавалак спелага лесу, які адмяжоўваўся ад асноўнага масіву Смалоўшчына дарогай з Баравой да Маркаўшчызны, дастаўся пану Ёдку ад свайго бацькі Стэфана, Смалоўскі ж лічыў, што гэта па праве яго лес. Аднойчы Смалоўскі пачаў выразаць сасновы бор на продаж асіповіцкаму яўрэю, абодва нагналі процьму лесарубаў, каб управіцца за кароткі тэрмін. Разумеў, паскуда Смалоўскі, што падкладвае свінню Ёдку. Пра высечку бору даведаўся пан Ёдка, ён са сваімі слугамі наляцеў на пана Смалоўскага непасрэдна на месцы «злачынства», ухапіў яго за грудзі і патрабаваў спыніць валку лесу, хаця б да высвятлення абставін справы ў судзе. Смалоўскі, нахабна ўсміхнуўшыся, з усяе моцы грукнуў Ёдку ў грудзі, той, хоць і не слабога дзясятка, зрабіў крокі тры назад, ды зачапіўшыся за пень, паляцеў дагары нагамі.

У бойку ўступілі слугі з абодвух бакоў; біліся каламі, махалі сякерамі, трашчалі па швах кажухі, утоптваліся ў снег шапкі, аж пакуль Ёдка не выхапіў з саней стрэльбу і пекануў у паветра. Тут усе разам быццам анямелі: хто як стаяў, так і застаўся стаяць у той позе, у якой яго застаў стрэл, а хто ляжаў, — той не варушыўся. Яўрэй Іцка стаяў асобна са сваімі лесарубамі, у бойку не ўмешваўся:

— Гэта, сябры вы мае, не ёсць наша спрэчка, нам усё роўна, хто нам прадасць лес.

Нарэшце здранцвенне прайшло, варагуючыя лагеры адышлі, як кажуць, на раней занятыя пазіцыі, а некаторых і перанеслі туды. Увесь снег быў у крыві, быццам тут перарэзалі стада свіней. Во як, браце, паны б'юцца, а ў слугаў аж чубы трашчаць. Вестка аб бойцы разнеслася па ўсёй акрузе, абрастала «дэталямі», пачалі гаварыць, што чулі не менш як тры стрэлы. Магчыма, гэта рэха ім «набрахала». Каб перадаць вестку, казалі так:

— А ці чуў ты, якая бойка адбылася ў тым лесе, дзе некалі была бойня…

Першы судовую справу распачаў Смалоўскі і выйграў яе, бо даказаў, што гэта адзіны лясны масіў, які дастаўся яму ад бацькі, у якасці доказу прадставіў яго план, зацверджаны ў дзяржаўнай установе. Ёдка не згадзіўся і патрабаваў перагляду справы, бо мае адпаведныя паперы.

Высветлілася, што Вінцэнт Смалоўскі, ці то б'ючыся аб заклад, ці то гуляючы ў карты, паставіў на кон гэты ўчастакляснога масіву і прайграў яго. Судовую справу выйграў Ёдка. На гэты раз не пагадзіўся Смалоўскі, патрабуючы перагляду справы, бо ён прыложыць да папер Ёдкі аналагічныя паперы, якія трэба ўважліва і ўдумліва чытаць. Гэта была закладная аб тым, што вызначаны ўчастак лесу перадаецца пану Стэфану Ёдку ў пажыццёвае карыстанне. Во які прахіндзей быў гэты Вінцэнт і, вядома ж, растлумачыў сэнс справы свайму сыну, а той да пары да часу маўчаў. Стары Стэфан памёр і лес аўтаматычна вярнуўся Смалоўскім.

Акрамя таго, Смалоўскі патрабаваў, каб Ёдка не меў нават прамога доступу да бору, бо яго поле непасрэдна адным бокам прымыкае да ўласнасці істца. Суд улічыў просьбу Смалоўскага і пастанавіў прадаць гэта поле яму, але па максімальна завышанай цане, каб і Ёдка не быў у накладзе. За гэтыя грошы Ёдка мог купіць у паўтара раза больш добрай зямлі.

Купіў Ёдка новую зямлю ці не, засталося невядомым, бо ў гэты час пачалося на Беларусі паўстанне супраць расійскіх царскіх улад 1863—1864 гадоў. Каталіцкая шляхта прымала ў ім актыўны ўдзел. Паўстанне было крывава падаўлена, пачаліся судовыя працэсы над удзельнікамі і над спачуваючымі. Папалі пад падазрэнне і два пухавіцкія паны: Смалоўскі і Ёдка, якімі быццам бы кіраваў ужо рэпрэсіраваны пан Крупскі. На судзе Ёдка абверг свой удзел у паўстанні разам са Смалоўскім па прычыне іх варожых адносін і маральнай несумяшчальнасці. Мабыць, ён нешта яшчэ больш важкае сказаў супраць Смалоўскага, бо ў таго,

пасля паўторнага вобыску, у маёнтку знайшлі вялікую колькасць зброі; так казалі, але ніхо не бачыў. Смалоўскага арыштавалі, а Ёдку адпусцілі.

Такім чынам, гэты лес яшчэ пры Вінцэнту Смалоўскім страціў аднайменную назву Смалоўшчына, ды не стаў, як бачыш, і Ёдкаўшчынай. Таму за лесам трывала замацавалася не назва «ў тым лесе, дзе была бойня…», а проста Бойня.

Падчас Айчыннай вайны немцы ў гэтым лесе складзіравалі артылерыйскія боепрыпасы, усю вайну папаўнялі склады, а ў сувязі з імклівым наступленнем Чырвонай Арміі, — узарвалі. Во было грому, стуку, ды груку, казалі, што смалякі ад спелага сасновага бору ляцелі аж да Раўчака. Многа неўзарваных снарадаў параскідвала па лесе, ад моцнага ўдару яны стаялі на баявым узводзе, таму дастаткова было яго крануць і ён узрываўся, так загінула і пакалечылася многа падлеткаў з Пухавіч, Зацітавай Слабады, Раўчака, Баравой, Наваполля. Вось такі лёс у гэтага лесу, — сапраўды Бойня.

Выскачылі з лесу ў поле, пранізлівы вецер ударыў з Усходу, снегавая замець калючымі іголкамі пырснула ў твар, неба таксама пасылала снегавую дабаўку, не шкадуючы адзінокіх вандроўнікаў, як кажуць, у чыстым полі, а бацька і гэтай з'яве надае казачны матыў:

— Гэта злосная баба Завіруха дзьме з таго гайка, вунь бачыш па сярэдзіне відаць яе чорны рот, з яго і ляціць на нас вірлівая снегавая замець, гэта ж яна хоча замесці нам дарогу дамоў, ды не тут то было, мы ўжо з табой арыентуемся вунь на тыя векавыя дубы, і яшчэ адзін арыенцір, — вёску Баравую мы павінны абмінуць, каб яна адносна нас была з правага боку. У жыцці заўсёды павінна быць некалькі арыенціраў: як мінімум два, а лепей тры і болей, тады табе лацвей выбраць патрэбную жыццёвую дарогу, а ў кожнага чалавека, вядома, па яго схільнасцях, яна свая. Зразумеў?

— Ага, зразумеў.

Не паспеў я ўдакладніць наконт арыенціраў жыцця і схільнасцей чалавека, як конік раптам убухаўся ў снегавую гурбу, перад саней стромка падняўся ўверх, а затым бухнуў на дарогу з другога боку перамёту, у мяне аж зубы ляснулі, каб язык папаўся, то і адкусіў бы.

— Бачыш, сынок, Завіруха хацела нас перакуліць, во зладзейка. Калі дзьме такі парывісты вецер, то людзі кажуць, што гэта нячысцікі вяселле спраўляюць, а Завіруха ім грае на дудзе, ды так напружваецца, — аж снег з палёў змятае і ў кусты заганяе, а калі ўжо на вёску накінецца, заверне снегам платы, хлявы і хаты. Вось тады трэба пільнаваць, каб зайцы маладыя дрэўцы ў садзе не «пастрыглі», для гэтага нацягваюць між старымі дрэвамі вяровачку, а на яе падвешваюць па дзве бляшанкі з-пад кансерваў, якія гойдаючыся барабаняць на розныя лады, скрыгочуць, чым пужаюць гэтага станоўчага казачнага героя, праўда, калі памятаеш, то быў адзіны на ўвесь заечы род хвалько, — і той перавыхаваўся.

Праехалі паміж невялікімі вёскамі Баравой і Наваполлем, вось ужо нас прыкрывае з усходняга боку працяглая кудзерка кустоўя, над якім уздымаюцца два магутныя дубы. Конік сцішыў ход, крыху пахроп, паматаў зверху ўніз галавой, а затым трушком пабег па ўтрамбаванай снежнай дарозе, ён адчуў, што да дому засталося амаль нічога.

Бацька аглянуўся ў бок вёскі Баравая.

— Кстаці, гэта вёска — радавое гняздо нашых продкаў.

Гэтае кстаці разанула слых, я міжволі глянуў у твар бацьку, мой дзед Антось Варатніцкі ніколі б не выкарыстаў у размове гэта рускае слова. Вядома ж, дзед не вучыўся ў вучэльнях на трактарыста, механізатара шырокага профілю, а затым і на электрыка, як яго зяць Янак Крэпскі.

А бацька працягваў:

— Шляхта некалі ў асноўным не мела сваёй зямлі, таму брала яе ў багатых паноў у арэнду. Так пан Смалоўскі аддаў у арэнду свае аддаленыя памежныя

землі, на якіх і пасяліліся адны з нашых продкаў Дземідовічы. З Захаду і Поўначы гэтыя землі, як і цяпер, ахінаў спелы сасновы бор, таму і назву гэта поле мела Баравое, а калі да Дземідовічаў далучыліся іншыя арандатары-шляхцюкі, то ўтварылася вёска, якую так і назвалі — Баравая.

Тут жылі і цяпер жывуць: Вернікоўскія, Бакіноўскія, Дамброўскія, Клюсевічы, Аляшкевічы, да іх далучыліся праваслаўныя Дубовікі. Шляхцюкі жаніліся толькі на шляхцянках, бронь Божа, каб на мужычцы, а калі ўсё ж такі надаралася, то бацькі такіх сыноў адпраўлялі ў свет без надзелу зямлі, хоць і ў іх саміх яе было не болей як два гектары, як раней казалі, — адна дзесяціна. Так хутка ўсе шляхетныя сем'і сталі сваякамі. Чаго шукаць далёка, калі жонкі падрасталі ў цябе на вачах, ды пазней гэта зручнасць ператварылася ў праблему. Са сваякамі брацца шлюбам нядобра, таму сталі заглядваць і за гарызонт. Мой дзед Алесь Дземідовіч прыгледзеў сабе жонку ў Суціне з сям'і Умінскіх.

Пан Смалоўскі аддаў у арэнду яшчэ адно поле, якое прыкупіў у пана Ёдкі і назваў яго Новае поле, так узнікла назва вёскі Наваполле, у ёй пасяліліся Дамброўскія і Вернікоўскія з Баравой, вядома ж, сем'і разрасталіся, Халецкія — аж дзве сям'і, Ждановічы, Гуткоўскія. У трыццатыя гады вёску Баравую разбавілі праваслаўным людам, на «высвабаджаныя» палеткі, а дзе і хаты, папаўшых пад рэпрэсіі кулакоў, так з'явіліся калгасныя спецыялісты Федаровіч, Захожы. У той жа час са старога Раўчака перабралася ў Баравую дачка Дубовіка з малымі дзецьмі, яе мужа, заможнага гаспадара, раскулачылі і расстралялі як ворага савецкай улады, усю сядзібу канфіскавалі, жонку і дзяцей проста выкінулі на вуліцу, дзякуй богу, што не выслалі ў Сібір. Каб Каляду не расстралялі, а прызначылі высылку, то паехала б у край далёкі ўся сям'я, але ж надта «люты вораг» савецкай улады аказаўся, «патрабавалася» фізічнае знішчэнне. Так за адну ноч прапала ўся сям'я гаспадара Есіпчыка, па гэты дзень ніхто не ведае куды. Па той самай прычыне ў Наваполлі з'явіліся Фурс і Парэчын. Сам пан Смалоўскі жыў на невялікай адлегласці ад Пухавіч, бліжэй да вёскі Блонь на беразе ракі Цітаўка, у аднапавярховым, вядома, з высакаякаснай драўніны, маёнтку, гэты во лес ад Баравой і аж за Раўчак называецца Смалоўшчына, там злева землі пана Ёдкі, за імі сасновы бор, які так і называецца па прыналежнасці — Ёдкаўшчына, маёнтак пана Ёдкі таксама знаходзіўся ў Пухавічах, цяпер там пошта. Ці то праўда, ці то легенда, але казалі, што расійскі цар на, так сказаць, «высвабаджаны» маёнтак Смалоўскага знайшоў тытулаваную асобу з амаль падобным прозвішчам — Асмалоўскі, быццам у насмешку над старым гаспадаром. У гэты царскі падарунак уваходзіла болей за дзве сотні гектараў толькі ворнай зямлі, лясы і сенажаці — асобна.

— Я, тата, думаў, што ў паноў маёнткі мураваныя.

— Далёка не, навошта табе дом мураваны, калі ты маеш столькі лясоў з высакаякаснай драўнінай. У драўляным доме жыць здаравей.

— Але ж цагляны будынак мацнейшы і будзе стаяць вякамі.

— Добра збудаваная драўляная будыніна пераўжыве самога гаспадара і яшчэ некалькі пакаленняў. Раней дрэва для будаўніцтва выразалі ў лютым, калі яно назапасіла дастатковa смалы і прыціхла перад пачаткам вясны, каб усю сваю сілу аддаць для развіцця. У лютым дрэва нібы спіць, вось тады ты яго і рэж, калі хочаш, каб яно табе паслужыла ў поўнай меры.

На нашым Раўчаку таксама амаль усе шляхцюкі парадніліся. Твой дзед Юзаф Крэпскі аж з-пад Шацка, з хутара Лучкі прыехаў у Баравую ў сваты да Алеся Дземідовіча прасіць рукі яго дачкі Адольфы. А ў трыццатыя гады мая маці Адольфа перацягнула бацьку Юзафа на сацыялістычную вёску Раўчак, якая пачала будавацца. Нашымі сваякамі, праўда, пасля маёй жаніцьбы сталі Дашкевічы, Чэкатоўскія, Мецяжы, Луцэвічы. Вось так мы, шляхетныя жыхары навакольных вёсак, зніталіся, перакрыжаваліся; бы на кроснах перапляліся ў стракаты жыццёвы малюнак. Так дзеці Юзафа Дземідовіча, майго роднага дзядзькі, мне даводзяцца

дваюраднымі і, у той жа час, траюраднымі маёй жонцы, тваёй маці. Жонка Юзафа Караліна таксама родам з мястэчка Суцін, дваюрадная пляменніца маёй цешчы, тваёй бабулі Мані. Во як, браце, з розных канцоў збіралася, а ў адзін малюнак выткалася.

У савецкі час ніхто не прытрымліваўся прымхавых, ці, як кажуць, забабонных правіл таго альбо іншага веравызнання. Неяк на працы ў МТСе я сустрэў траюраднага брата Івана Шпакоўскага, запрасіў у госці, а твая мама наладзіла яму сваты з дачкой нашай суседкі Няпомнічыхі, хутка яны пажаніліся, зараз жывуць у Барысаве. Іван выкладае ў прафесійна-тэхнічным вучылішчы.

Прайшло нейкія пяць гадоў, да нас прыехала ў госці бацькава стрыечная сястра Аня Крэпская, яна ў адно імгненне спадабалася нашаму суседу Стасю Дубовіку (праваслаўнаму). Стась быў хлопец паважаны ў вёсцы, асоба спартыўнага складу, вярнуўся з Мінска ў вёску да сваёй маці, каб прывесці ў парадак гаспадарку. Двухпудовую гіру падкідваў як мячык. Гіру вёз з Мінска, прывабна яе ўпакаваўшы, пакінуў у вагоне цягніка недалёка ад дзвярэй, калі цягнік спыніўся ў Рудзенску, нейкі злодзей, бачачы, што гаспадар пакунка сядзіць далекавата і нешта з цікавасцю разглядае за акном, вырашыў схапіць пакунак і выскачыць з вагона. Схапіць то ён схапіў, ды не ўтрымаў, паваліўся і выпусціў гіру сабе на нагу, нарабіў енку на ўсю станцыю, сарвалі стоп-кран, вызвалі міліцыю, пачаліся допыты. У той дзень Стась вярнуўся дамоў толькі позна вечарам, бо злодзей вельмі сур'ёзна пашкодзіў нагу.

Але вернемся да Ані Крэпскай, Стась ёй таксама вельмі спадабаўся. Аня не прабыла ў нас і гадзіны як прыйшоў Стась і сказаў, што яго маці Надзея хоча бачыць нашу госцю ў сябе дома. Калі яны паспелі падрыхтавацца, я не ведаю? Аня казала, што на стале не было толькі марцыпанаў, такой сустрэчы яна і ўявіць сабе не магла. З гэтай нагоды мой бацька жартаваў:

— Можа, там наогул нічога не было.

Справа ў тым, што Надзея Дубовічыха ў нас слыла як чараўніца, з ёй у вёсцы ніхто не даводзіў адносін да канфлікту. Стасю было ўжо гадоў дваццаць сем, усё не мог знайсці сабе пару, а тут раптам.

— Мама хоча бачыць вас, «уважаемая барышня», у нашай хаце «за скромным сталом».

Час не марнуючы, праз месяцы два яны пажаніліся. Мы былі рады гэтаму, тым больш, што Аня ў свае дванаццаць гадоў засталася круглай сіратой, праўда, пры старэйшай сястры Броні. Так незаўважна адбылося адступленне ад агульнапрынятага правіла каталікаў: злучацца толькі са «сваімі». І пайшло-паехала. Цяпер ужо былі сваякі і родзічы і сярод праваслаўных.

Але ж мы з бацькам яшчэ сядзім у санях, і я ўважліва слухаю яго апавяданні. Конік перайшоў на ціхі крок, здаецца, і ён слухае нашу размову.

Бацька, заўважыўшы гэта, прыкрыкнуў:

— Но, Сіўка, а то заснеш ды паваlішся, мы ж цябе не паднімем.

Вунь ужо праз снегавую віхуру праглядваюцца дзве магутныя лістоўніцы Івана Казака. Яны стаяць адна ад адной у метрах дзесяці, значыць, гэта калісьці быў заезд у двор сядзібы багатага гаспадара. Вядома ж, у нашых лясах лістоўніцы не растуць, іх трэба было купіць. Праўда, калі планавалася новая «сацыялістычная» вёска, гэтыя дзве прыгажуні — «а ў гару зірнеш, шапка валіцца» — апынуліся на мяжы агарода, у метрах трыццаці ад вуліцы. У нашым двары таксама ёсць дрэва, гэта рабіна, яна далёка не такая магутная, бо пасаджана ў сярэдзіне трыццатах гадоў маім дзедам Юзафам Крэпскім, вось пад гэтым дрэвам бацька і прыпыніў коніка.

З хаты выбегла матуля.

— Вой, мае вы хлопчыкі, ідзіце хутчэй у хату сагрэйцеся. Кінь, бацька, каню канюшынкі, няхай пажуе, пакуль ты перакусіш.

— О не, калі я перакушу з холаду, то вельмі ж разамлею. Лепш хуценька, як кажуць, адным скрыпам, паеду распрагу і дамоў.

Дома матуля ўсадзіла мяне на маленькі зэдлічак каля грубкі з адчыненымі дзверцамі. Зыркае полымя саграваў ўвесь твар, галоўнае было разагрэць носавыя пазухі. Я добрасумленна ўдыхваў гарачае паветра то носам, то адкрытым ротам. Гэта працэдура ратавала ад насмарку і ангін, хвілін пяць-дзесяць і твой нос ужо дыхае праз дзве дзюркі. Праз хвілін пяць з'явіўся бацька. Матуля, здзівіўшыся, спытала:

— Ты што, каня самога адправіў распрагацца?

— Не, пашанцавала, Стась Кавэцкі ішоў дамаўляцца з конюхам Федарынчыкам, каб заўтра прывезці тавар у краму. Дый кажа мне:

— Давай зробім так, каб табе было хутка і мне, я мігам падскочу да конюха дамоў, а потым уладкую твайго Сіўчыка.

— Ды і сапраўды, не ісці ж яму пехатой у Грабаўё да Федарынчыка, тры кіламетры туды, ды назад, вось табе і гадзіна часу толькі на дарогу.

— Вось і добра, ідзі, бацечка, памый рукі, твар; во якраз бульба падаспела. Сёння ў нас на вячэру смажаныя рабрынкі з мачанкай і рыжкі з цыбулькай і алеем.

Мама грыбы рыжыкі называла рыжкамі.

— Праўда, толькі ўсяго чатыры блінцы спякла ў грубцы, гэта ж табе не печ, трэба прынаравіцца. Так што ўсім па адным бліну, але Галачка, можа, паўбліна і з'есць, то табе, бацька, будзе паўтара.

— Добра, маці, і з хлебам.

— А чаму ж не, а яшчэ ў нас сёння зерневая кава, я ў мамы да яе ўзяла паўлітровую бутэльку малачка.

— Ну, дык гэта ж каралеўская вячэра.

Але я ўжо кавы не дачакаўся, заснуў проста за сталом, бацька перанёс мяне ў ложак.

## Апавядальнік Вінцэсь Дашкевіч

Дзяцінства недзе да гадоў сямі значна большае, чым жыццё ў сталым узросце, таму і ўспамінаў даволі. У дзяцінстве нават раніца вялікая, а дзень, дык гэта зусім год, а які вялікі вечар, калі ў хаце збіраюцца ўсе дамачадцы, пачынаюць распавядаць пра дзённыя прыгоды, узнікшыя праблемы і радасці, і што кароўка нарэшце расцялілася цялушачкай, а то ўсё былі бычкі, значыць, будзем гадаваць з яе кароўку.

Што ні кажы — вельмі цікавая пара і гэта нягледзячы на тое, што ў дзевяць гадзін будуць укладвацца спаць. А калі на вячоркі загляне які-небудзь дзядзькаапавядальнік, тады ўжо столькі прыгодніцкіх гісторый наслухаешся, седзячы за комінам на печы ды назіраючы за жэстамі рук і мімікай твару апавядальніка, а гэта вой як немалаважна, гэта ж, лічы, палова аповеду.

Адным з такіх апавядальнікаў быў наш сваяк, ляснік Вінцэсь Дашкевіч:

— Я тады яшчэ парабкаваў у Марціна Масілевіча. Уявіце сабе — снежань, піліпаўка, мароз, праўда, невялікі: градусаў гэтак дзесяць, ад сілы дванаццаць. Павёз я на млын тры мяхі жыта змалоць і мех ячменю прапусціць праз крупадзёрку, а там чарга, вядома, справа ж была перад Калядамі. Я пачаў бавіць час: падкінуў каню мурожнага сена і падаўся ў Пухавічы ў краму Арона Янкеля, каб набыць тытуню для люлькі, у мяне то свайго самасаду хапала, ды ў Арона тытунёк спецыяльны, заморскі — з незвычайным водарам. Купіў упакоўку, вяртаюся, аж млынар мне кажа: «Пад'едзь ты, чалавеча, лепш зранку заўтра, чаго ты будзеш тут гібець да поўначы». А які той дзень у снежні — звечарэла, тым больш

неба пахмурнае, за дзень добра снегу падваліла. Еду, конь штораз правальваецца ў снег, крыху збочыўшы з дарогі, бо яе трэба шукаць вобмацкам. Да лесу заставалася недзе з паўкіламетра, злева і справа кустоўе, за ім кавалак поля метраў сто пяцьдзясят, ды вы ведаеце, дзе гэта.

Раптам, браткі вы мае, угледзеў з правага боку нейкія цені на белым снезе, яны рухаюцца наперарэз, і тут — бліснулі вочы.

Узмах рукамі і далоні Вінцэся ляглі на галаву, затым, прылажыўшы правую руку да лба над брывамі, быццам углядаючыся ва ўяўную цемру, ён закрычаў:

— Ваўкі! А ў мяне пад сенам у санях дубальтовачка, патранташ на дзесяць патронаў: сем з дробным шротам на птушку ці зайца і тры з кулямі. Мой конь ірвануў убок, я нацягнуў лейцы і спыніў яго. Без лішніх рухаў, не спускаючы вачэй з ваўкоў, зарадзіў дубальтоўку патронам з куляй. Вось калматае страшыдла ўжо ў метрах дваццаці ляціць, здаецца, проста на мяне. Я злаўчыўся і стукнуў яго пад аскаленую пашчу. Воўк скруціўся ў клубок і дакаціўся аж да саней. Зграя, пачуўшы смяротны енк важака, спынілася як укопаная. Тут я адпусціў лейцы, конь панёс мяне, бы ўраган. Я толькі баяўся, каб ён не ірвануўся знячэўку ў бок, тады сані маглі б перакуліцца і застаўся б я з ваўкамі адзін на адзін, добра калі б дубальтоўка знайшлася.

Тут галоўнае зачапіць важака і паспець уцячы, пакуль яны ад нечаканасці здранцвелі, а калі апрытомнелі, то я ўжо быў далёка.

Раніцай, яшчэ не развіднела, еду на млын, стрэльба ў санях пры назе, патрон з жаканам у ствале, а паджылкі ўсё роўна напружаны, вушы, здаецца, чуюць нават падзенне сняжынак, а вочы ахопліваюць увесь абшар. На выездзе з лесу мой конь захроп і спыніўся, ды не проста спыніўся, а тузануў назад. Я злез з саней, прыхапіў стрэльбу, узяў каня за аброць і павёў яго да таго месца, дзе быў застрэлены воўк.

Так і ёсць — ляжыць калматая грамадзіна, ля галавы чырванее крывавы снег, што я яшчэ бачу, мае вы сябры, — сляды з дзясятка ваўкоў. Доўга яны, мабыць, трызнілі над загінуўшым сабратам, бо снег вакол трупа моцна ўтаптаны. Каня ледзьве трымаю, а ён усё збочвае, ды з велізарным страхам глядзіць сваімі, налітымі крывёю, вачыма на заціхшага драпежніка. Як толькі мы адышлі ад ваўка на метраў дзесяць, каня ўжо немагчыма было ўтрымаць, я ледзь паспеў укінуцца ў сані. У млыне я расказаў пра здарэнне, хутка апавясцілі паляўнічых, тыя і забралі ваўка. Казалі, што куля прашыла грудзіну ваўка якраз пад шыяй, воўчае сэрца, было разадрана як ануча, так што яго смерць была імгненнай.

Затым Дашкевіч рабіў самакрутку са свайго самасаду, запальваў яе ў хаце, зацягнуўшыся, выпускаў велізарнае воблака дыму і гаварыў:

— Свой тытунёк мякенькі, лагодны, а закурыў неяк крамнай махоркі, дык горла драла гадзіны дзве. Дабранач вам, пайду, бо пазнавата ўжо, глядзі — дзясятая гадзіна, во як заседзеўся.

Запомнілася мне і другое апавяданне Вінцэся пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны.

— Было гэта ў сорак трэцім годзе недзе ў маі, мне перадалі з партызанскай зоны, што ў сям'і майго сваяка вельмі нішчымна, дзеці пухнуць з голаду. На распрамілы Бог прасіў чым можна дапамагчы. У красавіку бярозавым сокам ратаваліся, цяпер маладой крапіўкай, але ж ці доўга так працягнеш. Адным словам, май самы галодны месяц.

Сабраў гэта я ношку: два брускі салёнага сала, кілаграмы два прасоленага здору, бохан свайго хлеба кілаграмы на тры, торбачку ячневых крупаў, аржаной мукі для заціркі. Хацелася б яшчэ бульбы ўзяць, ды дзе ж ты ўсё пацягнеш. Добра, каб конь быў. А дзе яго ўзяць? Узяць то можа б і ўзяў, ды толькі не ў партызанскую зону, адбяруць і з'ядуць — голад штурхае чалавека на нечалавечыя

ўчынкі. Акрамя таго, нехта яшчэ будзе ведаць калі і куды ты пайшоў. Так што пехатой — самы бяспечны варыянт.

Улажыў гэта я ўвесь скарб у заплечнік, цяжкавата, але нічога — несці можна, а дарога немалая, недзе вёрстаў дванаццаць з гакам, дый гак з цяперашні кіламетр.

Гаварыў, усміхаючыся, Вінцэсь і ў гэты ж час, трымаючы самакрутку паміж вялікім і ўказальным пальцамі, мезеным страсаў яе попел проста на падлогу. Я між волі глянуў у бок матулі, па выразе яе твару зразумеў, што ёй гэта неахайная звычка Вінцэся не падабаецца, але правілы этыкету не дазвалялі зрабіць заўвагу шаноўнаму госцю, да таго ж гаспадару яе стрыечнай цёткі Юзэфы.

А Вінцэсь працягваў:

— Выйшаў раненька, каб лішнія вочы не бачылі, ды ўсё ж, на ўсякі выпадак, заплечнік паклаў у лясёнку, а зверху накідаў старой сапрэлай саломы і панёс быццам бы на сметнік каля лесу, там салому вывярнуў, хацеў заадно падпаліць, але перадумаў, дым мог прыцягнуць увагу, а затым, быццам з пустой лясёнкай, уступіў у лес, схаваў яе ў густым ельніку.

Ішоў то дарогай, то карацейшым шляхам — вядомымі мне сцежкамі праз невялікія балаціны. У некаторых мясцінах сцежкі былі гразкаватыя. Ну, што ты, браце, хочаш — вясна. У адным месцы нават чарпануў вады ў бот. Хацеў выйсці на дарогу, ды вырашыў не рызыкаваць, на сцежках усё ж такі не так небяспечна. Гэта ж табе не ў мірныя дні бестурботна бадзяцца па лесе, іду і слухаю шэпт лесу: там, стракатнуўшы, праляцела сарока, а гэты натужлівы скрып ад таго, што недзе дрэва аб дрэва трэцца і гэтак далей.

Нарэшце лес скончыўся, дарога вывела ў поле, уперадзе — вёска. Ад нервовасці і напружання тры гадзіны праляцелі як адно імгненне.

Сваяк быў дома, хвілін пятнаццаць як прыйшоў з балота, дзе для свайго падсвінакі збіраў капытнік, ды які ў маі капытнік, адны цурубалкі, яшчэ рана для сакавітага лісця.

Прывіталіся, зайшлі ў хату, на стале ляжалі тры, звараныя ў мундзірах, бульбіны з курынае яйка. На іх прагнымі вачанятамі глядзелі галодныя ўнукі сваяка: дзве дзяўчынкі і меншанькі хлопчык, яны моўчкі чакалі, калі пачнецца сняданак. Я не вытрымаў гэтага відовішча, — развязаў заплечнік, адрэзаў ад бруска сала вялікую скварку, саскроб соль ды прыправы, парэзаў на невялікія кавалачкі і разлажыў на тры роўныя кучкі. Затым адрэзаў па лустачцы хлеба і скамандаваў.

— Хто хоча есці — падыходзь!

Дзеці падышлі, але ніхто не працягнуў рукі, яны чакалі дазволу, каму якую кучку браць. Я пачаў з самага маленькага — чатырохгадовага Антосіка.

— Гэта табе, лезь во на ўслончык і еж.

Хлопчык браў маленькай ручкай па адной скварачцы і здаецца не жаваў, а ціскане зубкамі скварачку і глытае, затым узяў лустачку хлеба і, адышоўшы ад стала, пачаў яе смактаць. Так яго, мабыць, навучылі есці хлеб, каб крыху менш мучыў голад. Астатнія дзеці ў адзін момант праглынулі свае порцыі.

Гэта відовішча туманам засцілала мае вочы і ў той жа час, недзе ў глыбінях душы, я дзякаваў пану Богу, што маю магчымасць даваць, а не прасіць. А што было б з гэтымі дзеткамі, калі б я не змог ім дапамагчы. І тут я зразумеў, што гэта мне выпрабаванне ад Бога, Ён мне даў столькі, каб я аказаў дапамогу церпячым бедства. Мне лягчэй нешта захаваць, сэканоміць, не надта ашчаджаючыся, а тут партызанская зона. Хто ж іх корміць? Гэтыя ж вяскоўцы, дзелячыся апошнім, а ў лесе таксама ёсць галодныя дзеці.

Жонка сваяка адправіла дзяцей на двор, наказаўшы, каб нікому не казалі, што ў іх госць, а мы прыселі за стол пагутарыць аб жыцці-быцці. Я прыхапіў з сабой пляшку сваёй гарэлкі.

— Не паверыш, Вінцэсю, я нават не нюхала гарэлкі ўжо гады тры, ды і раней была праціўніцай гэтага зелля, свайго гаспадара зберагала. А вось зараз, мабыць, ад голаду, хачу паспытаць, праўда, крыху пабойваюся, а раптам пашкодзіць. Адзін крапіўны булён ямо, а ці ж ім можна голад уняць.

— А ты патрошку,— тады зарання адчуеш пашкодзіць ці не пашкодзіць.

Я разліў усю бутэльку ў тры шклянкі, усім аднолькава. Гаспадыня ўпалавініла сваю шклянку і адставіла. Мы выпілі ўсю адразу, затым гаманілі, елі сала. Я заўважыў, што ў гаспадароў ад выпітай гарэлкі — ні ў адным воку. Дзіва, мабыць, галодны арганізм спажыў гарэлку на свае абменныя працэсы. Мне адзін разумны чалавек казаў, што арганізм здаровага дарослага чалавека за суткі выпрацоўвае сто грамаў чыстага спірытусу для гэтых абменных працэсаў. Во як!

Прабыў я ў вёсцы не больш за гадзіну, трэба вяртацца назад, бо доўгая адсутнасць магла нашкодзіць. З узнятым настроем ад выкананай справы я шпаркай хадой рушыў назад, дорога была пустой, падчас вайны людзі стараліся менш хадзіць, ездзіць, асабліва па бітых дарогах. Кіламетры спорна лажыліся пад ногі, да дому заставалася кіламетры са тры. Раптам нешта занепакоіла мяне, і тут я адчуў у лясным паветры нехарактэрны пах. Бог Ты мой, гэта ж пах адпрацаванага бензіну. Мае хуткія ногі вынеслі мяне на прагаліну перад велізарнай палянай у лесе, якая называецца Вялікім Полем. Мае вочы ўтаропіліся ў грузавік, які стаяў у метрах двухстах. За ім расцягваліся ў ланцуг немцы ў заходнім накірунку, я ж ішоў з Поўдня. Мяне заўважылі, прагучалі каманды.

— Вось дурань, выскачыў на паляну, як заяц, — у роспачы дакараў я сябе.

Ланцуг пачаў разварочвацца ў мой бок. Я сігануў у лес і пабег, ды заўважыў, што мяне гоняць некуды правей, гэта значыць, туды, куды яны разгортваліся першапачаткова. Злева закокалі аўтаматы,— ко-ко-ко-ко, затухкалі вінтоўкі, так і ёсць: гоняць на поле перад вёскай Восава. Страху асаблівага не было, за амаль два гады мы ўжо крыху прызвычаіліся хавацца ад карнікаў у лесе, я быў упэўнены, што ўцяку, бо добра ведаю гэты лес, балота. Таму ўзяў крыху лявей, каб выскачыць на балота, там я па купінах зайду незаўважаным далёка, схаваюся ў кустах багуну ды буячніку. Уперадзе засвяцілася рэдкалессе з лазовымі ды ракітавымі кустамі.

— Не, — думаю: толькі не туды, — на балота!

Ды раптам ледзь не паўтарыў сваю бязглуздую памылку, амаль не наляцеў на ўзвод паліцаяў, якія адсякалі мне шлях на балота. Мяне выратаваў густы ельнік і тое, што я стараўся бегчы, не наступаючы на ламачча. Сцішыўся я і павольна гэтак лёг на жывот пад невысокімі, сантыметраў семдзесят, самае большае паўтара метра, елачкамі, а сэрца так тахкае, гатова выскачыць з грудзей, яно патрабуе болей кіслароду, а тут трэба затойваць дыханне. А паліцаі — во, метраў трыццаць ці будзе, мяркуюць, як ім лепей арганізаваць засаду.

— Ігнась, не трэба нам разыходзіцца далёка, расцягнемся ланцугом па два чалавекі з інтэрвалам у дзесяць метраў, не болей, так, каб бачыць адзін аднаго.

— А я гляджу, у цябе паджылкі ўжо трасуцца.

— А я гляджу, Ігнась, што з цябе камандзір, не раўнуючы, як з г....на куля. Я гэта прапаную не таму, што баюся, а таму што, калі мы не будзем бачыць адзін аднаго, то падчас суматохі, калі тут намалюецца ўцякач, пастраляемся к ядронай мацеры. Зразумеў?

— Ты, Стэфан, трохі лягчэй з параўнаннямі, твая справа выконваць загады камандзіра.

— Я, Ігнась, табе раю і скажу словамі з байкі Крылова: «Ты шэры, а я, прыяцель, сівы»; я ж на добрых гадоў дзесяць за цябе старэйшы, так што прыслухоўвайся да парад людзей мудрэйшых.

— Вой, мудры, гэта ты і з лесу да нас падаўся, бо мудры, а можа, цябе сюды шпіёніць паслалі?

— Во, во, во, гэта я ўжо і ў партызанах чуў. Я, калега, як трапіў у акружэнне, не доўга думаючы, падаўся дамоў, не хапала мне яшчэ палону, аднаму лацвей — сам сабе гаспадар і камандзір. На хутары ў чалавека пераапрануўся, выменяўшы ў яго цывільнае адзенне на мосінаўскую вінтоўку, і пайшоў напрасткі, праз два дні быў дома. Хаваўся на гарышчы, да першых партызан не пайшоў, бо разумеў, што доўга яны не ўтрымаюцца, гэта ж дадумацца, — ходзяць па мястэчку і агітуюць, так яно і атрымалася: каго павесілі, каго расстралялі. І толькі летам сорак другога я зразумеў, што другая хваля гэта ўжо сур'ёзна: канспірацыя на высокім узроўні, камандны састаў амаль увесь з прафесіяналаў, якія прыбылі з-за лініі фронту. Думаеш лёгка было наладзіць кантакт з імі, правяралі па ўсіх артыкулах. Па начах я наведваўся дамоў: пераапрануцца, памыцца, нешта дома зрабіць па гаспадарцы. Ды аднойчы мяне выклікаў асабіст на «бяседу», толькі я зразумеў, што гэта дапрос, бо ён вёў пратакол «бяседы»:

— Дзе трапіў у акружэнне?

— Чаму пакінуў таварышаў?

— Ці трапляў у палон?

— Куды дзеў вінтоўку?

— Чаму не прабіраўся на Усход.

Пасля апошняга пытання, я не вытрымаў, ды з сарказмам сказаў:

— Дзе ж ты іх дагоніш, гэтак уцякалі, што немцы нават адставалі.

Асабіст аж ускочыў.

— Ты, кулацкі выкармак, думаеш, я не ведаю пра цябе нічога, твайго бацьку ў трыццаць трэцім раскулачылі, а вас пашкадавалі і ў Сібір не паслалі, а дарэмна. Прызнавайся, да нас немцы паслалі шпіёніць? Думаеш, не ведаем, чаго ты часта наведваешся ў мястэчка. Ведаю, што канспіратыўныя сустрэчы адбываюцца ў тваім хляве. Тут я зноў не стрымаўся:

— Так і ёсць, у хляве я сустракаўся з сувязнікам па мянушцы Рагуля.

— Во, гэта ўжо больш канкрэтна. Што пры сустрэчы гаварыў Рагуля?

— Гэта не ён, а яна — карова, дык яна не гаварыла, а толькі разы два мыкнула.

Асабіст выхапіў рэвальвер і стаў трэсці ім перад маім носам, я зразумеў, што жыцця мне тут не будзе, яму трэба выкрываць ворагаў, вось ён і «выкрыў», а там пад елку і кулю ў лоб. Не, браток, думаю, не на таго ты нарваўся, прыцэліўся гэта я і выкруціў з яго далоні рэвальвер, а ў гэты самы час так смалянуў яму з левай рукі ў правае вуха. Мне падалося, што ў асабіста адарвалася галава, кулак жа ў мяне во які і моцай Бог не пакрыўдзіў. Мой крыўдзіцель не рухнуў, а паляцеў у кут зямлянкі, толькі ногі бліснулі. Зірнуў гэта я ў тое месца прызямлення,— аж жывы, вочы вылупіў і мову адняло. Праўда, я ж на яго накіраваў ствол рэвальвера, разумее бедалага, што калі ён толькі пісне, — я выстралю. Тут я яму і кажу:

— Вось толькі з гэтай хвіліны мы з табой ворагі і віна ў гэтым твая, ды не мая. І тут я выразна адчуў смурод вядомага рэчыва, сталінскі апрычнік нарабіў у штаны.

Паколькі «бяседа» вялася позна вечарам, я шпарка выйшаў з зямлянкі, падпёр калом дзверы і накіраваўся ў бок кухні, быццам па вячэру. Сымоніха выйшла з зямлянкі з чарпаком:

— Не, цётачка, я зараз, трэба трохі адлучыцца па справах.

— Ага, разумею, пазавеш.

Добра ведаючы размяшчэнне пастоў, я накіраваўся да балотца і берагам яго выйшаў у патрэбным накірунку. Усведамляючы, што мяне так не пакінуць ні партызаны, ні паліцэйскія, падаўся да цябе, Ігнасю, сказаўшы, што ўцёк ад партызан па прычыне палітычнай несумяшчальнасці. Ты за мной недзе з тыдзень сачыў, нават калі я хадзіў да сваёй сувязной Рагулі, а тады, зразумеўшы,

што я не буду ахвяраваць сям'ёй, прыйшоў да мяне і сказаў: «Хадзем». Няма мне, калега, дарогі назад, хоць і гэта вядзе ў тупік.

— Які гэта тупік?

— А такі, калі ты ўва мне сумняваешся, а то фрыцы нам з табой давяраюць?

Ігнась неяк задумліва апусціў галаву і прамовіў:

— Так то яно так, гэта нерат, што не ўзад і не ўперад. Але мы сёння жывём, а як яно заўтра будзе, ніхто не ведае.

— Не, брат, ведаем, кепска будзе.

— Кінь дурное, у немцаў вунь другое дыханне адкрылася, пруць та-акую сілішчу на Усход. Бачыў, якія танкі цягнікі валакуць туды? Немцы з утроенай сілай сцерагуць чыгунку, а лес чэшам мы, ды ўзвод фрыцаў. Толькі дзе ж яны, ўжо і стрэлаў не чуваць.

Загналі ахвяру ў патрэбным накірунку і вярнуліся назад.

Ага, сталі лесу баяцца, вось на вёску наляцець, тут яны спецыялісты.

Прыўзняўся гэта я і стаў адпаўзаць у бок рэдкалесся. І тут, браты вы мае, Госпад паслаў мне выратаванне. Быццам з неба з'явіўся лось, ён неяк з сумам у вачах глянуў на мяне, быццам развітваўся навекі і кінуўся ў бок кустоўя на выхад з лесу. Ён, мабыць, таксама разлічваў схавацца ў балоце. Нягледзячы на тое, што гэта капытная жывёла, лось бег амаль нягучна. Калі ён адбег ад мяне на метраў дзвесце пяцьдзясят пачуўся гучны выбух.

— Во куды мяне кіравалі — на міны.

— Ось табе і на, — крыкнуў нехта з паліцаяў. Здэцца, наш кліент ішоў на рэйкі, а трапіў на неба.

Усе гучна зарагаталі.

— Ну, дык пойдзем падзівімся, мо жывы яшчэ.

Зноў раздаўся гучны рогат каля двух дзясяткаў «змагароў з бальшавіцкім рэжымам».

— Ага, — жывы, добра калі хоць шапка засталася не пашкоджанай, толькі ідзіце асцярожна, бо невядома, у якім парадку фрыцы натыкалі сваіх цацак. Самі, бач, не спяшаюцца сюды.

— Што ты вярзеш, прыдурак, у якім парадку — у шахматным, яны людзі акуратныя, калі іх навучылі так рабіць, то ты іх інакш і не прымусіш рабіць... Ну, дык пайшлі падбяром нашага «дзічка». (Так абразліва паліцаі называлі партызан.)

Паліцаі, уважліва ўглядаючыся пад ногі, натоўпам пасунуліся ў бок выбуху.

— Бог ты мой, дарога на балота адкрыта. Пакуль яны будуць разглядаць лася, я ўжо буду далёка. Патрэба ў схованцы ў балоце адпала, я рушыў уздоўж яго, пакуль не выбіўся на знаёмую мне сцежку. Ішоў асцярожна, прыслухоўваючыся да пабочных гукаў. Ззаду яшчэ раз-пораз чуліся стрэлы, але яны ўжо мяне не палохалі, мяне атуляў лес, мой лес, дзе мне знаёмы кожны кусток, дрэўца, а вы, чужынцы, трымаецеся толькі асноўных дарог, якія азначаны на вашых картах, а мне яны не патрэбны.

Праз малады хвойнік перабег у лес Барок, крыху збочыў, каб забраць учора прыгатаваную жэрдку, адну я ўжо зацягнуў дамоў, за гэтай планаваў прыйсці пазней, ды забавіўся іншай працай. А сёння, як быццам, хадзіў у лес, каб яе забраць.

Толькі гэта я вывалакся з лесу, — да хаты заставалася метраў сто пяцьдзясят, як на дарозе, што ідзе праз Барок, паказалася палутарка з паліцаямі. Іду, не звяртаю ўвагі, быццам заняты сваёй справай так, што нічога больш не цікавіць, а сам думаю: — Толькі б не зачапілі. Ды дзе там!

— Дашкевіч, адкуль гэта ты ідзеш?

— А што не відаць, адкуль жэрдка?

— А як жа ты яе без сякеры высек? Маскіруешся, падла, дык ці не ты гэта бегаў на Вялікім Полі? Ты ж увесь запэцканы, быццам цябе па зямлі за ногі цягалі.

— Бач, які ўважлівы ты, усё бачыш, усё хочаш ведаць. Гэтак і век свой укароціш, калі ўсяго дазнаешся, — так людзі кажуць. Запэцканы, бо хадзіў на балота паглядзець, дзе можна будзе набыць капытніку для свіней. Табе ж гэта не трэба, ты гатовае адбярэш, а тое, што я праваліўся ў выжарыну. Гэта цябе цікавіць? А гэта ўжо другая жардзіна, сякеру я пакінуў з першай.

— Глядзіце, які смелы стаў, мабыць, страх страціў?

— Не, не страціў, а прывык баяцца, два гады ўжо будзе таму, як вы мяне вучыце гэтаму.

— Трэба будзе, дык і болей будзем вучыць.

— Вой, хлопцы, нешта я за апошнімі падзеямі стаў сумнявацца, што мне доўга прыйдзецца хадзіць у вашу школу.

— Глядзі, поскудзь, сынок-камсамолец твой выкруціўся, другі раз веры не будзе. Усёй сям'ёй паплацішся.

— Ведаю, за вамі гэта не заржавее. Дык што гэта вы сёння так успалашыліся? Я чуў страляніну на Вялікім Полі, і не толькі на ім, а тады як грымнула, вось чаму я і зваліўся ў выжарыну, не без дай прычыны іх называюць чортавымі вокнамі, — чуць вылез.

— Дык гэта мы лася ўпалявалі.

— Вы што з гарматы ў яго джахнулі?

— Не, на міну наляцеў, нагу левую адарвала, грудзіну распарола, вантробы асколкамі пасекла, во вязём мяса ў гарнізонную сталоўку. За адно перакрывалі дарогу «дзічкам», каб не лезлі на чыгунку. Учора падлы ўзарвалі рэйку пад цягніком, што вёз параненых з фронту. Добра, хуткасць была невялікая, кажуць, мала хто пацярпеў. Ахова ўзмоцнена не толькі на чыгунцы, перыядычна будуць прачэсвацца прылеглыя лясы. Таму менш шастайце па жэрдкі.

У кузаве занепакоіліся.

— Ігнась, хопіць табе языком малоць, паехалі!

Машына рушыла на Пухавічы.

Дамоў прыйшоў разбіты ўшчэнт. Паабедаўшы, прылёг адпачыць, але не змог задрамаць, нервы былі напружаны, як струны. Пражытае не дало адпачыць і ноччу, спаў нейкімі ўрыўкамі. Сніліся то карнікі, то нахабныя твары паліцаяў, то галодныя вочкі дзяцей. Уражанняў таго дня хапіла на ўсё жыццё, быццам прабег па лязе брытвы і не парэзаўся, хаця не, шрамы засталіся на сэрцы, ды толькі, іх не відаць.

— А што сталася з тымі дзецьмі, дзядуля Вінцэсь? — спытаў я.

— А нічога сабе. Пачалося лета з ягадамі, грыбамі, уюнамі ды карасямі. Лета яно не толькі дзень, але і год корміць. Мы з Юзэфай за лета выгадавалі бычка, а восенню наказалі праз людзей, каб сваяк сам забраў. Так яно і было. Старэйшая дзяўчына ў Мінску вучыцца ў ФЗВ на повара, сярэдняя — у Мар'інагорскі тэхнікум паступіла, здаецца, вучыцца на агранома, Антосік у сёмым класе, у камсамол уступіў.

Сапраўды — лета пара незвычайная: і напрацуешся, і нагуляешся, гэта я кажу пра вёску. Гарадское жыццё інакшае, добра калі ў каго ёсць бабулі ды дзядулі. Там, праўда, цяжкавата ім было прызвычайвацца да вясковага жыцця-быцця.

Летам, вядома, лажыліся спаць пасля дзесяці гадзін вечара, а то і ў адзінаццаць.

У палову на шостую матуля ўставала даіць карову, цадзіла малако. У шэсць гадзін пастух крычаў сваё: «Выганяй!» Мама запальвала ў печы, а ў сем гадзін бацька на веласіпедзе, а то і пяшком спяшаўся да сваіх агрэгатаў сельскай гаспадаркі.

Першая дзіцячая кніжка, якую мне бацька прывёз з Мінска, была «Кавальвярнідуб». Гэта было сапраўднае свята, а яшчэ бацька прывёз у невялікім карабочку журавін у цукровай пудры.

Маленькіх нас мама мыла ў бляшаных начоўках, вочы пякло гаспадарчае мыла, яна высмоктвала яго з нашых вочак. Мы называлі гэты працэс «выцыцваннем», вось такое ў нас дзяцей было слова.

І чытанне кніжак, і купанне адбываліся вечарам, бо ўвечары палілася грубка. Хата напаўнялася цяплом. Мама завяршала хатнія справы. Бацька чытаў нам дзіцячую кніжку, выконваючы ролі асобных персанажаў, затым расказваў матулі прачытаныя раздзелы «Амерыканскай трагедыі», альбо «Чалавека, які смяецца». Я таксама любіў яго паслухаць, і так было хараша на душы, бо з табой твае маладыя мама, тата.

Але, мабыць, дарэмна я думаю, што мае ўнучачкі ўсё пазабываюць. Не, яны будуць памятаць, як дзед Стась гуляў з імі ў Пухавічах, як купіў у Мар'інай Горцы Арыначцы ролікі, пабудаваў і размаляваў ім фанерны дамок, як да іх летам, мабыць, на верталёце прыляцеў з Белавежскай пушчы Дзед Мароз. Ён вельмі спяшаўся ў халадзільнік, каб не растаць, але падарункі паспеў падараваць і знік у агародзе за хлевам. Праўда, гэта было толькі аднойчы, а вось трыццаць першага снежня Дзед Мароз прыходзіць рэгулярна.

Малое дзіця паглынае акаляючы свет такім, якім яно яго бачыць, але прыйдзе час асэнсавання і яно ўсё ўспомніць: дзе яму праўду гаварылі, дзе хлусілі, ствараючы казачны свет, — там, дзе дабро, заўсёды перамагае зло. Тады, адхіліўшы дзіцячыя летуценні, яно ўбачыць зусім іншы свет, да якога, як у раннім дзяцінстве, трэба прыстасоўвацца з самага пачатку. А гэта не лёгка і крыўдна, што ўсё не так як у дзяцінстве. Вось тады і нахлынуць успаміны бесклапотнага ранняга дзяцінства. Нават у сталым узросце мы будзем наталяць гэтую настальгію ў сваіх дзецях і, асабліва, у сваіх унуках, ствараючы для іх прыгожы казачны свет, і самі там з задавальненнем пагуляем, настальгічна пацешымся. Будзем дзякаваць Госпаду Богу за гэтыя шчаслівыя хвіліны, бо табе ўжо за шэсцьдзясят і на тваім двары ўжо восень, дні твае ляцяць, як лісце з дрэў, а вецер пачынае дзьмуць мацней. Вось тады мы чапляемся за дзяцінства, расказваем унукам казкі, у якіх таксама жылі-былі дзед ды баба і быў у іх нехта: то ўнучачка, то курачка, то шэранькі козлік і гэтак далей. Кожная наша казка не абы-якая, а з мудрым сэнсам, толькі час бяжыць шпарка, вось і нашы ўнукі дарослыя. Як тут ні нагадаць словы нейкага мудрага чалавека: «Настае ў жыцці час, калі ты становішся мудрым: ведаеш больш і больш, толькі да цябе звяртаюцца менш і менш». Мы пачынаем любіць жыццё, як толькі магчыма, хочам быць добрымі і шчырымі, як дзеці. І незалежна ад таго, хто чытаў Евангелле ад Марка ці Мацвея, мы становімся паслядоўнікамі запаведзяў Хрыста: «Праўду кажу вам, калі не пакаецеся і не будзеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Царства Нябеснае. Дык вось, хто прынізіцца да гэтага дзіцяці, той і большы ў Царстве Нябесным».

Так і хочацца напрыканцы сказаць: «Амэн!» А чаму б і не?



Барыс НЕКРАШЭВІЧ

# ЛОДКА, ШТО ТРЫМАЕЦЦА ЎПЭЎНЕНА




*Владимир ШУГЛЯ*

**ИМЯ ТВОЁ. КНИГА ЛИРИКИ**

*Минск, Колоград. 2016.*

З Уладзімірам Шуглям я пазнаёміўся больш як дзесяць гадоў таму. Спачатку з ягонай творчасцю. Адбылося гэта дзякуючы кнігам «Мой родны кут. Сибирь — Беларусь» і «Горит, горит сердечная свеча...» Крыху пазней адбылося знаёмства і з ім самім. У рэшце рэшт, далучэнне да творчасці гэтага цікавага, арыгінальнага паэта і публіцыста і падштурхнула мяне пабачыць яго асабіста. Тым больш, што гэта аказалася не так і складана. Жыве Уладзімір Фёдаравіч, як высветлілася, па двух адрасах. Асноўнае месца — сібірскі горад Цюмень, але адначасова мае кватэру і ў Мінску, куды наведваецца ахвотна.

Чаму яго цягне на Беларусь, і можна даведацца з публіцыстычнай кнігі «Мой родны кут». Хоць У. Шугля і звязаў свой лёс з Расіяй, у яго беларускія карані. Толькі ён, як і многія з нас, не надта рупіўся, каб высветліць, адкуль жа ягоны род бярэ свой пачатак. Штуршком для з’яўлення падобнай цікаўнасці стала наведванне ім «гістарычнай Радзімы». «Как-то, будучи в Минске, — гаворыць ён, — прочитал я в небольшом журнале статью, где говорилось о том, что тысячу лет назад у кривичей, предков белорусов, было такое правило. Каждый мужчина должен уметь охотиться на тура, медведя и зубра, разжечь костер, и, обязательно, рассказать соплеменникам историю своих предков до пятого колена. И кто этого не умел и не знал, тот не имел права называться мужчиной. Такому человеку не доверяли, его вообще могли выгнать с поселения, потому что считалось, что беспамятный может легко стать изменником. А многие ли из нас, современников, знают о своем роде хоты бы до третьего колена? — подумал я. — И почему бы не возродить такую познавательную традицию?»

Адказам на гэтае і іншыя падобныя пытанні сталі далейшыя канкрэтныя дзеянні, якія, па прызнанні самога Уладзіміра Фёдаравіча, выклікалі адназначную рэакцыю. У архівах здзіўляліся, што ён, не з’яўляючыся нашчадкам якога-небудзь князя, шукае свае карані. І сапраўды, калі падыходзіць да ўсяго чыста па-абывацельску, у гэтым няма ніякай неабходнасці: «**Обычно стараются найти богатых предков** (тут і далей выдзелена У. Шуглем. — *Б. Н.*), чтобы, если уж не получить наследство, то иметь возможность гордиться голубой кровью. И многих удивляет: вы же не потомок князей? Зачем вам искать своих прапрадедов?»

Дзеля таго, быў упэўнены Уладзімір Фёдаравіч, каб пачуваць сябе ў поўным сэнсе чалавекам, а не нейкім там перакаці-полем. Чытаеш, як ён вёў сваю пошукавую работу і радуешся з-за ўсведамлення таго, наколькі У. Шугля — мэтанакіраваны чалавек. А яшчэ больш радасна становіцца, калі даведваешся, што работа гэтая прынесла яму жаданы плён. Падумаць толькі! За параўнальна кароткі час ён склаў уласны радавод (не лішне і іншым павучыцца б!), пачынаючы з XVII стагоддзя і завяршаючы сённяшнім днём. Гэты пошук сваіх каранёў даў яму і іншы, не менш важны плён: «… я несколько лет искал в словарях перевод слова «шугля». И нашёл. Оказалось — «лодка». И не мудрено, ведь наши предки всегда были связаны с реками и озерами».

Тым, што перажыў пасля гэтага, я б сказаў, адкрыцця, Уладзімір Фёдаравіч і падзяліўся з чытачом: «**Изменилось ли что-то во мне с того времени, как я узнал своих представителей? Конечно».** Дакладна сказаў у прадмове да кнігі «Мой родны кут…» сакратар Савета губернатараў Цюменскай вобласці, Ханты-Мансійскай і Ямала-Нянецкай аўтаномнай акруг, намеснік губернатара Цюменскай вобласці Валерый Пярвушын: «Это книга для тех, кто думает о Родине и о себе». Зусім невыпадкова яна называецца «Мой родны кут», хоць напісана па-руску, дый падзагаловак мае рускі.

Аўтар яе не толькі ганарыцца сваімі беларускімі каранямі. Ён заклапочаны і тым, каб беларусы, якія апынуліся ў далечыні ад родных мясцін, не забывалі пра сваю нацыянальную прыналежнасць. Праўда, мусіў канстатаваць, што ў гэтым сэнсе пакуль усё адбываецца не так, як таго хацелася: «К сожалению, многие белорусы-сибиряки стали забывать язык, теряют национальную самобытность. Ассимилируются, все чаще причисляя себя к русским, а белорусы-католики — к полякам. Мне бы не хотелось, чтобы «белорусский след» затерялся». І тут жа выказаў пажаданне, да якога нельга не прыслухацца: «Необходимо, чтобы «белорусская сторона» — наша историческая Родина — уделяла еще больше внимания тем, кто чувствует себя белорусами, тянется к родным истокам».

Як і сам У. Шугля. Ён наведваўся і ў родную вёску свайго бацькі Руціцу, а гэта непадалёку ад Карэлічаў. Дый шмат робіць па прапагандзе ўсяго беларускага ў Цюмені. Як жа інакш, калі з’яўляецца старшынёй Каардынацыйнага Савета нацыянальных грамадскіх аб’яднанняў Цюменскай вобласці, Цюменскай абласной грамадскай арганізацыі «Саюз-інтэграцыя братніх народаў», Ганаровым консулам Рэспублікі Беларусь у Цюменскай вобласці. Тэме дружбы братніх народаў — беларускага і рускага — вялікую ўвагу ўдзяляе і ў сваёй творчасці.

Паэт-Шугля піша шмат. Не толькі пастаянна выступае ў перыёдыцы — як расійскай, так і беларускай, але і выдаецца. Толькі некаторыя ягоныя паэтычныя кнігі «Души отчаянная юность….» (2007), «Избранное» (2008), «Дороги жизни» (2010). Кніга ж «Рытмы лёсу» ў перакладзе Андрэя Цяўлоўскага ў 2009 годзе выйшла на беларускай мове. Вядомы Уладзімір Фёдаравіч і як паэт-песеннік. Прынамсі, яго вершы прывабілі народнага артыста СССР Ігара Лучанка, шмат ягоных твораў паклала на музыку кампазітар, выкладчык Цюменскай дзяржаўнай акадэміі культуры і мастацтваў Кацярына Чарнышова.

Новая ж кніга У. Шуглі «Имя твое» папоўніла «Бібліятэку Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі». «Стихи о главном» — так назваў прадмову да яе старшыня гэтага аддзялення Міхась Пазнякоў. Згадаўшы асобныя моманты жыцця Уладзіміра Фёдаравіча, ён засяродзіў увагу на адметнасці У. Шуглі як паэта, падкрэсліўшы, што гэтая кніга «наполнена поэзией живой, неравнодушной души, через которую льется живое время: страшное и доброе, мгновенное и вечное… Поэзией, призывающей к Добру, Любви, Созиданию и Вере, чтобы всем остаться людьми и сохранить нашу хрупкую землю».

Сапраўды: паэзія У. Шуглі — шматгранная ў сваёй сутнасці, але пра што б ні пісаў ён, гэта абавязкова прапушчана праз уласнае сэрца, неабыякавае да таго, чым жыве чалавек, што яго непакоіць. Лірычны герой паэта — наш

сучаснік і, як і кожнага сумленнага чалавека, яго хвалюе, што адбываецца наўкола. Яго непакоіць лёс чалавецтва, але яму балюча і за маленькую травінку, што з цяжкасцю прабіваецца праз тоўшчу асфальту.

Лепшыя лірычныя вершы У. Шуглі — чыстыя, як крыніцы Беларусі і празрыстыя, як воды з горных сібірскіх схілаў. У іх — свежасць першага пацалунка і цяпло кахання, пранесенага праз гады і ростані і не растраціўшага сваёй непаўторнасці і навізны. Лірычны герой — чалавек адкрыты, душэўна шчодры, прываблівае выразнасцю сваёй грамадзянскай пазіцыі. Адстойвае смела, рашуча, часам у нечым і ваяўніча. Аднак інакш не можа, калі бачыць людскую абыякавасць, подласць, нікчэмнасць.

Тое, пра што піша У. Шугля, успрымаецца свайго роду выбраным з пражытага і перажытага паэтам. У вершах ён звяртаецца да розных перыядаў уласнага жыцця, затрымліваючы ўвагу на тых момантах, якія нечым запомніліся, пакінулі след, які з гадамі не зарастае небыццём. Наадварот, становіцца яшчэ больш прыкметны. А як жа іначай, калі ёсць патрэба зноў і зноў звяртацца да таго, што не дае спакою. Пачынаючы з гадоў маленства, бо яны на адлегласці часу і ростаняў успрымаюцца ўжо важнымі вехамі і ў тваім жыцці, дый у жыцці ўсяго твайго пакалення.

Прываблівае верш «ххх Отец нам строил дом…» Нібыта і проста ўсё, звыкла, будзённа: «Отец нам строил дом, // Мне было восемь. // Всё сам… Своим трудом — // Семь зим и вёсен. // Дом рос… А с ним и я // Из сини в просинь. // Ложилась колея // На дни колосья. // И белых яблонь сад // Вел в поднебесье… // Цветочный аромат // Струился песней. // И правдою поил // Родник деревню. // Душе давали сил // Поля… Деревья».

Ды колькі сапраўднай паэзіі ў гэтай прастаце, звычайнасці. Таму і шмат яе, што ў творы нічога прыдуманага, а ўсё толькі ўзята з памяці. Той памяці, якая, як і чалавек, прагне споведзі. Ёй, памяці гэтай, цесна ўжо ў сваіх межах. Хочацца падзяліцца з тым, што некалі было, з іншымі, каб і яны, асабліва тыя, хто толькі ўступае ў самастойнае жыццё, зразумелі, як гэта важна, калі ўжо ў маленстве прысутнічае тое, што заўсёды будзе напамінаць табе пра сябе. Тым самым яно неаднойчы прымусіць узважыць пражытыя гады, задумацца, ці не схібіў недзе і ў нечым на паўстанках лёсу, а значыць, у чымсьці і здрадзіў свайму дзяцінству, а разам з ім і самому сабе. Адначасова задумацца і над часам, у якім жывеш, бо ён не такі і просты, як падаецца на першы погляд. У ім шмат складанасцей, супярэчнасцей, а вызначыць сваю выразную грамадзянскую пазіцыю не так і лёгка. Ды толькі да гэтага нельга не імкнуцца.

Болем напаўняюцца паэтавы радкі, калі ён сутыкаецца з тым, што абесчалавечвае чалавека. Наколькі неспакойна ў яго на душы, відаць з гэтага безназоўнага верша. Ён, канешне, найперш трывожны роздум самога У. Шуглі, якому часам не па сабе ў гэтым супярэчлівым свеце. Але ягоны лірычны герой, што таксама відавочна, не адзінокі ў сваім неспакоі, у сваёй трывозе:

Кричали: «Жаждем перемен»…
И вот уж нет запретных тем.
Но больше прежнего грешим,
Тепло сердец уходит в дым.

И Бог оставлен на потом
В земной погоне за рублём:
Быстрей, быстрей набить суму…
О путь! Без разума во тьму…

… Возводим дом, а в нём нет стен,
Бурьян на пашнях, свалок тлен.
Святыни — в дым, и в душах — дым.
Туманит время злом земным…

А жизнь-то, в сущности, проста:
В ней детский смех — она… чиста!

Уладзімір Шугля перакананы: «Человеческому сердцу // Невозможно без души». Каб не забываць пра гэта, нельга ў паўсядзённасці маральна абкрадваць самога сябе, задавальняючыся тым, што калі і прыносіць табе нейкую радасць, дык яна мімалётная. У той жа час ёсць тое, што трывалае назаўсёды. Яно мацуецца на агульначалавечых крытэрыях дабра, справядлівасці. А яшчэ ніколі нельга забываць зноў жа пра свае карані. Яны ж не толькі ў неаб-

ходнасці заўсёды памятаць свой род і ведаць уласны радавод, што, безумоўна, галоўнае. Ёсць яшчэ і больш шырокае паняцце памяці. Тое, што патрапляе пад вызначэнне гістарычная памяць. Яна ж у вялікім і малым. І часам нават цяжка разабрацца, дзе вялікае, а дзе малое, бо, па сутнасці, значнай розніцы паміж імі і няма, калі глыбока пранікнуць у саму сутнасць.

Па-мойму, менавіта гэта меў на ўвазе У. Шугля, напісаўшы гэты верш, у якім так цесна паяднаны між сабой мінулае і сучаснае:

Средь городского суесловья.
Сумятицы машин и гула,
Красою лет — забытой, вдовьей —
Притих старинный переулок.
Как будто замер, правя тризну
По старине, про русским сёлам —
Не осквернённый урбанизмом
Веков пронзительный осколок.
И незаметно стало чисто
На сердце в благостной минуте…
Я видел Русь в молитвах истых,
В резных узорах русской сути…

Становіцца «чисто на сердце в благостной минуте» і тады, калі чытаеш вершы У. Шуглі, у якіх ажываюць цудоўныя малюнкі прыроды. Як рускай, так і беларускай. Хоць гэта не так і важна, бо яна аднолькава прыгожая паўсюдна, асабліва калі глядзець на яе неабыякавымі вачыма. Дый не проста глядзець, а любавацца ёю, становячыся непрыкметна і самому часткай яе. Тады табой авалодвае дзіўнае пачуццё, калі губляюцца і час, і рэальнасць, бо праз гэтыя малюнкі цябе атульвае сама вечнасць, беручы ў свае абдымкі, такія жаданыя і пяшчотныя:

Ночь. Деревья в серебристом инее
С укоризной смотрят на меня,
Небо днём, что было сине-синее,
Ныне в блёсках звёздного огня.

Затихает вьюга голосистая,
Завершая ветра снежный бег,
И ложиться рябь, слегка волнистая,
На пушистый мягкий снег…

С ней и я, как будто чудной сказкою,
Заворожен матушкой-зимой.
И рисую неба звёздной краскою
Дом мечты хрустальный, светлый мой.

А гэта ўжо блізкае да фетаўскага. Дарэчы, Афанасій Фет — любімы паэт У. Шуглі. Каб быць вучнем такога майстра паэтычнага слова, трэба браць на сябе вялікую адказнасць. Яе Уладзімір Фёдаравіч не баіцца і дасягае поспеху, не пішучы «пад Фета», а па сутнасці вучыцца ў яго, як трэба пісаць:

Зацепилось сердце за звезду на небе —
Ждёт восток, покрытый бирюзою.
Словно парус серебрится лунный гребень.
Звёздный свет средь туч блеснёт слезою…

Я душой к нему ищу с земли дорогу,
На свободе ветер бродит шалый,
В лунном небе тучи тают понемногу
И рассвет несёт зари сигналы.

Мне б еще немного этой светлой ночи,
Чтобы сердце над луной побыло,
Чтобы в нём остался следом звёздный росчерк…
Сердце слышит шёпот: «Здравстуй, милый…»

Пасляслоўе да кнігі напісаў народны пісьменік Адыгеі, Кабардзіна-Балкарыі, Карачаева-Чаркесіі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Расіі Ісхак Машбаш. «Уладзімір Шугля — мой паэтычны кунак» — так назваў ён сваё слова пра таго, каго ўспрымае «настоящим поэтом. С Большой буквы». Наконт гэтага заўважае: «На Кавказе есть замечательная многовековая традиция куначества, когда разные по крови люди становяться братьями. Бесспорно, Поэт Владимир Шугля — мой поэтический кунак». Дазволю сабе прадоўжыць гэтую думку так: кунак, які, нягледзячы на паважаны ўзрост, а Уладзімір Фёдаравіч нядаўна адзначыў сваё 70-годдзе, па-ранейшаму працуе творча актыўна.

Наконт гэтага ў яго ёсць такія радкі: «Творю без устали — вот это важно! // … С полей судьбы не собраны хлеба». Імі гэтым разам ён і завяршыў сваю паэтычную споведзь перад часам і перад чытачом. Што ж, яна атрымалася вартай увагі, у чым і ўпэўніцца чытач, неабыкавы да зямной, традыцыйнай паэзіі. Адштурхоўваючыся ад прозвішча Шугля, хочацца сказаць: яго паэтычная лодка трымаецца ўпэўнена.




**ЧЫТАНКА ДЛЯ ЛАСУНОЎ**

*Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Некаторыя бацькі сёння скардзяцца, што іхніх дзяцей, вучняў малодшых класаў, нялёгка ўсадзіць за кнігу. І дзеляцца «вопытам», на якія хітрыкі ідуць, каб толькі прывіць сваім дзяцям ахвоту да чытання. Тут і абяцанне дазволіць глядзець тэлевізар «колькі хочаш», і камп'ютарныя гульні ці не «звыш меры», дазвол гуляць на вуліцы ажно да змяркання, і, вядома ж — ласункі... Але часта і гэта не дапамагае.

Ды я, як маці, з уласнага вопыту ведаю: іншы раз не тое, што тэлевізар, камп'ютар, вуліца, а і абяцанне ці не цэлага меха салодкага не прымусіць дзіця прачытаць больш як старонку якойсьці дзіцячай кнігі, хай і з прыгожымі малюнкамі, з прыгожай назвай, калі: «Мама, гэтая кніга зусім не цікавая!»

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

# ТВОРЫ, І ЯШЧЭ РАЗ ТВОРЫ...

Ну што ж, праблема цікавай дзіцячай кнігі існуе, на гэта не трэба закрываць вочы, і гэта тэма спецыяльнай гаворкі... І мне падумалася, а можа, варта б было яе пачаць вось з гэтай кнігі, якую мая дачка, вучаніца 2-га класа, з вялікай цікаўнасцю чытала ў школьныя канікулы?

Кніга называецца «Чытанка для ласуноў». А змешчаны ў ёй як творы класікаў беларускай літаратуры, такіх, як Пімен Панчанка, Іван Шамякін, Максім Танк, Пятро Глебка, Ніл Гілевіч, Васіль Вітка, Рыгор Барадулін і іншых, так і многіх сучасных пісьменнікаў. Усе творы ў выданні на беларускай мове, і гэта вялікі плюс, бо, скажам шчыра, знайсці сёння добрую дзіцячую кнігу на ёй удаецца не ў кожнай кнігарні ці шапіку, у якім прадаецца мастацкая літаратура.

Кнігу «Чытанка для ласуноў» у залежнасці ад тэмы твораў падзелена на раздзелы: «Салодкія прыгоды», «Сакавітыя ласункі — ад прыроды падарункі», «Без працы пірагоў не есці», «Пачастунак для сяброў» і «Смяшынкі, прыказкі, загадкі, скорагаворкі на любы густ і смак».

Першы з іх «Салодкія прыгоды» прысвечаны, бадай, самым любімым прысмакам дзяцей: цукеркам, тортам, шакаладу, марожнаму. Адкрываецца раздзел вершам Васіля Жуковіча «Дзіўны горад».

Горад бачыў я цудоўны
У далёкай старане,
Горад быў ласункаў поўны,
ён запамятаўся мне.

З цукру там былі дарогі,
ледзянцовыя масты,

шакаладныя стаялі
кветкі, дрэвы і кусты.

Білі там фантаны фанты
І ракою поўнай цёк
ну такі ўжо свежы, смачны
ды з мядовым пахам сок!

Пагадзіцеся, такі цуд могуць уявіць сабе толькі дзеці, бо толькі яны ў стане з'есці гару салодкага за адзін раз. Большасці дарослых гэта ўжо не пад сілу.

Маці Паўліка з апавядання Васіля Ткачова «Шчаслівая» працуе на фабрыцы, дзе робяць цукеркі. Працаваць у такім «смачным» месцы — гэта ж мара ці не кожнага дзіцяці. Але маці цукерак не любіць. Хлопчыка, безумоўна, гэта вельмі здзіўляе. Кожную раніцу ён дапамагае ёй збірацца на працу: «то чаравікі паднясе, то паясок ад сукенкі, або напомніць ёй, каб не забылася яму з бабуляй купіць у краме што-небудзь смачненькае».

Мама ж кажа, яна шчаслівая не таму, што на шакаладнай фабрыцы працуе, а таму, што ў яе такі сыночак, як Паўлік, ёсць.

«Паўлік, вельмі чакае, калі мама вернецца з работы. І не таму, што яна купіць яму што-небудзь смачнае, а таму, што мама шчаслівая з ім».

Апавяданне хоць і невялікае, але надзвычай добрае і ненавязліва павучальнае: гарманічныя адносіны ў сям'і, узаемапавага і любоў вельмі важныя як для дарослых, так і для дзяцей.

Дарэчы, амаль усе творы ў кнізе таксама такія ж добрыя і ненавязлівыя: расказваючы пра прысмакі, яны вучаць дзяцей павазе да старэйшых, вучаць быць шчодрымі, ніколі не быць жміндай. Гэта вельмі і вельмі важна — у сучасным грамадстве ў розных сем'ях розны дастатак. І, здараецца, гэтая «няроўнасць» уплывае на ўзаемаадносіны паміж дзецьмі ўжо ў школе, у пачатковых класах, калі, напрыклад, у Пеці поўныя кішэні цукерак, а Ваня, калі і ведае іх смак, то толькі па вялікіх святах... І важна, пачастуе Пеця Ваню ці не — у такім узросце, праз такія і іншыя ўчынкі таксама фарміруюцца характары нашых дзяцей, а не толькі праз тое, чаму іх «у тэорыі» вучаць бацькі, школа.

І яшчэ адно апавяданне пра цукеркі. Называецца яно «Хітрунля». Даецца твор паводле Івана Шамякіна. У Івана Пятровіча нямала выдатных твораў для дзяцей, на якіх выхоўваліся пакаленні нашых юных грамадзян. І «Хітрунля» — не выключэнне.

І так, праз цукеркі, праз гэтыя прысмакі, аказваецца, ледзь не пасварыліся брат з сястрой. Яшчэ б: малая гарэза Маша з'ела ўсе цукеркі брата, якія яму падарылі на Новы год. З'ела, а ў пустыя абгорткі з-пад цукерак хітрунля завярнула кавалачкі хлеба...

Прыгадайце сябе ў дзяцінстве: такая сітуацыя — сур'ёзная падстава для крыўды: цукеркі з'ела, а што засталося мне?..

Але тут усё крыху інакш. Галоўны герой гэтага невялікага твора Сярожа аказаўся вельмі разважлівым і добрым хлопчыкам. Любоў да сястры пераважвае крыўду ад страчаных цукерак.

«Доўга ў доме смяяліся з гэтых цукерак. Але ніхто не вінаваціў хітрунлю. Нават Сяргей смяяўся разам з усімі.

Вось такая наша Маша! Была. Пакуль не вырасла».

Акрамя вершаў і апавяданняў у кнізе можна знайсці і казкі, прычым часам даволі незвычайныя. Напрыклад, казка Алены Масла «Лыжка ў гасцях у міскі». У ёй маленькая дзяўчынка Альжбэта, сама таго не ведаючы, дапамагла лыжцы і місцы вырашыць адну нялёгкую задачу: прыбраць кашу, каб лыжка змагла разгледзець карункі на талерцы і зрабіць сабе такія ж.

«Альжбэтка паела — і табе, дружа, смачна есці! Усё чыста з'ядай! Можа, на дне тваёй талеркі таксама хаваецца казка».

Шмат у гэтым раздзеле і гумарыстычных вершаў. Яны напісаны дарослымі з пункту гледжання дзяцей. Напрыклад, верш Паўла Саковіча «Чым пламбаваць зубы?». У ім дзяўчынка Воля з-за таго, што ела многа салодкага, трапіла да зубнога ўрача. Той вырашыў, што зуб неабходна запламбаваць. Але Воля не пагадзілася.

Воля ў доктара стала прасіцца:

— Я сама паспрабую лячыцца…

— Як? — цікавіцца доктар. — Скажы нам.

— Запламбую я зуб свой…

Пламбірам!

Дзеці любяць такія творы, дзе праяўляецца непасрэднасць тых, пра каго чытаюць. Бо ім, юным чытачам, заўсёды прыемна і весела па-добраму смяяцца са сваіх равеснікаў. Пры гэтым юныя чытачы адчуваюць радасць ад таго, што паступова становяцца крыху старэйшыя за тых, з кім пасябравалі на старонках кніг: рэальныя хлопчыкі і дзяўчынкі растуць, з кожным днём усё больш і больш ведаюць пра рэчаіснасць, а персанажы твораў заўсёды такія, якімі іх стварылі пісьменнікі...

І зноў вернемся да «Чытанкі для ласуноў». Дык вось, ці чулі вы калі-небудзь, дарослыя, што цукеркі бываюць нясмачныя?.. Я таксама не чула. А вось Валянціна Шчарбакова пра такія незвычайныя цукеркі нават вершык напісала, які так і называецца «Нясмачныя цукеркі».

Дзяўчынка Тома купіла ў краме цукеркі і вырашыла іх пакаштаваць. Ды і не заўважыла, як усе з’ела, нікому з родных не пакінула.

Як агледзелася дома,
У руцэ — адны паперкі.
І апраўдваецца Тома:
— Ой, нясмачныя цукеркі!

Гэта яшчэ адзін лёгкі, гумарыстычны вершык, які прымусіць усміхнуцца, як юнага чытача, так і яго бацькоў, бабуль і дзядуль.

Другі раздзел кнігі — «Сакавітыя ласункі — ад прыроды падарункі» прысвечаны ягадам, яблыкам, грушам. Адным словам, карысным, натуральным прысмакам, якія, на жаль, дзеці не заўсёды любяць гэтак жа, як цукеркі.

У невялікім уступе да раздзела Васіль Хомчанка расказвае юным чытачам пра лес і пра тое, як неабходна паводзіць сябе ў ім.

«…Кланяйся лесу — і напоўніш кошык спелымі мядовымі суніцамі. Чым ніжэй будзеш кланяцца, тым паўней будзе кошык…»

Пра неабходнасць абараняць прыродныя багацці піша ў сваім творы «Як Сяргейка з Жыжалем ядловец ратавалі» Алесь Карлюкевіч.

Дарэчы, хто не ведае, Жыжаль — бог агню. Сяргейка з бацькам сустрэлі яго ў лесе. Жыжаль з’явіўся з полымя і звярнуўся да сына з бацькам:

«Такіх гаспадароў, як ты, Пятро, нельга не паважаць. А сынок твой, Сяргейка, пэўна, не горшым гаспадаром будзе. Іначай бы не перажываў…»

А перажываў хлопчык за ядловец, які яны з бацькам падкідвалі ў вогнішча, каб на ім вэнджаніну згатаваць. Бо расліна гэта паступова знікае і рызыкуе аказацца ў Чырвонай кнізе.

Прыемна, што такі клопат аб прыродзе праяўляе хлопчык. Ён прымушае задумацца і бацьку, змяняе яго погляд на навакольнае асяроддзе.

Часам бывае так: дзеці вучаць сваіх бацькоў нечаму карыснаму. І здараецца такое даволі часта, проста дарослыя не заўсёды гэта заўважаюць. Таму ў сваёй казцы Алесь Карлюкевіч звяртаецца не столькі да дзяцей, колькі да дарослых, каб праз прыклад Сяргейкі і яго бацькі, дапамагчы ім стаць больш адкрытымі ў адносінах са сваімі дзецьмі.

«Прыроду ты любіш сапраўды. Дзякую табе, сынок! І прабач мне, што за будзённай мітуснёй я такі клопат абмінуў». Так кажа напрыканцы твора бацька сыну.

Пра смачныя ягады, што можна сустрэць у беларускім лесе, расказвае ў сваіх невялікіх замалёўках Уладзімір Ягоўдзік. Прыводзіць цікавыя факты пра іх, дае парады наконт таго, як правільна збіраць «лясныя падарункі», як і што з ягад можна прыгатаваць, ды і пра карысць для здароўя ад іх аўтар не забывае паведаць.

Напрыклад, пра суніцы: яны «…не толькі смаката, яны таксама лекі. Шмат якія хваробы дзякуючы ім адольвалі ў даўніну нашы дзяды і прадзеды. Лепшым сведчаннем таму — народная прыказка: «Суніцы спажываеш — хваробы з сэрца выганяеш».

У раздзеле шмат і вершаў, прысвечаных ягадам. Гэта творы Кастуся Цвіркі, Уладзіміра Мазго, Віктара Гар-

дзея, Пятра Глебкі. Ёсць тут і «яблычныя» вершы Ніны Галіноўскай, Эдзі Агняцвет.

Пра цукеркі, піроржныя, ягады і яблыкі сучасныя дзеці ведаюць усё, а вось пра хлеб, мабыць, мала што. Дарэчы, сёння гэты прадукт становіцца ўсё менш і менш «папулярны» ў некаторых сем'ях. І прычына гэтаму тое, што асобныя дыетолагі сцвярджаюць, быццам у хлебе няма нічога карыснага. Маўляў, ад яго можна набраць залішнюю вагу. А гэта для сучаснага чалавека жах!..

І вядома, калі хлеб паступова знікае са стала некаторых сем'яў, дык многія дзеці пра яго амаль нічога не ведаюць. Не ведаюць нічога пра хлебаробскую працу, пра тое як расце хлеб, як ён у гады ліхалецця не дазваляў людзям памерці з голаду, і наогул, што гэта своеасаблівая святыня многіх народаў, і не ў апошнюю чаргу нашага.

І гэта дрэнна, што не ведаюць. Нездарма ж прымаўка «Хлеб — усяму галава» гучыць на розных мовах хоць і па-рознаму, але з адным і тым жа сэнсам. Нездарма ж у многіх краінах, і ў нашай, ёсць музеі хлеба. Адносіны чалавека да яго — гэта адносіны да жыцця ва ўсіх праявах.

У раздзеле «Без працы пірагоў не есці» праз вершыкі пісьменнікі якраз і расказваюць пра тое, што такое хлеб у жыцці кожнага з нас. Напрыклад, Артур Вольскі ва ўрыўку з апавядання, якое і называецца «Хлеб — усяму галава» прапануе дзецям уявіць, што можа быць, калі аднойчы выпадкова зламаецца машына, якая развозіць хлеб па крамах... Але зламалася, і хлеба не стала... Ды ўсе стравы адразу стануць нясмачныя, бо менавіта хлеб большасці з іх надае непаўторны прыемны смак. Так лічыць Артур Вольскі, і з ім нельга не пагадзіцца.

А вось што пра хлеб пісаў класік беларускай літаратуры Пімен Панчанка.

Адценне слоў — не глупства,
Ты ім не пагарджай.
Скарынка. Скіба. Луста.
Акраец. Каравай.

Акраец — шлях, дарога
І зайцаў хлеб лясны.
Скарынка — сум, трывога
І боль былой вайны…

Хлеб — наша традыцыя, наша гісторыя і наша спадчына. Таму нездарма ў раздзеле кнігі размешчаны дзве беларускія народныя казкі пра хлеб. Гэта тыя творы, якія могуць дапамагчы дзецям зразумець, праз якую доўгую і нялёгкую працу хлеб аказваўся на стале нашых продкаў і на нашым.

Але назва раздзела «Без працы пірагоў не есці» адносіцца не толькі да хлеба. У ім ёсць і творы, прысвечаныя іншым стравам. Напрыклад, «другому» нашаму хлебу — бульбе.

У сваім невялікім апавяданні «Самая смачная бульба» Аляксандр Зянько падае невялікую гісторыю пра тое, як Рыгорка дапамагаў бацькам капаць бульбу. Калі маці зварыла яе на вячэру, хлопчык папрасіў пакласці яму на талерку тую бульбіну, якую выкапаў ён. Так і зрабілі. Такой смачнай бульбы хлопчык яшчэ не еў, і ён вырашыў падзяліцца ёй з усімі членамі сям'і.

Відавочна, хутчэй сталеюць тыя дзеці, якія з маленства прывучаюцца хоць да якой карыснай, патрэбнай усім працы. І калі хлопчык або дзяўчынка, прачытаўшы гэты твор, паспрабуюць нешта зрабіць карыснае для ўсіх, як Рыгорка, дык можна смела гаварыць аб тым, што ў сям'і з'явіўся яшчэ адзін працаўнік. Так, твор, напісаны для дзяцей павінен выхоўваць на добрым прыкладзе, ён павінен помніцца...

І зноў жа, вяртаючыся да пачатку майго водгуку на кнігу, заўважу, што архіважна, калі маленькі грамадзянін сам, без усялякай падказкі дарослых, без прымусу прыходзіць да разумення, што трэба з некім падзяліцца тым, што ў яго ёсць. Ці тым, што зрабіў, зарабіў сам.

Дарэчы, уменню дзяліцца вучаць і творы з раздзела «Пачастунак для сяброў». Так у апавяданні аднаго са старэйшых сучасных нашых пісьменнікаў Івана Муравейкі «Купленая груша» хлопчык Змітрок замест таго, каб пачаставаць сябра Юрку грушай, прадаў яму яе. І ад гэтай на першы погляд смачнай і сакавітай грушы Юрка ніякай асалоды не адчуў. Ды і сам не па гадах «прадпрымальны» Змітрок шчасця ад груш, што засталіся ў яго, не займеў, да

ўсяго і выручаныя грошы не прынеслі яму радасці. Але хлопчык зразумеў, што сябры так не робяць. І не толькі сябры.

Увогуле, дзяліцца трэба не толькі з сябрамі і роднымі, але... Так, так, і з жывёламі. І іх, аказваецца, можна частаваць, толькі асцярожна і разумна, калі яны маюць у гэтым патрэбу.

Напрыклад, чаму б не пачаставаць вожыка. Тады абавязкова адчуеш радасць, сцвярджае ў сваім апавяданні «Гасцінец для вожыка» Алесь Бадак. Існуе такая прыкмета, расказвае пісьменнік: «сустрэць вожыка — на радасць…» І дадае: «І яшчэ не было ў мяне выпадку, каб прыкмета не спраўдзілася таму, што і праўда, назіраць за вожыкам — адно задавальненне». Дарэчы, аўтар прапануе чытачам праверыць ці так гэта на ўласным вопыце.

А яшчэ частаваць можна птушак. Асабліва зімою. Пра тое, як школьнікі разам з настаўніцай кармілі снегіроў, расказвае Рыгор Ігнаценка ў творы «Чырвоныя гронкі рабіны»...

Канешне, гэтая кніга для юнага чытача не стала б такой прывабнай для яго, калі б у ёй не было і зусім маленькіх, вясёлых твораў. Такіх, напрыклад, як смяшынкі, загадкі і скорагаворкі. Тут яны прадстаўлены, як кажуць, на любы густ і смак. Адзін з такіх твораў — паэтычная гумарэска Віктара Гардзея. Чытаем:

— З’еш салодкіх яблык, дзеду,  
Што ў суседа я нарваў.  
— Дзякуй хоць сказаў суседу?  
— Дык мяне ж ён не дагнаў…

Не менш вясёлыя ў гэтым раздзеле і творы Уладзіміра Мацвеенкі, Рыгора Барадуліна, Міколы Чарняўскага, Ніла Гілевіча і іншых пісьменнікаў. Змешчаны ў «Чытанцы...» і некаторыя прыказкі і прымаўкі. Гэтыя скарбніцы народнай мудрасці, даступныя дзіцячаму разуменню, што надзвычай важна...

Вось такая цікавая, непрымушанапавучальная, вясёлая і захапляючая, і зусім не «кулінарная», як здавалася спачатку, атрымалася гэтая кніга для маленькіх ласуноў, а дакладней, для нашых юных чытачоў. І творы ў ёй напісаны на цудоўнай, мілагучнай, «смачнай» і «сакавітай» роднай мове. І як аказалася, каб дзеці чыталі яе, не трэба іх заманьваць ні чым «захапляльным», нават цукеркамі: нічога так не прываблівае да чытання, як якасць твора. Менавіта твора, калі ён сапраўды мастацкі, калі яго аўтары — і класікі, і проста цудоўныя пісьменнікі розных пакаленняў.



**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# «КРУЦІЦЦА СВЕТ...»




*Мікола Чарняўскі*

**ЕДЗЕ ВОЖЫК НА КАНІ**

*Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Як выхаваць дзіця, якое б добра ведала і свабодна карысталася беларускай мовай? Безумоўна, трэба ствараць асяроддзе. Паказваць прыклад у сям'і, слухаць беларускія песні, глядзець мультфільмы па-беларуску. А яшчэ — чытаць разам добрыя кнігі. І абавязкова завучваць што-небудзь вартае на памяць, каб развіваць і слых на родныя словы, і маўленне.

Выдатным «памочнікам» у гэтай справе стане новая кніга Міколы Чарняўскага «Едзе вожык на кані». Аўтар — чалавек, які добрыя паўстагоддзя прысвяціў роднай літаратуры, у немалой ступені — літаратуры дзіцячай. За плячыма — вялікі вопыт працы ў часопісах «Бярозка» і «Вясёлка», у радыёперадачы «Першыя сцяжынкі». А колькі выдатных апавяданняў і вершаў за гэты час напісалася! Жанр вершаваных залацінак сам аўтар вызначыў як «прымаўлянкі-забаўлянкі». І трапныя вершыкі сапраўды наследуюць добрыя традыцыі народных забаўлянак, скорагаворак, жартаўлівых вершаў. Дасціпныя радкі прысвечаны прыгодам дзяцей, а таксама знаёмяць з не менш цікавымі гісторыямі жывёльнага свету. Цёплы гумар, уменне дасканала перадаваць асаблівасці дзіцячай псіхалогіі і нават пра сур'ёзнае напісаць запамінальны каламбур — галоўныя рысы творчай манеры Міколы Чарняўскага:

Да цукерак ласы Вова,
Што ні зробіць ён —
Аддзяч!
Ёсць у Вовы
Ход гатовы:
Не дасі цукерку —
Ў плач!

Чуе дом,
Суседні скверык —
Плача ён з ахвоткаю.
Столькі выплакаў
Цукерак —
Слёзы ўжо салодкія.

Немалую ролю ва ўспрыняцці дзецьмі кнігі адыгрывае якаснае афармленне. У гэтым выданню пашчасціла. Абаяльныя персанажы «ажылі» пад пэндзлем таленавітай мастачкі Вольгі Якубоўскай. Таму кніга спадабаецца нават тым, хто яшчэ не чытае, а толькі ўдзячна слухае.




**БЕЛЫ ТАНЕЦ:**
**Аповесць, апавяданні, навелы**

*Уклад. Анатоль МАЦІЕЎСКІ*

*Мн., Мастацкая літаратура, 2016*

Серыя «Маладзік» выдавецтва «Мастацкая літаратура» — не толькі для маладых, як можна меркаваць па красамоўнай назве. Яна, пэўна, для ўсіх, хто тонка, абвострана адчувае навакольны свет, хто глядзіць вачыма рамантыка і нястомнага вандроўніка па прыпынках уласнага лёсу. Для такіх пішуць Людміла Дрожжа, Сяргей Вераціла… А яшчэ Алена Беланожка, Аляксандр Вашчанка, Навум Гальпяровіч, Юлія Зарэцкая, Мікола Ільючык, Алена Масла, Дзмітрый Пятровіч, Людміла Рублеўская, Андрэй Федарэнка, Яўген Хвалей — аўтары пятай кнігі серыі, «Белы танец».

Цікаўны чытач заканамерна спытае: чаму ж так назвалі зборнік? Дакладны адказ ведаюць, верагодна, толькі укладальнік, рэдактары. Але ж наважымся і мы выказаць здагадку. Пры бліжэйшым знаёмстве аказваецца, што свет многіх твораў «круціцца» вакол вобразаў галоўных гераінь. Яны запрашаюць на танец (хто даўжынёй у жыццё, а хто — на імгненне) сваіх кавалераў. Яны жывуць, дыхаюць, змяняюць час, прастору ў адпаведнасці з уласнымі перакананнямі. Дазваляюць закахацца і знікаюць назаўсёды («Замкнёнае кола» Дзмітрыя Пятровіча) ці дораць радасць сустрэчы праз доўгія гады («Не пакідай мяне, Аля» Яўгена Хвалея). А яшчэ ў кожнай — свае боль і перажыванні. Яны баяцца згубіцца ў будзённасці, як акцёрка Ксенія Чычаловіч са «Старасвецкіх міфаў горада Б*» Людмілы Рублеўскай, баяцца стаць безаблічнымі лялькамі, як касір у абменным пункце Таня з апавядання «Сон» Юліі Зарэцкай, баяцца з-за сямейных сварак страціць нешта галоўнае («Апошні дзень лета» Алены Масла).

Цікавы і падбор аўтараў для пятага выдання «Маладзіка». Пісьменнікі, прадстаўленыя ў кнізе, розныя ў сваёй творчай манеры, бачанні жыцця. Выдатны гумар, уменне стварыць каларытную атмасферу Людмілы Рублеўскай. Шчымлівае лірычнае гучанне прозы Аляксандра Вашчанкі. Глыбокае разуменне падлеткавай псіхалогіі Алены Масла. Рэальнасць, жыццёвасць, актуальнасць навел-успамінаў Навума Гальпяровіча…

Тым цікавей чытаць чарговы зборнік сучаснай прозы. Паліфанічны, стракаты, разнапланавы. Толькі так і можна скласці ўласнае бачанне літаратурнага працэсу. Калі чуеш розныя па танальнасці галасы тых, каму ёсць што сказаць.



# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Паўле КОВАЧАВІЧ (1940 г. н.)

❍ Хто піша сваёю крывёю, доўга не працягне.

❍ Да зор не ідуць пехатою.

❍ Трэба развіваць усебаковасць у адным напрамку.

❍ Бюракратызм — гэта млын, які, мелючы жыта, раздае людзям вотруб'е.

❍ Свіння заўжды арла дакарае, што ён вечна ў нейкіх высях!

❍ У жыцці — як на маскарадзе: калі ўсе здымаюць маскі, весялосць прападае.

❍ Складзіце спіс ідэй, да якіх вы можаце дацягнуцца.

❍ Вялікія павінны часцей нагінацца.

❍ Лёс еўнухам часцей за ўсё прапаноўвае гарэм.

❍ Учынілі труску думак. Вызвалілі тых, у каго не знайшлі нічога.

❍ Сутыкнуўся са сляпым. Я вінаваты.

❍ Людзі перадушыліся, даказваючы адзін аднаму, чыя сістэма гуманнейшая.

❍ Людзі хлусню абараняюць словамі, а ісціну жыццямі; вось чаму нас гэтулькі жывых!

❍ Эх, каб мне яшчэ адно жыццё! Даў бы за яго цяперашняе.

❍ Парожняя галава — як незараджаная стрэльба: не можа нічога, ды ўсе ёй саступаюць.

❍ Быць некаму правадыром — значыць быць для яго спінаю!

❍ Гісторыкам трэба дзякаваць за многія светлыя старонкі нашай гісторыі.

❍ Тым, хто не здольны думаць, усюды свабода слова.

❍ Толькі ў страху ўсе аднадумцы.

❍ Калі б'юцца галавою аб сцяну, горш за ўсё наймацнейшым.

❍ Сляпыя не бачаць, што ў іншых ёсць вочы.

❍ Чым ніжэй кланяешся, зад твой займае вышэйшае становішча.

❍ Калі апынуўся ў дылеме «быць ці не быць», Гамлет вырашыў прыдацца вар'ятам.

❍ Хто першы дасягае мэты, першы і перастае бегчы.

❍ Жыццё было перад ім. А ён збочыў!

❍ Мы — нашчадкі малпы, што ссекла галіну, на якой сядзела.

*Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ*

**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**

- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**


АДРАС РЭДАКЦЫІ

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru



*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 10.03.2017 г. Фармат 70×108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,4. Ул.-выд. арк. 16,28. Тыраж 1484 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.